УДК 882.6
ББК 84(4Беи)
С39

**Сіпакоў, Я.**

С39 Зялёны лісток на планеце Зямля. Эсэ / Я. Сіпакоў. — Мінск : Харвест, 2006. — 288 с.

ISBN 985-13-8385-6.

Я. Сіпакоў — лаурэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. Дадзеная кніга, над якой аўтар працаваў каля пяці гадоў, — гэта своеасаблівы партрэт Беларусі. Выданне змяшчае эсэ, дзе ёсць ўсё пра нашу краіну: дзе мы знаходзімся на планеце, наша зямля, нашы людзі, наша мова, наша вада, нашы лясы, нашы замкі, нашы святыя, нашы войны, наша неба і наш космас, якія песні спяваем, з чаго смяёмся, нашы міфы, нашы гарады і мястэчкі...

«Зялёны лісток на планеце Зямля» — самабытная энцыклапедыя нашага краю і нашага жыцця. Гэта не лірыка, але ўся кніга пранізана пачуццём, лірычнасцю, замілаванасцю, любоўю да таго, пра што расказваецца.

Выданне будзе карысна як для вучняў старэйшых класаў і студэнтаў, так і для выкладчыкаў краязнаўства.

**УДК 882.6**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 985-13-8385-6**

# ДЗЕ МЫ ЗНАХОДЗІМСЯ Ў СВЕЦЕ

Любая Радзіма! Вельмі шаноўная мая Беларусь! Маці наша родная — усіх нас разам і кожнага паасобку! Нізка схіляюся перад табою ў пашане ўжо толькі за тое, што ты заўсёды была, заўсёды ёсць і заўсёды будзеш. І калі думаеш пра цябе, і калі часам забываешся — ты спрадвеку з намі!

Твае палі — самыя хлебадайныя, твае лугі — самыя духмяныя, твае аблокі — самыя высокія, твае вятры — самыя ласкавыя, твае крыніцы — самыя чыстыя, твае лясы — самыя прыгожыя, твае людзі — самыя добрыя, а твая зямелька — як лекі нам: прыкладзі да раны — адразу ўсё зажывае...

Вельмі прыгожая наша зямля. У нас шмат лясоў, рэк і рэчак, вялікіх і малых азёраў. З космасу, як сцвярджаюць нашы землякі-касманаўты Пятро Клімук і Уладзімір Кавалёнак, Беларусь выглядае зялёнаю-зялёнаю. З блакітнымі ўкрапінамі азёраў — нездарма нашу краіну называюць у свеце сінявокаю.

У нас вельмі цудоўныя людзі — добрыя, ласкавыя, спагадлівыя, працалюбівыя, цііплыя, вясёлыя, але не бесклапотныя. Мы крыху задумлівыя — час і войны, якія, з рэдкім пастаянствам, праязджаліся па нашай зямлі, навучылі нас думаць пра многае.

У нас не горача і не холадна. У нас не сыра і не суха. Праўда, часам бывае і холадна, і горача, і сыра, і суха. Але ў асноўным — памяркоўна. Бо клімат у нас такі — памяркоўна-кантынентальны!

Твой народ, з якім ты заўсёды і які заўсёды з табою, нязводны. Цябе немагчыма разлучыць з ім, як і яго з табою. Як кару з дрэвам, як птушку з крыламі, як раку з рэчышчам, як траву з зямлёю... Так і кожнага з нас нельга разлучыць з Радзімаю, з роднай зямліцаю. Яе

нельга адабраць у нас і прысвоіць нейкаму чужынцу — яна заўсёды адрыне таго, хто не палюбіць яе так, як любім яе мы самі.

І не вер, дружа, калі нехта пачне ганіць і ганьбаваць твой народ. Нашы людзі, як і твае бацька і маці, як твае дзяды, прадзеды і прапрадзеды — шчырыя, сумленныя і мудрыя. І ніякія мы не зломкі, не затурканыя, як часам нас хочуць зняважыць незычліўцы. Мы — вялікі і старажытны народ — мудры і светлы, чысты і даверлівы, узычлівы і дабрадушны, памяркоўны і разважлівы. Падобны на іншыя народы свету. Сцвярджаюць, што мы блізкія старажытным арыям. Мы быццам бы памятаем Памір, і ён чамусьці таксама помніць пра нас. Мова наша індаеўрапейская — шмат сваіх слоў мы знаходзім у санскрыце. А старажытнаіндыйскае слова «веды» — адсюль і Рыгведа, Самаведа, Атхарваведа — азначае тое ж самае, што і наша беларускае слова «веды».

Кажуць, што мы падобныя на грэкаў, фінаў, знаходзяць, што у нас шмат агульнага з балгарамі.

Мы — як блізкія сваякі, родзічы з сербамі. Успамінаем часта пра Дунай — як пра сваю родную раку: «Пры Дунаёчку, пры беражочку, ды там дзяўчына кубачкі мыла»...

Кожны з нас мае радасць ганарыцца, што належыць менавіта да такога народа і да такой зямлі.

Наш славуты старажытны род і наша зычлівая зямля вечныя!

Мы мяркуем напісаць партрэт Беларусі. Найперш — для саміх сябе. А таксама для тых, хто мала ведае пра нашу краіну і, магчыма, нават не ўяўляе, у якім месцы планеты мы знаходзімся, жывем, працуем.

Мы хочам, каб кожны, хто пазнаёміцца з «Партрэтам Беларусі», нават не пабываўшы ў нас, мог усклікнуць: «Якая ж гэта прыгожая і жыццядайная зямля і якія цудоўныя людзі жывуць на ёй!»

Дык дзе ж мы жывём, дзе знаходзімся ў свеце, на дарагой нашай планеце, якая мае такое прыгожае імя —

Зямля і маленечкім касмічным караблём блукае ў неабсяжных прасторах космасу?

Дзе шукаць цябе, Беларусь?

Калі глобус у вас пад рукою, паволі пакруціце яго па гадзіннікавай стрэлцы, знайдзіце нулявы мерыдыян. Зусім побач, крыху лявей ад яго, паміж 22 і 34 градусамі ўсходняй даўгаты, паміж 50 і 60 градусамі паўночнай зшыраты (гэта вышэй экватара) вы лёгка заўважыце зялёную, нават смарагдавую выяву, якая сваімі абрысамі-межамі нагадвае вытанчаны кляновы лісток...

Гэта і ёсць Беларусь, наша старажытная зямля.

Бачыце, вось там, зверху, навісае над намі падобны на мядзведзя Скандынаўскі паўвостраў, а ўнізе, пад намі, ніжэй Балгарыі і Турцыі, ніжэй Чорнага мора, праліва Дарданелы і Міжземнага мора — Афрыка.

У дзіцячых кніжках пішуць, што калі ўсе мы, жыхары Беларусі, — а нас каля дзесяці мільёнаў — станем побач адзін да аднаго і возьмемся за рукі, то апошні ў гэтым жывым ланцужку ўжо будзе стаяць на афрыканскім кантыненце: ён зможа ўбачыць баабаб і нават сказаць «дзень добры» кракадзілу.

А сама наша Беларусь знаходзіцца ў Еўропе, у самым цэнтры яе. І амаль кожны наш раён прэтэндуе на гэты цэнтр. Вядомы беларускі вучоны ў галіне геатэктонікі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, доктар геолагамінералагічных навук Радзім Гарэцкі сцвярджае, што калі ўзяць кантынентальную сухапутную Еўропу без уліку астравоў, то цэнтр яе будзе каля вёскі Чыжаха — непадалёк ад ракі Бярэзіна.

А вучоныя з «Белаэракосмасгеадэзіі», якія водныя прасторы Балтыйскага і Белага мораў палічылі ўнутранымі вадаёмамі Еўропы, вызначылі, што гэты цэнтр Еўрапейскага кантынента знаходзіцца зноў жа на тэрыторыі Беларусі — на Віцебшчыне, у 50 кіламетрах ад Полацка, непадалёку ад возера Шо.

Цэнтрам самой Беларусі, зноў жа па сцвярджаннях навукоўцаў, з'яўляецца вёска Антонава ў Пухавіцкім раёне.

Тэрыторыя нашай краіны невялікая, але і не малая. З ўсіх краін Еўропы дзве трэці дзяржаў мае тэрыторыю, меншую за Беларусь — Албанія, Венгрыя,Чэхія, Аўстрыя, Бельгія, Грэцыя, Данія, Ісландыя, Швейцарыя, Партугалія, Нідэрланды і інш.

Калі ісці пехатою, скажам, з-за Оршы, з-пад Краснага да Брэста, то ўсю Беларусь чалавек зможа прайсці за два тыдні. Калі ехаць на машыне, на гэта хопіць і сямі гадзін. Самалёт жа пералятае ўсю Беларусь ад паўднёвай да паўночнай мяжы усяго за адну гадзіну.

Пятро Клімук, які бачыў усю нашу планету з космасу, пісаў:

«Як мы памыляемся, калі гаворым: «Каб абысці зямлю, жыцця не хопіць». Няпраўда! Яна зусім невялікая — з усімі акіянамі і морамі, стэпамі і балотамі, з пушчамі і гаямі, — наша прыгожая планета Зямля. Касманаўты штодзень «абыходзяць» яе па шаснаццаць разоў».

Значыць, каб абысці нашу планету адзін раз, ім трэба дзевяноста хвілін.

Беларусь жа — усяго толькі зялёны лісток на планеце Зямля, і таму, каб «прайсці» яе, касманаўтам спатрэбяцца лічаныя хвіліны.

У нас можна двойчы сустрэць вясну — на поўдні Беларусі яна пачынаецца на два тыдні раней, чым на поўначы. Так што палюбаваўшыся квітненнем садоў, да прыкладу, пад Брэстам, можна прыехаць на Віцебшчыну і там другі раз убачыць гэты цуд.

І сонца да нас прыходзіць не адначасова: калі ў Хоцімску, на ўсходзе, яно ўжо даўно свеціць на ўсю моц, у заходніх Каменюках яшчэ зусім цёмна.

Беларускі гісторык Адам Кіркор пісаў пра сваю зямлю:

«Беларусь — край магіл, курганоў, гарадзішчаў, гарадкоў, урочышчаў, замкаў, замкавішчаў, — край, дзе ледзь не на кожным кроку вы сустрэнеце сляды мінулага ў помніках, паданнях, песнях».

Нездарма ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА мы самі прапаноўваем уключыць аж 50 аб'ектаў беларускай архітэктуры, сярод якіх — Каложская (Ба-

рысаглебская) царква XII стагоддзя ў Гродне, Сынкавіцкая царква-крэпасць XV — XVI стагоддзяў у Зельвенскім раёне, Спаса-Еўфрасіньеўская царква XII стагоддзя ў Полацку, руіны Навагрaдскага XIV — XVI стагоддзяў і Крэўскага XIV стагоддзя замкаў у Гродзенскай вобласці.

А на карце бацькі картаграфіі Клаўдзія Пталамея (90—168 гг.) Беларусь змешчана ў вялікую прастору паміж Чорным, Балтыйскім і Белым марамі, якая называецца Еўрапейскай Сарматыяй. На яго картах зямлю нашу займаюць у асноўным лясы і рэкі.

Так, як мы ўжо казалі, у нас шмат лясоў, рэк і азёраў. Таму і на сённяшніх картах свету мы амаль заўсёды зялёныя. З блакітнымі ўкрапінамі — гэта нашы азёры. Іх у нас налічваецца каля 11 тысяч. Асабліва шмат азёраў на поўначы — іх пасля сябе пакінуў нам апошні ледавік, які раставаў якраз на нашай зямлі. Каля 10 працэнтаў нашай тэрыторыі займаюць азёры — блакітныя слёзы ледніка.

А рэкі? Іх таксама шмат. Агульная даўжыня нашых рэк каля 50 тысяч кіламетраў. Значыць, імі мы маглі б аперазаць Зямлю па экватары. І яшчэ б засталося. Бо экватар мае крыху болей за 40 тысяч кіламетраў.

Рэкі беларускія — розныя па даўжыні. Такія ж, як ва ўсім свеце. Да прыкладу, Свіслач мае даўжыню каля 300 кіламетраў — такую, як самыя доўгія рэкі Англіі. Свіслач, на якой размешчана сталіца Рэспублікі Беларусь Мінск, адпавядае даўжыні ракі Тэмзы, на якой размешчана сталіца Англіі Лондан. Рака Сена, на якой стаіць Парыж, праўда, на нейкую сотню кіламетраў даўжэйшая за нашу, Бярэзіну, але ж Барысаў, горад які жыве на ёй, хоць ён і не сталіца, добра ведаюць у Францыі.

Дняпро цячэ з поўначы на поўдзень — ён чамусьці прытрымліваецца трыццатага мерыдыяна. А Прыпяць нясе свае воды з захаду на ўсход — і зноў жа, як прывязаная, далёка не адыходзіць ад 52-й паралелі. Дзвіна, якая пачынаецца ў Расіі (на картах там яе называюць Заходняй Дзвіною), упрыгожвае нашу Віцебшчыну, а Нёман, які крынічкаю прабіваецца на Стаўбцоўскай раў-

ніне і ўпадае ў Куршскі заліў Балтыйскага мора, радуе не толькі нашу з вамі зямлю. З вялікіх нашых рэк толькі ён бярэ пачатак на радзіме, а таму падарожжа па Нёмане — гэта заўсёды падарожжа па Беларусі.

Сож, Бярэзіна, Пціч, Ясельда, Друць, Гарынь, Бася, Вілія — рэкі меншыя, і таму, можа, даражэйшыя, цяплейшыя для душы. Яны ж зусім родныя, свае. Як і сама малая радзіма. Яны цякуць, здаецца, ля самага нашага сэрца. Ёсць і зусім крынічкі-ручайкі, толькі адно ўпамінанне пра якія змушае ўсхвалявана біцца нашы сэрцы.

Нашы суседзі: на ўсходзе — Расія, на поўдні — Украіна, на поўначы — Літва і Латвія, на захадзе — Польшча.

А там і Францыя непадалёку — ад Мінска да Парыжа ўсяго нейкія два сантыметры. На карце свету. З маштабам 1:130 000 000.

Вось такая наша Беларусь. Вось такое шчаслівае, раскошнае месца на планеце, дзе жывуць беларусы. Такая зялёная плямка на карце свету, што выглядае то кляновым лістком, то магутным зубрам, якога, ужо паміраючага, чалавек збярог якраз у нашай Белавежскай пушчы.

«Можа, хто спытае: дзе ж цяпер Беларусь? — задумваўся наш руплівы Мацей Бурачок, мудры абуджальнік свайго народа Францішак Багушэвіч. — Там, братцы, яна, дзе наша мова жывець: яна ад Вільна да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»

А выдатная польская пісьменніца Марыя Канапніцкая, якая шчыра любіла беларускую зямлю і беларусаў, была ўпэўнена:

«Тое, што там народзіцца калісьці паміж народам, — не будзе гэта Польшча, ні Літва — а Беларусь».

І Янка Купала, нібы прадаўжаючы яе думкі, пісаў:

«Помніма, братцы, ці мы каталікі, ці мы праваслаўныя, — мы беларусы, а Бацькаўшчына наша — Беларусь. Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю».

Адна са шматлікіх нашых замежных турыстак неяк сказала пра нашу зямлю:

«Беларусь з'яўляецца адзінай з вядомых мне краінаў, дзе неба займае найбольшую частку дасяжнага воку кругагляду».

А доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Васіль Бернік, які разам са сваім вучнем Віктарам Берасневічам упершыню ў сусветнай практыцы стварыў тэорыю, якая прымяняецца пры рашэнні цэлага класа задач тэорыі лічбаў, прызнаўся: «Мне запомніўся плакат, што стаяў ля дарогі ў Аўстраліі: «Ганаруся тым, што я аўстраліец». Хачу, каб выраз «Ганаруся тым, што я беларус» таксама стаў дэвізам маіх суайчыннікаў».



## НАША ЗЯМЛЯ

Зямля, на якой жывуць беларусы, займае дзвесце сем тысяч шэсцьсот квадратных кіламетраў. Гэта значыць, што на нашай тэрыторыі магло б размясціцца аж пяць Швейцарый. Ці Літва, Латвія і Эстонія разам узятыя. І яшчэ б на Люксембург месца хапіла. І нават крыху засталося б.

Зямля Беларусі ляжыць паміж Чорным і Балтыйскім марамі. З поўначы на поўдзень яна працягнулася на 560 кіламетраў, з захаду на ўсход — на 650 кіламетраў.

Самая паўночная пядзя нашай зямлі знаходзіцца каля Асвейскага возера, самая паўднёвая — на Дняпры каля Камарына, самая заходняя — на рацэ Буг, а ўсходняя — непадалёк ад пасёлка Хоцімск.

Наша зямля займае захад Усходне-Еўрапейскай раўніны. Яна ляжыць на старажытнай платформе, якая мае вельмі паважаны ўзрост — 2 мільярды 600 мільёнаў гадоў.

Мы жывём на раўніне. Гор і цяснін, якімі ганарацца горныя народы, у Беларусі няма. Праўда, ёсць у нас Прыпяцкая ўпадзіна, але ж гэта зусім не цясніна. Праўда, маем мы сваю беларускую граду — паласу градава-ўзго-

рыстага рэльефу, якая цягнецца паміж Дняпром і Дзвіною. Але ж гэта яшчэ не горы.

Самая высокая наша гара — Койданаўская. Яна знаходзіцца на Мінскім узвышшы — найвышэйшай частцы Беларускай грады. Галоўная наша Джамалунгма ўзвышаецца над узроўнем мора аж на 346 метраў! Ёсць і іншыя, высокія ў нашым разуменні, горы — Лысая (342 м), Маяк (335 м), Мілідаўская (320 м), а таксама Міндоўгава каля Наваградка, Пышная каля Лепеля, Аршанска-Кубліцкае, Лукомскае ўзвышшы.

Але ж гэта — усяго толькі ўзгоркі. Дзе ім да тысячнікаў ды васьмітысячнікаў! Таму вельмі хочацца зразумець, дзе слынны географ старажытнасці Пталамей убачыў на нашай зямлі высокія «ланцугі гор», з якіх цякуць паўнаводныя рэкі?

Хаця ўсё можа быць: у валынскі геалагічны час у паўднёва-заходняй частцы сучаснай Беларусі адбывалася інтэнсіўная вулканічная дзейнасць, а вулканы ж, як вядома, нараджаюць горы. Але гэта было яшчэ да таго, як наша зямля ў канцы геалагічнага перыяду венду ў чарговы раз выйшла з-пад мора.

Нашы пагоркі — гэта нашы горы.

Таму і стварылі мы каля Лагойска свой горналыжны курорт «Сілічы». Крэсельныя пад'ёмнікі падымаюць горналыжнікаў на вышыню. Пяць гарналыжных трас, да якіх вядуць канатныя дарогі. Чатыры снежныя гарматы падтрымліваюць трасу спуску ў цудоўным стане аж да мая.

Нашымі гарамі сталі Эльбрус і Кіліманджара. А таксама самая высокая гара Паўднёвай Амерыкі — Аканкагуа, якую старажытныя інкі называлі «каменным вартавым». Беларускія альпіністы пакарылі гэтыя горы, занеслі на іх свой сцяг, таму яны цяпер — і нашыя. Як і вяршыня гары Чо-Ойю ў Гімалаях, на якую ўзышлі нашы альпіністы. Яе вышыня 8 848 метраў. На ёй шмат снегу, нізкія тэмпературы — аж да 50 градусаў марозу, а моцныя і хуткія вятры перасягаюць 200 кіламетраў за гадзіну. І Гімалаі цяпер таксама нашы!

А «бацька гісторыі» Герадот, які яшчэ за чатыры стагоддзі да новай эры пісаў пра нашых продкаў, што жылі яны ў басейне ракі Прыпяць, быў перакананы: прыпяцкая ўпадзіна — гэта мора. Столькі было тут вады. Таму ўслед за ім шмат хто і сёння называе Палессе Морам Герадота.

Шмат у нас і іншых нізін, раўнін, прагінаў: Стаўбцоўская і Верхненёманская, Суражская і Нарачана-Вілейская, Полацкая і Чашніцкая, Лідская і Аршанска-Магілёўская раўніны, а таксама Цэнтральна-Бярэзінская нізіна, што ляжыць у басейне рэк Друць, Бярэзіна і Пціч.

На адну трэць наша зямля ўзгорыстая, на дзве трэці — раўнінная.

Краявіды нашы спакойныя, мясцовасць — разнастайная, раслінпасць на поўдні — вясёлая, на поўначы — задумлівая. Раўніны — прывабныя, узгоркі — прыгожыя, забалочаныя мясціны — таямнічыя, лясы — супакаяльныя. Ландшафты — марэнныя, на нашай зямлі шмат азёраў і валуноў. Шмат балотаў.

Наша зямля — гэта пашы, лугі, лясы і вада. Гэта — збажына, трава, бярозы, ліпы і елкі, кветкі і матылі на іх. На сваёй зямлі мы аром і сеем, косім сена для сваіх хатніх жывёл, збіраем ягады, грыбы, ловім рыбу, будуем хаты.

Зямля наша не вельмі багатая, але і не бедная.

У нас амаль няма такой глебы, пра якую гавораць, што хоць ты яе на хлеб намазвай, хоць сам яе еж, хоць да раны прыкладай. Маўляў, дубец уторкнеш, а вырасце яблыня.

У нас мала чарназёму. Глеба наша пераважна дзярнова-падзолістая, забалочаная, тарфяна-балотная, глiністая ды пяшчаная...

Але ж яна і такая, арошаная нашым потам, аплодненая нашай дабратою, упрыгожаная нашым працалюбствам і ўпартасцю, спрадвек карміла нас, корміць і, спадзяюся, будзе карміць і ў будучыні.

Тым больш, што яны не такія ўжо і бедныя, нашы землі. Нетры Беларусі багатыя на калійную і каменную солі, на будаўнічыя матэрыялы, на торф, нафту, гаручыя сланцы, на падземныя мінеральныя воды.

Адных тарфянікаў выяўлена 7 тысяч радовішчаў. Па плошчы — гэта 2,5 мільёна гектараў, па запасах каля 2 мільярдаў тон. А гаручыя сланцы, што знойдзены ў Прыпяцкім сланцавым басейне, які сфарміраваўся 270 мільёнаў гадоў таму, маюць запас у 800 мільёнаў тон.

Толькі за апошняе стагоддзе ў нас разведана каля 30 відаў карысных выкапняў, адкрыта больш за 4 тысячы радовішчаў і пакладаў.

Сярод іх — Мікашэвіцкі граніт, па моцнасці якому няма роўнага ў Еўропе.

Салігорскія мінеральныя ўгнаенні, якія саступаюць па якасці толькі нямецкім калійным солям. «Беларуськалій» займае ў свеце другое пасля Канады месцы па экспарту калійных угнаенняў на сусветны рынак.

Прамысловыя расолы прыпяцкага прагібу, з якіх Беларусь будзе здабываць ёд, бром і іншыя каштоўныя элементы, якія мы за валюту купляем за мяжою.

Радовішча жалезнай руды з утрыманнем у ёй 36% жалеза, якое адкрылі беларускія геолагі пад Стоўбцамі.

Жыткавіцкае і Брынёўскае радовішчы бурага вугалю хаваюць у сабе дзесяткі мільёнаў тон, а агульныя запасы беларускага вугалю складаюць 1,5 мільярда тон.

І нарэшце — алмазы! Беларусь можа стаць краінай алмазаў. У Жлобінскім раёне вядуцца разведачныя работы алмазных радовішчаў, бо па аналізу нашых нетраў характэрныя для алмазных трубак мінералы-спадарожнікі ўтрымліваюцца ў іх амаль на 40 працэнтах тэрыторыі нашай краіны.

Праўда, мы і цяпер прадаём ужо на сусветным рынку свае алмазы. Масай да 2 каратаў. Збіраемся прадаваць і большыя монакрышталі — да 5 каратаў. Аднак яны — сінтэтычныя. Штучныя. Вырашчаныя, сінтэзаваныя ў нашых лабараторыях. А то будуць сапраўдныя! З нашых беларускіх алмазных трубак!

І яшчэ ў нас ёсць вялікая надзея на золата і іншыя каляровыя металы. І не толькі надзея, але і сцверджанні шмат якіх беларускіх геолагаў.

І яшчэ: нашы скарбы — у нашай зямлі. Як кажуць археолагі, беларуская зямля — самы велізарны сейф з багаццямі ў Еўропе: у нас знойдзена і зарэгістравана больш за 1100 скарбаў, якія, схаваныя даўно, засталіся нам ад іншых стагоддзяў.

Аднак калі б у нашай зямлі ўсяго гэтага і не было, мы б усё роўна любілі яе так жа, як любім і цяпер — самааддана і захоплена. Якіх толькі добрых слоў не напрыдумваў беларус пра сваю карміцельку! З якім замілаваннем ён заўсёды гаварыў, гаворыць і будзе гаварыць пра яе:

Зямелька — матка наша: і корміць, і поіць, і адзявае нас.
Родная зямелька — як зморанаму пасцелька.
На роднай зямельцы і вароты пірагом падпёрты.

Жыта, ячмень, пшаніца, авёс, гарох, боб, бульба, морква, буракі — таксама нашы карысныя выкапні.

І лён — зноў жа з зямлі. Ён таксама наша каштоўнасць. Нездарма рымскі пісьменнік Апулей называў яго адным з лепшых пладоў зямлі. Нездарма яго ў нас купляюць Расія, Польшча, Германія, Літва, Балгарыя, Румынія, Славакія, Чэхія, Эстонія і іншыя краіны. Прадаём свой лён у свет, але яго яшчэ і сабе застаецца. Нашаму Аршанскаму льнокамбінату, ільняныя вырабы якога таксама любяць за мяжою.

Наш лён — нашы грошы. І не толькі нашы — еўра, еўрапейская папяровая валюта, робіцца з дабаўленнем нашага беларускага лёну!

Лён — наш скарб. Хоць ён — расліна старажытная і быў вядомы яшчэ ў Асірыі і Вавілоне. Егіпецкія жрацы насілі адзенне з ільнянога палатна — як сімвал чысціні і святла. Муміі фараонаў загортваліся ў ільняныя тканіны. Ільняны кужаль, падараваны Афіне Радоскай, па сведчанні Герадота, быў сатканы з ільняных нітак, кожная з якіх была скручана з 360 танюсенькіх валаконцаў. Такая тканіна была на вагу золата: на адну чашу вагаў клалі тканіну, на другую — залатыя злiткі.

І яшчэ беларус разумее, што зямля і не тоне, і не гарыць. І таму самы надзейны і самы шчыры яго зас-

тупнік і абаронца — родная зямля, да халаднавата-ласкавай шчакі якой так і хочацца прыгарнуцца шчакой у любую часіну года.

Прылашчыцца даверліва да яе пылу. Хоць гэты пыл можа ўжо быць і не толькі нашым — у ім можа згубіцца пяшчынка з барханаў Каракумаў, варсінка вярблюджай шэрсці з пустыні Сахара, калючая макулінка горных парод з Гіндукуша. Узнятыя ветрам і ўроненыя на нашу зямлю, яны таксама сталі нашымі.

Мы гаворым: «Зямля святая, яна наша маці, яна нас жывых корміць, а па смерці да сабе прыхіляе».

Мы разумеем: зямлю нельга калупаць ботам, нават босаю нагой, яе нельга біць палкай, сцябаць пугаю, недаравальна пляваць на яе са злосцю.

Бо мы спрадвеку лічылі сваю родную зямлю святыняю, сакральным сімвалам жыцця і роду. Для нас яна заўсёды была крыніцаю ўсяго жывога ў прыродзе і нават атаясамлівалася з самой прыродаю. Мы ад сівой даўніны ўяўляем яе вяршыняй дасканаласці і гармоніі.

Таму пачатак веснавых палявых работ быў і ёсць для нас вельмі вялікім святам.

Таму беларус, калі выпраўляўся куды далёка, абавязкова браў з сабою хоць жменьку роднай зямлі — яна нібыта звязвала яго з Бацькаўшчынай і дапамагала пераадолець настальгію па родным краі. Яна была яго вераю, што ён абавязкова вернецца дадому.

Таму мы верылі, што падчас ліхалеццяў і нацыянальных трагедый зямля пакутуе, стогне разам з людзьмі, і яе стогны нават могуць пачуць вельмі чуллівыя людзі.

Зямля, як багіня Гея свайму сыну Антэю, дае нам усім сілу-моц.

На яе, нашу зямельку, мы ўпершыню становімся басенькімі ножкамі і ў яе, як у калыску, кладземся, пражыўшы жыццё, назаўсёды.

Наша зямля — самае дарагое для нас багацце.

Мы самыя багатыя на яе ў Еўропе: Беларусь адзіная на кантыненце краіна, якая мае аж 60 сотак зямлі на

кожнага чалавека. У той час, як на кожнага галандца прыпадае ўсяго толькі 6 сотак...

Ніхто не ведае, колькі дакладна каштуе зямля. Але ўсе ведаюць: яна бясцэнная.

Наша зямля — гэта наша радзіма. Наша дзяржава. Наша жыццё. Нашы звычкі і песні.

То ж пра яе, нашу зямельку, Максім Багдановіч пісаў:

«Не пакінем свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў, — свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага. Не адрачэмся, не забудзем, не кінем на глум, будзем шанаваць, бараніць, дзецям сваім пра тое запаведаваць».

І яшчэ раз пра скарбы. Наша паэтэса Цётка гаварыла: «Скарб, які ніхто і ніколі адабраць у нас не зможа, гэта любоў да айчыны, да свайго народа, да роднай мовы».

«І да роднай зямлі», — хочацца дадаць ад сябе.

Бо менавіта Зямлёю называлі мы ў старажытнасці сваю першую дзяржаву — Полацкая Зямля.



## НАШЫ ЛЮДЗІ

Пра нас звычайна пішуць і гавораць: «Беларусы — народ добры, шчыры, цярплівы, мудры, памяркоўны, спагадлівы, працавіты, паслухмяны, дабрадушны, сумленны».

Усё гэта правільна. Але ж толькі такіх характарыстак для нас малавата. Мы ж яшчэ і вясёлыя, і гордыя, і непрымірымыя. Мужныя і ваяўнічыя. Хоць самі ні на кога не нападалі, ні з кім не пачыналі войнаў. Ніколі! Заўсёды толькі абараняліся. Але абараняліся спрадвек апантана, шчыра.

У такім неспакойным месцы ляжыць наша зямля — на самым скрыжаванні дарог і шляхоў у Еўропе. Як кажуць, на ўсіх скразняках.

Часцей за ўсё на ёй, нашай зямлі, ваявалі іншыя.

Ці не ўся Паўночная вайна, якую вёў рускі цар Пётр І са шведскім каралём Карлам XII за панаванне над Бал-

тыйскім морам, прайшла на беларускіх землях — Полацк, Орша, Копысь, Магілёў, Чэрыкаў, Гомель і іншыя гарады. Што стапталі адны, што спалілі другія, што разграбілі разам.

А мы — адбудаваліся!

Двойчы па Беларусі прайшла — на Маскву і назад — напалеонаўская армія. Зноў стапталі зямлю, паламалі хаты і храмы, разграбілі архівы і бібліятэкі.

А мы зноў адрадзіліся!

А Першая сусветная вайна? Памятаеце, Брэсцкі мір? А другая? Памятаеце, Беларусь-партызанка? У гэтай вайне страцілі мы кожнага чацвёртага, а ў Віцебскай вобласці — кожнага трэцяга. Беларусь, мужнасці якой здзівіўся ўвесь свет, стала заснавальніцай Арганізацыі аб'яднаных Нацый.

На нашай зямлі біліся немцы і рускія, шведы і рускія, палякі і рускія, французы і рускія. Усё спальвалі, разбуралі.

А беларусы зноў адраджаліся, адбудоўваліся. І жылі!

Самае старажытнае княства, якое пабудавалі беларусы, — Полацкае. Яно — адно з самых ранніх дзяржаўных утварэнняў усходніх славян. Потым было Вялікае княства Літоўскае, — па сутнасці, як лічаць некаторыя гісторыкі, беларуская дзяржава сярэднявечча са сталіцаю ў Навагрудку, з дзяржаўнаю беларускаю моваю.

Нашы першыя імёны, якія зберaглі летапісы, — Рагвалод і Рагнеда. Князь і яго дачка. Сваіх багоў і божастваў мы звалі паважліва і па-свойску: Белабог, Род, Чур, Доля, Зюзя, Цёця.

Самі ж, калі мы былі язычнікамі, зваліся між сабою так: Васілёк і Браніміра, Валадар і Дубраўка, Ірвідуб і Купалінка, Сінявок і Вераніка, Купала і Гражына, Машэка і Анея, Шэраш і Дабранега, Цішук і Ялінка.

Нашы ж князі бралі сабе іншыя імёны: Вітагосць, Любамір, Святаполк, Мсціслаў, Усевалад, Уладзімір. Моцныя, смелыя людзі атрымлівалі і моцныя імёны — Зубр, Мядзведзь, Тур, Мацак, Воін, а слабейшыя — адпаведныя мянушкі: Няпёка, Дохля, Стома, Таміла, Някрас.

З увядзеннем хрысціянства на нашых землях царква падаравала нам новыя імёны, незразумелыя на той час беларусам. Арцемій, Васілій, Гаўрыіл, Варвара, Мяфодзій, Дар'я — гэтыя і іншыя імёны святары прывезлі нам з Візантыі.

Чужыя імёны мы стараліся зрабіць сваімі, каб лягчэй прывыкнуць да іх, так Лаўрэнцііі рабіўся ў нас Лаўрэнам, Антоній — Антосем, Еўстафій — Астапам, Іуліяна — Вулляначю...

А яшчэ нас называлі крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі — па назвах старажытных плямёнаў, з якіх мы выраслі. І яшчэ нас лічылі венедамі, антамі, дулебамі. Славяне мы і па сённяшні дзень.

Напрыканцы пазамінулага XIX стагоддзя на тэрыторыі беларускіх губерняў, уключаючы Смаленскую і Віленскую, нас, беларусаў, жыло 4 769 032 чалавекі, што складала на той час 70 працэнтаў ад усяго насельніцтва гэтых зямель.

А на заканчэнне XX стагоддзя ў сённяшняй Беларусі паводле перапісу 1999 года беларусаў ужо налічвалася 8 159 000 чалавек, што складае 81,2 працэнта ад усяго насельніцтва краіны. Таму пра Беларусь можна гаварыць як пра этнічна цэласную дзяржаву, якую памагаюць нам будаваць шмат якія іншыя нацыянальнасці, з якімі ў дружбе і сяброўстве мы жывём і працуем, — рускія, украінцы, палякі, яўрэі, татары і інш.

А каля 4 мільёнаў беларусаў, што знаходзяцца за межамі нашай краіны, памагаюць жыць і працаваць іншым народам у іншых краінах — у Заходняй Еўропе, у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Расіі, Польшчы, Казахстане, Літве, Латвіі, на Украіне, у Карэліі. У Расіі, да прыкладу, беларусаў больш як 1 мільён, у Польшчы — звыш 200 тысяч, на Украіне — 450 тысяч, у Казахстане — 170 тысяч, у Латвіі — 100 тысяч, у Літве — каля 60 тысяч... 500 тысяч беларусаў — у ЗША, 100 тысяч у Канадзе, дзесяткі тысяч — у Аргенціне, Аўстраліі, Бразіліі, Францыі, Бельгіі, Германіі, Уругваі і Парагваі.

Толькі з 1896 па 1912 год у Сібір з Беларусі перасялілася 717 тысяч беларусаў. Падчас Другой сусветнай вай-

ны Беларусь страціла больш як 300 тысяч сваіх сыноў і дачок, якія апынуліся ў Нямеччыне, Аўстрыі, Чэхіі і іншых заходнееўрапейскіх краінах.

Кожны чацвёрты беларус жыве на сёння па-за межамі роднай краіны.

А колькі загінула і ляжыць у чужых землях!

Перад вайною 1812 года на Беларусі насаджаліся сілаю аракчэеўскія ваенныя пасяленні.

У Бабыляцкім старостве Клімавіцкага павету быў кавалак зямлі, які мясцовыя сяляне арэндавалі паводле дагавору. Гэты дагавор скасавалі, а зямлю аддалі батальёну Елецкага палка, які, апрацоўваючы яе, павінен быў карміць яшчэ два батальёны таго ж палка.

Цяжкі лёс напаткаў сялян, сагнаных з зямлі: яны па загаду цара павінны былі перасяліцца ў Новарасійскі край, у неабжытыя засушлівыя стэпы Украіны. 4000 сялян, змушаныя перасяляцца, прадалі, амаль за нішто, сваю небагатую маёмасць і пехатою пайшлі ў далёкі і незнаёмы край. Іх касцямі ўслана тая дарога выгнання. Палова выгнаннікаў так і загінула, не дайшоўшы да чужыны.

Батальён таксама набіраўся з мясцовых сялян. Ім былі створаны нечалавечыя ўмовы жыцця і працы, а таму людзі часта падымалі паўстанні і гінулі ад куляў сваіх жа саслужыўцаў — салдат Елецкага палка.

Іх косці і душы прымала з уздыхам ужо родная беларуская зямелька.

У дзевятым, беларускім, томе славутага даследвання В. П. Сямёнава «Россия: полное географическое описание нашего отечества» пра нас пішацца: «Беларус адрозніваецца светлым колерам скуры, а жанчыны вельмі часта маюць тонкія рысы твару. Светлыя ці светла-русыя валасы пераважаюць сярод беларускага насельніцтва, гэтак жа як шэры альбо блакітны колер вачэй...»

Шэры колер вачэй у нас ад нашай зямлі — беларус часцей за ўсё, працуючы, бачыў яе перад сабою. А блакітны — канечне ж, ад неба калі мы разгіналіся, і яшчэ

ад васількоў, якія заўсёды раслі побач з намі, — беларус бачыў іх і ў жыце, і ля дарогі, і ля свайго ганку.

А белыя, светлыя ці светла-русыя нашы валасы хутчэй за ўсё з'явіліся ад чысціні, светлаты і цнатлівасці нашых добрых і ласкавых дзяўчат, жанчын, іх душ і сэрцаў.

Белае адзенне ў свой час адрознівала беларусаў ад іншых народаў.

Рускія краязнаўцы ў XIX стагоддзі паўночную частку Чарнігаўскай губерніі — гэта сучасная Браншчына — вылучалі у асобны этнаграфічны рэгіён.

«Тут, — сцвярджае вядомы даследчык нашай мінуўшчыны Васіль Цітоў, — спакон веку пражывала беларускае насельніцтва, патомкі радзімічаў, ці, як іх яшчэ называлі, ліцьвіны. Ужо ў горадзе Бранску, пісала «Жывапісная Расія», на базарах пераважае белая магерка, класічны беларускі каўпак, ці капялюш без палёў, і тая «кароценькая і вузенькая світа, што адрознівае беларуса ад маларОса». Такая ж розніца заўважаецца і ў гаворках».

Тады беларусы-ліцьвіны складалі аснову насельніцтва ў вёсках Суражскага, Мглінскага, Навазыбкаўскага і Старадубскага раёнаў. А пазней паводле Усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 года ў былой Чарнігаўскай губерні пражывала 151 465 беларусаў, якія размаўлялі на беларускай мове і лічылі яе роднай.

«Увогуле, — чытаем мы ўсё ў тым жа, згаданым вышэй, выданні, — беларусы ўяўляюць сабой ці не самы чысты тып славянскага племя. Гэта тлумачыцца тым, што беларускае племя ў сваім гістарычным мінулым не злівалася з іншымі народнасцямі».

Рускія змешваліся з угра-фінскімі плямёнамі, украінцы — з цюркскімі народнасцямі, палякі — з немцамі. А мы, калі і змешваліся, дык часцей за ўсё толькі з рускімі, украінцамі ды палякамі. Са сваімі славянскімі суседзямі.

Таму ў нас больш за ўсё і лепш за ўсё захаваўся гістарычны славянскі тып. І яшчэ таму, што Беларусь, бела-

руская народнасць «ніколі не заваёўвалася неславянскім племем».

У размове са Львом Талстым французскі публіцыст і гісторык Анатоль Леруа-Балье казаў, што «беларусы — чыстыя славяне», а маларусы і вялікарусы, на яго думку, — «помесь з татарамі і чуддзю».

Выдатны рускі пісьменнік Іван Бунін нібы дапаўняў яго, сцвярджаючы, што ў беларусаў «у найбольш чыстым выглядзе захаваліся несапсаваныя рысы славянскай расы. У іх бачна парода».

Ці не з гэтай прычыны столькі чыста славянскіх прыгажунь можна сустрэць сёння на вуліцах беларускіх гарадоў і вёсак.

Так, мы, беларусы, старажытны народ. Сваю зямлю мы пачалі абжываць сорок тысяч гадоў таму назад.

Помнім апошні ледавік, які разам з абломкамі скал ссунуўся на нас са Скандынавіі і растаў на нашых землях, пакінуўшы на ўспамін пра сябе шмат валуноў ды азёраў.

Помнім, як у сваім дагістарычным дзяцінстве карміліся тым, што збіралі ў лесе, як палявалі на звяроў і лавілі рыбу. Як прыручылі потым коней, кароў ды курэй, як навучыліся вырошчваць жыта.

Помнім, як пабудавалі столькі прыгожых замкаў і храмаў, што іншаземцы дзівіліся імі і называлі нашу зямлю краінай замкаў і храмаў.

Словам, беларусы — гэта ўсё: наша дагледжаная зямля і наша чыстая, як сляза, вада, нашы добраўпарадкаваныя вёскі і гарады, нашы цудоўныя архітэктурныя шэдэўры, узнесеныя нашымі рукамі, нашы прыгожыя жанчыны і мужныя мужчыны.

Бо беларусы — гэта не толькі людзі, але і ўсё тое, што пабудавана і дагледжана імі.

І, вядома ж, беларусы — гэта славутыя і самыя звычайныя людзі, якія стварылі ў стагоддзях гонар і славу нашай зямлі.

Вось як хораша пра нас гаварыў, да прыкладу, Уладзімір Мулявін, стваральнік і кіраўнік славутых «Пес-

няроў» — чысты екацерынбуржац, патомны рускі чалавек:

«Я астаўся тут пасля арміі і зусім не шкадую. Хоць запрашэнняў было вельмі шмат, асабліва пасля першых гастроляў у Штатах. Але я ўжо не магу без Беларусі... У свой час я тут астаўся, таму што быў уражаны чысцінёй, чысцінёй людзей, адносін, любові. Беларусы — унікальны народ. І я болей нідзе не сустракаў такога народа, як у Беларусі».

Уладзімір Мулявін разам са сваімі «Песнярамі» памагаў нам вяртаць з даўніны і забыцця нашы непаўторныя народныя песні. І стаў для нас славутым. І сваім.

Сваім быў для Беларусі сын серба і ўкраінкі Уладзімір Іванавіч Пічэта, вучоны, першы рэктар нашага універсітэта, які палюбіў наш народ і нашу зямлю, а беларуская мова стала для яго роднай: на ёй ён чытаў лекцыі і пісаў навуковыя працы. За што і быў арыштаваны як нацдэм, і толькі сусветная вядомасць уратавала яго ад расстрэлу.

А колькі беларусаў сталі і сваімі, і славутымі ў іншых землях! Гэта і Ігнат Дамейка — народны герой Чылі, якому ў Сант'яга пастаўлены помнік з надпісам: «Вялікаму асветніку»; і Мікалай Судзілоўскі — прэзідэнт Гавайскіх астравоў; і Восіп Кавалеўскі — прафесар Казанскага і Варшаўскага універсітэтаў, аўтар «Кароткай граматыкі мангольскай кніжнай мовы», «Мангольскай хрэстаматыі» і «Мангола-руска-французскага слоўніка»; Іван Чэрскі, які добрым успамінам застаўся назаўсёды на зямлі — яго імем названа сістэма горных хрыбтоў у Сібіры, у Забайкаллі і інш.; Тадэвуш Касцюшка — герой грамадзянскай вайны ў Амерыцы і кіраўнік паўстання 1794 года, помнікі якому пастаўлены ў Кракаве, Лодзі, Вашынгтоне, Чыкага, Мілуокі, Кліўлендзе, у швейцарскім Салюры, а яго імем названы гара ў Аўстраліі, адна з акруг штата Індыяна, горад у штаце Місісіпі, астравы на Алясцы. Сэрца Тадэвуша Касцюшкі захоўваецца ў каралеўскім палацы ў Варшаве, цела — у каралеўскім замку Вавель у Кракаве, а душа несумненна

жыве на Радзіме, у адноўленай сядзібе Мерачоўшчына, што каля мястэчка Косава, якое цяпер знаходзіцца ў Івацэвіцкім раёне.

Адукаваны палачанін Сімяон Полацкі вучыў дзяцей расійскага цара Аляксея Міхайлавіча, стаў першым у Расіі прафесійным пісьменнікам, па творах якога славуты Міхайла Ламаносаў вучыўся вершаскладанню.

Беларуская зямля нарадзіла Казіміра Семяновіча, вынаходніка шматступенчатай ракеты, і Якуба Наркевіча-Ёдку, які ўпершыню адкрыў электраграфію і бяздротавую перадачу электрычных сігналаў.

Сярод нашых землякоў — нацыянальны герой Грэцыі Зыгмунт Мінейка, які нарадзіўся ў вёсцы Зялёны Бор Ашмянскага раёна, скончыў Акадэмію Генштаба ў Парыжы і ўдзельнічаў у вайне з Турцыяй за Крыт. Дарэчы ён быў сярод інжынераў і будаўнікоў, якія ўзводзілі алімпійскія арэны для Першай Алімпіяды 1896 года ў Афінах, і стаяў на трыбуне сярод ганаровых гасцей у час адкрыцця гульняў. А Аляксандр Булатовіч, нашчадак старажытнага беларускага роду з Гродзеншчыны, ваяваў за незалежнасць Эфіопіі і быў сябрам цара цароў Менеліка, які ўзнагародзіў яго залатымі шчытом і шабляю.

Барыс Кіт, вядомы амерыканскі спецыяліст у галіне ракетнай тэхнікі, Павел Сухі, славуты авіяканструктар, стваральнік вядомых самалётаў «СУ», якія і цяпер знаходзяцца на ўзбраенні беларускай арміі, — таксама нашы землякі.

А тры нашы суродзічы ўшанаваны Нобелеўскай прэміяй — найвышэйшай адзнакаю іхніх навуковых даследванняў: вядомы амерыканскі фізік-тэарэтык, сапраўдны член Нацыянальнай акадэміі ЗША Шэлдан Глэшаў, у дзяцінстве Глухоўскі; бельгійскі фізік і хімік, сапраўдны член Бельгійскай АН, дырэктар Міжнароднага інстытута фізікі і хіміі, замежны член НАН Беларусі Ілля Прыгожын; а таксама Жарэс Алфёраў — віцэ-прэзідэнт Расійскай акадэміі навук, замежны член НАН Беларусі.

Вядома, каб яны працавалі для роднай Беларусі, каб, да прыкладу, Адам Міцкевіч ці Фёдар Дастаеўскі пісалі па-беларуску, нам было б прыемна, аднак жа і тое, што нашы землякі спатрэбіліся чалавецтву і сталі ў ім знанымі, — таксама не менш ганарова: працуючы для ўсяго свету, яны працавалі і для Беларусі.

А нас у свеце ведаюць як краіну, як зямлю, якая нарадзіла славутых Еўфрасінню Полацкую і Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну і Пятра Мсціслаўца, Льва Сапегу і Кастуся Астрожскага, Кастуся Каліноўскага і Валерыя Урублеўскага, Станіслава Манюшку і Міхася Забэйду-Суміцкага, Янку Купалу і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка...

Беларускія разьбяры па дрэве Арсеній па прозвішчу Старац і Гераська Укулаў родам з Дуброўны, якіх рускі цар Аляксей Міхайлавіч, нашчадак аршанскага баярына Андрэя Кабылы, наведаўшы ў 1656 годзе Куцеінскі манастыр пад Оршай, звёз у Маскву, здабылі там славу выдатных майстроў.

Арсеній аздабляў Збройную палату Маскоўскага Крамля, стварыў драўляную «іярданскую сень», якая цяпер знаходзіцца ў саборы Раства Багародзіцы ў Суздалі, кіраваў арцелямі беларускіх разьбяроў, што аздаблялі Каломенскі палац цара.

Старац дасягнуў такіх недасягальных вяршыняў у беларускай разьбе па дрэве, што аздоблены ім Каломенскі палац пачалі праслаўляць як восьмы цуд свету — сучаснікі называлі яго «цацачкай, вынятай са шкатулачкі».

Аб'ёмна-ажурная разьба беларускіх майстроў была непаўторная — лёгкае перапляценне пышных раслінных парасткаў з гронкамі і лістамі, у якія ўплецены фігуры птушак, жывёл, чалавека, радавала, здзіўляла, выклікала захапленне.

І Збройную палату Крамля, і царскі палац у Каломенскім разам са сваімі землякамі ўхарошваў і Герасім Укулаў. Апрача гэтага ён — адзін са стваральнікаў разных іканастасаў у трох цэрквах Ізмайлаўскай сядзібы цара, а таксама іканастаса царквы Пятра і Паўла ў Маскве.

Прыгонныя сялянкі Пелагея і Кацярына Азарэвічы, таленавітыя балерыны Шклоўскага тэатра Зорыча, якіх у ліку 14 салістаў у 1800 годзе вывезлі са Шклова і перадалі дырэкцыі Пецярбургскіх імператарскіх тэатраў, таксама набылі там вядомасць, сталі яркімі зоркамі пецярбургскай сцэны. Улюблёнкамі тэатральнай публікі былі і дочкі Кацярыны — актрысы Надзея і Марыя Азарэвічы, а сына Пелагеі Васіля Жывакіні, акцёра, якога газеты называлі светлым комікам, вельмі паважалі Гогаль і Астроўскі. Ён — родапачынальнік сям'і рускіх акцёраў Жывакіных.

Беларуская дзяўчына Соф'я Гальшанская, якую Вітаўт сасватаў Ягайлу ў Друцку, зрабілася каралеваю Польшчы і, нарадзіўшы каралю сыноў-спадкаемцаў, пачала шаноўную для палякаў дынастыю Ягелонаў. Сын Соф'і і Ягайлы Казімір княжыў 52 гады! Чатыры іх унукі — Уладзіслаў II, Ян I Ольбрахт, Аляксандр і Жыгімонт Стары — чатыры разы засаб станавіліся каралямі Польшчы.

Яе ўнук — вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт Стары — вылучаўся апрача ўсяго незвычайнай фізічнай сілаю, быў сапраўдным асілкам: мог ламаць падковы і рваць моцныя вяроўкі.

Наогул у нас было шмат волатаў — і сярод князёў, і сярод звычайных людзей, — якія зубамі падымалі сталы, рукамі гнулі жалеза, на сваіх плячах насілі коней.

Слыннага ваяводу Вялікага княства Літоўскага Юрая Радзівіла сучаснікі звалі Геркулесам. І не толькі за сілу, але і за мужнасць: з трыццаці сур'ёзных бітваў ён выходзіў пераможцам; з невялікім корпусам узяў крыжацкія замкі Голанд, Квідзын, Мелшак, Любаву, Брандэнбург, пасля чаго Тэўтонскі ордэн папрасіў міру.

Пасля смерці Кастуся Астрожскага Юраю Радзівілу аддалі булаву вялікага гетмана, і ён узначаліў беларускае войска.

На беларускай зямлі, у вёсцы Старое Сяло пад Віцебскам, у 1878 годзе нарадзіўся самы высокі чалавек на нашай планеце. Велікан Фёдар Махноў меў рост каля трох метраў (285 сантыметраў), яшчэ падлеткам гнуў

падковы і закручваў у спіраль металічныя пруты, у сталым узросце лёгка падымаў на драўлянай платформе цэлы аркестр, а ў яго вялікіх ботах маленькія дзеці хаваліся з галавою. Мы дзівіліся з велікана самі, а таксама паказвалі яго ў Еўропе і на іншых кантынентах зямлі.

Канферансье, прадстаўляючы яго, інтрыгавалі публіку: «Панове! Дзіва прыроды, найвялікшы чалавек у свеце! Яго рост 285 сантыметраў, ступня даўжынёй 51 см, далонь — 31 см, а губы... Яго губы, паны і пані, шырынёй 10 сантыметраў!»

Бацьку вялікана даводзілася падаўжаць ложак, падніма́ць столь і страху хаты. Жонка Фёдара, настаўніца Ефрасіння Лебедзева, была ніжэй за яго на цэлы метр. Дарэчы, з-за яго Віцебск, як горад, дзе жыў велікан, занесены ў Кнігу рэкордаў Гінэса.

Мы вельмі шануем пачуццё справядлівасці. Любім парадак, сям'ю, законнасць, волю.

Мы не злыя, не агрэсіўныя. Мы — іншыя: шчырыя, здольныя, натуральныя, высакародныя.

Беларус не адчувае радасці ад чужога гора. «Дапамажы!» — ці не найпершы наш водгук на людскую бяду. Дапамажы і блізкім і далёкім, і сваім і чужым. Наша спагадлівасць і нарадзіла, мусіць, наша агульнае свята — талаку, калі мы ўсёю вёскаю ставілі сабе хаты, рабілі іншую цяжкую работу.

Італьянскі ж гітарыст Даменіка Лафашана, які з гастролямі пабываў у 25 краінах свету і да прыезду ў Беларусь ведаў толькі, што ў нас вельмі холадна і вельмі прыгожыя дзяўчаты, пабываўшы ў нашым краі сярод нашых людзей, гаварыў:

«Увогуле беларусы прыемна здзівілі мяне сваім багатым унутраным светам... Вы, беларусы, нечым падобныя да фінаў — цёплыя, чуллівыя людзі, у якіх яшчэ жыве чалавечнасць. А ў многіх еўрапейскіх краінах людзі губляюць, страчваюць чалавечнасць. Першае, што яны ўмеюць, — гэта быць фальшывымі. Фальш забівае чалавечнасць».

І праўда — мы шануем чалавечнасць. І не любім фальшу.

Для свету мы партызаны і працалюбы, клапатлівыя гаспадары і разважлівыя людзі.

Вядома, і ў нас, як на іншы погляд, ёсць шмат недахопаў. А назавіце мне хоць адзін народ, у якога тых недахопаў няма!

Аднак нашы чысціня, дабрата і справядлівасць, наша вера ў сябе здзіўлялі, здзіўляюць і, спадзяемся, будуць здзіўляць усіх, хто з добрай душою і шчырым сэрцам жадае нам вечнасці.

Гэта добра ведаў і Фёдар Дастаеўскі, які пісаў пра нас, сваіх суродзічаў:

«Без народнай веры ў сябе і свае сілы не ўстояў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі».

Мы жывём надзеяй, што гэтай веры ў сябе хопіць нам і назаўтра, і назаўсёды.

Кажуць, што мы жылі на зямлі, якая стане потым Беларуссю, ужо 300 тысяч гадоў назад.

Аднак рэшткі нашай культуры, выяўленыя каля вёсак Свяцілавічы Веткаўскага, Абідавічы Быхаўскага і Падлужжа Чачэрскага раёнаў, дзе былі нашы стаянкі, адносяцца да пазнейшага часу, да так званай мусцьерскай культурна-гістарычнай эпохі. Гэта было 120—40 тысяч гадоў таму, і зваліся мы тады яшчэ неандэртальцамі.

А засялілі мы Беларусь ужо ў мезаліце, 10 тысяч гадоў назад. Пра гэта сведчаць нашы старажытныя паселішчы Юравічы і Бердыш.

І зваліся мы тады краманьёнцамі. Як і тыя, першыя людзі, астанкі якіх разам з крамянёвымі прыладамі знайшлі ў Францыі, у горадзе Кра-Маньён.

Цяпер мы завемся беларусамі.

А беларусы — гэта і Ліля Цвяткова з Вялікай Кракоткі, якая, жывучы на Украіне, каб пабачыць «Песняроў», пехатою прыйшла з Акермана ў Адэсу і прывітала землякоў на роднай мове, пасля чаго вялікая адэская зала ўстала і, стоячы, дзякавала ёй гэтак жа шчыра, як і самім спевакам.

Гэта і Юля Несцярэнка з Брэста, «белая маланка», якая ў 2004 годзе на Алімпіядзе ў Афінах прымусіла трыбуны апладзіраваць ёй — у спрынтарскім бегу яна атрымала залаты медаль, упершыню за многія гады перамогшы заўсёдных фаварытак — чорнаскурых спартсменак.

Гэта і альпіністка Ірына Велянкова, адзіная жанчына ў свеце, якая выжыла пасля начоўкі ў зоне смерці — на вышыні 8 тысяч метраў пры саракаградусным марозе — у Гімалаях, а пасля ампутацыі пальцаў на абедзвюх нагах зрабіла ўзыходжанне на Эльбрус.

Гэта і ўдзельнікі духоўнага хору «Крынічка» Мінскага палаца дзяцей і моладзі, якіх напрыканцы II тысячагоддзя запрасіў на аўдыенцыю Папа Рымскі. Аўдыенцыя прайшла на плошчы Святога Пятра ў Рыме. Пантыфік вітаў іх на беларускай мове, дзеці спелі для яго некалькі духоўных твораў. Ян Павел II быў уражаны спевамі, казаў, што яму здалося, быццам гэта спяваюць анёлы, і блаславіў дзяцей і ўвесь беларускі народ.

Гэта яшчэ і дзесяцігадовая гарэзніца — беларусачка Волечка Сацюк з Кобрына, якая сярод 16 удзельнікаў з розных краін хоць і заняла толькі чацвёртае месца ў Міжнародным конкурсе «Еўрабачання» для юных выканаўцаў эстраднай песні, аднак песні і танцы яе так спадабаліся датчанам, гаспадарам свята, што яны доўга скандзіравалі пашаноўнае імя нашай краіны: «Беларусь! Беларусь! Беларусь!»

А Ксенія Сітнік, якая на такім жа конкурсе ў бельгійскім горадзе Хосельта заняла першае месца, навучыла, прымусіла выгаворваць нязвыклае слова «Беларусь» вядучага бельгійскага тэлебачання і той прызнаўся: «Я дрэнна вучыў геаграфію, таму не ведаю, дзе знаходзіцца Беларусь, але само імя краіны мне вельмі падабаецца».

А, як цяпер кажуць, брэндам Савецкай Беларусі доўгі час была гімнастка, чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка Вольга Корбут — «дзіва з коскамі», — якую ўвесь свет насіў на руках.



# НАША МОВА

Сярод 2977 жывых моў, на якіх размаўляюць на планеце Зямля людзі, беларуская мова займае пашаноўнае месца.

Ёсць мовы, што дапамагаюць мець між сабою зносіны ўсяго нейкай сотні-другой чалавек. Аднак ніводная мова ў свеце не можа быць абражана ці дыскрэдытавана толькі за тое, што на ёй гаворыць няшмат людзей: калі сваёю моваю карыстаецца нават усяго толькі дзесяць чалавек — гэта ўжо многа: для дзесяці ж чалавек яна родная!

На беларускай мове гаворыць больш як 8 мільёнаў чалавек — па дадзеных перапісу насельніцтва Беларусі, які адбыўся ў 1989 годзе, 82 працэнты насельніцтва сваёй роднай мовай назвалі беларускую. Нават прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў прызналіся, што гавораць па-беларуску: рускія, татары, яўрэі.

Мова беларусаў адносіцца да індаеўрапейскай моўнай сям'і, што мела некалі адну прамову, якая распалася 3 — 2,5 тысячы гадоў да н.э. на асобныя гаворкі.

Але адтуль, з тых далёкіх стагоддзяў беларуская мова памятае, да прыкладу, слова «веды» са старажытнаіндыйскай мовы, ведычнага санскрыта. З санскрыта ўзялі, зберагі і захавалі слова «дзякуй» наша мова і галоўная мова Індыі — хіндзі. Памятаеце наша аканне і яканне, дзеканне і цеканне, па якіх і цяпер пазнаюць нас, беларусаў? Яно таксама адтуль, з нашай вечнасці.

Яна, наша мова, даўным-даўно называлася старажытнаславянскаю. Пазней — старажытнарускаю. Моваю ўсіх усходніх славян: рускіх, украінцаў, беларусаў.

Аднак да якіх бы моў ні адносілася наша мова, яна заўсёды, як магла, захоўвала свае асаблівасці, непаўторнасць, заставалася беларускаю.

Пра гэта сведчыць наша бытавая пісьменнасць — на старажытных пячатках, пасудзінах, крыжах, прасліцах, камянях, на берасцяных граматах XIII — XIV стагоддзяў, што знойдзены ў Віцебску і Мсціславе.

Як, да прыкладу, вось гэтае, віцебскае, пісьмо на бяросце:

«Ад Сцяпана к Няжылу. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта на 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, дабрадзею мой, купі мне жыта».

Пра тое ж гавораць і летапісы, граматы, дамовы XII — XIV стагоддзяў з Полацка, Віцебска і цесна звязанага з імі Смаленска. Як тая ж дамова смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгаю, з Гоцкім берагам 1229 года, у якой захоўваюцца паасобныя фанетычныя рысы беларускай мовы.

Старабеларускую мову ведалі і карысталіся ёю латгалы, даннікі Полацка, а таксама замежныя гандляры з ганзейскага гандлёвага саюзу.

У XII стагоддзі з'яўляюцца арыгінальныя беларускія творы, такія, як «словы», казанні, павучанні, малітвы Кірылы Тураўскага, «Жыціе Еўфрасінні Полацкай», зборнік візантыйскіх багасловаў, якія ўшаноўваюць беларускае слова.

Наша мова XIV — XVIII стагоддзяў ужо называецца старажытнабеларускай. Яе развіццю спрыяла тое, што ў Вялікім княстве Літоўскім, якое па сутнасці, як сцвярджаюць некаторыя гісторыкі, было беларускай сярэднявечнай дзяржавай, яна выконвала ўсе функцыі дзяржаўнай мовы. Дзяржаўнай яна была і ў Вялікім княстве Смаленскім. Кароль Ягайла і на польскім троне гаварыў па-беларуску.

Да сярэдзіны XVIII стагоддзя беларуская мова выкарыстоўвалася ў гарадскіх управах, магістратах і магдэбурыях, у земскіх і замкавых судах, на ёй пісаліся дакументы ў каралеўскіх канцылярыях Кракава і Варшавы, што пасылаліся ў Вялікае княства Літоўскае.

Яшчэ напрыканцы XVIII стагоддзя на ёй гаварыла большасць мінскіх, магілёўскіх, віцебскіх памешчыкаў, а уніяты пісалі на беларускай мове свае метрычныя кнігі.

Па-беларуску пісаліся летапісы, хронікі, дзённікі, мемуарныя творы — «Баркулабаўскі летапіс», дыярушы

Ф. Еўлашоўскага і А. Філіповіча, гістарычныя хронікі М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага.

Усе тры сярэднявечныя Статуты ВКЛ, якія аб'ядналі законы феадальнага права XVI стагоддзя, напісаны на беларускай мове. І Метрыка ВКЛ, помнік канцылярска-юрыдычнай літаратуры, уганароўвае беларускую мову, бо да сярэдзіны XVII стагоддзя дакументы ў асноўным афармляліся па-беларуску.

У Статуце ВКЛ 1566 года быў нават запісаны асобны пункт аб вядзенні справаводства на беларускай мове. А ў 1588 годзе Леў Сапега ў Статуце ВКЛ абвясціў беларускую мову дзяржаўнаю.

З XV па XVI стагоддзе старабеларуская мова была моваю міждзяржаўных зносін, якая выкарыстоўвалася ў дыпламатычнай перапісцы з іншымі суседнімі краінамі, была моваю вялікакняжацкага двара.

Альгерд, князь крэўскі і віцебскі, вялікі князь ВКЛ, добра ведаючы нямецкую мову, з крыжацкімі пасламі, як сведчаць крыніцы, размаўляў толькі праз перакладчыка — па-беларуску. На ёй пісаліся тады княжацкія законы, і яе павінны былі ведаць усе, каго бралі на дзяржаўную службу ў княстве.

І што цікава: нават кітабы — рэлігійныя кнігі беларускіх мусульман, якія ствараліся татарамі, што аселі, пасяліліся на Беларусі, бралі ў жонкі беларускіх дзяўчат і цалкам перайшлі на нашу мову, пісаліся па-беларуску, але арабскім пісьмом: яны пісаліся і чыталіся справа налева, тэкст пачынаўся там, дзе ў славянскіх кнігах ён заканчваецца, аднак мова была беларуская: «выбач мяне», «прысмакі», «як вокам мігнуць», «згода», «спрэчка» і г. д.

Апошні росквіт беларускай мовы быў у першай палове XVII стагоддзя. Тады гаварылі па-беларуску гарады і мястэчкі, гандляры і рамеснікі, на ёй пісаліся кнігі і службовыя паперы, яе выкарыстоўвала царква.

Шанаванне беларускай літаратурна-пісьмовай мовы пайшло на спад, калі адбылося аб'яднанне ВКЛ з Польшчай, калі беларускія землі апынуліся ў складзе

Рэчы Паспалітай. Беларуская шляхта, якая раней захоўвала, берагла і свае традыцыі, і сваю мову, пачала шмат што рабіць на польскі ўзор. Польская мова стала пранікаць у наша справаводства. Некаторыя нават пачалі хітраваць. Па закону ўсе дакументы трэба было складаць па-беларуску, дык канцылярысты, каб абысці закон, пачатак і канец дакумента пісалі на беларускай мове, а ў сярэдзіне — усё выкладалі па-польску.

З XVI стагоддзя ад роднай мовы адракліся і пачалі падмяняць яе польскай найбольш заможныя і ўплывовыя грамадзяне княства, а з другой чвэрці XIX стагоддзя тыя ж грамадзяне паспешліва пачалі пераходзіць на рускую мову.

У 1697 годзе сейм Рэчы Паспалітай наогул забараніў складаць дакументы на беларускай мове.

А калі беларускія землі ўвайшлі ў склад Расіі, пасля паўстання Кастуся Каліноўскага, у 1867 годзе ўжо царскі ўрад спецыяльным загадам зноў жа забараніў беларускую мову. Тады некаторыя беларускія кнігі, каб прабіцца праз цэнзуру, выдаваліся як пераклад з іншых моў. А шмат што так і не прабілася. Толькі таму, што было напісана па-беларуску.

Як, да прыкладу, кнігі класіка нашай літаратуры, актыўнага ўдзельніка паўстання 1863 года, параненага ў бітвах Францішака Багушэвіча. Ён падрыхтаваў зборнікі «Скрыпка беларуская», «Беларускія апавяданні Бурачка», «Слоўнік беларускай мовы», складзены па просьбе Карловіча, аднак яны, яшчэ не надрукаваныя, былі забаронены і згубіліся недзе ў сховах цэнзуры.

А ён жа, наш руплівец і патрыёт, лічыў родную мову «адзежай душы», называў яе святою, дадзенай нам самім Богам і крыкам крычаў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі». Бо ведаў, што знішчэнне народа часцей за ўсё пачынаецца са знішчэння яго мовы.

Карусь Каганец, другі руплівец на ніве беларускага адраджэння, які нарадзіўся ў Сібіры, у Табольску, куды яго бацька Карла Кастравіцкі, быў сасланы за ўдзел у паўстанні 1863 года, вярнуўшыся на радзіму, пісаў гра-

матыку беларускай мовы тады, калі і сама мова, і ўвесь беларускі друк былі забаронены. У самую дзікую пару Александраўскай рэакцыі, калі не было ніякай надзеі, калі, як успамінае Аляксандр Уласаў, яшчэ адзін дзеяч беларускага адраджэння, рэдактар «Нашай нівы», загаварыць па-беларуску ці назвацца беларусам, было тое самае, што голым прайсці па вуліцы.

А будучага паэта Валянціна Таўлая ў 1925 годзе польскія ўлады выключылі са Слонімскай настаўніцкай семінарыі толькі за тое, што не адмовіўся ад беларускай нацыянальнасці і роднай мовы.

А як хораша, з якім замілаваннем думаў і пісаў пра сваю Радзіму — Беларусь, пра нашу мову вялікі Адам Міцкевіч!

Чытаючы лекцыі па славянскіх літаратурах у Калеж дэ Франс у Парыжы, ён гаварыў, што ў беларускім фальклоры, у нашых «казках і песнях ёсць усё», а нашу мову называў «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зменелай». Міцкевіч сцвярджаў: «На беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-русінскай... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі».

А гэтую самую гарманічную мову забаранялі, разлучалі з народам. Аднак беларусы нават забарону выкарысталі як найлепш на сваю карысць. Мы стварылі найбагацейшы ў свеце вусны фальклор, якому дзівяцца і радуюцца шмат якія замежныя вучоныя, замежныя даследчыкі. Пісаць і друкавацца на роднай мове можна забараніць, а як забароніш на ёй думаць і гаварыць?

У польскіх школах за тое, што дзеці гавораць па-беларуску, білі лінейкамі па далоньках. Але ж яны ўсё роўна гаварылі па-свойму!

У рускіх школах беларусам дыктуюць: «Прилетели скворцы, и мы сделали им скворечники», а яны пішуць: «Прыляцелі шпакі, і мы зрабілі ім шпакоўні». Пра гэта

па тэлебачанні жартавала настаўніца рускай мовы адной са школ на расійска-беларускім памежжы, у якую ходзяць дзеці і з-за мяжы — з Беларусі.

За беларускую мову змагаўся нават Іосіф Сталін. Яшчэ ў сакавіку 1921 года, на X з'ездзе РКП (б) ён гаварыў:

«Пішуць, што мы, камуністы, нібыта насаджаем беларускую нацыянальнасць. Гэта няправільна, таму што існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, у выніку чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай яго мове; зроблена гэта свядома, бо сёння ў краіне расплодзілася вельмі велізарная колькасць аўтараў, якія лічаць, што сваімі рускамоўнымі творамі спрыяюць развіццю беларускай нацыянальнай культуры».

Наша мова, нягледзячы на паасобныя цяжкасці,усё ж жыве, рупіцца, працуе.

А колькі выдатных слоўнікаў роднай мовы выйшла ў апошні час! Пяцітомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы», двухтомны «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», «Слоўнік мовы Скарыны», факсімільны «Слоўнік беларускай мовы» Івана Насовіча, «Гістарычны слоўнік беларускай мовы», два дзесяткі тамоў якога ўжо выйшлі, аднак багаты матэрыял не асвоены і напалавіну.

А яшчэ ж фундаментальнае даследаванне «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», стваральнікі якога ў свой час нават былі ўшанаваны Дзяржаўнай прэміяй СССР.

А яшчэ ж грунтоўная энцыклапедыя «Беларуская мова», якая выйшла ў 1994 годзе ў выдавецтве «БелЭн».

А яшчэ ж удзел у стварэнні двух грандыёзных атласаў — «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» і «Агульнаеўрапейскі лінгвістычны атлас» з цэнтрам у Бруселі.

Хіба можна ўсё гэта ігнараваць?!

І самае галоўнае. 26 студзеня 1990 года адбылася вельмі сур'ёзная падзея ў жыцці беларускага народа. У гэты дзень на XIV сесіі Вярхоўны Савет Беларускай ССР адзінаццатага склікання прыняў закон, у якім навечна

запісана «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова».

У прэамбуле гэтага Закона гаворыцца:

«Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву. Гонар і абавязак усіх — шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў».

Як гэта правільна: «Жыве мова — жыве народ»!

На рэферэндуме 1995 года статус другой дзяржаўнай мовы ў Рэспубліцы Беларусь нададзены і рускай мове.

Закон Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон аб адукацыі, які ўступіў у сілу ў 2002 годзе, сведчыць: «Асноўнымі мовамі навучання і выхавання ва ўстановах адукацыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская. Дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка. Вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў у агульнаадукацыйных школах з'яўляецца абавязковым, за выключэннем асобных катэгорый з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця».

Мы разам з усім светам святкуем, вучымся адзначаць Міжнародны дзень матчынай мовы. Ёсць такое пашаноўнае на зямлі свята — яго па прапанове Бангладэш у 1999 годзе абвясціла ЮНЕСКА. Міжнародны дзень матчынай мовы адзначаецца штогод 21 лютага — у дзень, калі, адстойваючы свае правы вучыцца на роднай мове, загінулі пяць студэнтаў.

Уладзімір Караткевіч, славуты наш пісьменнік, улюбёны ў Беларусь, пра яе, нашу руплівіцу, у вершы «Мова» пісаў:

Ты мой ясны хлеб і каханы мой,
Песня продкаў, нашчадкаў палі,
Без цябе, не з табой — не патрэбен мне рай
На душы. Ў небясі. На зямлі.

Алесь Гарун падымае яе ў нябёсы:

Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.

Матчыну мову на Беларусі вельмі шануюць і маладые творцы. Адна з іх, паэтэса Валянціна Гарністава сказала пра яе ў сваім вершы так:

Адтуль, дзе ноччу плачуць зоры,
Мігцяць-губляюцца ў вяках,
Яна прыйшла да нас. Ад Бога.
З жытнёвым коласам ў руках.
Хрысціў яе касмічны вецер
І, як у свет пусціць, сказаў:
«Чысцей не будзе мовы ў свеце!»
І Беларускаю назваў.

Вучоныя сцвярджаюць: энергія людзей размяркоўваецца пры дапамозе мовы, яна — інфармацыя, код, сігнал. Родная мова — сродак стабільнасці грамадства. Яна зберагае энергію народа, абараняе межы любой краіны, стварае народ і яго будучыню.

«Фауст» Гётэ, таленавіта перакладзены на беларускую мову Васілём Сёмухам, «Боская камедыя» Дантэ і «Дон-Жуан» Байрана, не менш удала пераствораныя па-беларуску Уладзімірам Скарынкіным, «Біблія», узноўленая па-нашаму Янкам Станкевічам і тым жа Сёмухам, і іншыя сусветныя шэдэўры, што выдатна загучалі ў нашым слове, сведчаць пра тое, што беларуская мова жывая і вечная і што яна яшчэ доўга і плённа будзе служыць свайму народу.

У чым галоўныя асаблівасці нашай мовы? Аканне і яканне. Дзеканне і цеканне. Цвёрдыя губныя і «р». Заме-

на ў пэўных выпадках «в» і «л» на «ў». У нас як чуецца, так і пішацца. І гэта, як жартуюць моваведы, найперш адрознівае беларускую мову, да прыкладу, ад англійскай, дзе ўсё наадварот: там ніколі так не пішацца, як чуецца...

А вядомы чэшскі і славацкі славіст Павел Шафарык вызначыў пятнаццаць характэрных асаблівасцей беларускай мовы.

Наша мова — старажытная, глыбокая і нязводная. Яна дарагая нам з усімі сваімі адрозненнямі і падабенствамі.

І мы, няёмячыся, прымаем здзіўленне маладога японскага славіста Рунасукэ Курода, які пісаў пра нас:

«Не разумею я гэтай ціхай і таямнічай краіны, жыхары якой грэбуюць сваёй мовай».

І з вялікаю пашанаю і зайдрасцю ставімся да тых французаў, якія на пытанне, чаму яны не вучаць замежную мову, адказваюць:

«А, ведаеце, французская мова такая цудоўная».



## НАША ВАДА

Беларусь называюць сінявокаю. Гэта ад мноства вады на нашай зямлі — калі падняцца ў космас ці хаця б зірнуць на яе з-пад крыла самалёта, кожны ўбачыць, як яна ўся ўпрыгожана сінімі вачамі-люстэркамі азёр і спавіта блакітнымі стужкамі рэк.

На Беларусі 20 800 рэк і рэчак і 10 800 азёраў. Толькі на адной Віцебшчыне дзве з паловаю тысячы азёраў! А ў Браслаўскім і Ушацкім раёнах пад азёрамі знаходзіцца дзесятая частка ўсёй іхняй тэрыторыі.

Нашы рэкі часам бяруць свой пачатак не на зямлі, а ў небе: іх нараджаюць хмары. Ападкі ў выглядзе дажджу і снегу, калі ён растае, становяцца вытокамі нашых рэк і рэчак.

Але беларускія рэкі пачынаюцца не толькі з неба, але і з падземных вод — б'е, пульсуе з-пад зямлі маленечкая

крынічка, а ад яе завязваецца, пачынае журчаць такі ж самы маленькі ручаёк. Бывае, што нашы рэкі нараджаюцца ў азёрах, а то і ў балотах.

А рака Свіслач, як мяркуюць легенды, нараджаецца са слёз нашай княгіні Рагнеды, якія ператварыліся ў чыстыя крыніцы.

Якраз у Беларусі знаходзіцца водападзел паміж Чорным і Балтыйскім морамі, які падзяляе нашу тэрыторыю на два схілы — чарнаморскі і балтыйскі. Гэты водападзел праходзіць праз паўночна-заходняе Палессе, па Капыльскай градзе, Мінскім і Аршанскім узвышшах. Адны рэкі сцякаюць па адзін бок водападзелу, іншыя — па другі. Часам некаторыя рэкі гэтых двух басейнаў бяруць свой пачатак амаль побач, усяго ў некалькіх кіламетрах адна ад адной. І нашу ваду яны размяркоўваюць між сабою амаль пароўну: палавіну — у адно мора, палавіну — у другое. Нёман і Дзвіна ўпадаюць у Балтыйскае мора, а Дняпро — у Чорнае. Значыць, сабраная на Беларусі вада штодзень, штогод папаўняе як Чорнае, так і Балтыйскае мора. А гэта ж каля 60 кубічных кіламетраў сцёку ў год! Таму абодва басейны — і халодны і цёплы — ужо робяцца і нашымі морамі!

Да прыкладу, якраз на Беларусі Дняпро, сабраўшы даніну з нашых руплівых мнагаводных рэк — з Прыпяці, Бярэзіны і Сожа, якія ў сваю чаргу папаўнелі ад сваіх прытокаў — Ясельды, Гарыні, Цны, Пцічы, Свіслачы, Убараці, Проні, Случы, Бесядзі, што сабралі ваду амаль з усёй Беларусі, робіцца магутнаю ракою. Так што беларусы, плаваючы ў Чорным моры, могуць цешыць сябе думкаю, што купаюцца яны і ў сваёй роднай вадзе — 56 беларускіх прытокаў Дняпра не даюць гэтаму цудоўнаму цёпламу Чорнаму мору абязводжвацца.

Амаль усе нашы азёры, асабліва на поўначы Беларусі, падараваў нам ледавік, які ссунуўся на нашу зямлю са Скандынавіі ды і растаў у нас. Мусіць, спадабалася яму на Беларусі, і ён застаўся з намі назаўсёды. Вадою.

Катлаваны беларускіх азёр найчасцей ледавіковага паходжання. Растаў лёд паміж марэнныміградамі — і ўтва-

рыліся запрудныя азёры Нарач, Асвейскае, Дрысвяты. Вадаспадам сцякала з ледавіка вада ў вертыкальныя шчыліны, вымываючы невялікія, але глыбокія, да 30 метраў, катлаваны, і там наліліся сінявою азёры. Адступіў ледавік, пакідаючы пасля сябе лінзы лёду ў марэнных адкладах, — гэтыя лінзы потым таксама раставалі і ператвараліся ў прыгожыя лінзы вады. На берагах азёр Віцебшчыны нават у мінулым стагоддзі шведскія вучоныя знаходзілі палярныя расліны. А рыбы сялява і сняток — рэлікты ледавіковай эпохі — і сёння жывуць у нашых самых глыбокіх азёрах.

Самыя глыбокія азёры на Беларусі: Гінькава, Волас, Трошча, Саро, Вечалле, Пліса, Крывое, Круглік і іншыя. Іх глыбіня ад 30 да 50 метраў, а возера Доўгае — найглыбейшае з глыбокіх: 53,7 м.

Самыя прыгожыя — Браслаўскія азёры. Іх у нас называюць блакітнымі каралямі Беларусі. У Браслаўскім Міжазёрным дзяржаўным ландшафтным заказніку можна палюбавацца ўсімі краявідамі Беларускага Паазер'я.

Самыя вялікія — Асвейскае, Чырвонае, Лукомскае, Нешчарда, Выганаўскае, Свір. А возера Нарач нават мае плошчу каля 80 кв. км. Нездарма ж мы яго называем сваім морам. І тут жа дадаём: «Нарач — дзіця акіяна». І яно зразумела — вельмі ж нам хочацца мець свой акіян, хоць вось такім чынам далучыцца да яго!

У нас ёсць яшчэ адно мора — Мінскае! Яго мы зрабілі самі. Сваімі рукамі. Яно рукатворнае. Паставілі плаціну на рацэ Свіслач — і вось маем за горадам, пад бокам у сталіцы 31 кв. км вады ўшыркі (такая плошча возера), 10 км даўжыні, 9 м глыбіні. Мора!

Беларусь мае падземныя рэкі і ручаі. Мае вялікія азёры пад зямлёю — прыродныя сховішча чыстай пітной вады. І мінеральныя крыніцы — мы разведалі ўжо 87 відаў каштоўнай мінеральнай вады па ўсёй Беларусі. Гэтыя крыніцы — невычарпальнае багацце нашага здароўя, нашай сілы і моцы.

Ды і самая звычайная наша вада — лекавая. Большасць насельніцтва Беларусі карыстаецца пітной вадою з пад-

земных вадазабораў. А артэзіянская вада, паднятая да нашага стала з глыбіні ад 60 да 400 метраў, не патрабуе ніякай ачысткі — яна і без гэтага чыстая і светлая, як крышталь.

Дождж — наша вада. Снег — наша вада. Лёд — зноў жа наша вада.

Калодзежы — таксама наша вада. Раней Беларусь нават не ўяўлялася без калодзежаў і асвераў, што заўсёды і ўсюды схіляліся над імі. Гэта спрадвеку з'яўлялася нашымі звычайнымі пейзажамі.

Свае калодзежы і ваду ў іх беларусы надзялялі статусам святасці і чысціні. Асабліва лекаваю была калодзежная вада напярэдадні свят — Ражства Хрыстова, Вадохрышча, Стрэчання. Такой вадою мы паілі хворых, у ёй купалі дзяцей, умываліся самі. Мы лічым, што каб карова прыбавіла малака, трэба напаіць яе вадою з трох калодзежаў. А вясельны каравай ужо замешвалі на вадзе з сямі калодзежаў.

Мы і цяпер верым: у кожным калодзежы жыве дух — ахоўнік чалавека — вадзянік.

Даўней калодзежы называліся у нас студнямі. Бо ў іх нашы продкі студзілі малако, каб яно не ўкісла. Студзілі ўсе свае напіткі — хмельныя, і не хмельныя: дастанеш, прыгубіш — аж зубы заходзяцца...

І звычайныя балоты — наша вада. Тры воднабалотныя ўгоддзі Беларусі, што складаюць адзін працэнт тэрыторыі краіны, першымі былі ўключаны ў сусветны спіс найбольш каштоўных. Гэта заказнікі «Спораўскі», «Сярэдняя Прыпяць» і «Альманскія балоты». Крыху пазней у той жа спіс далучылі і заказнікі «Ельня», «Асвейскі», «Котра», «Дзікае» і «Званец».

Кажуць, што лёгкія Еўропы схаваныя на дне нашых палескіх балот. Бо адзін гектар балота забірае з атмасферы вуглякіслага газу ў 10 разоў больш, чым адзін гектар лесу ці лугу. Беларускія балоты ўзбагачаюць паветра Зямлі кіслародам.

1 мільён 200 тысяч гектараў у нас ужо асушана. Але ж у беларускім Палессі яшчэ засталося 1 мільён 706 тысяч

гектараў неасвоеных балот. Яны жывуць, працуюць, ачышчаюць паветра.

І пакуль нашы балоты ёсць — Еўропа можа спакойна дыхаць.

І людзі, і жабы, і птушкі могуць жыць спакойна.

Бо нашы буйнейшыя ў Еўропе балоты, што захаваліся ў натуральным стане, з'яўляюцца важнейшым месцам узнаўлення 16 відаў птушак, якія амаль зніклі ў Еўропе, — у іх жыве 50 працэнтаў сусветнай папуляцыі вяртлявай чарацянкі і больш за 10 працэнтаў еўрапейскай папуляцыі вялікага падорліка, якія ў іншых краінах занесены ў Чырвоныя кнігі.

Мы далучыліся да Рамсарскай канвенцыі, якая ставіць сабе за мэту захаванне ў планетарным маштабе водна-балотных угоддзяў і выжыванне ў іх рэдкіх птушак і раслін.

Але ж вада — яшчэ і наша энергія. Гэта нашы млыны, гэта нашы электрастанцыі

Уся наша вада — жывая вада.

Аднак ёсць у нас і святая вада. Святыя крыніцы. Яны нашы лекары і супакаяльнікі. Напіўся святой вады — і ўжо нічога не баліць. Напіўся са святой крыніцы — і ты ўжо здаровы.

Беларусы заўсёды паважалі ўсе свае крыніцы, а святыя — як найболей. Яны называліся ў нас яшчэ прошчамі, людзі маліліся ім, прасілі здароўя. Купалі ў іх хворых дзяцей, і тыя выздараўлівалі.

Жывую ваду нараджалі толькі крыніцы!

Паблізу крыніц людзі ўзводзілі храмы — каля такой крыніцы, якая жыве і цяпер, пабудавана, да прыкладу, і Полацкая Сафійка, сусветна вядомы шэдэўр нашага дойлідства.

А Блакітная крыніца каля вёскі Клінцы, што на Слаўгарадчыне, у якой дзень і ноч бурліць блакітнавата-смарагдавая вада!

А Святая крыніца ля падножжа Святаянскай гары паблізу вёскі Смаляры, што на Барысаўшчыне, дзе з даўніх часоў святкуюць Купалле!

А крынічка, з якой выцякае рака Вілія, дзе стаіць язычніцкі Сцёб-камень, дзе было свяцілішча хутчэй за ўсё ў гонар багіні ўрадлівасці Берагіні!

Дарэчы, нярэдка нашы крынічкі якраз і з'яўляюцца пачаткам нашых рэк і рэчак.

Да крыніц мы хадзілі і ў святы, і ў будні. Іхняя «жывая» вада змывала нашы хваробы, нагаворы, спалох, урокі, нечаканы смутак. Да жывой вады мы спяшаліся прыйсці да ўсходу сонца — пакуль над ёю не праляцела ніводная птушка: нечапаная вада, верылі мы, валодае самаю гаючаю сілаю.

Ля святых калодзежаў мы варажылі, ля святых крыніц прасілі сваім нівам дажджу. У крыніцах не мылі бялізну, не кідалі ў іх смецце.

Мы спрадвек пакланяліся вадзе — рэкам, азёрам, крыніцам, студням. Пакланяліся як Багам. Чаго не разумелі і чаму здзіўляліся нашы госці: «славяне вероваша кладзезем и рекам».

А мы ўсё роўна верылі крыніцам — у беларусаў здаўна быў культ вады. Вадзе мы прыносілі ахвярапрынашэнні: балоту пасля ўдалага заканчэння палявых работ аддавалі сваё рала, рацэ — каменную сякеру, крыніцы — сваю ежу.

І крый Бог, каб хто плюнуў калі ў крыніцу — гэта ж усё роўна, што плюнуць у вочы маці! Нашы крыніцы былі нашымі прошчамі. Ведаючы, што іхняя вада мае надзвычайную сілу, мы прасілі ў іх даравання і здароўя. І ў Сіняй крыніцы каля Слаўгарада, і нават у возера Свіцязь, якое таксама было нашай прошчаю.

Свае студні і крыніцы мы называлі з павагаю і надзеяй: Божы калодзеж, Князь-калодзеж, крыніцы Здаравец, Берагіня, Святая...

А студня ў Тураве, выкапаная самім міфічным князем Турам, верылі мы, мае тры дны — залатое, сярэбранае і меднае. Калі прарвецца меднае, вада затопіць Тураў, сярэбранае — Тураўшчыну, залатое — усю зямлю...

І раса — таксама наша вада. Калі яна буйная, стросшы кропельку з лістка ці з усяе сцяблінкі ў далонь, яе

нават можна напіцца... Здаецца, і з расы часам пачынаюцца нашы рэкі і азёры.

А яшчэ нашы рэкі і азёры — гэта радасць для душы. Гэта прыгажосць, якая цешыць і супакойвае сэрца. Гэта — наш адпачынак.

Схіліліся да самай вады вербалозы — пляскаюць па хвалях лісцем.

Купаюцца ў вадзе воблакі — ціха, без пырскаў купаюцца.

Дык якія ж у нас рэкі, якія азёры самыя прыгожыя? Самыя прыгожыя, кажаце? Ніякія! Няма ў нас такіх! Бо ўсе нашы рэкі і ўсе нашы азёры — самыя прыгожыя!

Калі не верыце — наведайцеся на самую маленькую, самую непрыкметную рачулку, якая, можа, і назвы не мае, — і вы пераканаецеся ў гэтым: якраз яна — самая прыгожая!

Ці пабывайце ў нашых непаўторных мясцінах — на возеры Свіцязь, у Нацыянальным парку «Браслаўскія азёры».

І тады самі скажаце, што нічога больш гаючага для душы і цела, здаецца, нідзе ў свеце няма...

Вада — адна з чатырох асноўных стыхій, што ўтвараюць сусвет: паветра судакранаецца з ёю, агонь баіцца яе, а зямля ўвогуле абапіраецца на ваду.

Неба, дождж праз ваду апладняе нашу маці-зямлю.

Усе мы павінны шанаваць сваю ваду.

А каб засведчыць любоў і павагу да яе, у нас ёсць Свята вады — 22 сакавіка ўсе людзі Зямлі святкуюць Міжнародны дзень водных запасаў.

А гэта ж і наша свята.



## НАШЫ ГРОШЫ

Спачатку ў беларусаў, як і ва ўсіх народаў свету, грошай не было. Іх ролю выконвалі тавары. Збожжа было грашыма, футра было грашыма, соль была грашыма.

Саляныя грошы прыдумалі не мы — самыя першыя грошы з солі былі выпушчаны яшчэ ў Старажытным Рыме. Ад солі ўзнікла і назва італьянскай манеты «сольда». Ды і ў Кітаі, і ў Эфіопіі былі грошы з солі... Але ж яны і нашы, тыя сольнікі. Бо соль і для нас калісьці была на вагу золата.

І вавёрка была нашымі грашыма. Старажытная плацёжная адзінка так і называлася — вавярыца. Звычайная вавёрчына шкурка. Адна вавярыца, тры вавярыцы, пяць вавярыц...

А васемнаццаць вавярыц трэба ўжо было заплаціць за адну куну — за футра куніцы, знятае «панчохаю» са звяр-ка. Зборная куна, звязаная дротам і замацаваная пячаткаю князя, была ўжо дарагою манетаю.

Ад доўгага выкарыстання нашы футравыя грошы зашмальцоўваліся, з іх злазіла поўсць, яны старэлі, рабіліся непрыгожымі, аднак усё роўна аставаліся грашыма, мелі тую ж самую вартасць. Галоўнае, каб шкуркі куніц, вавёрак, гарнастаяў, собаляў былі поўнымі — з вусамі, кіпцюрамі, носам і хвастом. Мае ўсё гэта шкурка — яна сапраўдная.

Нашы падношаныя грошы даводзілі да ладу сваеасаблівыя «чаканшчыкі манет» — спецыяльныя рамеснікі, рэстаўратары. Яны прычэсвалі грошы, вызвалялі іх ад поўсці, якая вылазіла, пакідаючы пушыстымі толькі хвасты.

Вось як пра славянскія грошы пісаў наш госць з Усходу Наджыб Хамадані:

«У славян хадавая манета — шкуркі вавёркі і собаля без поўсці, але з хвастом, пярэднімі і заднімі лапамі, кіпцюрамі і галавой. Гэтыя грошы адтуль вывозіць нельга — іх аддаюць за тавары».

Іншаземныя падарожнікі дзівіліся з нашых грошай: лысыя, непрыгожыя шкуркі, а за іх можна купіць што толькі хочаш — сапраўднае футра, сапраўднае золата і нават сапраўдных людзей-нявольнікаў!

А былі яшчэ ў нас грошы-жывёла. Універсальны плацёжны сродак: конь — грошы, карова — грошы, авечкі —

грошы. Тады слова жывёла абазначала не толькі саму па сабе жывёлу, а яшчэ і маёмасць, багацце, грошы. А слова «статак» значыла яшчэ болей — яно абагульняла і падатак, і здабытак, і заможнасць, і дастатак — чым болей да статку дабаўлялася жывёлы, тым больш багацейшым рабіўся чалавек, тым большы меў ён дастатак.

Для ўнутранага рынку такіх грошай хапала, аднак, калі абмен пашырыўся, гандаль выйшаў за мясцовыя рамкі, калі тавары давялося прадаваць за межамі, спатрэбіліся і новыя грошы.

І яны з'явіліся. Металічныя манеты з серабра, медзі, нікелю, іншых металаў.

Якія ж яны былі, нашы першыя металічныя грошы? А такія, як, да прыкладу, і ў Старажытным Рыме. Рымскі сярэбраны дынарый з адбіткамі абліччаў імператараў, які чаканіўся з 269 года да новай эры па першую палову III стагоддзя нашай эры, быў добра вядомы нашым продкам. Самы буйны манетны скарб на тэрыторыі Беларусі, што знойдзены ў Клімавічах у 1804 годзе, складаўся з 1815 сестэрцыяў і дынарыяў першых рымскіх імператараў. Схаваны ён быў напэўна ў II стагоддзі Знаходка перададзена ў Эрмітаж, пасля чаго сляды яе зусім зніклі. А ў нумізматычнай калекцыі Клімавіцкага краязнаўчага музея захоўваюцца манеты толькі XVIII — XX стагоддзяў.

У Гараўлянскіх манетна-рэчавых скарбах, якія схаваны ў XI стагоддзі і знойдзены толькі ў 1965 годзе на Глыбоччыне, захавалася каля паўтысячы куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата, зробленых на манетных дварах Бухары, Самарканда, Шыраза і іншых гарадоў.

Гэта таксама нашы грошы. Бо іх нехта атрымаў, прадаўшы ў далёкія краіны свае тавары, ці бярог, збіраў, каб купіць там нешта іхняе.

Калі ж прыток арабскіх сярэбраных манет прыпыніўся, на нашай зямлі распаўсюдзіліся заходнееўрапейскія дынарыі з Германіі і Чэхіі. Грошы, чаканнае серабро ўвозіліся таксама з Даніі, Венгрыі, Галандыі.

Полацкае княства гандлявала тады з Прыбалтыкай, і як доказ гэтых гандлёвых стасункаў — знойдзеныя ў По-

лацкай зямлі 7 скарбаў і 5 асобных знаходак заходнееўрапейскіх манет, што былі закапаны ў XIII стагоддзі.

У Вялікім княстве Літоўскім у XIV — XV стагоддзях «хадзілі» грош пражскі, дынарый княства, паўгрош Польшчы, шылінг Лівонскага ордэна, залатыя манеты заходнееўрапейскіх краін — фларэны, дукаты, ноблі. У самім княстве выпускаліся сярэбраныя абол, дынарый, двайны і трайны дынарыі, солід, паўгрош, грош, 2 грошы, 3 грошы, шастак, паўталер, талер, дукат, партугал.

Радзіма нашага талера — чэшскі горад Іаахімсталь. Спачатку вялікія манеты да 30 грамаў срэбра, адчаканеныя там, называліся «іаахімсталярамі». Потым Расія ўзяла для вызначэння гэтых грошай першую частку слова, называючы іх «яфімкамі», а мы, як і шмат хто ў свеце, — другую: таляры, талеры, даляры. Ага, і даляры атрымалі сваю назву таксама ад таляра.

Манеты розных еўрапейскіх краін былі ў шырокім абарачэнні на тэрыторыі княства, а пражскі грош дзякуючы высокай якасці хутка разышоўся па ўсёй Еўропе і нават стаў асновай грашовай гаспадаркі ВКЛ. За грош можна было купіць курыцу, за два — гуся, за пяць — воз сена.

Свае манеты Вялікае княства Літоўскае чаканіла ў Вільне і ў Коўне, а на тэрыторыі Каралеўства Польскага — ва Уяздаве, Аліве і Мальбарку, дзе знаходзіліся манетныя двары княства.

На тэрыторыі Беларусі медныя соліды выпускаў Брэсцкі манетны двор, траякі і шастакі — Гродзенскі.

Падробка манет каралася ў нас вельмі строга. Фальшываманетчыкаў у Вялікам княстве Літоўскім спальвалі жывымі. Аднак, не зважаючы на гэта, Вялікі князь Вітаўт у сваёй Грамаце абвінавачвае жыхароў Брэста ў падробцы грошай, а магістр Лівонскага ордэна скардзіцца на масавую вытворчасць фальшывых лівонскіх шылінгаў у Полацку.

А ў Ноўгарадзе ганзейскіх фальшываманетчыкаў варылі ў катле на павольным агні.

Калі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь была далучана да Расійскай імперыі, нашымі гра-

шыма сталі расійскія манеты. На нашых новых манетах былі ўжо выявы ўсіх расійскіх цароў і імператараў: і Пятра I, і Кацярыны II, і Лізаветы Пятроўны, і Аляксандра I, і Мікалая II і інш.

Падраблялі і расійскія грошы. Займаўся гэтым нават сам былы фаварыт Кацярыны II генерал-маёр Зорыч, які збываў фальшывыя 100-рублёвыя асігнацыі, што друкаваліся каля Бруселя, і потым перавозіліся ў Шклоў. Яму патрэбны былі грошы, каб летам сустракаць тую ж царыцу Кацярыну на санях — соль, якою замест снега ўсыпаў дарогу Зорыч, каштавала тады дорага...

Аднак яшчэ да 1850 года ў беларускіх губернях хадзілі і грошы Рэчы Паспалітай — «мяцежныя» манеты 1831 года (года паўстання) і двухмоўныя рублі-злотыя з надпісамі на рускай і польскай мовах.

Як мы лічылі свае грошы? А гэтак жа, як і цяпер. У Вялікім княстве Літоўскім рубель утрымліваў сто грошаў, грош дзесяць пенязяў. У Каралеўстве Польскім адзін злоты раўняўся 30 грошам, адзін грош 18 дынарыям ці 3 солідам. Паўталер меў курс у 30 грошаў польскіх і 24 грошы Вялікага княства, а за паўтарак давалі ўсяго паўтара гроша.

Але была на нашых землях яшчэ і копавая сістэма падліку зберажэнняў — мы лічылі грошы не на сотні, а на копы: кожная капа раўнялася 60 грошам. Мы тады не толькі грошы, а і агуркі таксама на копы лічылі...

У XVIII стагоддзі на нашай тэрыторыі з'явіліся першыя папяровыя грошы. Гэта былі расійскія асігнацыі ўзору 1769 года ва ўсходняй Беларусі, а ў заходняй — асігнацыі 1794 года — паўстанцкі ўрад Тадэвуша Касцюшкі даручыў аддзелу скарбаў Найвышэйшай нацыянальнай рады наладзіць выпуск сваіх грошай.

Заваёўнікі, якія прыходзілі да нас са зброяй, змушалі нас і да сваіх грошай: у Першую сусветную вайну на тэрыторыі Беларусі былі ў абарачэнні нямецкія жалезныя і папяровыя боны, грошы ў пфенігах і марках, а ў другую — немцы зноў жа прывезлі нам гітлераўскія боны, акупацыйныя маркі, карбованцы і рэйхмаркі.

Былі і незвычайныя грошы. У 1943 годзе немцы надрукавалі своеасаблівыя грашовыя знакі: на адным баку — савецкі чырвонец, а на другім — пропуск праз фронт. Маўляў, здавайцеся. Тады з нашага боку таксама выпусцілі свае грошы: на адным баку тая ж прапанова здавацца, аднак паланенне нямецкага салдата каштавала танней — усяго пяцьдзесят пфенігаў.

З 1943 года ў нас мелі хаджэнне грашовыя знакі імперскіх крэдытных кас, якія выпускаліся эмісійным банкам Остланд. А карбованцы, выпушчаныя на Украіне для Беларусі, у нас так і не з'явіліся — на машыну, што везла іх, напалі партызаны і ўся наяўнасць гэтых грошаў была захоплена і знішчана.

Пасля вайны і ў нас, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, былі агульныя савецкія грошы — рублі і капейкі — з надпісам на ўсіх дзяржаўных мовах пятнаццаці рэспублік, якія ўваходзілі ў СССР. За іх тады і беларусы любаваліся летам снягамі Паміра, высакагорнымі азёрамі Рыца і Севан, маглі даехаць да Ціхага акіяна. Мы тады верылі ў «хуткую перамогу камунізму» і ў тое, што грошы, як перажытак мінулага, неўзабаве знікнуць зусім.

А першыя самастойныя грошы мы выпусцілі толькі ў 1992 годзе. Гэта былі разліковыя білеты Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

Выпускаючы свае грошы, мы быццам бы вярталіся да таго, з чаго пачыналі, — да грошай-жывёлы. Бо на нашых грашах былі адны жывёлы: бабры, ваўкі, рысі, ласі, мядзведзі, зубры. «Давай зубра — бяры жыта», «Не, аднаго лася мала за сена».

На пяцідзесяцікапеечнай паперцы была намалявана вавёрка, і нашы грошы можна было, як калісьці, называць «вавярыцаю». А на рублі смела скакаў заяц, і таму нашы грошы пачалі ва ўсім свеце зваць «зайчыкамі».

Цяпер «зайчыкі» на Беларусі зніклі — іх з'ела інфляцыя. А дзякуючы ёй яшчэ нядаўна мы ўсе былі мільянерамі і мільярдэрамі — нават ляныя мелі мільённыя заробкі! Але статак не даваў дастатку.

Статку дзікіх жывёл цяпер на нашых грашах няма. Іх замяніла архітэктура: Брэсцкая крэпасць, Нацыянальны тэатр оперы і балета, Акадэмія навук, Нацыянальная бібліятэка, Мастацкі музей, Траецкае прадмесце, Мірскі замак, Рэзідэнцыя Радзівілаў у Нясвіжы. З нашых банкнотаў зніклі шматлікія нулі, і мы атрымліваем ужо не мільёны, а тысячы.

А ў падвалах Нацыянальнага банка, кажуць, да сення захоўваюцца грошы, надрукаваныя яшчэ ў пачатку перабудовы, — з партрэтамі выдатных людзей Беларусі, з яе нацыянальнай і гістарычнай сімволікай, аднак, як зноў жа кажуць, яны, так і не выйшаўшы на людзі, таксама ўжо састарэлі.

І ўсё ж беларускія нацыянальныя грошы ў золаце, срэбры і медна-нікелевых сплавах ужо існуюць. Праўда, іх пакуль чаканяць не ў Беларусі, а на лепшых манетных дварах іншых краін Еўропы — у Швейцарыі, Германіі, Расіі, Польшчы і інш.

25 ліпеня 1995 года суверэнная Беларусь прыняла праграму вырабу сваіх манет — забытага ўжо плацёжнага сродку, а 27 снежня 1996 года дзяржава мела сваю першую манету, адчаканеную ў Англіі на каралеўскім манетным двары «Раял Мінт».

Цяпер мы маем шмат манет па розных накірунках: «Гістарычныя помнікі», «Гарады Беларусі», «Знакамітыя землякі», «Беларусь алімпійская», «Флора і фауна Беларусі» і інш.

Карыстаюцца папулярнасцю нашы манеты, прысвечаныя 2000-годдзю хрысціянства на Беларусі, Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь, Мірскаму замку, пісьменнікам Адаму Міцкевічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, Міхасю Лынькову, нашаму земляку Ігнату Дамейку, чыім імем названы горны хрыбет у Андах, мінерал дамейкіт, універсітэт і нацыянальная бібліятэка ў Сант'яга.

Упрыгожаць любую калекцыю нумізматаў манеты, на якіх наша гісторыя і традыцыі: беларускае вяселле, заказнік «Чырвоны бор» на Полаччыне, князь Рагвалод са сваёй дачкой Рагнедай, заснавальніца еўрапейскай ды-

настыі Ягелонаў Соф'я Гальшанская. І вядома ж славутая залатая манета «Ліс» з устаўкамі з брыльянтаў.

А першаю нашаю манетаю была грашовая адзінка, прысвечаная 50-годдзю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, адным з заснавальнікаў якой была і наша дзяржава.

На міжнародным конкурсе «Манета года — 2005», у якім удзельнічала 37 дзяржаў свету, галоўны тытул атрымала наша манета «Нацыянальны парк «Нарачанскі». Лебедзь-шыпун», а «Беларускі балет» названы манетай года.



## НАША МІФАЛОГІЯ

Чалавек заўсёды ў нешта верыў. Прыдумляў, у што верыць, аднак верыў у сваім дзяцінстве, верыць сёння і, вядома ж, будзе верыць і заўтра, якім бы яно ні было.

Чалавек, пакінуты сам-насам з прыродаю, змагаючыся з ёю, нелітасціваю, як кажуць, голымі рукамі, не толькі верыў у багоў і нячысцікаў, але спрабаваў разабрацца, хто ж ён сам і што вакол яго адбываецца. Пра ўсё гэта ён разважаў, умеючы толькі думаць. Яшчэ не ўмеючы чытаць і пісаць. Ён проста ўглядаўся ў свет і імкнуўся разгледзець яго. Ён адухаўляў усё жывое і нежывое на зямлі. Чалавек прагнуў сябе зразумець і ўсвядоміць і сярод бачных раслін і жывёл, і ў нябачных абдымках Зямлі, у незразумелых прасторах сусвету, космасу. Пра тое-сёе ён здагадваўся, сёе-тое выдумляў сам.

Гэты роздум і нараджаў міфы.

Беларуская міфалогія, як і міфатворчасць іншых народаў, прайшла свой шлях: пры матрыярхаце нараджаліся міфы пра злых, страшных, шматгаловых пачвараў; патрыярхат увёў у міфы асілкаў, герояў-волатаў — колькі валатовак, іхніх, як лічаць, магіл параскідана па нашай зямлі! — а наша аселае жыццё стварыла культ продкаў.

Наша міфалогія з'яўляецца адной з самых старажытных ва ўсім індаеўрапейскім свеце. Яна вядзе нас у да-

лёкі і неспазнаны дахрысціянскі свет, уводзіць у жыццё нашых даўневечных продкаў, паказвае, чаго мы баяліся і чаму радаваліся.

Асноўнымі героямі міфаў былі ў нас багі. Ад нашай галоўнай Маці-Багіні, ад якой нарадзіліся ўсе і ўсё, да вялікага пантэона багоў, якім узводзіліся свяцілішчы і капішчы — да ўвядзення на нашай зямлі хрысціянства мы былі многабожцамі і пакланяліся камяням, дрэвам, рэкам, гаям і нашым шматлікім багам.

Таму ў нашых міфах спрадвек жылі Волаты, Дубы і Курганы, Дажбог і яго каханая Мая, Ярыла Сонцалікі і злы Чарнабог, Яшчар і Волас, Жыцень -спарыш і Цёця, рэкі і лясы, млыны і гумны, хаты і сады, чарадзеі і ваўкалакі.

Вышэйшымі нашымі міфалагічнымі асобамі з'яўляліся Пярун і Вялес. Яны — супрацьлегласці. Пярун — на небе, Вялес — на зямлі. Перуну ставілі капішча на гары, Вялесу ў нізіне. Пярун павінен быў выконваць ваенныя функцыі, бо ён — бог і абаронца вояў, а Вялес — гаспадарчыя: ён лічыўся апекуном жывёлагадоўлі.

Пярун — бог грому і маланкі. Па-свойму мы тлумачылі раней і гэты гром,. і гэтыя маланкі: Пярун трымае ў руках вялікія жорны і б'е камень аб камень, ад чаго ляцяць іскры — перуновы стрэлы, што цаляюць у нячыстую сілу. Аднак стрэлы часам і памыляюцца — трапляюць то ў людзей, то ў іхнія хаты і падпальваюць іх.

Вялес — яшчэ апякун мастацтва, багацця. Яны з Перуном — вечныя ворагі, увесь час за нешта вядуць між сабою змаганне. Хоць, здаецца, гэтыя багі — усяго толькі раздваенне нейкага аднаго, яшчэ больш старажытнага бога.

Спрадвек змагаюцца на нашай зямлі паміж сабою, адзін з адным Белабог і Чарнабог, Доля і Нядоля, Праўда і Крыўда.

Змагаецца чамусьці з Перуном і Жыжаль — бог агню, апякун рамёстваў. Ён — каваль, магутны дэман, куе ў падзямеллі зброю супраць Перуна. І калі доўга працуе,

пераграваецца зямля, тады гараць лясы, тарфянікі, наступае засуш.

Нашым продкам спрыялі, дапамагалі жыць і працаваць Ярыла, бог урадлівасці зямлі і плоднасці жывёлы, які ўвесну на белым кані аб'язджаў палі, адмыкаючы зямлю для сяўбы і неба для сонца; Лёля, багіня вясны, маладзенькая прыгажуня, якая скача па праталінах: дзе яна ступіць нагою, — зелянее трава, расцвітаюць кветкі; Цёця, багіня шчодрасці і дабраты, якая ходзіць па зямлі з боханам хлеба ў руках і багата адорвае кожнага сустрэчнага. А яшчэ ж былі Жыцень — бог жніва, Лада — багіня кахання і плоднасці, росквіту і жаночай прыгажосці, Цаца — багіня веснавога цвіцення, Зюзя — бог зімы, марозу і холаду, Жыва — багіня жыцця, Грамаўніца — жонка Перуна, Бялун — Перуноў бацька.

І яшчэ ў нашай міфалогіі заўсёды прысутнічалі ніжэйшыя істоты — духі, нячыстая сіла. У доме — дамавікі, у лесе — лесавікі, у рацэ — русалкі, вадзянікі, вірнікі, ціхоні, у лазні — лазнікі, у полі — палевікі, у пушчы — пушчавікі, у балоце — балотнікі, у хляве — хлеўнікі, у гумне — гуменнікі, у еўні — еўнікі.

Яны і шкодзілі, але ж і дапамагалі чалавеку. Беларус дружыў з імі, стараўся не злаваць іх, жыць з імі ў міры і дружбе. Яны былі поплеч з чалавекам, ён вітаўся з імі, гаварыў з імі, раіўся і меў за сваіх сямейнікаў. Беларусы пакідалі ім яду, шукалі ў іх дапамогі і нават не злаваліся, калі лазнічак часам у лазні, нібы жартуючы, дасць ляшча голай кабеціне па мяккім месцы — тая толькі ліне ў той бок вадою, ды і ўсё.

Вельмі паважалі мы Дамавіка і называлі яго яшчэ Хатнікам, Падпечнікам, Хоплікам, Гаспадаром. Менавіта Гаспадаром, бо ён даваў корм коням і каровам, лашчыў іх і дагледаў, сушыў наш хлеб у клеці, перасыпаючы зерне з далоні на далонь, ад чаго яно спарнела.

Умелі беларусы знаходзіць паразуменне і з духамі хвароб — з крыксамі, плаксамі, начніцамі, цётухнамі. З Трасеяй, Агнеяй, Хрыпунеяй, Лядзеяй.

Вось як расказвае вядомы этнограф Адам Багдановіч, бацька паэта Максіма Багдановіча, пра тое, якім, да прыкладу, бачыць і ўяўляе сабе беларус міфалагічнага змея:

«Змей, які носіць грошы. Пра кожнага больш-менш багатага селяніна ў Беларусі кажуць, што «яму змей грошы носіць»(...) Такія змеі, па расказах, выводзяцца штучна. Пра гэта існуе такое павер'е. Калі чорны певень пражыве сем гадоў, то пад канец сёмага года знясе асаблівага выгляду яйка, якое нібыта нагадвае па форме ракавіну звычайнага смаўжа. Гэта яйка трэба пеставаць, трымаць у цяпле, карміць яечняй (гэта яго выключная ежа) і нічым не раздражняць. Вырасшы, змей пачне лятаць, адшукваць скарбы і насіць грошы свайму гаспадару. Жыве змей у клетцы, нікому не паказваецца. Туды яму гаспадар ці гаспадыня штодня носяць свежую яечню. Але яе чамусьці нельга саліць: нічым так не прагнявіш змея, як пасаліўшы яму яечню. За гэта ён спальвае ўсё гаспадарова дабро і сам адлятае. Наогул ён, раззлаваўшыся, помсціць пажарам. Калі хто-небудзь убачыць, як ён нясе грошы і зняважыць непрыстойнасцю, то ён грошы рассыпле, а свайго гаспадара чамусьці спаліць.

З дабратою і пашанаю адносіліся беларусы да свайго Бога Зюзі. У запісу этнографа П. Драўлянскага аповед пра яго гучыць так:

«Зюзя, бог зімы. Паходзіць ад дзеяслова зюзець — мерзнуць, калець ад марозу. Вось якім уяўляюць Зюзю беларусы: ён, кажуць, стары, з белымі, як снег, валасамі на галаве і такой жа доўгай барадой, нізенькага росту, тоўсты; увесь у белай цёплай адзежы: ногі ў яго босыя і галава нічым не пакрытая. У руцэ носіць жалезную булаву. Зюзя, кажуць беларусы, большаю частку зімы праводзіць у лесе... Часам ён заходзіць у вёску па розных прычынах: ці каб папярэдзіць сялян пра жорсткую суровую зіму на будучы год, ці дапамагчы каму-небудзь — напрыклад, вызваліць ад холаду няшчасную бедную сям'ю, ці проста для таго, каб куцці наесціся... Каб неяк задобрыць Зюзю, беларусы напярэдадні Новага году гатуюць, як звычайна, куццю, адкладваюць частку яе ў

асобную талерку (ці лепш міску) і пакідаюць нанач на асобным стале: куцця застаецца цэлая, але агульнае павер'е гаворыць, што яе з'ядае Зюзя».

Пра Зюзю людзі гавораць з нейкай асаблівай павагай. Прымаўкі: «Зюзя ў хаце, а тут ужо ні снапа на палаце», «Зюзя на дварэ — куцця на стале».

Але ж былі яшчэ ў нас і злыя духі. Злыдні, якіх беларусы ненавідзелі і баяліся:

«Злыдні — малыя, гарбатыя, скурчаныя стварэнні, у вялізных ботах і шапках; час ад часу нападаюць яны на пэўную хату, і тады там ужо нічога не вядзецца. Звычайна жывуць пад печчу, робяць адтуль выправы па ўсёй гаспадарцы і розныя набыткі адбіраюць. Заглядаюць у гаршкі з ядою і ў лепшую кашу падсыпаюць пяску, у самае тлустае малако вады наліваюць, у дзежцы хлеб псуюць, у курэй яйкі крадуць... Ва ўсім шкодзяць і перашкаджаюць, так што хата, у якой яны пасяліліся, бяднее і галее. Часам яны ўзнікаюць без прычыны, іх можна таксама выклікаць. Калі, напрыклад, хтосьці ў часе яды працуе, можна з упэўненасцю сказаць, што злыдні нападуць на яго».

І самы галоўны злыдзень над імі — Кадук.

«Кадук, самы старэйшы злы дух... Жыве ў самым цёмным лесе, да таго ж у самым багністым балоце; на службе ў яго знаходзяцца ўсе злыя духі меншыя, падначаленыя яму; тут Кадук чыніць расправу над імі; адсюль ён пасылае іх да людзей чыніць розныя падкопы. Бяда, калі чалавеку выпадзе няшчасце трапіць у гэта балота: пагібель непазбежна; нейкі дурман нападае на чалавека, «ходзіш па ўсіх напрамках балота, а між тым, бач, стаіш на адным і тым жа месцы».

Гэтак піша пра галоўнага злыдня той жа П. Драўлянскі. А Аляксандр Сержпутоўскі дадае:

«Кадук — гэта такая страшэнная пачвара: ні чалавек, ні звер, але больш змахвае на звера з вялізарнай касматаю галавою і з шырокім горлам аж да самых вушэй. Як разявіць ён сваю халяву, у каторай блішчаць белыя зубы, ды чырванее, бы агонь, язык, дык от так здаецца, што ён гатоў пракаўтнуць цалкам з касцямі і патрахамі.

Часам людзі сярдзітыя кажуць: «Каб яго ўзяў Кадук» ці «Вазьмі яго Кадук», але Кадук рэдка бярэ, бо ён праяўляецца толькі ў ліхую часіну, а такая часіна бывае толькі адзін момант пры ўсходзе сонейка, у самы поўдзень, у самаю глухасць сярод ночы. Гэтая пачвара пахапала б усіх людзей, каб ёй было вольна аб'яўляцца заўжды, але Бог так даў, што яна сама не мае ўлады над чалавекам, а чакае, пакуль ён пазаве ў такі ліхі момант, у які што чалавек скажа, то ўсё станецца».

Для беларуса баба Яга-касцяная нага — «злая чараўніца, якая робіць уночы рознае паскудства» і пра якую ў запісах Івана Насовіча гаворыцца, што яна «ў ступе ездзіць, таўкачом паганяець, а памялом замятаець».

Баба Яга, ці, як мы звалі яе яшчэ — Юга, Югася — старэйшая сярод ведзьмаў. Яна вогненнай мятлою ганяе вятры і хмары.

І ўвогуле ведзьмы, якіх мы ўяўлялі неахайнымі жанчынамі з распушчанымі сівымі валасамі, заўсёды прыносілі, на нашу думку, адны няшчасці і чалавеку, і яго жывёле: яны адбіралі малако ў кароў, рабілі заломы ў жыце, псуючы ўраджай і выклікаючы цяжкія хваробы ў людзей, пасылалі засуху, пажар, мор, таямніча праходзілі праз зачыненыя дзверы, кралі ці падмянялі немаўлят, а то і ласаваліся крывёю нехрышчоных дзяцей.

«Што датычыцца вадзеніка, то гэта безумоўна шкодны дух. Галоўны яго занятак тапіць людзей. Але ён не супраць пасадзіць баржу на мель, абарваць вуды ў рыбака, які іх накідаў у яго вір, не супраць пацягнуць за ногі качку ў ваду... Ён нярэдка апоўдні выскоквае з вады да пояса і крычыць: "Рот ёсць, ды няма чаго есці!"». (Запіс Раманава.)

Вадзянік — гаспадар рэк, азёр, іншых вадаёмаў: дзе ёсць вада, там ёсць і свой вадзянік. Любіць віры, а таксама ціхія і глыбокія месцы, дзе жывуць донныя рыбы — самы ды шчупакі. Вадзянік — валадар над усімі рыбамі.

Ён — гарбаценькі чалавек з барадою, увесь у ціне. Стан вады ў нашых вадаёмах, верылі мы, залежыць ад настрою вадзеніка: ён злуецца — вада рабаціміцца, ён гарэзуе —

вада плёскаецца, ён спіць — вада ціхая-ціхая. А паводку мы ўвогуле лічылі вяселлем вадзеніка. Каб не турбаваць яго, мы ніколі не крычалі, не размаўлялі гучна каля вады.

«Ваўкалак — гэта чалавек, які ператвараецца ў ваўка. У воўчым выглядзе ён зжырае і людзей і скаціну. Такі воўкпярэварацень надзвычай крыважэрны і таму небяспечны. Ростам ён большы за звычайнага ваўка; асабліва вялікая ў яго галава; у яго чатыры вокі; два на ілбе, два на патыліцы, так што ён бачыць ва ўсе бакі». (Запіс Багдановіча.)

Мы нават ведаем, як зрабіцца ваўкалакам:

«Каб пераўвасобіцца ў воўка, трэба тройчы перавярнуцца цераз нож, уторкнуты ў зямлю, вымаўляючы пры гэтым асаблівае закляцце...».

Вось якімі ўяўлялі мы іншых сваіх міфалагічных істот у мінулым тысячагоддзі.

«Дамавік ад чарцей адстаў, а да людзей не прыстаў, ён жыве па старых законах; гэта ж пераймаюць у спадчыну і яго сыны». (Запіс Нікіфароўскага.)

«Дзявоя — багіня цнатлівасці. У беларусаў ёсць звычай пры выхадзе дзяўчыны замуж святкаваць апошні дзень яе дзявоцтва... Са стратай дзявочай залатой вольніцы кожная дзяўчына пазбаўляецца апякунства Дзявоі». (Запіс Драўлянскага).

«Лесавік такі ж вольны, як самыя высокія дрэвы; ён падобны на чалавека, але можа крычаць, як птушка, выць, як звер, і плакаць, як дзіця... У лесавікоў ёсць жонкі. Яны выглядаюць, як звычайныя жанчыны з распушчанымі валасамі, у якія ўплецены зялёныя галіны». (Запіс Ляцкага.)

«Ох — барадаты чалавек, жыве пад зямлёй, а хто, бядуючы, уздыхае: «Ох!», то ён выйдзе з-пад зямлі і папытае: «Чаго патрабуеш?» А як хто ўжо гэта ведае, да не спалохаецца, да і скажа яму, чаго хоча, то ён яму тое дасць». (Запіс Федароўскага).

«Чорт, каб толькі ўзяць душу, усё даць можа чалавеку: здароўе, доўгае жыццё, шчасце, заступніцтва, дастатак, талент — адным словам усё, чаго толькі чалавек жадаць і прагнуць можа». (Запіс Федароўскага.)

Во якія яны, нячысцікі! Аднак:

«Чорт бабы надта баіцца і кажуць, што з дарогі саступае». (Запіс Федароўскага.)

Талака — апякунка жніва і ўрадлівасці. Яна ў вялікай пашане ва ўсіх беларусаў і, здаецца, па ўсёй Беларусі вядома пад адным гэтым імем. Аказваецца Талака — гэта таксама багіня.

У сваіх міфах мы хацелі растлумачыць і нейкім чынам упарадчыць навакольны свет. Усвядоміць паходжанне з'яў і стыхій.

У нашай міфалогіі шмат міфаў пра дрэвы, кветкі, птушак, пра рэкі, азёры, узгоркі, камяні: травіца — брат і сястрыца, зязюльчыны слёзы, папараць-кветка, міфы пра бусла, ластаўку, зязюлю, пра рабіну, бярозу, вярбу, пра іх нягоды і трагедыі.

Элементы нашых даўніх міфалагічных уяўленняў зберагліся ў казках, баладах, замовах, валачобных, купальскіх, вясельных песнях. Зберагліся ў такіх нашых абрадах, як Пахаванне Масленкі, Пахаванне Стралы, Жаніцьба Коміна, Завіванне барады Вялесу, і ў іншых язычніцкіх дзеях.

У сваіх міфах мы думалі, здзіўляліся, разважалі. І таксама прыйшлі да адкрыцця, што сусветнае дрэва жыцця складаецца з трох частак: для карэння ёсць змеі, для ствала — пчолы, для галін — птушкі.

А чалавек? Ён усюды. Ён само гэтае дрэва. Бо і дрэва, і птушкі, і звяры, і пчолы, і змеі, і кветкі, і духі, і боствы ў нашых міфах думаюць і разважаюць менавіта так, як бы думаў і разважаў сам чалавек.



## НАШЫ КАМЯНІ

Як толькі не называюць у свеце нашу родную Беларусь! Яна і краіна лясоў і балот, яна і краіна старажытных замкаў і палацаў, яна і краіна бульбы, ільну-даўгунцу, васількоў.

Аднак Беларусь — гэта яшчэ і краіна валуноў.

Колькі іх, розных па форме і па памеры, параскідана па нашай зямлі! Ля рэчак і ў лясах, на сенажацях і хлебных палях, каля дарог і на вуліцах вёсак. Адны з іх — маленькія каменьчыкі ў 5 — 10 см, а другія — вялізныя валуны ў сотні тон. Як, да прыкладу, той камень-гігант, які здаўна жыве каля вёскі Горкі, што ў Шумілінскім раёне. Прывык і жыве, і нікуды не збіраецца сыходзіць. Вялікі камень — так завуць яго мясцовыя жыхары — і сапраўды вялікі: даўжыня яго 11 м, шырыня — 5,6 м, узвышаецца ён над зямлёю на 3 м, а пад зямлёю — яшчэ дзве трэці схавана. Таму і не дзіўна, што важыць валун аж 1,5 тысячы тон.

Спрадвеку беларус жыў побач з валунамі, дружыў з імі, любаваўся імі, знаходзіў агульную мову. І ніколі не задумваўся, што яны не тутэйшыя, не мясцовыя.

Нашы валуны — іншаземцы. Апошні ледавік адарваў іх ад Скандынаўскіх гор і, разлучыўшы з радзімаю, прымусам прывалок на нашу зямлю. І наша радзіма стала вечнаю радзімаю для іх. Бо ніякая сіла не зможа ўжо цяпер нашы валуны вярнуць дадому, на іх Поўнач.

Скандынаўскія вандроўнікі спрадвеку звыклыя нашаму беларускаму воку — беларусы нараджаліся пры іх ужо. Без іх і сёння мы нават не ўяўляем сваіх краявідаў.

Каменне, праўда, часам замінае нам і цяпер. Са сваіх палёў мы збіраем яго і зносім у крушні наўзбоч ніў, каля сенажацяў, на ўзмежках сядзіб. Каб не зламаць аб каменне плуг ці хедар камбайна. Прыбіраем і з лугоў — каб не замінала касе ці сенакасілцы. Так што крушні — зноў жа адметнасць нашага пейзажу.

А колькі замкаў і палацаў, дыхтоўных і прыгожых, пабудавалі мы з гэтых камянёў! Колькі царкоўных храмаў! Колькі валуноў паклалі за стагоддзі беларусы ў падмуркі сваіх хат! Колькі камянёў стала нашымі жорнамі, каб малоць зерне на муку, колькі іх стала ядрамі, каб абараняцца ад ворагаў, колькі нашых гасцінцаў і дарог забрукавана імі!

А ў каменным веку, у самы старажытны перыяд развіцця чалавецтва, мы ўсе свае прылады працы і зброю рабілі з каменю. Пра гэта сведчаць раскопкі гарадзішчаў каля вёсак Абідавічы на Быхаўшчыне, Свяцілавічы на Веткаўшчыне, Бердыж на Чачэршчыне, Юравічы ў Калінкавіцкім раёне.

А на беразе ракі Бобрык, каля вёскі Камень на Піншчыне, дзе даследавалася група неалітычных паселішчаў нёманскай культуры, знойдзены каменныя сякеры і цёслы, наканечнікі стрэл, скрабкі, скоблі, праколкі, нажы і іншыя рэчы, якія зроблены яшчэ ў пятым тысячагоддзі да нашай эры.

Тады ж, у неаліце і бронзавым веку, мы, першабытныя людзі, здабывалі крэмень — мала нам было камянёў, што ляжалі паўсюль на зямлі, дык мы яшчэ закопваліся ў зямлю, шукаючы ў камянях сілы і моцы.

Нам патрэбны былі трывалыя прылады працы, і матэрыял для іх мы высякалі ў сваіх крэмнездабыўчых шахтах, падобных на тыя, што былі выяўлены ў сярэднім цячэнні ракі Рось, — каля пасёлка Краснасельскі і вёскі Карпаўцы Ваўкавыскага раёна.

Потым мы пачалі ўважлівей прыглядацца да камянёў, і тады ўбачылі, што яны жывыя: яны ходзяць, яны гавораць, яны дыхаюць, яны растуць. І нават пацеюць. І, здараецца, спяваюць — ад розніцы начных і дзённых тэмператур.

А яшчэ раней, у сваёй язычніцкай маладосці, мы нават пакланяліся камяням. Называлі іх імёнамі сваіх багоў — Перуном, Дажбогам, Вялесам. Высякалі з іх, камянёў, ідалаў і прыносілі потым да іх свае ахвяраванні. У Перуна нават сякера была каменная. А калі нас пахрысцілі, мы нізрынулі сваіх каменных багоў і закапалі іх ў зямлю, паскідалі іх у рэчкі. Як таго шклоўскага двухсотпяцідзесяцікілаграмовага ідала з X стагоддзя, якога толькі праз дзесяць вякоў досталі з рэчкі Серабранка каля Шклова нашчадкі. Ці то, збаяўшыся, утапілі яго нашы продкі-язычнікі, ці то схавалі так глыбока, спадзеючыся, што пройдзе час і іх даўнія багі некалі ўсё ж жывымі вернуцца зноў.

На Беларусі знойдзена каля 30 такіх каменных скульптурных выяў — ідалаў, куміраў, балванаў, ёлупаў, каменных «баб», багоў. Іх знаходзілі ў Слоніме, каля Ваўкавыска, Лепеля, Рэчыцы, на Аршаншчыне, Сенненшчыне, Браслаўшчыне, дзе на адным з астравоў Богінскага возера яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя стаяў каменны ідал «Стод». Каля вёскі Ульянавічы на Сенненшчыне і ля вёскі Слабада ў Чэрвеньскім раёне выяўлены трох- і чатырохаблічныя ідалы ў выглядзе слупоў. Усе яны пазначаюцца другой паловаю першага тысячагоддзя новай эры.

Беларусы, нават і пахрышчаныя, усё роўна прасілі дапамогі ў сваіх валуноў. Высякалі на камянях крыжы і прасілі. Прасіў дапамогі ў валуноў і Друцкі князь Рагвалод, унук Усяслава Чарадзея, які пасля хрышчэння стаў Васілём, — ён, перажыўшы неўраджайны год, галодную зіму, загадаў у 1171 годзе высячы на трохметровым камяні, што ляжаў каля вёскі Дзятлава на цяперашняй Аршаншчыне, сваю просьбу: «В лето 6679 месяца мая в 7 день доснен крест сей. Господи помози рабу своему Василию в крещении именем Рогвалоду сыну Борисову». Так хрысціянін Рагвалод прасіў у язычаскага валуна ўраджаю.

А камяні самога Барыса Усяслававіча! Барысавы камяні! Іх шмат — Барыс, Барыс-Хлебнік, Пісанік, Барыс-Глеб... І ўсе просяць: «Господи помози рабу своему Борису». Барысу — Полацкаму князю Барысу Усяслававічу, Рагвалодаву бацьку.

Пяць Барысавых камянёў знойдзены ў рэчышчы Дзвіны на Полаччыне, два ў Міёрскім раёне, адзін на Браслаўшчыне — у рацэ Друйцы каля г. п. Друі. Ляжалі Барысавы камяні і на сушы: камень Кравец, ці па-іншаму Сцяпан, знаходзіўся каля вёскі Высокі Гарадзец Талачынскага раёна і ўяўляў сабою амаль квадратную пліту. Кажуць, ён нават шыў бедным кажухі — сёння папросіш, а назаўтра прыйдзеш і забярэш: пашыў Сцяпан!

У Лепельскім раёне даўней ляжаў незвычайны камень — шырокі, як стол, з шасцю паглыбленнямі на ім. Гэтыя паглыбленні звалі талеркамі Вітаўта. Кажуць, што

за ім падчас штурму замка Варанеч у 1426 годзе абедаў Вялікі князь ВКЛ Вітаўт. Непадалёку ляжалі Вітаўтавы відэльцы. Таксама каменныя.

А яшчэ ж на Беларусі шмат камянёў-следавікоў. Валуноў з адбіткамі рукі ці нагі чалавека, з быццам бы слядамі аленя, зайца, мядзведзя ці ката. Проста дзіцячы слядок, проста капыток жывёліны, проста ямачка. У гэтых ямачках збіралася вада, якая лічылася гаючаю, лекаваю. Мы лячыліся тою вадою!

На Беларусі вядома больш за 70 валуноў-следавікоў. Найбольш іх знойдзена на поўначы і ў цэнтры нашай краіны.

І, нарэшце, можаце здзівіцца — у Мінску ёсць музей камянёў! Унікальны музей, якога, здаецца, няма ні ў адной краіне былога Савецкага Саюза, а ў Еўропе іх усяго два. Разам з нашым.

Ды і ў свеце такіх музеяў таксама няшмат.

На былым балоце на ўскраіне сталіцы ва Уручча на шасці з паловай гектарах плошчы пад адкрытым небам сабраны з усіх рэгіёнаў Беларусі і прывезены ў Мінск аж 2134 ледавіковыя валуны. Самаму старэйшаму з іх — 2 мільярды гадоў.

Сама ідэя стварэння такога музея і яе ажыццяўленне належыць выдатнаму беларускаму вучонаму, доктару геолага-мінералагічных навук, акадэміку Гаўрылу Гарэцкаму. Ён, убачыўшы, што унікальных, гістарычных камянёў на нашай зямлі становіцца ўсё меней, — меліяратары мелі нават інструкцыі па іх знішчэнні — прыклаў шмат намаганняў, каб захаваць тое, што пакуль засталося.

Музей-парк прыняў першых наведвальнікаў у 1985 годзе. Ён быў спланаваны на мясцовасці як карта Беларусі: насыпныя пагоркі — нашы грады і ўзвышшы, пешаходныя дарожкі — нашы рэкі, штучныя вадаёмы — нашы азёры. І кожны камень ляжыць на тым месцы спланаванай на зямлі карты, адкуль яго сюды прывезлі.

Шмат унікальных валуноў сабрана ў музеі-парку.

Тут і тыя 8 валуноў — вялікіх камянёў, якія з пэўнымі прамежкамі ляжалі на вуліцы ў вёсцы Стайкі, што на

Лагойшчыне; тут і валун, прывезены з Кушлян Смаргонскага раёна з надпісам «Памяці Мацея Бурачка», зробленым у 1900 годзе — годзе смерці нашага паэта-класіка Францішка Багушэвіча, які меў такі псеўданім; і вядомы валун «Дзед» са старажытнага мінскага капішча на беразе Свіслачы, якое са сваёй язычаскай даўніны дажыло да XX стагоддзя.

Але ж шмат якіх помнікаў нашай прыроды няма і ў гэтым, такім багатым, музеі.

Невядома дзе знік Рагвалодаў камень, што ляжаў каля вёскі Дзятлава Аршанскага раёна.

У канцы 1930-х гадоў узарваны два друйскіх валуны — тады так змагаліся з рэлігіяй, што не шкадавалі не толькі праваслаўных храмаў, але і язычніцкіх фетышаў.

У 1936 годзе ўзарвалі і талачынскага «Краўца», ці «Сцяпана», а друзкі-асколкі ад яго пайшлі на будаўніцтва аўтамагістралі Мінск — Масква. Кажуць, што там жа апынуўся і Рагвалодаў камень — пад асфальтам.

Няма ў музеі і шумілінскага «Вялікага камня». Паўтары тысячы тон... Як падымеш яго і на чым прывязеш?

«Вялікі камень» застаўся на месцы. Як помнік прыроды Беларусі. Спадзяемся, застаўся пад абаронай дзяржавы.

Такіх валуноў, якія ахоўвае дзяржава, у нас каля 200. У Эстоніі — 100. У Германіі — 800. Гэта для параўнання.

А беларусы ж верылі, што нашы камяні — нашы заступнікі, ахоўнікі нашых абшараў. Перад імі падалі ніц, ім маліліся, іх абагаўлялі. Камяням прыносілі ахвяраванні, ставілі «аднос» — кармілі іх, як жывых, просячы злітавацца.

У нашы камяні часам усяляліся нячысцікі. А часам і Бог, калі людзі не слухаліся яго, ператвараў іх у валуны.

Таксама ў вялікія валуны мільёны гадоў назад ператваралі чараўнікі нашых Асілкаў, Волатаў — за непакорнасць і сілу.

Продкі, бачачы, як уночы над імі з'яўляўся раптам цэлы лівень яркіх хвастатых знічак-метэарытаў, верылі, што гэта неба пасылае на зямлю вогненных змеяў, якія

на доле ператвараюцца ў камяні. Яны не ведалі, што каб запаліць такую яркую знічку ў небе, хапала нейкага грама цвёрдага цела.

Значыць, і знічкі — нашы камяні.

Такія метэарыты часцей за ўсё згаралі ў зямной атмасферы. А калі не згаралі, калі падалі на зямлю, яны рабіліся прадметам яшчэ большага пакланення: людзі збіраліся ля іх, верылі ў іх магічную сілу.

Такія камяні — нашы прышэльцы, іншапланецяне. Нашы нябесныя камяні. Метэарыты.

За адны суткі на Зямлю выпадаюць мільярды метэорных целаў і касмічных пылінак агульнай вагой каля 100 тон. Але бываюць і гіганты. Толькі адзін самы буйнейшы на Зямлі метэарыт Гоба, што ўпаў у Афрыцы, важыў 60 тон.

На Беларусі зафіксавана падзенне пяці метэарытаў, усіх трох класаў: жалезны («Грэск»), жалеза-каменны («Брагін»), каменныя тыпу хандрыту («Чорны Бор», «Забродддзе») і ахандрыт («Жмень»).

Самы вядомы — метэарыт «Брагін». Ён важыў 800 кілаграмаў. Гэта вага знойдзеных кавалкаў. Метэарыт упаў невядома калі, аднак першыя яго асколкі знаходзілі ў 1807 годзе, а апошнія — дык зусім нядаўна, у 1968 годзе. Усяго знойдзена 10 фрагментаў гэтага метэарыта.

Метэарыты розныя па памерах. Да прыкладу, той асколак «Брагіна», што знойдзены каля вёскі Крупкі на Брагіншчыне ў 1952 годзе, меў вагу 73 кілаграмы, а той балід, што з рэзкім свістам упаў у 1858 годзе каля сяла Жмень на Століншчыне — усяго 246 грамаў. Такі маленькі, а так свяціўся і так свістаў!

На Міншчыне знойдзены аж два метэарыты — у вёсцы Забродддзе Івянецкага раёна і каля Грэска на Случчыне. Хандрыт «Чорны Бор» упаў непадалёк ад вёскі Чорны Бор на Быхаўшчыне. Абломак яго захоўваецца ў Магілёўскім краязнаўчым музеі.

Рознымі былі для нас камяні. Рознымі былі ў нас, беларусаў, з імі адносіны.

Мы казалі: «Хоць камень на шыю». Гэта значыла, што нам было на той час вельмі цяжка — хоць ідзі тапіцца. Часам мы і праўда вешалі той камень на сябе і ішлі да вады.

Мы казалі: «У яго каменнае сэрца». І ведалі: гэты чалавек вельмі нядобры — нікому ён не дапаможа, не паспагадае.

Мы часам віталіся за руку толькі для таго, каб праверыць, ці не хавае той, з кім рукаемся, у сваёй далоні камень.

Мы гаварылі: «Як камень з душы». І ўсе разумелі — нам, нарэшце, стала лёгка-лёгка...

Мы верылі, што камяні валодаюць лекавымі ўласцівасцямі. Асабліва каштоўныя. Рубін паляпшае сон, падымае тонус. Гранат карысны пры бранхітах — асабліва калі яго носіш на шыі ў залатой аправе. Смарагд пазбаўляе жанчын ад прыступаў істэрыі. Горны крышталь дапамагае думаць. Бурштын аднаўляе сілы пасля хвароб.

Увогуле ўсе гэтыя каштоўныя камяні, апрача бурштыну — не нашы. Аднак яны памагалі і нам — асабліва, калі знойдзеш свой камень і паверыш у яго лекавую сілу.

Розныя ролі выконваў у нас камень. Але часцей за ўсё ён быў нам сябрам і памочнікам. Спрыяў нам і аберагаў нас.



## ШТО МЫ ЯДЗІМ

Што такое ежа? Гэта сіла, неабходная для выканання любой працы. Гэта матэрыял для аднаўлення клетак і тканак, якія разбураюцца падчас сваёй жыццядзейнасці. Гэта энергія для падтрымкі цяпла ў арганізме. Гэта арганічныя і мінеральныя рэчывы: бялкі, вугляводы, вітаміны, тлушчы, мінеральныя солі.

Вы думаеце мы ядзім капусту, моркву, памідоры, агуркі, мяса, хлеб?

Не! Мы ядзім мінеральныя рэчывы.

Бялкі — галоўны матэрыял для будаўніцтва чалавека.

Тлушчы і вугляводы — асноўнае энергетычнае паліва.

Кажуць жа: чалавек — ёсць тое, што ён есць.

Сакрат яшчэ да нашай эры сказаў, што трэба «есці, каб жыць, а не жыць, каб есці».

А Гіпакрат тлумачыў: ежа чалавека павінна быць лякарствам, а лякарства — ежаю.

Ежа — наша здароўе. Амаль заўсёды здароўе. Але часам яна бывае і нашаю хваробаю. Тады, калі мы ядзім завельмі многа, ці завельмі мала, альбо ўвогуле ядзім зусім не тое, што трэба.

Аднак гэтай бядзе можна даць рады: ёсць лячэбнае харчаванне! І да таго ж, што аднаму карысна, іншаму, бывае, шкодзіць.

Скажам, здзяўбе верабей некалькі зернетак кмену і памірае, бо кмен для яго — атрута. А нашы каўбасы ды іншыя прысмакі не абыходзяцца без гэтай духмянай прыправы, без гэтай смакаты.

Беларусы — спрадвечныя земляробы. Раслінная ежа для нас — асноўная здавён. Таму елі мы ўсё, што расце на нашай зямлі. Сушылі і квасілі. Потым — салілі і вэндзілі.

А чаго мы не елі? Жаб, змей, малюскаў, саранчы, чарвякоў, мяса сабак ніколі не елі. Грэбавалі чамусьці імі. А гэта ж такія далікатэсы! У іншых краінах.

Не елі слімакоў. Але збіралі іх і пасылалі, да прыкладу, у Францыю. Там гэта прысмакі, і яны вельмі дорага каштуюць.

Бываюць гады, калі да стала французскіх гурманаў Беларусь пастаўляе да 250 тон вінаграднага смаўжа, які збіраецца ў 28 раёнах Брэсцкай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей.

Мы елі тура, зубра, высакароднага аленя.

У нас свая кухня, і шмат што з таго, што ядуць у іншых краінах, мы доўгі час не прымалі.

Не елі дзьмухаўцы, бо яны для нас — пустазелле. А ў Японіі гэтае пустазелле разводзяць на градках, на агародах. І дзядоўнік таксама вырошчваюць і ядуць.

А моркваю, якую спажываюць ужо 4 тысячы гадоў, ласуемся столькі ж часу і мы. Як не кожны дзень ядзім яе. А яна ж калісці была таксама прысмакам — у VIII стагоддзі пры двары Карла Вялікага яе падавалі на стол толькі ў святы.

Мы смяяліся з немцаў, якія сельдэрэй, пастарнак, салату елі. Казалі: «Жаруць палявую траву, як быдла». А цяпер — ядзім і самі.

У Расіі пры Пятру I прысілам уводзілася нямецкая і французская кухня — баяраў трымалі за рукі і ногі, і сілаю піхалі ім у рот замежныя прысмакі, а тыя толькі лаяліся ды адплёўваліся. Да народа — і рускага і беларускага — такое кармленне хутчэй за ўсё не дайшло.

У Інданезіі ды ў Кітаі доўгі час не ўжывалі ў ежу малочных прадуктаў, а мы і пілі малако, і елі сыр, і нават не ўяўлялі сабе жыцця без нашай малачаўніцы — кароўкі. Яна, як і ў Індыі, была для беларуса свяшчэннаю. І конь таксама.

Мы амаль не елі каніны, хоць у заходнееўрапейскіх краінах конскае мяса было ў свой час вельмі папулярным.

Беларусы ніколі не елі салаўіных языччкоў. А ў Францыі ў XVIII стагоддзі дзеля гэтага перабілі як не ўсіх салаўёў — была вялікая мода на паштэты з іх языччкоў.

Мы ж салаўёў слухаем.

Наш далікатэс — бульба. Яе мы ядзім кожны дзень, і яна нам не прыядаецца.

Беларусь — краіна бульбы. А беларусаў называюць бульбянікамі. Сёння нават не ўяўляеш, як можна было б жыць без яе. Што есці?

Да бульбы мы смакавалі рэпу. І не хацелі мяняць яе на бульбу — што вы, як гэта можна застацца без рэпы?! Засталіся. Не памёрлі. Жывём!

А бульба ж для нас — чужачка. Радзіма гэтай травы са смачнымі клубнямі — Паўднёвая Амерыка. Бульба раней расла на берагах рэк у Чылі, у гарах Перу. Завезлі яе на Беларусь толькі ў першай палове XVIII стагоддзя. Як мы супраць яе змагаліся напачатку! Спраба-

валі есці верхнія зялёныя клубянькі. Зладаліся: атрута! Аднак да «бульбяных бунтоў», як у Расіі, у нас справа не дайшла.

Потым гэтую чужую расліну мы прысвоілі. Яна стала такою роднаю, такою нашаю. Яна зрабілася штодзённай сялянскай ежаю...

Больш за 200 страў гатуецца ў нас з бульбы: дранікі, бабка, камы, калдуны, клёцкі, запяканка і іншая смаката. Мы нават сваю грунтоўную энцыклапедыю «Бульба» маем!

Беларусь без бульбы? Беларус без дранікаў? Не, гэта нешта не тое!

Дзякуй вам, Чылі ды Перу, што вы падаравалі нам бульбу! Вы і не ведаеце, як мы цяпер ласкава завём вашу бульбу — Агеньчык, Скарб, Тэмп, Журавінка, Лошыцкая, Разварыстая, Сінявочка, Архідэя, Жывіца...

У расійскім рэестры 22 гатункі бульбы, якія дапушчаны да выкарыстання ў сельскай гаспадарцы Расіі, выведзены беларускімі бульбаводамі. Нашы гатункі бульбы паспяхова выпрабоўваюцца на палях Кітая, Польшчы, Арменіі, Узбекістана, у краінах Балтыі.

Спадабаўся смак нашай бульбы і ў Еўропе, якая да гэтага ела толькі галандскую. Нашы бульбаводы ўпэўнены, што галандцы хадзілі доўгі час у бульбяных каралях толькі таму, што Еўропа не каштавала беларускай бульбы.

Бульба — гонар нашай беларускай кухні. Яна — наш другі хлеб.

А першы наш хлеб — Яго Вялікасць Хлеб.

Ён у хаце — гаспадар, у працы — сябра, а ў дарозе — таварыш.

Ён галоўны на нашым стале. Ён — пóкутнік. Яго месца на самым покуце. Пад абразамі. Беларусы заўсёды ставіліся да хлеба з вялікаю павагаю і пашанаю — як да Бога.

Мы ніколі не елі за голым, не засланым абрусам, сталом. Бо ежа нам заўсёды была святам. Мы ніколі не гаварылі пра ежу абразлівыя словы.

У нас вялікім грахом лічылася скідваць на падлогу хлебныя крошкі — мы іх акуратненька збіралі ў жменю, елі самі ці аддавалі птушкам.

У Старажытным Егіпце сонца, золата і хлеб абазначалася адным значком — кружочкам з кропкаю ў ім. Разумееце, сонца, золата і хлеб. Усё самае важнае. І ў нас гэтак жа лічылася. Толькі парадак быў крыху іншы: хлеб, сонца, золата. Бо жыта і жыццё маюць у беларусаў адзін і той жа корань.

У нас быў культ зерня, і мы пакланяліся яму. Мы заўсёды помнілі, што кожнае зернетка старэйшае за нас, і ведалі, што яно вечнае. Яно захоўвае ў сабе жыццё тысячагоддзямі. Заўсёды гатовае нарадзіць колас. Зярняты, знойдзеныя ў грабніцах фараонаў, праз тысячы гадоў кінутыя ў зямлю, прараслі і давалі ўраджай.

Пяклі мы хлеб у сваіх печах. З жытняй, пшанічнай, ячнай, аўсянай мукі. Проста на подзе ці на кляновых лістах ды на лістах хрэну.

У галодныя гады яго пяклі з той жа бульбаю, буракамі, рэпаю, нават з жалудамі, з мякінаю. З лебядою. Але які ён быў смачны заўсёды! Нават з такімі дабаўкамі...

А з мякінаю, вотруб'ем, як мы разабраліся цяпер, хлеб быў яшчэ і карысны — лячэбны.

Як не было хлеба — пяклі скавароднікі, праснакі, каржы з прэснага цеста.

Пшанічныя пірагі — гэта ўжо свята. Пірог заўсёды ўпрыгожваў наш стол. Нашы жанчыны ўмелі і ўмеюць пячы такія пірагі, што імі хочацца адно толькі любавацца — аж шкода есці!

Цяпер толькі адны мінскія хлебазаводы выпускаюць да 200 найменняў хлеба і хлебабулачных вырабаў. А які смачны, духмяны наш родны мінскі хлеб — «Нарачанскі», «Траецкі», «Радніковы», «Юбілярны», «Водар»! Гэтыя гатункі выпякаюцца з сеянай жытняй мукі, якая надае хлебу прыемную, далікатную кіслінку. А жыта ж — наша спрадвечная ніва. Найбольш мы сеем жыта. І ядзім таму свой не прывазны хлеб.

Толькі адзін Мінск за суткі з'ядае 400 тон хлеба, 130 тон белабулачных вырабаў, 200 тон малака, 120 тон кефіра, 35 тон смятаны, 130 тон мяса, 50 тон марожанага...

Нашым кармільцам заўсёды быў і наш агарод! Спрадвеку мы са смакам елі тое, што ядзім і цяпер: рэпу, рэдзьку, агуркі, памідоры, моркву, бручку, капусту, буракі, боб, гарох, часнок, цыбулю...

У сярэднявечны японскія воіны-самураі не хварэлі на грып і ніколі не прастуджваліся. Бо елі нейкую «сакрэтную ежу», якую самі называлі «гармоніяй страўніка і крыві». А мы елі яе, тую «сакрэтную ежу», штодзень. І была яна зусім простаю: цёртыя рэпа і рэдзька, палітыя бурачным сокам!

Горкае — лечыць нашы нервы і бяссонніцу, салодкае — дае нам энергію: клубніцы, яблыкі, маліна...

На нашым беларускім стале месцілася амаль заўсёды шмат смачных страў. Вядомы фальклярыст Мікалай Нікіфароўскі ў канцы XIX стагоддзя апісаў больш як 150 страў народнай кухні толькі на адной Віцебшчыне.

Летам мы ў асноўным елі гародніну і садавіну.

Вясна часцей за ўсё была для нас галоднай. Тады выручала наша трава. Лебяда была нашай ядою. Крапіва была ядою. У лесе — кісліца, заечая капуста. Шчаўе нас ратавала.

І яшчэ ратавалі пасты — 200 дзён у годзе святары рэкамендавалі нам пасціцца. Не есці скаромнае. І мы не елі, бо Бог забараняў. І толькі потым зразумелі: Бог забараняў нам аб'ядацца таму, што бярог наша здароўе!

Калядны, піліпаўскі пост доўжыўся ў нас аж шэсць тыдняў. А перад Калядамі можна было есці толькі сочыва — пшаніцу з мёдам. Былі ў нас аднадзённыя строгія пасты, посныя дні, індывідуальныя пасты — пры падрыхтоўцы да таінства Прычасця.

Мы вельмі любім малако. Ядзім яго ў любым выглядзе — ахалоджанае, сырадой, сыр, смятану, масла, сыраквашу, тварог. Мяса ў нашым харчаванні займае менш месца. Але ж і мяса трэба есці! Гэта ж і мышцы, і мозг, і сіла. Ядзім мы мяса найбольш увосень і зімою. І то

імкнемся прыблюсці яго да вясны, да лета, да такіх цяжкіх работ, як сяўба, сенакос, жніво. Мяса мы захоўваем у каўбасах, у коўбіках — у апрацаваных свіных страўніках. І сала ядзім таксама.

У час пастоў мы ўжывалі вегетарыянскую ежу — гародніну і малочныя стравы. Саладуха, кулага, у якія дадаваліся мёд, хмель, грамнічныя зёлкі, ягады — брусніцы, буякі, журавіны, каліна былі не толькі ядою, але і нашымі лекамі: яны лячылі нас ад прастуды, ад ныркавых і сардэчна-сасудзістых захворванняў.

А самай старажытнай нашай ежай былі кашы. З абтоўчанага ці сечанага зерня. Куцця, груца, гушча. З ячменю, пшаніцы, проса, аўса, з ячных і грэцкіх круп. Мы запраўлялі іх маслам, мясам, салам, каўбасой.

Мучныя нашы стравы — жур, кісель, талакно, заціркa, галушкі. Бліны — з жытняй, пшанічнай, грэцкай, ячнай мукі.

Але ж, не гледзячы на доўгія пасты, мы елі і скаромнае. Гэта і крывянка, і халадзец, і вантрабянка, і шынка, і кумпякі. Елі свініну, ялавічыну, бараніну, мяса свойскіх птушак.

Бо ведалі: без мяса чалавек не стаў бы чалавекам. Нездарма ж у старажытным Кітаі змушалі есці цяляціну, а хто не еў — каралі смерцю.

Шанавалі абрадавае печыва: каравай — на вяселле, пірагі — на вялікдзень, куцця — на Каляды, бабіна каша — на радзіны. На дзяды наш абрадавы, памінальны стол быў вельмі разнастайны і багаты — куцця, клёцкі, аладкі, верашчака, каўбасы, поліўкі, аўсяны кісель, яблыкі і грушы на мёдзе, халадзец, праснакі.

Да зваставання, вясновага свята гукання вясны, мы пяклі з мукі птушак — «жаваронкаў» і «кулікоў». Да пачатку веснавой сяўбы — фігуркі ў выглядзе бараны, сахі, сярпа...

Хлеб-соль, якімі мы сустракаем сваіх шаноўных гасцей, — таксама наша абрадавая ежа.

Наш абедзенны стол смела можна ставіць у лесе. Там мы ніколі не памром з голаду — лес нас выручыць. Ап-

рача жыўнасці, апрача спеласакаўных ягад, у нашым лесе расце яшчэ наша радасць і насалода — грыбы. Іх вельмі прыемна збіраць, але не менш прыемна есці. Што мы толькі не робім з імі! Мы іх і сушым, і марынуем, і солім, і смажым, і тушым, і варым. Нават сырыя ядзім, да прыкладу, рыжыкі. Аднак найбольш любім баравікі і сыраежкі, падасінавікі і лісічкі, грузды і абабкі, масьлякі і апенькі, радоўкі і гаварушкі... А колькі яшчэ розных грыбоў ядзім мы!

Таксама свой стол мы можам ставіць і каля сваіх рэчак і азёраў. Там — зноў жа наша ежа. Там, у вадзе, — самы і шчупакі, стронгі і ўюны, акуні і плоткі, карпы і сялява, ментузы, язі ды карасікі. Там — наш славуты вугор, які падымаецца ў Нёман, Дзвіну, Буг з Балтыйскага мора. Ён падобны на вужа, і смачны, смачны, смачны. Асабліва вэнджаны. А яшчэ — рак. Вараны. А яшчэ ёршык. Праўда, ён не для ежы — больш для забавы дзецям.

І ўрэшце наша яечня. Наша спрадвечная нацыянальная ежа. На любы час, на любую патрэбу, на любы выпадак.

Зайшоў у хату нечаканы госць — беларусы адразу ж смажылі і смажаць яечню.

Ішоў селянін вясною ў провідкі да сваёй нівы, і рупліва браў з сабою хлеб, соль і — абавязкова! — велікодныя яйкі, яечню.

Яечня — у беларусаў і абрадавая, рытуальная страва. Яна была абавязковай і на Купалле, і на Сёмуху, калі дзяўчаты прыносілі яе ў лес і елі там пад звязанымі верхавінамі маладых бярозак, што былі ўпрыгожаны каляровымі стужкамі.

А пастухі, якія ў першы раз выганялі статак на юр'еўскую расу, смажылі яечню на вогнішчы прама ў полі і з ёю тройчы абыходзілі статак, прамаўляючы замовы і заклінанні — каб зберагчы статак ад хвароб і ваўкоў.

Што мы ядзім сёння? А тое, што і ва ўсім свеце ядуць: снікерсы і курыныя кумпячкі, бананы і ківі, ананасы і гамбургеры. У Мінску, да прыкладу, у рэстаране «Даньkaў клуб» мы можам заказаць салаты «Казанова» і

«Міледзі» — з крэветкамі, мідзіямі, садавінай, мясную салянку «Бардо», грыбны суп-пюрэ «Шэрвуд», свініну «Настальжы» — з мёдам, спаржай і гароднінай, «Эскабеча» — сёмгу з мёдам і гарчыцай, ды мідыі ў шампанскім. А рэстаран «Белая Русь», што ў гатэлі «Мінск», можа нават наладзіць посны банкет. Яго поснае меню ўражвае кожнага сваім багаццем. Вось толькі адны закускі: пікантная салата ў мяшэчку з памідораў з соусам з салодкага перцу і духмянай падліvай; лобія з чырвонай фасолі, зялёнай рэдзькі і грэцкіх арэхаў; марская салата з мідый, крабаў, каракаціцы і каралеўскіх крэветак... Яшчэ ж меню прапануе посны суп з рознай агародніны, з бобам і грыбамі ў шытаке ды густую сычавічную поліўку з баклажанамі і маркоўнымі рагалікамі. І гарачыя стравы — пальчыкі абліжаш: посныя варэнікі, бульбяныя катлеты з гарнірам са смажаных апенек, спаржа, фенхель, цукіні, брокалі...

Аднак зразумела, што нашы спрадвечныя нацыянальныя стравы і сёння з'яўляюцца для нас асноўнымі.

Беларуская кухня прысутнічае ці не ва ўсіх нашых рэстаранах. А найперш — у спецыялізаваных: «Беларуская кухня», кафэ-барах «Анастасія» і «Дуэт», «Кавярня на пагор'і», бар «Мядзведзь», кафэ «Налібокі», «У Стасі», «Бульбяная», «Пан Хмелю».

Праўда, невядома за што пакараў нас так нялітасціва не наш Чарнобыль. Чыстую нашу яду зрабіў бруднаю. Чацвёртую частку нашай зямлі заразіў радыенуклідамі. А гэта ж нашы палі, лугі, лясы, поймы рэк і азёраў... Нашы нівы і сенажаці. Нашы агароды. А гэта ж — гуркі, памідоры, цыбуля, бульба, грыбы, ягады, арэхі, яблыкі, вішні, слівы... Наша ежа.

І ўсё ж няхай наша ежа, не зважаючы ні на што, заўсёды будзе чыстаю! Тым больш, што тры чвэрці тэрыторыі Беларусі застаецца ўсё ж незабруджанаю.

Будзь жа заўсёды чысты, наш грыбны супчык, нашы дранікі, кулеш і зацірка!

І паздароў нас чыстаю ежаю, Божа!



## НАШЫ ЛЯСЫ

Лес хутчэй за ўсё старэйшы за чалавека. Ну, магчыма, яго равеснік. Аднак ён ніяк не можа быць маладзейшым — чалавек, здаецца, і нарадзіўся ў лесе! Бо лес — гэта ж і хата, і ежа, і адзенне, і вогнішча. Тут ёсць дзе схавацца ад дажджу, засланіцца ад ветру і завеі.

Але ж лес — гэта найперш дрэвы. Вялікая краіна дрэў. Неспазнаная намі цывілізацыя, якая існуе паралельна з чалавечай.

Даўней на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі адны толькі дрэвы — уся наша зямля спрэс была пакрыта лясамі. Чыстымі заставаліся адно рэкі і азёры — на вадзе ж дрэвы не растуць.

Чалавек спрадвеку змагаўся з дрэвамі. У выніку гэтага змагання беларусы вызвалілі ад лясоў для сваіх палёў, лугоў і хат дзве трэці зямлі.

Аднак бязлесных раёнаў на Беларусі няма! Ёсць больш ці менш высечаныя, а без лесу — няма ніводнага.

Мы ў краіне пакуль што яшчэ маем 7 мільёнаў гектараў лесу. Гэта ў параўнанні з іншымі не так ужо і мала.

У нашых лясах расце 28 відаў дрэў. Усяго толькі? Усяго толькі! Іх можна, як кажуць, пералічыць на пальцах: сасна, елка, дуб, бяроза, асіна, вольха, граб, клён, ліпа, ясень... Словам, усіх іх беларусы ведаюць у твар — як сваіх сяброў. І яшчэ каля 50 відаў кустоў. І вось з гэтых 28 відаў дрэў і 50 парод кустоў у розных спалучэннях складаецца ўся прыгажосць, вабнасць і разнастайнасць беларускіх лясоў.

Лясы Беларусі дзеляцца на тры віды — хвойныя, шыракалістыя і дробналістыя.

Хвойнікі ў асноўным растуць на Віцебшчыне — на поўначы Беларусі, у Беларускім Паазер'і. Гэта цёмныя хваёвыя лясы паўднёва-таежнага тыпу з прымессю бярозы ці дуба. Але галоўнае ў іх дрэва елка: елка не баіцца халадоў, а поўнач, яна і на Беларусі поўнач — там, зразумела, халадней, чым на поўдні. Таму і дубоў на Віцебшчыне мала.

Затое, калі кіруешся на поўдзень, на Палессе, заўважаеш, як святлеюць лясы — у іх ужо пераважаюць дубовыя, грабавыя, ясеневыя гаі. На Палессі 65% усіх дубовых дрэвастояў краіны. Тут ужо дуб выцясняе елку. Тут раскашуюць лясы-ясеннікі, а елкі растуць толькі астраўкамі — на ўсім Палессі зафіксаваны толькі 32 такія яловыя астраўкі.

Беларускі лес, калі можна так сказаць, трохпавярховы, трохузроўневы.

Самы высокі паверх — для неба і для вачэй. Гэта хвоя, елка, бяроза, клён, ліпа, ясень.

Самы нізкі — на зямлі. Той, што пад нагамі: крапіва, папараць, бальзамін, вятроўнік, кісліца, заечая капуста, мінушкі, казялец, лішайнікі, сунічнік, бруснічнік, чарнічнік, ястрабок, агаткі, чабор, талакнянка, дзераза, мох, верас. Дарэчы, верасовы тып лясоў займае ў нас 1 мільён гектараў, а мохавы — самы пашыраны: ён распаўсюджаны аж на 30% усіх лясных угоддзяў.

А паміж імі — сярэдні паверх: падлесак. Гэта ядловец, крушына, каліна, рабіна, арэшнік, маліна, чаромха, бразгліна, шыпшына.

Барадаўчатая бяроза найбольш любіць Надзвінне. Шэраальховыя лясы можна ўбачыць толькі на поўначы. Чорная вольха добра пачувае сябе на нізінах Палесся.

У нас расце лістоўніца сібірская, рэдкі асакор, хвоі Банкса і Мурэя.

Каб захаваць нашы лясы і ўсё, што ў іх жыве, на Беларусі здаўна засноўваліся батанічныя сады, заказнікі, запаведнікі.

Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны і Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнікі. Апошні нам дастаўся ад Чарнобыля: у ім даследуецца, як дзейнічае радыяцыя — на дрэвы, ваду, жывёл, траву і на чалавека.

Запаведнік створаны ў так званай 30-кіламетравай зоне на тэрыторыі трох раёнаў — Брагінскага, Нараўлянскага і Хойніцкага. Ён займае плошчу больш за 130 гектараў, і ў ім расце 1251 від раслін, жывуць 54 віды дзікіх жывёл, 25 відаў рыб, гняздуюцца 280 відаў птушак. І ўсё

гэта пры вельмі высокай дозе радыяцыі — 2 тысячы мікрарэнтген у гадзіну.

Запаведнік — закрыты для наведвальнікаў. Таму ўсё жывое там жыве па сваіх законах. У пакінутых хатах на крэслах можна сустрэць птушыныя гнёзды, на дрэвах і ўдзень сядзяць совы, якія не баяцца людзей, у пакоях ды сенцах ладзяць сабе лежкі дзікі. А буслы тут чамусьці баяцца чалавека — яны нібыта разумеюць, што гэтая бяда зроблена якраз ім, чалавекам.

Бярэзінскі біясферны запаведнік, які мае плошчу 90 тысяч гектараў запаведнай зоны і 83 працэнты якога пакрыта лесам, захоўвае унікальныя ясеневыя і чорнаальхова-ясеневыя дрэвастоі, узрост якіх каля 200 гадоў. Да таго ж ён надзейны прытулак для вялікай калоніі баброў, якая падчас стварэння запаведніка ў 1925 годзе была ўжо ці не адзінаю ў Беларусі.

Бярэзінскі запаведнік — своеасаблівы аазіс жыцця, дзе жывуць, хоць і ў малой колькасці, усе прадстаўнікі беларускай фауны і палова нашай флоры: 52 віды сысуноў, звыш 200 відаў птушак, 8 відаў амфібій, 5 рэптылій, 33 віды рыб, а таксама шмат раслін, якія занесены ў Чырвоную кнігу, — чарамша, венерын чаравічак, багноўка чорная, ятрышнік духмяны...

У нас маецца 180 батанічных помнікаў прыроды, што ахоўваюцца дзяржаваю. Гэта старадаўнія паркі Вялікамажэйкаўскі, Гомельскі, Мірскі, Нясвіжскі, Радзівіламонтаўскі, Барысаўскае лесанасаджэнне, Вепрынская дуброва, Моўчадскае насаджэнне лістоўніцы еўрапейскай, Маларыцкія ельнікі, Восаўскае насаджэнне карэльскай бярозы, а таксама іншыя згуртаванні унікальных дрэў.

А наш Батанічны сад знаходзіцца ў сталіцы рэспублікі. Адзін з буйнейшых па плошчы і складу калекцыйных фондаў батанічных садоў у Еўропе. Своеасаблівы лес у цэнтры двухмільённага горада — у яго і ўваход проста з праспекта Незалежнасці. 150 гектараў дрэў і раслін, на якіх сабраны 9 тысяч экспанатаў. У садзе ёсць дэндрарый з сектарамі Беларусі, Далёкага Усходу, Ус-

ходняй Азіі, Паўночнай Амерыкі, Еўропы, Сібіры, Каўказа. Ёсць ружарый і цюльпаннік. Ёсць сад бесперапыннага цвіцення. Ёсць ландшафтны парк. Закладваюцца сады імхоў і лішайнікаў, водару і павойных раслін.

У аранжарэях Батанічнага саду налічваецца каля 2 тысяч экзатычных раслін: больш як 500 відаў кактусаў, разнастайныя плюшчы, папаратнікі, бягоніі, пальмы, рададэндроны і іншыя трапічныя і субтрапічныя расліны.

А колькі іншых лясоў — вялікіх і маленькіх — у нашых гарадах! Гэта нашы паркі, алеі, прысады, зялёныя зоны, асобныя дрэвы, кустарнікі. Ва ўсіх гарадах Беларусі.

Толькі адзін сталічны парк культуры і адпачынку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка займае 98 гектараў. А паркі імя Горкага і імя Чэлюскінцаў! А скверы — маленькія нашы пералескі! Толькі ў адным Мінску іх больш за сотню.

Сталічны Лошыцкі парк вядзе свой летапіс з ранняга сярэднявечча. І ён — прадаўжэнне нашых лясоў.

Закладваюцца новыя дэндрапаркі на Міншчыне — у Любанскім, Капыльскім, Лагойскім і Уздзенскім лясгасах. У асноўным у іх будуць расці дрэвы і кустарнікі Беларусі, аднак знойдзецца месца і для экзотыкі: чырвоны дуб, еўрапейская лістоўніца, грэцкі і маньчжурскі арэхі...

Нашы гарадскія лясы толькі адной Мінскай лесапаркавай зоны займаюць 33 гектары. Пра іх рупяцца аж восем лясніцтваў: Бараўлянскае, Гарадское, Ждановіцкае, Каладзішчанскае, Мінскае, Астрашыцка-Гарадоцкае, Ратамскае і Сосненскае.

Але асаблівая наша гордасць — запаведнік Белавежская пушча, лясы якога адносяцца да самых высокаўзроставых у Еўропе. Белавежа, у якой палявалі польскія каралі і рускія цары, была абвешчана заказнікам яшчэ ў далёкім 1538 годзе — калі ў пушчы ўжо амаль поўнасцю была выбіта дзічына. Тады ж кароль польскі і вялікі князь літоўскі Сігізмунд І Стары выдаў «Лясны ўказ», які рэгламентаваў жыццё пушчы: колькасць варты, за-

хаванне лясных багаццяў, забарона высякаць дрэвы. А яшчэ раней, у XIV стагоддзі, Белавежа таксама была запаветным лесам і ў ёй абмяжоўваліся ловы: паляваць было дазволена толькі самым прывеліяваным асобам — каралю Польшчы Ягаўлу, вялікаму князю ВКЛ Вітаўту ды некаторым іншым.

На зямлі існуе каля 100 тыпаў лясоў. І ўсе яны, на нашу вялікаю радасць, прадстаўлены ў Белавежы.

Белавежская пушча — гэта адзіны і апошні натуральны некрануты лес Еўропы. У 1993 годзе ЮНЕСКА ўключыла яго ў спіс біясферных запаведнікаў свету, а годам раней Міжнародны камітэт сусветнай спадчыны на сваёй сесіі абвясціў нашу пушчу аб'ектам «Сусветнай спадчыны чалавецтва». Апрача Белавежы на зямным шары ёсць яшчэ ўсяго толькі тры лясныя масівы, якія маюць такі ж статус: Дажджавыя лясы Амазонкі, трапічныя лясы Афрыкі і маленькі ўчастак тайгі ў Комі Рэспубліцы.

У нашай пушчы расце 900 відаў раслін, дзве трэція з якіх — лекавыя. А яшчэ ж Белавежа — гэта 10 тысяч толькі апісаных матылькоў. А колькі іх там неапісаных!

Белавежа — радзіма зубра. Самай даўняй жывёліны на зямлі. Ён сучаснік маманта і захаваўся, дажыў да нашых дзён толькі дзякуючы лесу і чалавеку.

Чалавек зберог і яго лес, і яго самога. Як пішуць знаўцы: «Пушча захавалася таму, што ў ёй жылі зубры, а зубры захаваліся таму, што была пушча».

А ў канцы другога тысячагоддзя на ўсіх кантынентах Зямлі пра Белавежу пачулі з іншай нагоды — менавіта ў ёй, у Віскулях, была ліквідавана вялікая і магутная дзяржава свету — Савецкі Саюз.

Для нас жа Белавежская пушча яшчэ і рэзідэнцыя беларускага Дзеда Мароза, дрымучыя лясы якой ён выбраў сабе пад жыллё. Дзеці любяць ездзіць да яго, а пад Новы Год атрымліваць ад свайго дзядулі падарункі. Праўда, Зюзя, Бог завей і холада, прадзядуля Дзеда Мароза, жыве ў іншым месцы — у Пастаўскім раёне на Віцебшчыне.

У еўрапейскую батанічную экалагічную сетку ўваходзяць 10 аб'ектаў Беларусі — Налібоцкая пушча і Блакітныя азёры, Сапоцкінскі і Бярэзінскі біясферныя запаведнікі, Гарадоцкае ўзвышша, Палескі заказнік-парк «Прыпяцкі» і, вядома ж, Нацыянальны парк Белавежская пушча.

Беларусы заўсёды абагаўлялі прыроду. У нас спрадвеку быў культ дрэў. Асабліва ў нашых продкаў шанаваўся дуб. У старажытных грэкаў дуб лічыўся дрэвам Зеўса, у рымлян — Юпітэра, а ў нас — дрэвам Бога Перуна. І яшчэ дрэвам продкаў. Таму свае дубы мы называлі Волатамі, Асілкамі. І прыносілі да іх ахвяраванні, і вешалі на іхнія галіны ручнікі.

Дуб — найбольш даўгавечны між дрэў. Нядаўна, як кажуць, урачыста святкаваўся юбілей дуба, што даўно жыве ў лясным гушчары каля вёскі Пажэжын, што ў Маларыцкім раёне. Яму споўнілася 800 гадоў! Але ж Волат і сёння зграбны, стройны, грацыёзны. І магутны, здаровы, пра што сведчыць мноства жалудоў, якімі штогод ён радуе дзікоў, што любяць пасвіцца пад ім.

У народзе кажуць, што энергетыка дуба дае вялікі прыліў сіл, і той, хто будзе штодзень прыходзіць да яго, можа вылечыць любую хваробу...

Ля вёскі Данілягі пачынаецца векавая пушча ў Лельчыцкім раёне. Данілевіцкая дача. Урочышча Карабельшчына. Цар-дуб, якому споўнілася 600 гадоў. Высокі і роўны ствол. Кара на ім — як маршчыны, сведкі стагоддзяў. Камель — у тры добрыя мужчынскія абхваты. Высока, на вышыні 27 метраў разыходзяцца ва ўсе бакі пяць магутных сукоў. Яны накрываюць сваімі галінамі як не палавіну пушчы. Дуб узвышаецца над усёю пушчаю. Як жа, мусіць, хораша пад яго добрымі і ласкавымі крыламі і дрэвам, і людзям, і ўсёй жыўнасці — ад мураша да мядзведзя, — што жыве ў гэтым лесе!

Адзначыў сваё 500-годдзе і дуб-велікан, што расце ў Шумілінскім раёне. Яго могуць абняць толькі пяць чалавек, узяўшыся за рукі. Ён таксама дзеліцца з людзьмі сваёй энергіяй, лечыць іх.

І гэта праўда, бо біяпалі чалавека і дрэў узаемадзейнічаюць — яны альбо забіраюць, альбо аддаюць энергію.

Дрэвы, якія сілкуюць нас, падмацоўваюць: дуб, бяроза, сасна, клён. І мы прыціскаемся да іх спінамі і становімся тварам на ўсход.

Дрэвы, якія забіраюць нашы сілы: асіна, таполя, елка, чаромха. Дрэвы-вампіры звычайна пасяляюцца наадзіноце, і каля іх баяцца сяліцца іншыя лясныя жыхары.

Кожны чалавек павінен ведаць сваё дрэва, якое можа яго падсілкаваць энергіяй.

Нашы дрэвы даўгавечней за чалавека — яны ж не п'юць і не кураць і жывуць больш за нас: асіна, рабіна, арэшнік дажываюць да 100 гадоў, таполя — да 200, вольха — да 300, бук — да 700, ліпа і каштан — да 1000, а нашы нізкарослыя прыгажуны ядлоўцы святкуюць нават 2000-гадовыя юбілеі.

Прыйдзеш у лес і здаецца: такі рай, такое суладдзе пануюць тут! Як усё хораша, дружна і шчасліва!

Але ж і ў лесе, як у кожным жывым калектыве, ёсць свае радасці і свае засмучэнні. Свае сябры і ворагі. Дрэвы тут дружаць і варагуюць. Яны сумяцца і смяюцца. Злуюцца і радуюцца, ненавідзяць і любяць. Не могуць ужыцца і, наадварот, імкнуцца адно да аднаго. Гэтак жа, як і мы, людзі.

Да прыкладу, сасна з бярозаю ўжываецца вельмі дрэнна, а з дубам яны найлепшыя суседзі — іх не разліць вадою.

Сябруюць дуб з клёнам, лістоўніца з елкай, елка з асінай. А каліна, акацыя і бэз прыгнятаюць яблыні ды грушы.

Словам, і ў лесе, у дрэў, — усё гэтак жа, як і ў людзей у вёсцы ці тым больш у горадзе.

І ўсё ж мы шанавалі, шануем і мяркуем шанаваць нашы лясы і іхніх жыхароў — дрэвы.

Калі мы, беларусы, яшчэ былі неандэртальцамі і краманьёнцамі, ды і трохі пазней, мы ўжо прадчувалі экалагічныя катастрофы, і ў нашым светапоглядзе тады былі свае сакральныя забароны: не забрудзь лясную

крыніцу, не палі лес. Мы тады самі былі прыродаю і поўнасцю залежалі ад яе.

Як шкада, што цяпер мы забыліся пра гэта. І ўжо не помнім, што дрэвы — жывыя і што жывуць яны ў сваёй краіне — у лесе.

А лес жа яшчэ не толькі дрэвы. Гэта ж таксама і птушыныя гнёзды: у дуплах, на голлі, у хмызах, на высокіх травяністых купінах, на голай зямлі, а то і, здараецца, рупліва зладжаныя ці увогуле прычэпленыя проста між дзвюх галінак дзе-небудзь у зацішку... А ў іх яечкі — белыя, шэрыя, блакітныя, у крапінку. Два, чатыры, шэсць штук...

Гэта ж будучыя птушкі, для якіх наш лес — родная хата.



## НАШЫ ПЕСНІ

Песня нарадзілася разам з чалавекам. Калі немаўля, толькі з'явіўшыся на свет, заплакала, яно ўжо спявала: такою была яго першая песня, якою дзіця прывітала свет.

А можа, песня існавала і да чалавека? Былі ж ужо і да яго на зямлі песні — песні прыроды: спяваў вецер, спявала рака, спяваў дождж, спявалі сонечныя промні...

«Песня — душа народа», — сказаў у свой час наш слынны збіральнік, абаронца, прапагандыст беларускай народнай песні Маэстра Рыгор Шырма. І праўда, трэба ўмець толькі ўважліва слухаць песню, і яна як найлепш усё раскажа пра кожны народ: і хто ён такі, і як яму жывецца, і пра што ён марыць, і што яго цешыць, радуе, абурае. І пра што ён думае, і пра што маўчыць. Плача душа народа, плача і яго песня, радуецца чалавек — і ў песні адразу ж мяняецца настрой.

Песня праз усё жыццё суправаджала беларуса — песняю віталася яго нараджэнне, песняю ўслаўлялася яго жаніцьба, песняю ўшаноўвалася і яго выпраўленне ў тую далёкую і глыбокую дарогу, адкуль не вяртаюцца. Гала-

шэнні — гэта ж таксама своеасаблівыя песні беларусаў: «А я ж цябе чакаць буду, а я ж цябе шукаць буду. Ці ты вырасцеш красачкай, ці прыпаўзеш мурашачкай? А хоць прыляціш зязюлькаю, не размінешся з матулькаю».

Вельмі разнастайная стылістыка нашых песень — ад старажытных хаўтурных галашэнняў да святочных велічанняў і лірычных гімнаў.

А песня ўсё ж хутчэй за ўсё вырасла з працы Праца выдыхнула песню. Яе стваралі напачатку першабытныя людзі, якія, яшчэ не ведаючы, што яны спяваюць, гукамі, выкрыкамі, паслядоўным паўтарэннем некалькіх гукаў аднаго гукараду памагалі сабе ў працы.

Змест нашых песень найперш напоўнены працоўным земляробчым клопатам. У нас шмат жніўных, касецкіх, праполачных, дажынкавых, талочных, веснавых і іншых працоўных песень.

Песні гаспадарчага календара — гэта залатая скарбніца беларускай народнапесеннай культуры. Жніўныя песні — аснова гэтай скарбніцы.

Спяваюць усе жнеі — і малажайкі, што зажынаюць першы сноп, і пастацянкі, што ад ранку да вечара «у полі стаялі, калоссем махалі», і тыя жнейкі, што нясуць у хату Спарыша — Двайны колас у выглядзе снапка ці вянка. Асабліва спеўныя і вясёлыя ў нас былі дажынкі. Жнейкі на апошняй пастаці ад кожнай ручайкі адкладалі па каласку для дажынкавага снапа.

А склаўшы ўраджай у гумно, мы захапляліся нажатым: «Ні з канём уехаць, ні пехатою ўвайсці, а толькі можна сокалу ўзляцець, дабро зверху паглядзець».

Нездарма ж мы напачатку спявалі:

Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
Поўны гумны снапамі...
Радзі, сонца, жыта і пшаніцу,
Поўны печы пірагамі.

У час жніва сваімі песнямі жняя гаварыла з ветрам:

Не ляжы, ветру, у полі,
Між гор у разоры.

Да ўстань памаленьку,
Да й павей паціхеньку,
Ох, давай халадочку
Майму сэрцу, жываточку.

А якія мы маем песні пра каханне!

Яна і ён. Чысціня і цнатлівасць. Самае чыстае пачуццё. Нідзе няма непрыстойнасці. Далікатнасць: «Мае босенькія ножкі: сцюдзёна стаяць».

Колькі досціпу ў нашых песнях пра каханне!

Хлопец звяртаецца да дзяўчыны, просіць: напаі каня сярод мора, не намачыўшы падкоў; напрадзі нітак з кропель дажджу... Ды і ў яе свае патрабаванні ёсць да яго: вытачы мне вераценца з камарынага сэрца.

Закаханыя не звяртаюць увагі на плёткі: «Няхай сабе кажуць усялякае ліха, а мы з табою, дзяўчыначка, любімося ціха».

Нягледзячы на тое, што «мяне маці беражэ, з чапялою сцеражэ», дзяўчына ўсё ж у матухны-матулічкі просіцца на вуліцу — «гуселак паслухаць, песенак навучыціся».

Але ж не ва ўсіх дзяўчат доля добрая. Дзяўчаткі ўяўляюць часам ліхую долю ў вобразе расліны: «Ды я цябе з корнем вырву, ды цераз плот перакіну. Няхай цябе валы з'ядуць, няхай цябе коні стопчуць».

А якія хлопцы! А як яны любяць сваіх абранніц! І пашкадуе такі, і пахваліцца:

Ах ты, дзяўчына, не бойся марозу,
Я твае ножанькі ў шапку ўложу.
Мая шапанька вельмі дарагая,
За чатыры валы яна купавана.

А якія яны руплівыя, нашы жаніхі: «Як салавейка гняздзечка звіў,чакаючы сваю салоўку, так Іванька домік збудаваў, спадзеючыся на сустрэчу з Кацечкаю». І цяпер коніка прышпорвае, каб сказаць ёй: «Будзем гаварыці, як на свеце жыці».

А колькі гумару ў нашых жартоўных песнях!

— Мамачка мая, жываток баліць.
— Донечка мая, лезь на печ пагрэй.

— Мамачка мая, на печы дзіця.
— Донечка мая, дзе ты яго ўзяла?
— Мамачка мая, у бару нашла.
— Донечка мая, нашто ты брала?
— Мамачка мая, мне шкода стала.
— Донечка мая, чым карміць будзем?
— Мамачка мая, кароўка ў хляве.
— Донечка мая, кароўка адна.
— Мамачка мая, я сама дайна.

Наша зямля і нашы працоўныя песні. Яны — неразлучныя. Наша зямля не толькі палітая потам, але і аплоднена нашымі песнямі.

А ў нас жа яшчэ ёсць купальскія, куставыя, русальныя, калядныя, масленічныя, радзінныя, вясельныя песні. Песні, у якіх расказваецца пра наш побыт, дзе чуецца водгулле далёкіх язычніцкіх святаў. Чумацкія, паўстанцкія, бурлацкія, казацкія, рэкруцкія, салдацкія, партызанскія песні.

А нашы калыханкі: «Люлі, люлі, усе паснулі»! А нашы дзявочыя песні: «А мае чары напагатове — белае лічанька, чорныя бровы»! А нашы гістарычныя песні: «Ой у нядзельку параненьку ўзышло сонейка хмарненька, узышло сонейка над борам, па-надСелецкім таборам»!

Сівою даўнінаю напоўнена наша народная песня — яна ўся ў даўнявечных росах і пахне дажджамі і вятрамі тых, невядомых нам, стагоддзяў.

Увогуле наша народная песня была ўсемагутная — яна магла рабіць усё. Яна магла запрасіць дождж, прагнаць зіму, гукнуць вясну. І дзяўчаты, спяваючы вяснянкі, верылі, што дагукаюцца вясны, а таму ўзбіраліся на самыя высокія ў наваколлі пагоркі, каб лепей убачыць, як яна будзе ісці да іх.

Наша песня ўмела «адамкнуць зямліцу, выпусціць травіцу на ранняе лета, на буйное жыта». Яна рупілася пра тое, каб памагчы чалавеку ў бядзе, каб засцерагчы яго ад дрэнных учынкаў, і ўгаворвала не рабіць нікому шкоды. Не любіла несправядлівасці. Як у песні пра ня-

добрага свёкра — маўляў, калі жнейка, працуючы, спявае, бацька думае: «Малайчынка дачка, яна многа зжала, яна добра працуе, і ёй усё ўдаецца», а злы свёкар крывіцца: «Гультайка, не жне, а толькі спявае». Боль выціскае слязу, калі мы спяваем пра тое, як свякроўка ператварыла нявестку ў рабіну, а потым яшчэ змусіла сына ссячы яе: «А ў раз секанўў, дык кроў пайшла, другі раз секанўў — прамовіла: «Не рабіначку сячэш — жану сваю, не тросткі ламаеш — дзяцей сваіх».

Шмат хто лічыць нашу песню сумнаю, тужліваю, журліваю. Так, усё гэта ў ёй ёсць, бо доля наша не заўсёды была ласкаваю да нас. Але ж нашы песні ўмеюць, пра што мы ўжо сказалі, быць і вясёлымі, і жартаўлівымі. І самае галоўнае — у іх, як сцвярджаюць спецыялісты, ёсць разумная раўнавага мінорнага і мажорнага ладоў і напеваў: мінор — у жніўных, восеньскіх, жаночых песнях, а мажор — у калядных, танцавальных, валачобных. А здараецца і зусім цікавая з'ява: часам сумуюць мажорныя песні і бываюць жыццерадаснымі мінорныя.

Нашы песні — бадзёрыя, жартоўныя, напоўненыя радасцю жыцця, гумарам, гарэзлівасцю, жартамі кірмашовых, застольных, карчомных, танцавальных, скокавых, карагодных, гульнёвых і іншых дзей.

Што такое народная песня? Гэта не толькі словы. Гэта яшчэ абавязкова гармонік, дуда, бубен. Беларускую народную песню першымі паказвалі яе ж стваральніку — народу — скамарохі: гудочнікі, дудары, дудачнікі, бубністы, цымбалісты, смыкі, гусляры, лірнікі.

Немагчыма разлучыць у песні словы і матыў, музыку. Песня сказаная, а не праспяваная? Абсурд! Песня — гэта якраз яднанне слова і музыкі. А нярэдка яшчэ гэта яднанне скокаў, рытму, матыву, слоў, мімікі.

Народную песню як маглі ратавалі і захоўвалі народныя спевакі — спявухі, пеюны, пяюллі, пяўчыцы, песнахоры, песнахоркі. Славутыя спевакі часцей за ўсё знаходзіліся сярод пастухоў, леснікоў, аратых, плытагонаў. Яны якраз і не далі загінуць гэтаму скарбу.

Народныя спевакі зберaглі народную песню. А ўжо песня выратавала нашу мову, а яна, у сваю чаргу, дзяржаву, краіну, народ. Калі ёсць песня — значыць, жыве народ!

Ужо ў наш час такімі рупліўцамі былі сёстры Лапаціны з вёскі Азершчына, што на Гомельшчыне, — Таццяна, Лукер'я, Марыя — аж адзінаццаць родных і стрыечных сясцёр! — разам з бацькам Карнеем Лапаціным стварылі славуты Азершчынскі сямейны хор і ездзілі з нашымі песнямі па свеце. І ведаеце, з якой цікавасцю і шчырасцю іх усюды прымалі! На Гродзеншчыне быў вядомы выканаўца народных песень Аляксандр Моніч, на Міншчыне — Павел Шыдлоўскі. Карысталіся вялікім шанаваннем народныя спевакі М. Рамашка з Клецкага раёна, Т. Місевіч са Шчучынскага раёна, С. Дубейка з вядомай вёскі Тонеж, што на Гомельшчыне.

Такімі ж вядомымі пяюннямі былі ў свой час маці класіка нашай літаратуры Максіма Гарэцкага — Параска, Аўфрасіння Міхайлаўна на Магілёўшчыне, якая мела выключны музычны слых і спявала абрадавыя песні ўсіх жанраў, а таксама бабуля вядомага дзеяча харавога мастацтва Генадзя Цітовіча — Прузына Цітовіч з Міёршчыны. На Пружаншчыне, у вёсцы Шакуны Рыгор Шырма адкрыў выдатную народную спявачку Захвею Хвораст.

Рыгор Раманавіч Шырма — самародак са звычайнай сялянскай сям'і, у якой да яго не было ні спевакоў, ні музыкаў. Без элементарнай музычнай адукацыі, не ведаючы напачатку сакрэтаў прафесійнай тэхнікі дырыжыравання, ён дасягнуў вяршыні харавога мастацтва.

Рыгор Шырма з 1910 года збіраў беларускія народныя песні, а ў выніку ў 1959—1976 гадах быў выдадзены строга сістэматызаваны чатырохтомнік сабраных ім песень з нотамі.

Пасля ўз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі ў 1940 годзе Шырма стварае і да 1970 года ўзначальвае Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу БССР — адзін з лепшых прафесійных калектываў тагачаснага Савецкага Саюза.

Яго праца не падабалася ні польскім, ні савецкім уладам. Маэстра абвінавачвалі ў нацыяналізме, пагражалі расфарміраваць калектыў.

Аднак Шырма адмятаў усе абвінавачванні і настойліва змагаўся за родную песню.

За трыццаць гадоў, якія кіраваў капэлаю Шырма, яна дала 4564 канцэрты!

Цэлую эпоху беларускай песеннай культуры ўвасобіла сабою дачка мінскага чыгуначніка Ларыса Пампееўна Александроўская.

Яе любілі за выкананне беларускіх народных песень. «Перапёлачка», «Палын мой, палыночак», «Ой, не куку́й, зязюленька», «Чаму ж мне не пець»... Яна марыла пра нацыянальную оперу і ваявала за яе — на беларускай мове, на беларускім матэрыяле.

Сталін на дэкадах у Маскве асабіста прасіў яе спяваць і гаварыць па-беларуску.

Пасля на высокі ўзровень беларускую народную песню падня лі «Песняры» — вакальна-інструментальны ансамбль пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна. Дзякуючы ім нашу песню пачуў увесь свет. І ўсюды ансамбль прымалі сардэчна і з захапленнем, з воплескамі. Як заспяваюць «Песняры» «Скрыпяць мае лапці» дзе-небудзь у Індыі, у Францыі ці ў Бірме, зала адразу ўзрывалася апладысментамі.

А яны ж вазілі па свеце даўнія песні — «Ой рана на Йвана», «Перапёлачка», «Купалінка», «А ў полі вярба», «Рэчанька» і інш. А таксама песні нашых выдатных кампазітараў на словы беларускіх паэтаў — «Спадчыну» на словы Я. Купалы, «Мой родны кут» на словы Я. Коласа, «Вераніку» на словы М. Багдановіча, «Алесю» на словы А. Куляшова, «Жураўлі на Палессе ляцяць» на словы А. Ставера.

І абвінаваціць іх у нацыяналізме было немагчыма: Уладзімір Георгіевіч, які палюбіў нашу беларускую песню, карэнны сібірак, рускі па нацыянальнасці.

«Песняры» аб'ехалі ці не ўвесь свет, і ўсюды дзякуючы ім людзі адкрывалі Беларусь і яе песенную культу-

ру. Іх сустракалі і праводзілі натоўпы прыхільнікаў. Гэта быў сапраўдны трыумф беларускай народнай песні. У Лацінскай Амерыцы, ЗША, Фінляндыі, Германіі, Чэхіі, Польшчы. У тагачаснай Югаславіі, па якой яны праехалі з канцэртамі 4 тысячы кіламетраў, пра іх пісалі:

«Трэба прызнаць, што «Песняры» маглі б з'явіцца ўзорам для нашых шматлікіх прыхільнікаў выкарыстання фальклору ў эстраднай музыцы», бо ў ансамблі «сучасная аранжыроўка, а гучанне можна параўнаць з сімфанічным».

«Песняры» 12 разоў атрымлівалі Гран-пры на самых прэстыжных міжнародных фестывалях і конкурсах. Дыскі з запісамі іх песень выдаваліся мільённымі тыражамі.

Наша прафесійная песня нарадзілася з развіццём прафесійнай музыкі і пісьмовай паэзіі. Найперш яна звязана з імёнамі славутых кампазітараў У. Алоўнікава, Я. Цікоцкага, А. Туранкова, А. Багатырова, Ю. Семянякі, І. Лучанка і інш. Ад іх эстафету прынялі В. Іваноў, У. Буднік, Л. Захлеўны, Э. Зарыцкі, В. Раінчык, Э. Ханок і іншыя. Папулярызацыі беларускай песні садзейнічаюць вакальна-інструментальныя ансамблі «Верасы», «Сябры», «Чараўніцы» і інш. А колькі ж у нас яшчэ такіх ансамбляў — і «Валачобнікі», і «Неруш», і «Церніца», і «Грамніцы»!

Вялікай пашанай у слухачоў карыстаецца Дзяржаўная харавая акадэмічная капэла, якая носіць цяпер імя Шырмы, Акадэмічны хор Беларускага радыё і тэлебачання і іншыя калектывы, што шануюць родную песню.

Беларускія народныя песні збіралі вядомыя этнографы і фалькларысты. Пра гэта сведчаць шматтомныя выданні Еўдакіма Раманава, Паўла Шэйна, Уладзіміра Дабравольскага, зборнікі Івана Насовіча, Пятра Бяссонава, нашых сучаснікаў Рыгора Шырмы і Генадзя Цітовіча.

Вялікі рускі педагог Канстанцін Ушынскі гаварыў: «Мова — лепшая кветка ўсяго духоўнага жыцця народа. Гэтая кветка ніколі не вяне, а вечна распускаецца... Народ, які спявае чужыя песні, — хворы; народ, які не спявае, — нябожчык!»

Наша песня — адна з багацейшых у свеце. Бо беларусы ведаюць, што без песні — народ нямы. І яшчэ — сляпы. Бо песня — наш спадарожнік, памочнік, таварыш. І павадыр!

Да цераз мой двор,
Да цераз мой двор,
Да цяцера ляцела.
Не даў мне бог,
Не даў мне бог,
Каго я хацела.

Часам у XIX стагоддзі над Парыжам уздымалася над вулкамі і дахамі гэтая, вельмі шчымлівая беларуская песня. Яе, сумуючы па роднай зямлі і па свайму юначаму каханню, любіў, жывучы ў Францыі, спяваць вялікі паэт зямлі Адам Міцкевіч.

У тым жа самым Парыжы Надзея Хадасевіч-Лежэ, «парыжская беларусачка», замілавана спявала беларускія народныя песні. А калі яна замаўкала, французскі мастак Фернан Лежэ, яе муж, які працаваў унізе, настойліва грукаў кульбаю ў столь, патрабуючы ўсё новых і новых нашых песень.

Нярэдка ў XX стагоддзі над кварталамі прыгожай і артыстычнай Прагі луналі беларускія народныя песні «Малады дубочак», «Чаму ж мне не пець», «Лявоніха». Гэта зноў жа сумаваў па Радзіме саліст Пазнанскай оперы і Пражскага тэатра Міхась Забэйда-Суміцкі, вядомы слухачам па галоўных партыях у операх «Дэман», «Травіята», «Рыгалета», «Севільскі цырульнік», «Багема» ды шмат якіх іншых.

Гімны таксама нашы песні. Найперш — новы гімн Рэспублікі Беларусь, які створаны на аснове ранейшага гімна БССР:

Мы, беларусы, мірныя людзі,
Сэрцам адданыя роднай зямлі...

А наша ўрачыстая песня «Радзіма мая дарагая» на словы Алеся Бачылы, якая доўгі час, здаецца, была на-

шым неафіцыйным гімнам і будзіла нас штораніцы! А духоўны хваласпеў «Магутны Божа», прачула прамоўлены Наталляй Арсенневай!

А кранальныя словы Янкі Купалы, апантана, як развітальная песня, праспяваныя Уладзімірам Мулявіным:

Я буду маліцца і сэрцам і думамі,
Распятаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Малюся я небу, зямлі і прастору,
Магутнаму Богу — ўсясвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
За родны народ Беларусі.



## НАШЫ ЗАМКІ

Сотні замкаў спрадвеку ўпрыгожвалі нашу зямлю. Далёкія замежныя госці захапляліся іхняй прыгажосцю і называлі Беларусь краінаю замкаў — яны стаялі па нашым краі не далей як 30 кіламетраў адзін ад аднаго.

Нашы замкі і праўда былі вельмі прыгожыя. Пра тое, як яны шыкоўна выглядалі, сёння мы можам меркаваць па амаль пяцісотгадоваму Мірскаму замку, які больш за ўсё захаваўся і, узноўлены, адрэстаўраваны, цешыць вока кожнага, хто ўбачыць яго.

Мірскі замак сярод іншых сусветных помнікаў старасветчыны трымае ў полі зроку міжнародная арганізацыя па захаванню даўніны ЮНЕСКА — ён першы з беларускіх помнікаў унесены ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны. Пасля яго ў той жа Спіс уключаны комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы і дуга Струвэ — геадэзічны помнік найбуйнейшаму і самаму дакладнаму градуснаму вымярэнню ў свеце: на Беларусі гэтай дугі мерыдыяна ў 25° 20′, які знаходзіцца між Дунаем і Ледавітым акіянам,

знойдзена 19 кропак, а ўсяго на нашай тэрыторыі павінен быць 31 такі пункт. Чатвёртаю каштоўнасцю сусветнага маштабу названа Белавежская пушча. Усе яны ў адным Спісе побач з Егіпецкімі перамідамі, Вялікай кітайскай сцяной ды Парыжскім саборам Божай Маці.

Дасканалыя вежы Мірскага замка, накрытыя шатрамі. Сцены, арнаментаваныя парэбрыкамі, нішамі, паяскамі. Кантраст чырвоных цагляных сцен і белых атынкаваных ніш з аркамі. Позняя беларуская готыка. Вокны, дзверы, балконы, ганкі ўпрыгожаны разны́мі дэталямі. Гадзіннік са звонам. Роў з вадою. І высокія земляныя валы — вышынёю да 10 метраў. На поўнач, за валамі — «Італьянскі сад» з чатырмастамі дрэвамі з розных куткоў свету. За 3 кіламетры ад замка — звярынец для палявання.

Прыгажосць! Бездакорны архітэктурны помнік! Таму нам і сёння часам здаецца, што ўсе гэтыя замкі і вежы будаваліся толькі для прыгажосці.

Але ж на самой справе гэта не так. Старажытны замак — найперш, месца, дзе можна схавацца ад ворага. Гэта жыллё феадальнага князя, караля. Гэта сярэднявечны комплекс абарончых збудаванняў.

Таму ў тым жа прыгожым Мірскім замку ёсць байніцы і амбразуры для стральбы з ручной зброі, а некаторыя яго вежы завяршаюцца машыкулямі і «варавымі вокнамі» — прыстасаваннямі для кідання камянёў і ліцця вару на ворага.

Значыць, вузкія проразі ў сцяне замка — каб страляць. Цяжкія масіўныя вароты, якія, вастразубыя, нечакана падаюць зверху перад захопнікамі, — каб ніхто іх не мог адчыніць ці зламаць. Пад'ёмныя масты — каб нельга было падысці. Вежы — каб назіраць за ворагам, ліць на яго гарачую смалу і кідаць каменне.

І ўсё ж шведскі кароль Карл XII у час Паўночнай вайны ўзяў Мірскі замак штурмам і спаліў.

І ўсё ж у XVII стагоддзі яго разбуралі войскі рускага цара Аляксея Міхайлавіча.

Падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі Мірскі замак зноў жа быў узяты штурмам рускімі салдатамі.

Вялікія разбурэнні прынеслі замку і баявыя дзеянні паміж рускімі і французскімі войскамі, якія ў 1812 годзе адбываліся якраз тут.

Замак перажыў трох гаспадароў — магнатаў Іллінічаў, Радзівілаў і Святаполк-Мірскіх.

Усе яны яго аднаўлялі, перабудоўвалі, перараблялі пад свой густ і свой час. Таму ў ім можна і сёння адшукаць прыкметы розных архітэктурных стыляў — готыкі, рэнесансу і барока.

Раней, каб перамагчы ў любой вайне, трэба было абавязкова захапіць замак. Аднак і захапіўшы яго, поўнай перамогі яшчэ не было. Яна прыходзіла тады, калі здаваўся данжон — галоўная шмат'ярусная вежа замка, месца апошняй абароны і ўкрыцця князя, яго назіральны і камандны пункт. Цытадэль, дзе змяшчаліся правіянт і зброя.

Такія вежы на Беларусі вядомы ў XIII — XVII стагоддзях у Брэсці, Тураве, Гародні, Наваградку, Полацку, Шклове. Уцалела адна — Камянецкая вежа. Белы стоўп. Белая Вежа. Яе паміж 1276 і 1288 гадамі збудаваў дойлід Алеска.

Замкі ў нас былі магнацкія, царкоўныя, шляхецкія, а таксама агульнадзяржаўныя — вялікакняжацкія і каралеўскія. Яны былі «горныя» і «дольныя» — узводзіліся на пагорках і ў нізінах.

А яшчэ ж замак — гэта астрогі, вастраколле, гародні, парканы, якімі акружалася даўней жыллё. Астрогі, да прыкладу, вядомы на Беларусі яшчэ з жалезнага веку. Хаты і дамы, абнесеныя завостраным, укапаным у зямлю бярвеннем, таксама рабіліся непрыступнымі для нападу. Гародні ў XV — XVI стагоддзях выкарыстоўваліся ў замках Віцебска, Полацка, Кобрына, Оршы.

Гарадзенскі стары замак узнік у канцы XI стагоддзя як старажытнаруская пагранічная крэпасць. Гародня. На высокім беразе Нёмана, каля вусця рэчкі Гараднічанкі. Ён стаў пачаткам сённяшняй Гародні. У XV стагоддзі вялікі князь ВКЛ Вітаўт на гэтым месцы пабудаваў пяці-

вежавы замак, а потым Стафан Баторый, польскі кароль, перабудаваў яго.

Лідскі замак, узведзены ў 1330-я гады, уваходзіў у лінію крапасных умацаванняў Наваградак — Крэва — Меднікі — Трокі. Ён быў збудаваны пасярод балота, на насыпным пагорку — бачыце, для яго нават гару зрабілі! Не спатрэбілася капаць і штучны роў — замак акружалі балоцістыя берагі рэчак Лідзея і Каменка. Дарэчы, у Лідскім замку Ягайла падпісаў свой загад аб хрысціянізацыі язычніцкай Літвы, якую ён абавязаўся правесці паводле Крэўскай уніі.

Будаваць замкі — вельмі цяжкая праца. Ніякай дапаможнай тэхнікі тады не было, таму на будаўніцтва збіралі, прысільвалі людзей з усяго наваколля, і тыя ўручную цягалі валуны, што нарадзіла шмат прымавак кшталту: «Каб ты ў Вільні валуны цягаў».

Таксама на насыпным пагорку збудавалі ў 1338 годзе Крэўскі замак вялікія князі Літоўскія Гедзімін і Альгерд. Ён помніў Крэўскую унію — тут падпісана пагадненне пра саюз Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, у выніку чаго на чале дзвюх дзяржаў станавіўся вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Ягайла, які абвяшчаўся каралём Польшчы пры адной умове — абавязковай жаніцьбе з дванаццацігадовай польскаю каралеваю Ядвігай. Княжацкаю вежаю ў ім была вежа Кейстута. Яна жылая. Для жыцця князя і яго чэлядзі. Мела 4 паверхі, вышыня якіх даходзіла да 5 метраў. Унізе былі турма і склеп.

У 1383 годзе ў гэтым замку, у гэтай Княжацкай вежы, у гэтых мурах здарыліся трагічныя падзеі. А вінаваты ў гэтым усё той жа Ягайла.

Вось як пра гэта расказваюць летапісцы:

«Князя вялікага Кейстута, дзядзьку свайго, у ланцугі закаваўшы, да Крыва паслаў, пасадзіў у твержу... І там, у Крэве, князя вялікага Кейстута задушылі пятае ночы Ягайлавы каморнікі. Прокша, што ваду падаваў яму, а былі і іншыя — брат Мосцеў (Гедка, краўлянін), і Кучук, і Лісіца Жыбянцяй».

Васьмідзесяцігадовы Кейстут сядзеў на першым паверсе Княжацкай вежы, у якую можна было трапіць праз вузкі тунель у тоўшчы сцен толькі з другога паверху, з баявой галерэі.

Вязніцаю Крэўскі замак быў і для Вялікага князя Вітаўта, куды пасадзіў яго зноў жа Ягайла.

Вось што гаворыцца пра гэта ў «Летапісе вялікіх князёў літоўскіх»:

«Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве пад моцнаю вартаю ў пакоі, а дзве жанчыны прыходзілі ў пакой класці спаць яго і княгіню і, паклаўшы, выходзілі, а побач знаходзілася стража. І вось вялікая княгіня пачула ад людзей: калі князь Вітаўт яшчэ будзе сядзець у вязніцы, то з ім тое самае ўчыняць, што і з яго бацькам. І параіла яму так зрабіць: як прыйдуць жанчыны, то яму пераадзецца ў адзенне адной з іх і выйсці з другой, а той жанчыне, у адзенні якой ён выйдзе, застацца з ёю (княгіняю), так яго навучыла. І ён, адзеўшы ўбранне адной жанчыны, выйшаў з другою, спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію».

Гэта было за 28 гадоў да Грунвальдскай (Дубровенскай) бітвы, у якой уратаваны Вітаўт сыграў ці не самую галоўную ролю.

Гальшанскі замак спачатку быў драўляны. Пабудаваў яго легендарны князь Гольша — паляваў у тамтэйшых лясах, убачыў прыгожую гару, спадабалася яна яму, і сцясляры́ў ён тут свой замак.

Потым на гэтым месцы ў 1610 годзе ўзвёў шыкоўны палац Павел Сапега — сын апошняй жанчыны з роду Гальшанскіх і аднаго з роду Сапегаў.

Замак быў багаты і прыгожы: сцены пакояў упрыгожвалі фрэскі, падлога была выкладзена керамічнай пліткай, каміны аздаблялі гербы. Замкавы ансамбль дапаўнялі аж тры штучныя возеры, дно якіх таксама зіхацела керамічнымі пліткамі.

Гальшаны памятаюць шмат гісторый. Нават з прывідамі.

Павел Сапега будаваў тут касцёл. Муляры рабілі ўсё бездакорна, а адна сцяна ўсё абвальвалася. Вырашылі:

гэта праклён і трэба ахвяра. Тая жанчына, якая першаю прынясе полудзень свайму мужу, будзе замуравана ў гэту сцяну. Першаю прыйшла маладая жанчына, якая толькі нядаўна стала жонкаю цесляра. Яе і замуравалі. Сцяна болей не разбуралася, але ў палацы з'явіўся прывід — белая панна.

Сапегі пакінулі пасля сябе шмат архітэктурных помнікаў. Апрача Гальшанскага палаца, яны пабудавалі ў Быхаве замак і Парафіяльны касцёл святога Андрэя, а таксама вялікі мураваны палац, узведзены Львом Сапегам, у якім з 1597 па 1685 год праходзілі генеральныя сеймікі Вялікага княства Літоўскага. У Ружанах яны стварылі шыкоўны палацава-паркавы камплекс, дзе Ян Сапега частаваў караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта Старога віном з трохлітровага кубка, вырабленага з горнага крышталю і аздобленага каштоўнымі камянямі і золатам.

Наваградскія замкі — Замак на дзядзінцы і Малы замак — былі рэзідэнцыяй Заходне-Рускіх і Літоўскіх князёў. Яны належалі Міндоўгу і Трайдэну, затым Карыяту Міхаілу Гедзімінавічу і Дзмітрыю Альгердавічу Карыбуту. Замкі пабудаваны ў XI стагоддзі. Іх разбуралі крыжакі і татары. Замак на дзядзінцы ў 1706 годзе ўзарвалі шведы. З сямі вежаў у 1828 годзе засталіся толькі дзве — Шчытоўка і Касцельная. А потым і ад іх уцалелі ўсяго два кавалкі кладкі, якія сёння ахоўваюцца дзяржаваю. А рэштку мураванай сцяны Малога замка прыстасоўвалі ў свой час пад млын-вятрак.

Вельмі пашкоджаны быў падчас той жа Паўночнай вайны, у 1708 годзе, замак Белы Ковель, змураваны з буйной цэглы і не вельмі вялікіх валуноў у XVII стагоддзі ў Смалянах на рацэ Дзярноўка князем Сангушкам-Ковельскім.

Раней Смаляны належалі князю Курбскаму, але ён памяняўся з Сангушкамі на Ковель, што на Валыні, бо баяўся жыць блізка каля рускай граніцы, каб яго выпадкам не выкралі і не вывезлі ў Расію: Курбскі ў 1564 годзе здрадзіў Расіі, уцёк у Вялікае княства Літоўскае, пе-

райшоў на бок польскага караля і пісаў творы, напоўненыя нянавісцю да Івана Грознага — Жахлівага.

Зусім замак, які быў адным з буйнейшых на тэрыторыі Беларусі палацава-замкавых ансамбляў пачатку XVIII стагоддзя, разбураны ў XIX стагоддзі. У Смалянах, што на Аршаншчыне, засталіся толькі рэшткі адной з яго вежаў.

Слуцкі ж замак падчас руска-польскай вайны XVII стагоддзя так і не змог узяць ніхто з непрыяцеляў.

А колькі разоў палілі і разбуралі парубежны Езярышчанскі замак, узведзены ў XIV стагоддзі на востраве пасярод возера Езярышча!

У канцы XVIII стагоддзя замкі пачынаюць уступаць месца палацава-замкаваму будаўніцтву. Вельмі характэрным узорам такога будаўніцтва з'яўляецца Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс, закладзены Радзівілам Сіроткам яшчэ ў 1583 годзе на месцы драўлянага замка.

У ім ёсць байніцы, бастыёны, абарончыя вежы і дазорныя. Валы вакол яго дасягаюць 20 метраў вышынёю. Але ж комплекс мае і нешта іншае. Да прыкладу, ён мае дзве лазні, купальні, бібліятэку. Княжацкія пакоі, якіх многа, з вялікай колькасцю парадных і жылых памяшканняў. Інкруставаная мэбля, кафляныя печы, палатняныя шпалеры, дубовы паркет. Асаблівым багаццем вылучаліся парадныя залы і галерэі — збройная, мармуровая, залатая, гетманская, бібліятэчная, партрэтная. У трох партрэтных залах вісела 275 партрэтаў Радзівілаў і іншых дзеячаў Вялікага княства Літоўскага.

Калекцыя саксонскага фарфору, размаляваны золатам шкляны посуд, крышталь... Багацце, вытанчанасць, культура...

Наш Нясвіж — агульнаеўрапейская каштоўнасць.

А яшчэ наша замкавае будаўніцтва зрабіла вельмі моцны ўплыў на архітэктуру ўмацаваных храмаў. Пра гэта сведчаць Мураванкаўская і Сынкавіцкая цэрквы-крэпасці, Камайскі касцёл, Быхаўская сінагога і іншыя збудаванні. Яны пабудаваны з улікам таго, што вернікам часам даводзілася не толькі маліцца, а і бараніцца ад нападаў.

Нашы замкі прыгожыя, велічныя, вечныя. Нават калі застаўся хоць адзін камень ад іх, яны жывуць. Але яны жывуць і тады, калі ад іх нічога не засталося.

Жывуць у нашай памяці.



## НАШЫ КНІГІ

Кніга — крыніца інфармацыі. Яна ўзнікла тады, калі чалавек захацеў расказаць тое, што ведае, не толькі нейкаму аднаму чалавеку, з якім гутарыў, а і многім невядомым і незнаёмым субяседнікам. І яшчэ кніга пачалася тады, калі людзі навучыліся запісваць усё, што думаюць, калі ў іх з'явілася другая мова — пісьмовая.

Яны з асалодаю і апантанасцю пісалі ў свой час на сценах пячор, на гліняных таблічках, на кары бяросты.

Берасцяныя граматы — гэта пісьмы, запіскі, дакументы, якія дайшлі да нас аж з XIII — XIV стагоддзяў.

Падчас раскопак на тэрыторыі Беларусі знойдзены дзве берасцяныя граматы — у Віцебску і Мсціславе. Праўда, ад мсціслаўскай граматы захаваліся толькі два радкі, дзе гаворыцца пра пшаніцу на суму 4,5 грыўні і пра нейкага Сямёна. А ў Віцебскай берасцяной грамаце — ужо цэлае апавяданне, пасланне ад Сцяпана к Няжылу.

Яно чытаецца ўжо як пачатак цікавай кнігі. Пачыналі ў нас пісаць кнігі і на каменях — Рагвалодаў камень, Барысаў камень...

Пісалі на керамічным посудзе, на драўляных і касцяных побытавых рэчах, на алавяных гандлёвых пячатках-пломбах, на ювелірных вырабах, на сценах бажніц.

А наша бяроста, бярозавая кара, пра якую мы ўжо ўспаміналі вышэй! Да з'яўлення паперы яна была для нас своеасаблівым «крывіцкім папірусам» — і свая, і зручна, і даступна, і ў адрозненне ад дарагога пергаменту, з якога мы рабілі тады кнігі, за яе не трэба было нічога і нікому плаціць.

Наш першы рукапісны помнік XI стагоддзя — «Тураўскае евангелле» — напісаны на пергаменце. Гэта самая ранняя беларуская кніга, створаная на беларускай зямлі. Захавалася ўсяго 10 аркушаў яе. На пергаменце, апрацаванай скуры быкоў, ягнят, казлянят, напісаны таксама нашы Аршанскае, Друцкае, Лаўрышаўскае, Мсціжскае і іншыя евангеллі. «Пісана на цяляціне» — пазначана на некаторых кнігах.

Чарніла здабывалі са старых цвікоў — клалі іх у квас ці ў кіслую капусту, дадавалі яшчэ некаторыя рэчавы. Дробны пясок замяняў прамакатку, з дапамогаю нажоў саскрабалі чарнільныя плямы і неправільна напісаныя літары.

На Беларусі кнігі перапісвалі ад рукі аж да XIX стагоддзя. Рукапісныя кнігі ствараліся ў Полацку, Друцку, Слуцку, Супраслі, Мінску, Наваградку, у Куцейне пад Оршай, у Віцебску. Перапісвалі іх людзі рознага сацыяльнага паходжання — ад князёўны Еўфрасінні Полацкай да звычайнага гараджаніна Марціна з Гальшан. Найбольшай мастацкаю аздобаю — застаўкі, ініцыялы, мініяцюры, ілюстрацыі — вызначаліся Тураўскае евангелле, Радзівілаўскі летапіс, Мсціслаўскае евангелле, Супрасльскі рукапіс і інш.

«Судзебнік» — помнік старажытнабеларускай мовы і першы кодэкс крымінальнага права, што вядомы як Статут Казіміра IV Ягелончыка, — быў выдадзены ў лютым 1468 года.

Узнікненне друкаванай кнігі звязана ў нас з імем славутага нашага першадрукара Францыска Скарыны з Полацка. Ён быў першы, хто ва ўсходнеславянскіх землях пачаў друкаваць кнігі.

Першая беларуская кніга выйшла ў жніўні 1517 года ў Празе, дзе Скарына заснаваў друкарню, бо там кнігадрукаванне карысталася прывілеямі.

Гэта быў «Псалтыр» — зборнік гімнаў рэлігійна-лірычнага зместу. У ім было надрукавана 150 псалмаў Давіда. Сам Скарына высока ацэньваў сэнс сваёй працы, кажучы, што гэта кніга «детям малым початок всякое доброе

науцы, дорослым помноженне в науце, мужем моцнае утверьжение».

І напраўду, ва ўсходнеславянскіх землях скарынінскі «Псалтыр» выкарыстоўваўся для навучання грамаце.

А да канца 1519 года Скарына выдаў яшчэ 22 кнігі Старога Запавету. Дваццать тры кнігі! Агульным памерам каля 1200 аркушаў. «Праца, — здзіўляюцца сённяшнія даследчыкі, — нават для нашых часоў настолькі неверагодна вялікая, наколькі тэрміны яе здзяйснення неверагодна малыя».

Скарына сам ствараў рукапісы і сам друкаваў кнігі, ён рабіў пераклад біблейскіх тэкстаў, па-свойму тлумачыў іх гуманістычны змест. Яго прадмовы і каментарыі не супадалі з традыцыямі сярэднявечна-хрысціянскага светапогляду і межаваліся, на думку царквы, з ерассю. А праваслаўны артадокс князь Андрэй Курбскі, які падчас Лівонскай вайны уцёк у Вялікае княства Літоўскае, лічыў Скарынавы кнігі «богазневажальнымі ерэтычнымі выданнямі — гэткімі ж як біблія Лютэра».

Мусіць, таму, што Скарына абагаўляў кнігу і раіў сваім чытачам вывучаць сем вольных навук.

Мусіць, таму, што ён надрукаваў прагноз сонечнага і месячных зацьменняў на 1523 — 1530 гады, якія царква абвяшчала непадуладнымі чалавечаму розуму.

Кнігі Скарыны спалучалі ў сабе традыцыі беларускага і ўсходнеславянскага мастацтва з вопытам еўрапейскім.

У Вільні, куды ён, пераехаўшы з Прагі, арганізаваў друкарню ў доме бурмістра Якуба Бабіча, былі выдадзены «Малая падарожная кніжыца» і «Апостал».

Усе экземпляры выдадзеных Скарынай кніг — а іх захавалася 258 паасобнікаў — добра і падрабязна апісаны. Гэтыя каштоўныя выданні маюць за гонар захоўваць лепшыя бібліятэкі Еўропы і свету.

Эстафету ад Скарыны прынялі нясвіжскія кнігавыдаўцы Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крышкоўскі. Іх друкарня выпусціла некалькі кніг, з якіх дайшла да нас толькі адна — беларускі «Катэхізіс». У

прадмове, якую Будны напісаў 10 чэрвеня 1562 года ў Клецку, ён вельмі крытыкаваў тэзіс пра траістасць Бога.

Другое нясвіжскае выданне «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» да нас не дайшло.

Будны напісаў і выдаў кнігі «Аб галоўных артыкулах хрысціянскай веры», «Аб свецкай уладзе», якія выдрукаваны ў Лоску.

Імя гэтага выдатнага беларускага асветніка ў XVI стагоддзі было добра вядома ў Англіі, Італіі, Германіі, у іншых краінах Еўропы. Ён ведаў шмат моў і таму ў яго не было праблем, як знаёміцца з кнігамі Эразма Ратэрдамскага, Марціна Лютэра, Жана Кальвіна і іншых еўрапейскіх філосафаў.

Асаблівую ўхвалу атрымаў ягоны пераклад Новага Запавету ў 1574 годзе — дзякуючы вялікім аналітычным здольнасцям і шырокай эрудыцыі Буднага выданне было прызнана ці не самым лепшым на той час у Еўропе.

Аднак адзіная выява самога кнігадрукара дайшла да нас толькі дзякуючы яго ворагам, якія намалявалі Буднага ў пекле — як грэшніка.

У Лоску і Вільні выдавецкай дзейнасцю займаўся Ян Карчан, дзякуючы якому выйшлі кнігі беларускіх пісьменнікаў — таго ж Сымона Буднага, Андрэя Рымшы, Яна Пратасовіча, Беняша Буднага, Андрэя Валяна, Яна Казаковіча.

Паплечнікам Буднага быў дробны беларускі шляхціц Васіль Цяпінскі. З вялікімі цяжкасцямі яму ўдалося стварыць у 1570-я гады друкарню на Полаччыне. Хутчэй за ўсё ў сваім радавым маёнтку Цяпіна. Друкарня выдала адну кнігу — «Евангелле». Яна выйшла на дзвюх мовах — царкоўнаславянскай і беларускай. У прадмове Цяпінскі выступае ў абарону роднай культуры, беларускай і славянскай моў, супраць абыякавасці да лёсу свайго народа, за развіццё асветы, пісьменнасці, за веданне славутага мінулага нашай айчыны, заклікае шанаваць спадчыну.

У развіцці беларускага кнігадрукавання ў XVI стагоддзі пасля Скарыны ўдзельнічаў і рускі першадрукар Іван Фёдараў (сапраўднае прозвішча Федаровіч), які ра-

зам з Пятром Мсціслаўцам у 1569 годзе на сродкі магната Рыгора Хадкевіча ў Заблудаўскай друкарні, карыстаючыся дошкамі і літарамі Скарыны, выдаў «Евангелле вучыцельнае» — зборнік павучанняў і тлумачэнняў евангельскіх тэкстаў, куды былі ўключаны розныя творы візантыйскай, балгарскай, старажытнарускай пісьменнасці, у тым ліку «Слова на ўшэсце» Кірылы Тураўскага. У Заблудаве Фёдараў выдае і другую сваю кнігу — «Псалтыр з Часаслоўцам», дзе была надрукавана на заканчэнне кнігі і Пасхалія ў табліцах. Фёдараў ажыццявіў гэтае выданне адзін — Мсціславец быў на гэты час ужо ў Вільні.

Беларусы, браты Кузьма і Лука Мамонічы, у 1574 годзе адкрылі друкарню ў Вільні і запрасілі на працу вядомага друкара Пятра Мсціслаўца. А праз год выйшла «Евангелле напрастольнае» — першая іхняя кніга. У прадмове да яе Мсціславец расказваў, як ён хваляваўся, каб кніга атрымалася такой, якой яна бачылася яму. І «Евангелле» атрымалася менавіта такім — прыгожае, якаснае, з выдатнымі гравюрамі евангелістаў, зробленымі самім друкаром, яно стала ўзорам для наступных выданняў.

У гэтай жа друкарні Мамонічы стварылі яшчэ адну адметную кнігу — «Псалтыр», у якім для ўрачыстасці тэкст быў набраны чорнай фарбаю, а ўсе кропкі — чырвонаю.

Прыватная друкарня Мамонічаў першая ў беларускім кнігадрукаванні пачала друкаваць кнігі прававога характару: у 1586 годзе выдала «Трыбунал», а ў 1588 выйшла на беларускай мове першае выданне «Статута Вялікага княства Літоўскага».

Статут ВКЛ — збор законаў феадальнага права, які дзейнічаў у княстве з 1589 года і 250 гадоў складаў аснову ўсёй яго прававой сістэмы. Гэты помнік старабеларускай мовы і юрыдычнай думкі — адзіны збор законаў XVI стагоддзя ў Еўропе.

Ён займае сваё пачэснае месца сярод такіх сусветна вядомых помнікаў права, як законы Хамурапі, законы

Ману, Законы дванаццаці табліц, Кодэкс Юсцініяна, Руская Праўда.

Статут распрацаваны пад кіраўніцтвам канцлера ВКЛ Льва Сапегі — выдатнага военачальніка і дыпламата, філосафа і юрыста. І выдадзены на яго ж сродкі. Па яго ж настойліваму патрабаванню ён выйшаў па-беларуску — Сапега лічыў, што свая, родная мова павінна быць абавязковай для незалежнасці дзяржавы.

На Беларусі ў XVI стагоддзі было надрукавана 400 назваў кніг, у той час як на Украіне — 30, а на тэрыторыі цяперашняй Расіі толькі 10 выданняў.

З канца XVI стагоддзя актыўна развіваецца брацкае кнігадрукаванне, якім апекаваліся тады грамадскія арганізацыі — брацтвы. Віленская, Еўінская, Куцеінская, Буйніцкая, Магілёўская брацкія друкарні станавіліся своеасаблівымі мастацкімі цэнтрамі — каля іх групаваліся таленавітыя мастакі, гравёры. У Віленскай і Еўінскай друкарнях яшчэ ў другой палове XVII стагоддзя выкарыстоўваліся дошкі Скарыны, яго віленскія застаўкі і ксілаграфічныя ініцыялы.

Шмат якія выданні брацкіх друкарняў (творы Стафана і Лаўрэнція Зізаніяў, Лявонція Карповіча, Мялеція Сматрыцкага) выкарыстоўваліся ў змаганні з каталіцкай экспансіяй і царкоўнай уніяй. Уніяцкія пісьменнікі скардзіліся, што брацкія выданні сеюць бунты і ерасі, падахвочваюць просты народ да паўстанняў.

Некаторыя выданні беларускіх друкарняў перавыдаваліся потым у Маскве: «Казанне Кірыла» Стафана Зізанія, «Граматыка славянскай мовы» Мялеція Сматрыцкага. Апошняга, калі ён быў разам з братчыкамі, любілі, шанавалі, «за свой уласны кошт ад галавы аж да ног у золата і перлы ўвабралі, на якога і пылінцы ўпасці не дазвалялі, шанавалі яго, як святога», «вахтаю аберагалі яго і ўдзень, і ўначы», а як перайшоў ва уніяцтва — пачалі праклінаць і выкідваць «яго абразы з дамоў сваіх з ганьбаваннем».

А па падручніку славянскай мовы, напісаным Мяляціем Сматрыцкім і выдадзеным ў Еўі, два стагоддзі ва

ўсіх усходнеславянскіх краінах вучылі царкоўна-славянскую мову. Міхайла Ламаносаў гэтую кнігу побач з «Арыфметыкай» Магніцкага называў «вратами своей учёности».

Выпускнік Слуцкай кальвінскай школы Ілля Капіевіч стварыў так званы грамадзянскі кірылічны шрыфт, які ў 1708 годзе зацвердзіў Пётр І. Гэты шрыфт быў выкарыстаны пры выданні першых рускамоўных падручнікаў арыфметыкі, граматыкі, рыторыкі, астраноміі, марской справы. Удасканаленыя літары ў Расіі доўгі час называлі «беларускай азбукай».

Ганенні на брацкія друкарні і іх выданні з боку Рэчы Паспалітай, каталіцкай і уніяцкай царквы перасоўвае іх з захаду на ўсход — у Магілёў і Куцейну пад Оршай. Тут ужо шчыраваў улюбёны ў кнігу вандроўны беларускі друкар, сын бургамістра Магілёва, Спірыдон Собаль, які заснаваў друкарню ў Куцеінскім манастыры.

У Куцейне ён выдаў «Буквар», «Малітвы паўсядзённыя» і «Часаслоў», у Буйнічах надрукаваў «Псалтыр», а ў Магілёўскай братняй друкарні — «Тастамент», «Псалтыр» і зноў жа «Буквар». Васемнаццаць кніг блаславіў людзям рэктар Магілёўскай брацкай школы, настаўнік Кіева-Магілянскай акадэміі, манах Сільвестр, якога пасля сумленнага зямнога жыцця на сустрэчу з Богам выправіла Кіева-Пячэрская лаўра.

У Магілёўскай брацкай друкарні ў 1693 годзе выйшла кніга, якая стала значнаю з'яваю ў развіцці беларускага кнігадрукавання. «Акафісты і каноны» былі шчодра праілюстраваны, выданне вылучалася высокім мастацкім узроўнем.

Кнігу ўпрыгожвалі больш за 30 гравюр, большасць з якіх стварыў таленавіты майстар друкарні Максім Вашчанка, выкарыстоўваючы рэдкую для тагачаснай беларускай кнігі тэхніку медзярыту.

Берасцейская «Біблія», выдадзеная ў верасні 1563 года на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага, — найбольш і найбагацей аздобленая з усіх беларускіх друкаваных кніг XVI стагоддзя. Невядомы гравёр зрабіў цудоўныя ілюс-

трацыі аж на ста старонках гэтага шэдэўра брэсцкай друкарні.

На сённяшні дзень гэта вельмі рэдкае выданне. Бо сын магната, Мікалай Радзівіл Сіротка, заўзяты каталік, пасля смерці бацькі загадаў збіраць усе яго пратэстанскія берасцейскія выданні і паліў іх на двары Нясвіжскага замка. Мусіць, у тых вогнішчах згарэла і большая частка тыражу Брэсцкай, ці Радзівілаўскай, Бібліі — гэтага унікальнага помніка нашага старажытнага друкарства.

Цяжкія ўмовы для беларускай кнігі склаліся пасля далучэння Беларусі да Расіі: усё часцей выяўляліся пагардлівыя адносіны да нацыянальнай культуры беларусаў, да іх мовы і літаратуры, жорсткія цэнзурныя рэпрэсіі. Тады, як піша Максім Багдановіч, «дзеянне беларускага права (якое гарантаваў т. зв. «Літоўскі статут») было адменена, уніяцкая рэлігія, якая стала ў краі быццам нацыянальнай беларускай верай, знішчана, пропаведзі на беларускай мове забаронены, беларускія кнігі канфіскаваны і спалены, пісанне новых не дазволена».

Беларуская кніга была забаронена. Яе друкавалі тады толькі за мяжою — у Жэневе, Тыльзіце, Кракаве, Познані, Львове. І то часам пазначалі: перакладзена з балгарскай ці якой іншай мовы. Асабліва пасля паўстання 1863 года.

А беларускія брацкія друкарні спрабуюць выкарыстаць для сваіх мэт раскольнікі, якія з'явіліся на Беларусі ў XVII стагоддзі. Магілёўская, Гарадзенская Каралеўская, Супрасльская і Віленская Троіцкая друкарні выдаюць для раскольнікаў шэраг кніг.

І ўсё ж на Беларусі з'яўляюцца кнігі, якія потым стануць для яе народа сапраўдным скарбам. Гэта «Памятные книжки» і «Обзоры» ўсіх беларускіх губерняў, «Витебская старина», «Минская старина», «Полоцко-Витебская старина» і інш. Гэта кнігі Карскага, Нікіфароўскага, Раманава, Сапунова, у якіх даследавалася мінулае Беларусі. Тады ж, нягледзячы на забарону, былі напісаны па-беларуску ананімныя паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда на-

вывараг». Хоць гэтыя паэтычныя шэдэўры распаўсюджваліся пакуль у спісах, яны былі ўжо класічнымі нашымі кнігамі.

У той жа час, калі выкарыстанне беларускай мовы ў Расійскай імперыі было забаронена, археограф і мовазнаўца Іван Грыгаровіч, родам з Прапойска, з фінансавою падтрымкаю гомельскага графа Мікалая Румянцава ў 1824 годзе выдае ў Пецярбургу зборнік «Беларускі архіў старажытных грамат», большасць дакументаў якога былі напісаны на беларускай мове. А потым навуковец выпускае і пяцітомны збор «Актаў Заходняй Русі», дзе друкуе дакументы аб войнах, паўстаннях, міжканфесійных адносінах у XIV — XVII стагоддзях на беларускіх землях.

Пазней, у 1870 годзе мовазнавец і этнограф Іван Насовіч складае і выдае першы тлумачальна-перакладны «Слоўнік беларускай мовы» на 30 тысяч слоў, за што атрымлівае шаноўную на той час Дзямідаўскую прэмію.

У пачатку XX стагоддзя беларуская кніга атрымала права на легальнае існаванне. Пасля забароны, з 1900 па 1917 год выйшла 4355 кніг! З'явіліся два цэнтры выдання кніг на беларускай мове — Пецярбург і Вільня. Першае легальнае беларускае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», што было створана ў Пецербургу, выдала 38 кніг тыражом больш за 100 тысяч экземпляраў — «Беларускі лемантар» Каганца, «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі, «Жалейка» Купалы і іншыя кнігі.

Спрыялі выданню беларускіх кніг гады беларусізацыі і засмучалі гады рэпрэсій, калі складаліся вялікія спісы на забарону кніг. Толькі ў 1937 годзе ў такі спіс было ўнесена 399 беларускіх выданняў...

Свой выключны росквіт беларуская кніга, як ні дзіўна, перажыла ў СССР, пры савецкай уладзе. Асабліва ў апошнія сорак-пяцьдзесят гадоў мінулага стагоддзя. За гэты час былі выдадзены дзесяткі збораў твораў беларускіх пісьменнікаў. «Беларуская народная творчасць» — важкая серыя ў паўсотню тамоў, «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў шасці кнігах, «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ў васьмі тамах.

Шмат унікальных выданняў ажыццявіла выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», створанае ў 1967 годзе. Гэта 12-томная «Беларуская Савецкая энцыклапедыя», пяцітомная кароткая беларуская энцыклапедыя, чатырохтомная энцыклапедыя «Прырода Беларусі», пяцітомная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва», пяцітомнік «Беларускія пісьменнікі», аднатомныя энцыклапедычныя даведнікі «Беларусь», «Этнаграфія Беларусі», «Беларуская мова», «Археалогія і нумізматыка», «Бульба», «Архітэктура Беларусі» і інш. Выдавецтва завяршыла выданне універсальнай 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» і шасцітомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», якая ўпершыню ў жыцці нашай краіны сабрала найбагацейшы гістарычны матэрыял.

Факсімільным спосабам «БелСЭ» узнавіла «Статут ВКЛ», а да 500-годдзя з дня нараджэння Скарыны такім жа чынам выдала і Скарынаву «Біблію». Калі «Статут» увабраўся ў адну кнігу, то «Біблію» давялося ўціскаць у тры вялікія фаліянты.

Клопатам шмат якіх выдавецтваў выйшлі з друку 144 хронікі «Памяць», у якіх гісторыя і сучаснасць усіх раёнаў краіны.

Беларуская кніга — гэта сотні тысяч выданняў і мільёны экзэмпляраў, якія надрукаваны ў розныя стагоддзі ў розных краінах, розных гарадах і розных выдавецтвах.

Беларуская кніга — гэта і «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага, якую паэт напісаў на лацінскай мове ў Рыме ў 1522 годзе па просьбе папы Льва X, які хацеў пачуць праўдзівае слова пра нашага волата, нашага бізона: Мікола з Гусава стварыў сапраўдны гімн пушчам сваёй далёкай радзімы, свайму краю, мужным і добрым людзям роднай зямлі.

Беларуская кніга — гэта і «Прамова Мялешкі», выдатны шэдэўр патрыятычнай літаратуры сярэдзіны XVII стагоддзя невядомага аўтара, накіраваны супраць замежнага засілля на беларускіх землях, думкі пра небяспеку страты беларускім народам сістэмы ўласных нацыянальных каштоўнасцей. «Прамова Мялешкі« доўгі час нідзе

не друкавалася і кнігаю стала толькі праз два стагоддзі і то адно ў перакладзе на польскую мову.

Беларуская кніга — гэта і зборнікі вершаў Сімяона Полацкага, «трудніка слова» пры царскім двары, якога ў манастве за вершаскладанне адпраўлялі чысціць канюшні, а то і закоўвалі ў кайданы ды кідалі ў цямніцы, а потым у Маскве яго, настаўніка царэвічаў, асуджалі за тое, што ягоныя вершы не з цудоўных кветак праваслаўнага багаслоўя, а з «бадлівых церняў заходняй навізны і выдумак» сплецены, і таму пасля смерці паэта яго кнігі былі прызнаны ерэтычнымі і забаронены.

Беларуская кніга — гэта і «Слуцкі пояс» Анатоля Астрэйкі, якую беларускія партызаны, выкарыстаўшы ваксу с сажай замест фарбы, літары, выразаныя з дрэва, выдалі ў лясной друкарні. Бачыце, рукі прагглі зброі, а душа — паэзіі, кнігі.

Душа заўсёды прагне кнігі, бо без яе яна абдзеленая.

Душа без кнігі няпоўная.



## ЯК МЫ АПРАНАЕМСЯ

Часам мы наракалі на свой лёс, скардзіліся, уздыхалі:

— Усе мае ўборы — лапці ды аборы.

І самі ведалі: крыху хітруем, нагаворваем на сябе, прыкідваемся.

Вядома, у свой час былі ў нас і лапці, і ногі свае мы спавівалі аборамі. Самаробныя, сплеценыя са свежага, альбо размочанага ў цёплай вадзе лыка — ліповага ці лазовага, — лапці ад самай старажытнасці былі асноўным нашым абуткам.

Але ж мы заўсёды любілі і ўмелі прыгожа, дыхтоўна і зручна абувацца і апранацца.

Тыя ж нашы лапці часцей за ўсё мелі выгляд аздобы, упрыгажэння, а не ўсяго толькі абутку. Асабліва на жаночых нагах. Жанчыны ўмелі ўбачыць у іх і паказаць

усім і вытанчанасць саміх лапцей, і асабліва павабнасць, гожасць сваіх ножак, абутых у звычайнае лыка.

Падплеценыя пахлапні, лапці касога пляцення, былі такія зграбненькія, што тагачасныя модніцы па некалькі гадоў запар фарсілі ў іх толькі ў святы: і лапці, і беленькія анучы, перавязаныя пафарбаванымі аборамі, выглядалі вельмі шыкоўна.

І мужчынская нага ў лапцях, зімою закручаная ў суконкі, абкладзеная ў вялікія маразы сенам ці дробнаю саломаю, абгорнутая зверху белаю палатнянаю анучаю, выглядала таксама вельмі раскошна.

Рабіліся лапці лёгка, проста і хутка — за вечар селянін мог сплесці адну, а то і дзве пары лапцей.

І яны хараша глядзеліся з нашым адзеннем: з андараком, фартухом ці з кошыкам — у жанчын, з саламяным капелюшом ды цэпам у руках — у мужчын.

Што ж, у лапцях тады хадзілі не толькі мы, а і шмат якія іншыя народы — усходнія і заходнія славяне, балты, шматлікія плямёны Расіі.

У лапцях фарсілі і мы.

І без штаноў калісьці мы зноў жа хадзілі. А што тут дзіўнага — тады ўсе хадзілі без штаноў. І князі, і вешчуны, і іншая даўняя знаць. Нават старажытныя рымляне — і патрыцыі, і плебеі — не ведалі штаноў, хадзілі ў туніках.

Тунікападобная, доўгая, ніжэй каленяў кашуля з самаробнага палатна была калісьці ці не адзіным нашым адзеннем. Сеялі лён-каноплі, млялі-пралі і ткалі палатно. А потым адну полку палатна перагіналі на дзве роўныя палавінкі. А на лініі перагібу выразалі адтуліну для галавы, прышывалі рукавы ды ўстаўлялі кліны, калі камусьці кашуля здавалася цеснаватаю.

Кашуля — найстаражытны від нашага адзення. Яе даўней насілі мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці. Насілі на кожны дзень, у святы і ў будні.

А да гэтага мы хадзілі у звярыных шкурах. Накідкі-плашчы рабілі з лісця, пруткоў, трыснягу, кары дрэў. У неаліце прыдумалі ніткі — пачалі прасці валокны

дзікіх раслін і сшываць усё, што трэба і можна было сшыць.

Штаноў мы доўга не прызнавалі — мусіць, набраліся грэблівасці ад рымлян, якія, носячы тогу, называлі штаны адзеннем барбараў, адзяванне іх лічылі вялікаю абразаю для мужчын і былі пераканаyы, што порткі прыніжаюць годнасць грамадзяніна Рыма.

І ўсё ж свае нагавіцы — адзенне для ног — мы пашылі. Але з кашуляю не расталіся ўсё роўна — яе мы надзявалі навыпуск, зверху порткаў. У нагавіцах не было кішэняў, таму мы падпяразваліся поясам, на якім вісела каліта, куды мы клалі ўсе патрэбныя нам рэчы.

Даўней мужчынскага адзення ў нас было не шмат: сарочка, штаны, світа, пояс. І пояс для нас, мужчын, меў ці не самае галоўнае значэнне.

Мікалай Нікіфароўскі, беларускі этнограф і фалькларыст, расказваючы пра тую ўвагу, якую беларус надаваў поясу, пісаў, што з'яўленне на людзях «без шапкі і басанож не здзівіць староніх так, як з'яўленне без апаяскі».

Плеценыя, тканыя і вязаныя паясы былі абавязковым атрыбутам мужчынскага адзення. Шырыня іх дасягала 26 сантыметраў, даўжыня — да 3 метраў, і абкручвалі іх мужчыны вакол сябе 3 — 4 разы.

Поясам падпяразвалі не толькі сарочкі, але і верхняе адзенне. І на кожным вісела каліта — шабетка, мяшэчак, дзе мы насілі тытунь і грошы. Гэтую ролю нашага пояса сведчаць старадаўнія дакументы: «абарваўся пояс і загінуў мяшок з грашыма».

Адтуль шэдэўры нашага шоўкаткацтва — слуцкія паясы. Акрамя Слуцка, паясы такога ж узору выраблялiся ў нас у Гародні, Нясвіжы, Ружанах, Ліпкаве, ды яшчэ ў Кракаве і ў Францыі.

Мужчынскія шапкі — магеркі, малахаі, шапкі з вушамі, кучомкі, каўпакі, брылі. У XI — XII стагоддзях мы шылі шапкі з футра лісы, вавёркі, зайца. Затым з аўчыны — футрам навонкі. Наша старадаўняя шапка — аблавушка. Мы шылі яе таксама з аўчыны, падбівалі кудзеляй, пацягвалі сукном. Але больш прыгожа выглядалі

аблавухі, пашытыя з лісінага ці вавёрчынага футра. А яшчэ мы насілі валеныя шапкі, зробленыя з воўны — магеркі, валёнкі, валеныя брылі. А летам на нашых галовах хораша глядзеліся саламяныя капелюшы.

Апрача кашулі, была ў нас яшчэ мужчынская безрукаўка, камізэлька, якую потым у нас перахапілі жанчыны і назвалі яе па-свойму — гарсэтам. Як жа прыгожа яна пачала глядзецца на вабнай жаночай постаці! Пашыты з аксаміту, парчы ці шоўку, шыкоўны гарсэцік, які аблягаў жаночы стан, зрабіўся для мужчын такім прывабным.

А напрыканцы мінулага тысячагоддзя жанчыны перахапілі ў нас і нагавіцы, змусіўшы мужчын па-іншаму зірнуць на, здавалася б, такія ўжо нашы штаны...

Тады ж яны адабралі ў нас і нашы боты...

З верхняга адзення нас — і мужчын, і жанчын — заўсёды ратавалі ў стагоддзях світа, сярмяга, латушка, бурнос, кажух. Шылі мы світкі з валенага нефарбаванага сукна, а кажух — з дублёных і недублёных белых і вохрыста-чорных аўчын. І ведаеце, нашы, футрам падшытыя ўзімку, світы, а таксама кажухі хораша глядзеліся тады нават на князях і каралях. Кароль Польшчы Ягайла, звыклы да сваіх беларускіх аўчын, і ў каралеўскім замку на Вавелі хадзіў у звычайным кажуху, пацягнутым сукном.

Ужо не кажучы пра жанчын, якія і тады свае кажухі ды світы гэтак выштукоўвалі, што яны адразу ж выглядалі не толькі адзеннем, але і прадметам сапраўднага мастацтва — на іх прыемна было глядзець.

Баяры шылі вопратку з прывезеных тканін — з парчы, аксаміту, тафты, камкі. Магнаты ўпрыгожвалі свае строі залатой і сярэбранай вышыўкай, каштоўнымі камянямі. Князі апраналіся ў воўчае і бабровае футра, княгіні насілі золататканае адзенне.

Тканіны тады каштавалі вельмі дорага — як і каштоўныя камяні.

Было ў нас і асаблівае мужчынскае адзенне, якое насілі толькі воі. Гэта — кальчугі. Яны каваліся з маленькіх жалезных кольцаў. Такія нашы кашулі былі

вельмі цяжкія — некаторыя кальчугі збіраліся аж з 60 тысяч кольцаў.

Але і жанчыны мелі і маюць сваё адзенне, якое спрадвеку было і ёсць толькі жаночае. Без гэтага адзення, шчыра кажучы, няма ніякага адзення ў жанчын. Яно нават самую сціплую, звычайную вопратку робіць шыкоўнай, прыгожай.

Гэтыя ўборы — жаночыя ўпрыгажэнні.

У час Полацкага і Турава-Пінскага княства не было асаблівай розніцы паміж гарадскім і сялянскім адзеннем. Толькі княжацкія строі вылучаліся дарагімі тканінамі і візантыйскім кроем. І адрозніваліся ўпрыгажэннямі: гарадскія модніцы насілі шкляныя бранзалеты, пярсцёнкі і скроневыя кольцы, а сялянкі больш за ўсё любілі пацеркі.

Спачатку яны былі з зубоў лася ды мядзведзя, а таксама з бурштыну. На адну нітку прыгажуні нанізвалі да 400 пацерак. Былі ў модзе бісер, сярэбраныя і бронзавыя зярнёныя пацеркі і, вядома ж, залатыя.

А колькі выдумкі, густу, дасканаласці, знаходлівасці праяўлялі беларускія жанчыны, ткучы і шыючы ўсё для сябе самой і апранаючы ўсю сям'ю!

А якія галаўныя ўборы яны стваралі, прыдумлялі для сябе — каб тыя яшчэ болей падкрэслівалі прыгажосць і вабнасць іхніх твараў! Для гэтага выкарыстоўвалі самае тонкае сваё палатно і тыя купленыя тканіны, якія былі даступныя сялянцы.

Дзяўчаты па святах упляталі ў валасы стужкі, укоснікі, каснікі, а ў звычайныя дні — уплёткі, акройкі каляровай матэрыі. Непакрытая галава была ў нас адзнакаю дзявоцтва. Таму дзяўчаты часцей за ўсё хадзілі галалобыя, а нашы старажытныя дзявочыя ўборы не мелі верху. Вянкі — палоскі з бяросты ці лубу, абшываліся тканінай і ўпрыгожваліся ніткамі, шклянымі пацеркамі, металічнымі бляшкамі, а скіндачкі, шлячкі — галаўныя павязкі ў выглядзе вузкага ручніка з арнаментаванымі канцамі ці вышываным налобнікам завязваліся так, каб не закрываць валасы на макушцы.

А ўжо замужняя жанчына не магла з'явіцца на людзях з непакрытай галавою. Яе галава заўсёды была прыбрана ці то наміткаю, сярпанкаю, хусткаю, ці то галовачкай, сарокаю ды рожкамі, ці то каптурыкам, падвічкаю або чапцом.

Найбольш шанавалася нашымі жанчынамі намітка — яна неверагодна шматлікімі спосабамі павівалася вакол галавы, прыгожа драпіравалася на спіне, а таму жаночая постаць у ёй рабілася статнай і велічнай.

І ў жанчын у даўніну асноўным адзеннем была кашуля. Яна, зусім белая, вышывалася на рукавах, на манжэтах, на каўняры, на грудзях і мела заўсёды своеасаблівы выгляд у залежнасці ад таго, як і з чым жанчына яе апранала: насіла са спадніцай і фартушком, або са спадніцай і гарсэтам, або з андараком, пярэднічкам ці ліфам.

Ніжняе адзенне, у якое запраўлялася кашуля, пашытае з дамотканага палатна, спрадвек называлася спадніцаю.

Спадніцы, якія шыліся з шарсцяной тканіны свойскага вырабу, мы звалі і завем андараком.

Паясное жаночае адзенне, пашытае з куплёнай шарсцяной тканіны ці тонкага крамнага сукна, аздобленае аксамітамі, было для нас саянам і каштавала вельмі дорага — аж чатыры капы грошай.

Наша адзенне хораша ўпісвалася ў нашы краявіды, падыходзіла да нашай працы і адпачынку, адпавядала нашаму ладу жыцця, яднілася з нашымі абрадамі і звычаямі.

У нацыянальным касцюме — душа, светапогляд беларускага народа. Яго погляд на прыроду, грамадства, сям'ю. Гармонія між чалавекам і светам. Уяўленне пра сваю існасць.

Адзенне — гэта аповяд пра жыццё народа, яго сувязь з гісторыяй і прыродай.

У пост мы насілі адно адзенне — у ім адсутнічаў чырвоны колер.

На свае святы — Першай баразны, Першага снапа, Першага пракосу, у дзень выгану кароў на юр'еўскую расу — мы апраналіся вельмі ўрачыста.

Сваё адзенне было ў нас на вяселле і радзіны, падчас радасці і жалобы.

У сваіх тканых рэчах мы выкарыстоўвалі шмат колераў — зялёны, жоўты, сіні, белы, аранжавы, блакітны, але пераважаў усё ж чырвоны. Бо ў даўнія часы чырвоны колер быў у нашых продкаў сімвалам жыцця.

На нашым адзенні, асабліва на жаночым, шмат арнаменту, у які ўводзяцца раслінныя і птушыныя матывы — ружы, незабудкі, валошкі, званочкі, галубы, паўліны.

Прыгожа выглядала наша адзенне не толькі ў тагачасных слюдзяных люстэрках, але і ў ціхай, супакоенай вадзе рэк і азёр, у якія нашы прыгажуні любілі, прыхарошваючыся, глядзецца ў бязветраны дзень.

Наша адзенне, маючы найперш вельмі практычнае, ужытковае значэнне, нясе ў сабе яшчэ і вялікі мастацкі вобраз і сэнс. Яно скіравана на чалавека і без чалавека не існуе — яны ўспрымаюцца толькі разам: чалавек і яго адзенне.

Нездарма ж беларусы гавораць: «Прыбяры нават пень, дык і той прыгожы будзе».

Кунтуш — верхняе адзенне заможных мужчын — мы насілі заўсёды расшпіленым. Каб быў відаць жупан, на які апранаўся кунтуш. Хацелася, каб усе бачылі і тое, і другое, бо яны абодва — прыгожыя: кунтуш быў суконны ці шаўковы, падшыты футрам, а жупан з белага сукна, блакітнага атласу ці кармазынавы.

Вільчуру — зімовае мужчынскае адзенне з ваўчынага футра з вялікім каўняром — мы звычайна апраналі зімою ў дарогу.

Камізэльку адзявалі толькі пад сурдут — з'яўляцца на людзях у адной камізэльцы, хоць і зашпіленай на ўсе гузікі, лічылася непрыстойным.

Сак, што ў перакладзе з французкага азначае «мяшок», наша кароткае і прасторнае адзенне, спачатку быў мужчынскім, але, калі ў нас з'явіўся пінжак, яго зноў жа перахапілі жанчыны, і ён, расклёшаны, з прыгожымі складкамі і вышыўкай, зрабіўся іхнім.

Паліто, радзімаю якога з'яўляецца Францыя, — вядомае ва ўсім свеце адзенне для вуліцы — канечне ж ужо даўно і наша: яно, аздобленае намі, мае адмысловыя формы ў жанчын і зручнае для мужчын.

Жаночае манто вольнага крою, пашытае з тканіны ці футра, зашпільвалася на адзін гаплік ці завязвалася ля шыі. Ад паліто яно адрознівалася тым, што не мела зашпілек аж да самага нізу. І сёння яно блізкае княжацкім вопраткам, якія таксама трымаліся толькі на адным гузіку зверху.

Наша сённяшняе адзенне, хоць, вядома ж, бярэ свой пачатак адтуль, з сівой даўніны, цяпер зусім іншае.

Калі раней нашы жанчыны шукалі сабе вопратку найперш для таго, каб у ёй было цёпла, а потым ужо і прыгожа, то цяпер мы спачатку дбаем, каб наша адзенне было прыгожае, а потым — каб у ім нам пачувалася ўтульна.

Калі цяперашнія модніцы купляюць ці шыюць новыя футэркі, дык яны абавязкова павінны быць з грэнладскага цюленя.

Калі паліто — то з каракульчы. Дарэчы, менавіта з каракульчы шыюць модныя цяпер жакеты, спадніцы, плацці і нават штаны.

Калі кажух, ці па-цяперашняму — дублёнка, то краі ў ім павінны быць рванымі, няроўна абрэзанымі, а колеры — неймаверных адценняў: ад кофе з малаком да бэзавага.

Вось як Беларускі цэнтр моды ў Мінску вызначыў нашу моду толькі на адзін з вясенне-летніх сезонаў новага тысячагоддзя. Беларускія дызайнеры прапаноўваюць чатыры асноўныя тэмы для жаночага адзення.

Стыль «Дзіва» для сур'ёзнай жанчыны мае на ўвазе класічныя спадніцы класічнай італьянскай даўжыні, маленькія жакеты з накладнымі кішэнямі, трыкатажныя кофтачкі са шматлікімі завязкамі і аборкамі.

«Футурыстычны гламур» -- гэты стыль мадэльеры прапаноўваюць для тых, хто хоча апранацца ў стылі поп-арта, абстракцыянізма, авангардызма.

«Горад прыбою» — адзенне для людзей, якія любяць адпачываць каля мора. Колеры навеяны марскою тэма-

тыкай: блакітны, аліўкавы, жоўты, чырвоны. Шмат палосак, клапанаў.

Для маладых дзяўчат — стыль «Зорка тусоўкі»: джынс у спалучэнні з шыфонам, этнічныя набіўкі, шчыльна аблеглыя джынсы.

У Мінску і ў іншых нашых гарадах шумяць конкурсы мадэляў, стыльнага адзення. Агенцтва моды дызайнера Сашы Варламава праводзіць штогадовыя конкурсы маладых мадэльераў «Млын моды». Такія фестывалі моды прайшлі ў Магілёве, Віцебску, Брэсце, Гродне, Бабруйску. У Бабруйску Саша Варламаў, кіраўнік Цэнтра сучаснага стылю і моды, пажартаваў:

— Глядзі ты, так далёка ад Парыжа, а так хораша шыюць.

І гэта праўда — у Францыі і ў іншых краінах свету ведаюць беларускую моду. Нездарма ж сусветна вядомы французскі мадэльер П'ер Кардэн узнагароджаны нашым вельмі пашаноўным ордэнам Францыска Скарыны.

«Мілавіца» — прадпрыемства па вытворчасці гарсэтных вырабаў: бюстгалтараў, жаночых трусікаў, купальнікаў, начной і іншай споднян жаночай бялізны. Яно выпускае ў свет да 11 мільёнаў штук гэтай прыгажосці ў год. Штогод закрытае акцыянернае таварыства ўдзельнічае ў выставах у Парыжы. На «Мілавіцы» лічаць: жанчына не павінна адчуваць, што на ёй апранута нешта пад верхнім адзеннем, і таму прадукцыя прадпрыемства знаходзіць шляхі на рынкі Францыі, ЗША, Ізраіля, Аргенціны, краін Заходняй Еўропы.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Элема», якое раней было швейнай фабрыкай імя Крупскай, выпускае верхняе жаночае адзенне. «Элему» таксама добра ведаюць у свеце — яе элегантныя паліто і касцюмы з ахвотай купляюць у Маскве і Санкт-Пецярбургу, яна шые па заказу шмат якіх магазінаў Англіі і Францыі.

Высокае майстэрства беларускіх дызайнераў атрымала заслужаную ўхвалу як расійскіх, так і замежных вытворцаў сучаснага адзення.

Упершыню на Беларусі прайшоў фестываль «Лён-2005», які наладзіў Беларускі цэнтр моды. На ім — уся ўвага натуральнасці, зручнасці. Выразнасць, лёгкасць, раўнавага. Ніякай агрэсіўнасці — усё далікатна і мякка.

Сваю фестывальную калекцыю «Папялушкі» паказала жодзінскі дызайнер са «Світанка» Людміла Дзюшко. Дзіцячае адзенне павінна быць з натуральных тканін і яркім, радасным, як само дзяцінства. І дзяўчаткі, апранутыя ў плацейкі з бавоўняна-льнянога палатна, вытрыманага ў ружова-белых танах, выглядалі не папялушкамі, а сапраўднымі прынцэсамі. І немаўляты ў яркіх трыкатажных паўзунках таго ж «Світанка» выглядалі прыгожа, фацэтна, годна.

«Жыўчык» — модную калекцыю мужчынскага льнянога адзення — прапаноўваў Міхаіл Мытнік, таксама жодзінскі дызайнер. Яна прызнана самаю арыгінальнаю ідэяй фестывалю. «Маёю задачаю, — тлумачыў Мытнік — было паказаць з дапамогай ільну беларускія традыцыі і самабытнасць. Аднак у калекцыі, апрача гістарычных элементаў стылю, выкарыстаны і апошнія павевы моды».

Калекцыя «Этна» Тамары Вальдзько, прадстаўленая Аршанскім ільнокамбінатам, атрымала галоўны прыз за самае стыльнае адзенне. А яна таксама нібыта адлюстроўвае жыццё нашых продкаў.

І «элемаўская» льняная калекцыя, у якой цудоўна спалучаецца шарм і прастата, пацвердзіла словы мадэльераў, што жаночае адзенне павінна «усяляць пачуццё ўпэўненнасці і ў той жа час крышачку цешыць сваю гаспадыню».

А з беларускім народным адзеннем у той жа Францыі, да прыкладу, пазнаёміліся яшчэ ў канцы мінулага тысячагоддзя. Там, у Парыжы і Ліёне, паспяхова прайшлі мастацкія выстаўкі «Беларускі нацыянальны касцюм», арганізаваныя вядомым фалькларыстам, прафесарам Міхасём Раманюком.

Міхась Фёдаравіч Раманюк быў апошнім класічным этнографам Беларусі, які не меў сабе роўных у зборы скарбаў народнай культуры — вясковая архітэктура, пры-

лады працы, посуд, мэбля. І асабліва — адзенне. Яго альбом «Беларускія народныя строі», як сцвярджаюць даследчыкі, «па шырыні ды маштабнасці — праца, вартая вялікага навуковага калектыву».

Калекцыя беларускага народнага адзення, сабраная Раманюком, унікальная — цяпер многае страчана і такую калекцыю ўжо не змог бы сабраць ніхто.

Прафесар Раманюк зрабіў мастацтвазнаўча-этнаграфічнае раянаванне беларускага народнага адзення XIX — XX стагоддзяў, стварыў сцэнічныя касцюмы для Дзяржаўнага народнага хору Беларусі, для Дзяржаўнага ансамбля танцаў Рэспублікі Беларусь, для некаторых самадзейных калектываў.

Так што беларускае народнае адзенне жыве і ў наш час!

Жыве і радуе нас. На сцэне ды яшчэ ў музеях.

І мы, удзячныя яму, нізка схіляем перад ім галовы — яно ж грэла і ўпрыгожвала нас столькі стагоддзяў!



## З ЧАГО МЫ СМЯЕМСЯ

Дарэчы, а чым найперш адрозніваецца чалавек ад жывёлы? Тым, што ўмее смяяцца!

Увесь жывёльны свет умее плакаць — конь плача, карова плача, кошка плача. І слёзы коцяцца. Кожная жывёліна можа засмучацца, тужыць, радавацца і гэта відаць не толькі па вачах, але нават і па хвасце — заўважалі, як сабака пачынае віляць хвастом, убачыўшы дарагога яму чалавека?

А вось смяяцца ніхто з іх не можа!

Чалавека ж Бог узрадаваў гэтаю шчасліваю неспадзяванкаю — шчыра смяяцца!

І мы смяемся. І лечымся сваім смехам. Бо, як падлічылі пунктуальныя немцы, звычайны рогат «мабілізуе 80 розных мускулаў, узварушвае антыцелы, умацоўвае імунную сістэму і з дапамогаю эндарфінаў размяркоўвае адчуванне шчасця па ўсім арганізме».

Дык з чаго ж, з каго найперш смяецца беларус? А з самога сябе, са сваіх недахопаў. Не ведаю, ці разумеем мы, што з самога сябе можа смяяцца толькі разумны, мудры, упэўнены ў сабе чалавек, але ж мы найперш смяемся менавіта з саміх сябе!

Ян Райніс, вялікі латышскі паэт, якога маці выхавала ў дзяцінстве на беларускіх народных песнях, як быццам і пра нас гаварыў: «Усміхніся над сваімі нягодамі — горыч знікне. Усміхніся над сваім ворагам — знікне яго злосць. Усміхніся і над сваім азлабленнем — не стане і яго».

І мы пацяшаемся самі над сабою — часам з'едліва, а часцей за ўсё велікадушна: нібыта самі сабе даруем свае грахі.

Беларус расказвае пра сваіх суседзяў:

— О, мае суседзі вельмі гасцінныя людзі. Бывае зайду да іх, дык яны не ведаюць, дзе мяне пасадзіць. Я пастаю, пастаю ў парозе ды так і пайду дадому.

Адчуваеце? Мае суседзі, маўляў, не вінаватыя. Бог з імі, такой бяды, што не пасадзілі, быў бы толькі гэты клопат...

Мы, калі яшчэ не было мабільных тэлефонаў і Інтэрнэту, пацвельваліся з тэлеграфа:

— Куме! Як гэта з тэлеграфам робіцца: націснуць на адным канцы, а гавораць на другім?

— Гэта, брат, акурат, як з сабакам: пацягні яго ззаду за хвост, а ён спераду забрэша.

А часам у сваіх жартах мы любім выкарыстоўваць дзяцей і даём ім магчымасць падсмейвацца з нас.

— Сынок, — пытаецца маці ў хлапчука, — скажы, што гаварыў бацька, калі даведаўся, што я разбіла яго гадзіннік?

— Лаянку прапусціць? — у сваю чаргу пытаецца той.

— Вядома, сынок.

— Тады нічога не гаварыў.

Нярэдка нашы дзеці быццам здзекуюцца з нас.

— Дзядуля, а ты быў маленькі?

— А як жа, унучак, быў.

— Відаць смешным ты здаваўся ўсім са сваёю барадою...

Па-свойму ў нашых жартах асуджаюць дзеці і п'янства сваіх бацькоў.

Міліцыянер пытаецца ў хлопчыка:

— Твой татка варыць самагон?

— Не, ён яго сырым п'е.

Хоць мы і самі п'ём часам мнагавата, аднак жа смяемся з п'яніц.

Гавораць жанчыны:

— Гэта ж, мусіць, твой п'янтос вяртаецца. Чуеш, спявае: «За туманам нічога не відна».

— Не, гэта не мой. Мой такой песні не ведае.

А вось як у нашых анекдотах гаворыцца пра масавы адпачынак мужчын — лоўлю рыбы.

— Пойдзем, Пятро, заўтра на рыбалку.

— Дык я ж не ўмею лавіць рыбу.

— А што там умець? Налівай і выпівай, налівай і выпівай.

Не абмінаем мы ўвагаю і паляўнічых. Праўда, пацяшаемся з іх дабрадушна.

— Суседзе, ці добра б'е твая стрэльба?

— Вельмі добра. Учора з паліцы звалілася дык аж пяць гаршкоў пабіла.

Неяк так ужо павялося, што ўсе вераць: паляўнічых без маны не бывае.

— Ведаеш, Янка, я ўчора падстрэліў зайца аж на дзесяць кілаграмаў.

— А я ў нядзелю забіў зайца на цэлы пуд.

Першы паляўнічы пачухаў патыліцу, незадаволена перасмыкнуўся:

— Шкада, што я першы пачаў размову.

А смяяцца з саміх сябе мы самі ж і даём часам зачэпку.

— Ты мяне кахаеш? — пытае жонка ў мужа.

— Гэтак жа, любая, як і ты мяне.

— Ну, ведаеш...

Ці жарт — не зусім яшчэ з барадою.

— Чаму ў цябе такі гузак на галаве?

— Ды жонка шпурлянула ў мяне памідорамі.

— Дык яны ж мяккія...

— Але ж яны былі ў слоіку.

Ці зусім свежанькі анекдот.

— Чым новы беларус падобны на бульбу?

— І яго або вясною пасадзяць, або восенню ўбяруць.

Дабраліся мы, урэшце, і да новых беларусаў! Сённяшні жарт:

Новы беларус упершыню наведаў вёску. Вярнуўшыся, расказвае жонцы:

— Там чалавек, я сам бачыў, зрабіў жывога каня.

— Не гавары глупства, — адмахнулася ад яго жонка.

— Чыстая праўда! Калі я падышоў, ён ужо заканчваў прыбіваць яму ногі...

Вось да чаго можа дадумацца чалавек, які ніколі не бачыў, як падкоўваюць коней.

І яшчэ анекдот пра нашых багатых:

— Вярнуўся з Егіпта, — хваліцца адзін з іх другому. — Прывёз піраміду Хеопса.

— Гэта яшчэ навошта?

— Разумееш, мой сын у ліцэі вучыцца, дык у яго настаўніца нейкая дзіўная — грошай не бярэ, а толькі просіць дапамагчы з нагляднымі дапаможнікамі.

Часам мы грубім, але грубім неяк стрымана, неўвачавідкі.

Сядзіць заяц, глядзіць тэлевізар. Уваходзіць цешча з мятлою. Заяц пытаецца ў яе:

— Мама, вы падмятаць будзеце ці паляціце куды?

Хіба ж тое грубасць? Як і ў наступным анекдоце:

Стары вясковец, прыехаўшы ў горад, заходзіць у шыкоўны магазін і пытае:

— Ці не тут прадаюцца хамуты?

— Не, дзед, — адказваюць яму два гарадскія франты, — тут прадаюцца толькі дурні.

— Бач ты, — дзівіцца, круцячы галавой, стары. — Відаць, і торг ідзе добра, бо толькі двое вас і засталося...

А гэта, здаецца, не наш анекдот. Але ён вельмі ж ужо забеларусіўся.

— Скажыце, калі ласка, колькі каштуе вось тое калье?

— Сто тысяч.

— Кашмар! А вунь той пярсцёнак?

— Два кашмары, пані.

Дык а які ж ён тады наш, самы беларускі жарт? Мусіць, вось гэты, што сведчыць пра нашу ўпарадкаванасць, грунтоўнасць.

Дзядзька рана раніцою выйшаў на двор, робіць, што трэба. Сусед праз плот пытаецца, як жыццё.

— Ай не пытайся, — адказвае дзядзька, — шмат працы, а я нічога яшчэ не зрабіў: вада не наношана, дроў не наколата, сена скаціне не пакладзена, жонка не цалована.

Бачыце, усё ўнармавана, усё па парадачку: вады прынесці, сена накласці, жонку пацалаваць...

Нешта ад нашага характара ёсць і ў наступным досціпе.

Вяселле. Сталы пазастаўляны прысмакамі. Пітва — пі, хоць распеража́ыся. Скокі, жарты, весела. Беларусу ж яно не спадабалася

— Чаму? — здзівіліся госці.

— Прымусу мала было, — адказаў беларус.

А можа, самы беларускі якраз сумна вядомы наш анекдот пра цвік.

Стаіць крэсла. Сеў на яго прадстаўнік адной нацыі, ускочыў, узняў крык: «Што гэта такое?! Ды я...»

Сеў прадстаўнік другой нацыі, тут жа падхапіўся, залямантаваў: «Што гэта за здзек?! Ды я...»

Урэшце, сеў беларус. Пасядзеў, пасядзеў, паволі падняўся, нагнуўся над крэслам, убачыў убіты вострыём угору цвік, пачапаў яго пальцам і зноў сеў: а можа, так і трэба...

«А можа, так і трэба»... О, гэтая наша талерантнасць, памяркоўнасць! Як яна нярэдка замінала нам у стагоддзях! Але ж і ратавала!

А наш кірмаш — вясёлае, светлае свята! Дзе кірмаш — там і жарты, там і барышы.

Баба кажа дзеду:
— Ты сёння на кірмашы быў?
— Ну быў.
— Карову прадаў?
— Ну прадаў.
— А дзе грошы?
— Спаць, старая, спаць!

Ці вось яшчэ кірмашовы жарт.

— А што вы робіце, калі не сакрэт, што ў вас усе добрыя яблыкі? А ў мяне то чарвівыя, то гнілыя.

— Ёсць і ў нас, міл чалавек, і чарвівыя, і гнілыя, але мы іх самі ямо.

А як шмат прымавак і прыказак нарадзіў беларускі кірмаш! Да прыкладу:

Усё кірмашуе, пакуль грошы за пазухай чуе.

Калі купляць — сам ідзі, калі прадаваць — бабу пасылай.

Мяняй, мяняй — п'яны будзеш.

Без злодзеяў кірмаш не жыве.

Не ганячы не купіш, не хвалячы не прадасі.

Мы, беларусы, цвяроза глядзім на свет. І пасміхаемся:

Няма лепш, як украдзеш, няма горш, як зловяць.

Увогуле то мы законапаслухмяныя, але ж і нам часам хочацца страпянуцца, узмахнуць крыллем, бо:

Па закону жыць — і пеўня кукарэкаць адвучыш!

Часам мы задзіраемся, задаёмся:

Нам і мора па калена,
Нам і жыта па плячо.

Але ж ведаем:

Работа — не забота, забота, калі няма работы.

За добрым мужам і варона жона, а за дрэнным — і княгіня загіне.

Быў бы хлеб, а мышы збягуцца, — усміхаемся мы.

На сваім сметніку і верабей гаспадар, — падміргваем задавакам.

Рэчкі не пераплыў, а ўжо анучы сушыць, — пацяшаемся з нецярплівых.

З мядком і цвік праглынеш, — дадаем мы да добрага слова.

Потым, нібы пазяхаючы, глядзім кудысьці ўдалячынь:

Свет шырокі, ды лапаць цесны.

І дадаем: — Пайшоў бы тапіцца, але вада халодная.

А калі нехта, не маючы вопыту, вучыць нас, паблажліва ўсміхаемся:

— Папраў казе хвост.

Ох, як жа хараша ўмеем мы ўсміхацца на паўгубы:

Не лезь босы туды, дзе коней куюць.

Любіць аржаная каша сама сябе хваліць.

Ну во, маім пальцам ды мне ў вока.

Не з тваім ротам мышэй лавіць.

А то ўмеем і пашкадаваць, усміхаючыся, як у той прыказцы пра маладосць і старасць: што любіш — не купіш, а чаго не любіш — не прадасі.

Жонка, пасварыўшыся з мужам, пайшла ў прочкі. Калі вярнулася, муж і кажа:

— За тое, што пайшла, — дарую. А за тое, што вярнулася, — ніколі ў жыцці.

Нешта адбылося паміж Ім і Ёю, і мы апраўдваем іх абоіх: «І Ігнат не вінават, і Аўгіння не вінна — вінавата хата, што пусціла Ігната».

Здараецца ў нас і свая логіка выхавання: укладзі яму розуму цераз заднія вароты.

А так мы злуемся: вось вам хамут і дуга, я вам болей не слуга.

Гэтак бывае марым: каб яды было, як на дзяды, а работы, як у нядзелю.

Было б балота, а жабы знойдуцца, — махаем мы рукою.

Высока падняў, ды знізу не падпёр, — прыжмурваем вока.

Вялікі пень, ды дурань, — нарэшце робім свой прысуд.

— Не, і старога сабаку дзедам не завуць, — заўважаем, калі, нехта гаворыць не тое.

А нашы загадкі! Колькі мудрасці, столькі і смеху.

Прымружыць, да прыкладу, дзядзька адно вока, сур'ёзна глядзіць на цябе і пытаецца:

— Чырвоненькая дзірачка, бяленькі стручок. Скажы, што гэта?

І праўда, што гэта? Здаецца і сарамата, але ж... Не, не і яшчэ раз не — гэта не тое, пра што вы думаеце!

Гэта ўсяго толькі чырвоненькая ягадка і беленькі шпянёк, на якім яна трымаецца.

Ці яшчэ адна загадка: у бабы бліішчыць, у дзеда вісіць. А што гэта? Зноў жа не шукайце адгадку ў межах сваёй сапсаванасці. І гэта загадка вельмі цнатлівая. Адгадваецца яна проста: калодзеж і журавель над ім.

У прыпеўках мы, здараецца, больш распускаем свой язык

Маю мілку звацъ Хрысціна —
Рукадзельніцай была:
Рашатом кароў даіла,
Тапаром авец стрыгла.

Ох, як любіў, любіць і будзе любіць вострае слова беларус!

Ой, купіў сабе штаны,
Не дам ніяк рады:
Я зашыю спераду —
Яны рвуцца ззаду.

А часам і мы, такія цнатлівыя, умелі аскароміцца не зусім далікатным словам.

Бо адкуль жа тады маглі ўзяцца тыя нашы непрыстойныя, сараматныя прыпеўкі, якіх вядомы даследчык беларускага фальклору Міхаіл Федароўскі, аўтар слыннай працы «Беларусы», паназбіраў аж цэлы том, — іх выдаўцы і цяпер ці то баяцца, ці то саромеюцца выдаваць.

Але ж смех, нават такі салёны, — наш смех. І ад яго нам не трэба няёміцца: якія ёсць, такія і ёсць!

Тым больш, як мы ўжо казалі вышэй, мы смяёмся з сябе. А смяяцца з сябе можа толькі моцны і ўпэўнены ў сабе народ.

Значыць, і мы, і наш смех нязводныя!

Значыць, перад намі і новыя стагоддзі, і новыя тысячагоддзі!

Хвала і слава нашаму смеху!

Здаровы смех — здаровая нацыя!



## НАШЫ ХАТЫ

І вось тое, пра што мы так доўга марылі і што, не лічачыся ні з чым, настойліва набліжалі, нарэшце збылося!

Над хатаю, над комінам, на якім яшчэ не паспела абсохнуць гліна, гэтак ужо жытлова завіўся першы дымок.

Ёсць дымок — значыць, у новай хаце з'явілася душа: печка.

Ёсць печка — значыць, у нашай хаце пасялілася жыццё.

Пасялілася не на дзень, не на год, а на ўвесь наш век — назаўсёды.

Мы не будавалі сабе, як паўночныя людзі, іглу-хату са снегу, бо ведалі, што прыйдзе вясна і яна ў нас растане.

У нас не было пераносных чумаў, бо мы вельмі аселы народ і вельмі любім раз і назаўсёды абранае месца: як пабудаваўся — дык навечна! Які там чум і навошта ён нам, качэўнік?!

Мы лясныя людзі, у нас вельмі шмат дрэў, таму свае хаты беларусы спрадвеку будавалі толькі з дрэва. У асноўным з сасны і з елкі. Крыху дадавалі дуба — дубовыя бярвенні ішлі ў нас на падруб, клаліся на зноў жа ўкапаныя ў зямлю дубовыя штандары, былі першымі вянцамі нашых хат. Дуб стагоддзямі не гніе, а наша хата павінна стаяць вечна.

Мы ведалі: у нашай хаце будзем жыць мы, нашы дзеці, нашы ўнукі, а то — і дай бог чутае ды ўбачыць! — нашы праўнукі.

Таму заканчэнне будаўніцтва новай хаты заўсёды было найвялікшым святам для ўсіх. На ўлазіны мы апраналіся ў самае чыстае адзенне — як на Вялікдзень. Уваходзілі ў новую хату — і адразу ж клікалі з сабою Хатнічка: ён, руплівы і дбайны, дапамагаў нам наладзіць у нашай святліцы лад і парадак.

Радаваліся новай хаце не толькі мы, людзі, а і ўсё, што жыло побач з намі, — куры, цяляты, ягняты, парасяты. Быццам і яны ведалі, што ўзімку, як прыцісну́ць маразы, наша хата і для іх стане такой жа гасціннай і ўтульнай, як і для нас. Няхай сабе ў падпечны, няхай сабе ў парозе, але ж ім будзе цёпла і ўлежна ўсю зіму.

У нашых хатах спрадвеку жылі калыскі і лаўкі, цвыркуны і качэргі, сталы і кросны, збанкі і цэбры, жорны і абразы. Ходзікі жылі, скацёркі жылі, абрусы жылі, ручнікі жылі — імі мы прыбіраем сваіх багоў.

І багі заўсёды жылі ў нашых хатах.

Здаралася пра нас нехта гаварыў: усё ў іх шэрае — і хаты, і палі, і адзенне. Мусіць, яны ніколі не бачылі нас у святы, бо якраз тады чысціню і беліню нашай вопраткі немагчыма было не заўважыць — яна аж слепіць вочы. А працоўная наша вопратка, канечне ж, шэрая — хто ж гэта працаваць будзе прыбраны, як на свята?

Пэўна ж і палі нашы незычліўцы бачылі тады, калі зямля адпачывае. Тады яна і праўда шэрая. А якая яна смарагдавая ўвесну і якая залацістая ад зерня ўвосень, калі мы жнём!

Нашы хаты мы самі бачым не вачыма, а сэрцам. Таму яны ніколі не бываюць для нас шэрымі. Яны заўсёды радуюць душу. І тады, калі, толькі што дабудаваныя, сасновыя, чысценькія, светлыя, жоўценькія, як жаўточак, радасна пахнуць смалою і, нібы даспелыя яблыкі, наскрозь свіцяцца на сонцы; і тады, калі ўжо, упрыгожаныя разьбою, вільчыкі, франтоны, ліштвы на вокнах, вуглы хат здаюцца музейнымі экспанатамі; і тады, калі, аздобленыя мастацкаю шалёўкаю, пафарбаваныя ў вясёлыя і прыемныя колеры, нашы хаты аж

прыўзнімаюцца на падмурках, каб паказаць сябе як найлепей.

Найперш, вядома, для нас — ежа, але адразу ж за ёю — хата.

Якою доўгаю, як мара, заўсёды была ў нас дарога да сваёй хаты!

Спачатку мы ўважліва прыглядаліся, выбіраючы месца для будаўніцтва хаты. Назіралі, разважалі, думалі: дзе, у якім месцы паставіць сабе жытло?

Беларус ніколі не ставіў хату там, дзе расце асот ці конскае шчаўе. Ведаў, што там сыра, блізка грунтовая вада. Раніцою назіраў за расою — калі яна густая аж да цемнаты, там можна капаць калодзеж, але ніколі нельга рубіць хату: згніе! Ужо і выбраўшы месца, клаў дошку на некалькі дзён: калі пад ёю завяліся макрыцы — дрэннае месца, калі мураўі — смела стаўляй хату. Тут будзеце жыць і ты, і яна, хата.

Лічылася, што заўсёды цёплым месцам для хаты будзе тое, дзе любяць ляжаць авечкі.

Мы баяліся памыліцца месцам для аселішча. Былі ўпэўнены, што нельга будавацца на дарозе, на скрыжаваннях, на месцы лазні — там уся нечысць, насупраць варот — увесь набытак будзе знікаць з дому, на падмурку старога дома. Ніколі не ставілі мы сваіх хат на месцы згарэлых: паколькі пажар ужо засведчыў, што тут благое месца, зноў будавацца на папялішчы рызыкоўна.

Скрыжаванняў закінутых шляхоў мы асабліва баяліся. Верылі, што там перасякаюцца дарогі мёртвых і жывых, там, зачараваныя перакрыжаваннем, блукаюць, не ведаючы, як выбрацца, злыдні і нячыстая сіла — яны штоноч будуць галёкаць пад вокнамі.

Там мы ставілі крыжы і капліцы, а свае хаты адносілі ад іх як мага далей.

Шчаслівымі для будаўніцтва хаты ў нас лічыліся мясціны, дзе любілі сяліцца жывыя істоты — павукі, шэршні, пчолы, мураўі.

А як прыдзірліва і з якім шанаваннем выбіралі мы дрэвы, якія мусяць стаць сценамі нашай хаты!

На будаўніцтва мы не бралі дрэў з густымі лапамі — дзеці самі па сабе, без прычыны будуць набіваць сабе гузакі ў хаце.

Адкідалі і тое дрэва, якое, ссечанае, завісала на другім, — калі яго пакласці ў зруб, то ў сям'і ўвесь час будзе калатнеча.

Мы ведалі, што сячы дрэвы на хату можна толькі зімою — снежань, студзень і люты, але найлепш — у студзені: усе сокі з дрэва ўжо адышлі ў карэнне і хата з такіх дрэў будзе стаяць як найдаўжэй. Навозіш на хату дрэў, ссечаных у іншы час, калі сокі яшчэ не ўгаманіліся ці пайшлі ўжо ўгару, тваё жыллё хутка спарахнее і згніе.

Часцей за ўсё сваю хату мы рабілі самі. Калі неставала сваіх сіл — клікалі талаку, дапамогу; калі не ўмелі самі зрабіць абсаду — вокны, дзверы ці печку — прасілі таго, у каго гэта атрымлівалася лепей, як у нас.

Але ж свае хаты мы рубілі самі. Бо цеслямі, дойлідамі былі мы ўсе — умелі зацясаць любы вугал, выбраць у бервяне такі цёплы шнар, паз, што на яго і мох класці не трэба — будзе, як на печы, і так.

Хаты яшчэ не было, а мы ўжо бачылі яе!

Бо перад гэтым доўга думалі, якой яна будзе? Проста адна хата, зруб без сенцаў, уваход у яе — адразу ж са двара. Ці потым мы дабудуем да яе сенцы, а затым яшчэ да сянец прылепім ляцён — трысцен, у якім можна жыць улетку. А можа мы адразу возьмемся рубіць пяцісценку, — прасторную хату, за якую потым будуць трымацца і сенцы, і камора, і варывенька, і клець. Бо і камора, і варывенька, і клець — гэта ж таксама хата. Свіран, клуня, павець — зноў жа хата. А хлявы? Не, хлявы, сенніцы — гаспадарчыя пабудовы. Хоць яны і ўваходзяць у круглы вянковы двор, якія ў нас любілі будаваць на Віцебшчыне, Міншчыне, Магілёўшчыне ды Гомельшчыне, але ж тое ўжо не хата. Гэтак жа, як і вынесеныя за вянок, гумно, ёўня, лазня.

А якія вуглы будуць у нашай хаце — у чашку, у просты замок, у каню ці ў чысты вугал?

А якой будзе наша столь? Скляпеністая ці звычайная, плоская? Скляпеністую мы рабілі даўней, а плоскую, з выструганых дошак, сцелем на моцныя бэлькі і сёння.

А страха? Якую выбраць? На стаяках — на козлах, на дзядках, на чапёлках, на крыжах ці на сошках? На кроквах ці ўвогуле закотам?

А як яе крыць? Рабіць двухсхільную, трохсхільную, чатырохсхільную ці з усечанымі франтонамі — залобкам або прычолкам.

Мы амаль не ставілі сваю хату на зямлю. На поўначы, на Віцебшчыне, дзе вельмі шмат камення, пад вуглы хаты мы клалі валуны; на поўдні, на Палессі, дзе шмат лясоў, укопвалі дубовыя калоды ці смалістыя карчы — штандары. Мы заўсёды падымалі сваю хату над зямлёй і, як казалі нашы дзедзічы, ставілі яе «на стулы». А каб у хаце было цяплей, каб не задзьмуваў пад сцены вецер, насыпалі прызбу.

Але такія хаты мы пачалі рубіць ужо значна пазней.

А напачатку, калі мы называліся яшчэ не беларусамі, а неандэртальцамі, мы жылі ў норах, ямах ад паваленых дрэў, у пячорах, у землянках. Гэта было раней, у палеаліце, 300 тысяч гадоў назад. У мусцьерскую культурна-гістарычную эпоху неандэртальцы пакінулі свае сляды каля цяперашніх нашых вёсак Свяцілавічы Веткаўскага, Абідавічы Быхаўскага і Падлужжа Чачэрскага раёнаў.

А поўнае засяленне тэрыторый Беларусі адбылося ў мезаліце, прыкладна 10 тысяч гадоў назад, калі мы ўжо зваліся краманьёнцамі.

Паселішчы Юравічы і Бердыж нам добра паказваюць, якімі тады былі нашы хаты. Бердыжская стаянка — самае старажытнае і найбольш даследаванае паселішча на тэрыторыі Беларусі. Тут знойдзены рэшткі чатырох паўзямлянак і пяці гаспадарчых ям, якім звыш 25 тысяч гадоў.

Бердыжская хата была зроблена з укапаных касцей маманта і стаяла на падмурку з іхніх чарапоў. А сцены

юравіцкіх хат збудаваны са складзеных адна на адну трубчастых касцей буйных жывёл і ўмацаваны валунамі.

Нашы хаты тады мелі і шатровападобныя стрэхі — на кроквы з рэбраў жывёл, якія былі злучаны з дапамогаю пазванкоў з жэрдкамі, мы ўсцягвалі цяжкія шкуры буйных жывёл, уключаючы маманта... Цікава, колькі ж яна важыла, тая мамантава шкура, — наша даўняя страха?

А пасярод гэтых хат ужо абавязкова было агнішча. Раскладалі мы агонь і ў сваіх часовых жытлах — будах, рэшткі якіх знойдзены ва ўрочышчы Грэнск на Чачэршчыне.

У неаліце і бронзавым веку мы закапваліся ў зямлю — каля возера Літвін у Калінкавіцкім раёне і ля вёскі Добры Бор у Баранавіцкім раёне знойдзены нашы жытлы, укапаныя ў зямлю. А каля паселішча Сасонка выяўлена жыллё, у якім конусападобны дах трымаўся на слупах.

Жалезны век характэрны тым, што нашы жытлы сталі больш разнастайнымі: паўзямлянкі слупавой канструкцыі з печамі-каменкамі, невялікія наземныя хаты зрубнай канструкцыі, а пасля і вялікія пабудовы з некалькімі жылымі памяшканнямі.

Мы нарэшце выбраліся з зямлі на паверхню!

Наша хата — дачка зямлянкі і сястра будана.

А як выглядалі нашы хаты ў XIII стагоддзі, мы можам самі ўвачавідкі ўбачыць у археалагічным музеі «Бярэсце» ў Брэсцкай крэпасці, на гістарычным Валынскім умацаванні.

Археолага Пятра Лысенку называюць чалавекам, які адкрыў беларускую драўляную Трою. Ён раскапаў і даследаваў старажытны беларускі горад Бярэсце, які заснаваны яшчэ дрыгавічамі і добра захаваўся, дамогся яго кансервацыі і адкрыцця там музея.

Археалагічныя даследаванні выявілі 224 жылыя і гаспадарчыя пабудовы, насцілы трох вуліц са шчапаных дошак, вымашчаныя двары і нават платы, якія захаваліся.

У музеі відаць, што тады мы свае хаты будавалі на адзінаццаць-дванаццаць вянкоў, ставілі іх да вуліцы глухімі сценамі, рубілі ў просты вугал, пакрывалі дашчаным дахам, а вільчык упрыгожвалі нават какошнай — «курыцай», якой завяршалі хату.

Тыя, старажытныя, вокны ў хатах нам бы сёння не спадабаліся — яны праразаліся ўсяго толькі на адно бервяно высока пад столлю. Ды і гэтае акенца, калі было холадна, мы прыкрывалі дошчачкай.

Апрача Бярэсця, культурны пласт археолагамі даследаваны і ў іншых старажытных гарадах — у Віцебску выяўлена 170, у Мінску — 130, у Полацку — 70, у Гародні, Слуцку, Слоніме каля 50 розных пабудоў, палавіна з якіх жытло...

А мы ж тым часам ужо закончылі будаваць сваю хату і збіраемся рабіць улазіны, уваходзіны, наваселле. Гэта для нас не толькі свята, але і шаноўны рытуал, які мае патаемны сімвалічны сэнс.

Наваселле мы звычайна спраўлялі ў поўню — калі месяц поўны, значыць у новай хаце будзе дастатак, усяго будзе поўна: і хлеба, і грошай, і збожжа, і дзяцей.

На ноч перад улазінамі пускалі ў святліцу кошку і пеўня — яны павінны былі прыняць на сябе ўсё магчымае зло, якое можа быць усё ж, не зважаючы на нашу асцярогу, пасялілася ў новай хаце — певень жа нам у язычніцтве служыў абярэгам і сваім кукарэканнем адваджваў, выганяў нячыстую сілу.

Першым уваходзіў у новую хату гаспадар. Кідаў клубок нітак, як у Падзвінні, і, узяўшыся за нітку, уваходзіў сам, а тады, падаўшы пояс, зацягваў услед за сабою і ўсю сям'ю.

Найперш у новую хату гаспадар нёс агонь — браў гаршчок з вуголлем і ўрачыста нёс са старой хаты. Потым запальваў свечкі і ўносіў абразы. Вельмі ганаровае месца ў рытуале наваселля займала дзяжа: яе з цестам ставілі ў вельмі пашаноўным месцы — на покуці.

Сімвалічным быў і перанос са старой хаты качаргі, чапялы, вілак, лапаты, на якой садзяць хлеб, — новая

печ павінна адразу ж працаваць: трэба, каб было чым выграбаць вуголле, ставіць у яе і даставаць чыгуны, засоўваць хлеб на гарачы под.

Дарэчы, а што самае галоўнае ў нашай хаце? Можа, вокны, якія з цягам часу мы зрабілі прасторнымі і светлымі? Яны ж, калі мы і не выходзім з хаты, яднаюць нас з вуліцаю, з вёскаю. З сонцам, небам і травою. А можа палаці, на якіх мы спім? А можа стол, на якім мы ядзім — ён жа акурат насупраць печы: калі сядзець за ім спіною да агню, дык добра такі прыпякае ў плечы. А можа, сама печ — мы ж печ сваю вельмі любім і шануем і аддаем ёй чацьвёртую частку нават самай цеснай хаты.

А ўвогуле сваю хату мы дзелім пароўну на чатыры часткі: печ, стол насупраць яе, злева — палаці, па дыяганалі ад яе — покуць — самае шаноўнае месца, дзе вісяць абразы і куды, пад багоў, мы садзім самых дарагіх сваіх гасцей. Пасядзець там, на покуці, кожны беларус лічыць за вялікі гонар.

Да таго ж мы знаходзім месца і для абавязковых у нашых хатах кроснаў, калаўротаў, жорнаў, ступаў, куфраў і лаваў.

А наш парог! Ён жа для нас сімвал роднага дома, мяжа паміж звыклаю хатаю і невядомым навакольным светам. Пакідаючы парог сваёй хаты, мы сумуем, а вярнуўшыся да яго зноў — радуемся. А бывае, што плачам і тады, і тады — спачатку ад жалю раставання, а потым плачам ад радасці сустрэчы.

Нашы вокны яднаюць унутраную прастору нашай хаты з усім светам. Мы ў хаце, і ў той жа час нібыта на вуліцы. Мы заўсёды любілі глядзець у вакно, а, каб засцерагчыся ад ведзьмакоў, абкладалі вокны крапівою.

Нашы хаты з дапамогаю вокан яднаюцца ў вёскі — менавіта вокнамі яны вітаюцца між сабою, пераміргваюцца, гавораць.

У вёсках нашым хатам весялей, зручней, спадручней.

У розны час беларускія вёскі называліся па-рознаму: сяло, слабада, пагост, мястэчка, аколіца, засценак,

хутар, фальварак. Яны так называліся па тыпу паселішчаў.

Аколіца — хаты, абгароджаныя каламі. Пагост — вялікая вёска, дзе былі капішчы, куды звозілі сабраную даніну, дзе праводзілася веча, наладжваліся гульбішчы. Сяло — загарадная княжацкая сядзіба, вакол якой збіраліся хаты чэлядзі.

А яшчэ нашы паселішчы называліся волямі — зямля там была неўрадлівая, людзі не хацелі яе ўрабляць, таму ім давалі волю — сялян на 20 гадоў вызвалялі ад чыншу і павіннасцей.

На выселках сяліліся выбранцы — салдаты, набраныя з беззямельных сялян, якія за службу атрымлівалі невялікія надзелы.

У XIV стагоддзі мы пачалі будаваць сабе на жытло замкі, а ў другой палове XVI стагоддзя — палацы. Так што гэта таксама нашы хаты. Яны патрабавалі ўжо новага матэрыялу — і мы знаходзілі для іх шмат каменю і цэглы.

У XX стагоддзі з'явіліся вялікія гарады, а ў іх высотныя дамы-хмарачосы з бетону і шкла. Ім ужо было падуладна ўсё, і яны шукалі новых цесляў — старых, з секеркаю ды гэблікам, ім ужо было недастаткова.

Бо ў адным такім доме цяпер змяшчалася сто, дзвесце, трыста хат адразу. А то і некалькі вёсак разам збіраў у сабе такі буйнапанельны гмах.

Тады функцыі цесляў узялі на сябе домабудаўнічыя камбінаты.

Сёння мы ў гарадах і вёсках жывём у прыгожых, цёплых, зручных, сонечных цагляных кватэрах з мноствам вокнаў, часам на шырыню ўсёй сцяны, мы цешымся ўсімі набыткамі цывілізацыі — ліфтамі, смеццеправодамі, лоджыямі, якія дазваляюць адразу быць у хаце і на вуліцы, але чамусьці вельмі часта ўспамінаем невялікую драўляную хатку ў вёсцы, без усялякіх выгод і лішкаў.

А колькі за ўсю сваю гісторыю наша хата руйнавалася, знішчалася, разбуралася, раскочвалася на бярвенні, спаль-

валася зусім. Часам у адзін міг падчас войнаў ад цэлых вёсак заставаліся толькі невялічкія грудочкі попелу.

Колькі прайшло-пракацілася войнаў і іншых бед па нашай зямлі, і часам здавалася, што ўсе яны пачыналіся толькі для таго, каб папаліць нашы хаты. Нават некаторыя гарады за сваю гісторыю знішчаліся поўнасцю да 30 разоў!

Падчас Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі было спалена і разбурана 9200 беларускіх вёсак. Уяўляеце, колькі гэта рупліва зрубленых, думалася на ўсё жыццё, хат!

А тут новая бяда. Чарнобыль. Як усё роўна на нас скінулі 500 такіх бомбаў, як на Хірасіму. 70 працэнтаў выкідаў упалі на нашы землі. І нашы хаты зноў аказаліся нашымі заложнікамі.

І мы іх, нашпігаваных небяспечнымі для чалавека радыенуклідамі, жывымі закопваем у зямлю. Для гэтай страшнай мэты нават створана спецыяльнае унітарнае прадпрыемства «Палессе». Так бы мовіць, пахавальнае прадпрыемства. Яно хавае нашы хаты. Робіць з іх могільнікі.

І ўсё ж нашы хаты жывыя! Пакуль жывыя мы.

Яны жывыя, бо ў іх мы жывём.

Жывыя — у жывых!

Хата, хатачка, свяцёлка, хаціначка, святліца, хатанятка. Шырокія вокны, сасновыя бёрны — яшчэ пахнуць смалою. Дыхтоўны ганак. Маці на ім — яшчэ маладая і прыгожая. На двары бацька запрагае каня... Сонца, неба, краскі і птушкі — яны спяваюць.

І ты перад хатаю — маленькі, але ўжо крыху вышэй за траву. І цялятка, нагрэтым ад сонца лобікам, — лёгенька так бадзецца ў твой жывоцік — нібыта запрашае пагуляць з ім...

Колькі пакаленняў беларусаў менавіта такою бачылі праз стагоддзі сваю хату!

Бачылі толькі жывою...



# НАШЫ СВЯТЫНІ І СІМВАЛЫ

Ніякая дзяржава не можа існаваць без сваіх святыняў. Бо святыні — надзейны і трывалы падмурак любой дзяржавы. Дзяржава без святыняў — хата без вокнаў.

Святыні — гэта абавязковая кроў кожнага народа. Жыватворная кроў, без якой ён змарнее, змізарнее, знікне, загіне.

Няма святыняў — няма народа. Альбо ён ёсць, але такі зняверацы і загнаны, што не ведае, куды ісці і што рабіць.

Вось чаму ва ўсе часы глумленне, здзек над святынямі лічыліся святататствам, найвялікшым грэхам.

Са святыняў нельга пацяшацца — зганьбаваныя і аблаяныя, яны робяцца яшчэ больш прыцягальнымі і яднаюць ля сябе новых прыхільнікаў і абаронцаў.

Святыні вечныя, бо яны для ўсіх пакаленняў, якія былі, ёсць і будуць.

Святыні нельга знішчыць, бо яны ў душы — а як можна іх звесці, не звёўшы самую душу?

Святыні нельга ўкрасці, бо, нават украўшы, ты ўсё роўна не будзеш іх мець. Калі нешта маеш, хочацца яго паказаць іншым. А як пакажаш украдзеную святыню?!

Таму і знікла бясследна падчас апошняй вайны ці не самая дарагая для Беларусі святыня — крыж Еўфрасінні Полацкай, зроблены славутым майстрам Лазарам Богшам яшчэ ў 1161 годзе.

Лёс гэтай нашай пашаноўнай рэліквіі не назавеш літасцівым. Крыж знікаў колькі разоў, але ж часцей за ўсё вяртаўся на радзіму.

Маскоўскі князь Васіль III, які дамагаўся, каб пасля смерці вялікага князя Аляксандра яго выбралі вялікім князем у княстве Літоўскім, які патрабаваў далучэння да Маскоўскага княства Кіева, Віцебска ды Полацка, войска якога было разбіта Канстанцінам Астрожскім пад Оршаю, усё ж, парушыўшы закляцце, звёз крыж Еўфрасінні Полацкай у Маскву. Аднак Іван Грозны, які, захапіўшы Полацк, у свой час учыніў там крывавую раз-

ню, нібы замольваючы гэты свой грэх, загадаў вярнуць нашу рэліквію на месца.

Вайну 1812 года Крыж перажыў, замураваны ў сцяне Сафійскага сабора.

А вось у Вялікую Айчынную знік бясследна.

Гэта унікальны помнік старажытнабеларускага эмальернага мастацтва, створаны выдатным ювелірам па просьбе полацкай асветніцы. Ён зроблены з кіпарысавага дрэва, якое майстар абклаў 11 залатымі пласцінамі, аздобіў каштоўнымі камянямі, каляровымі эмалямі з выявамі святых. Для яго стварэння з Канстанцінопаля і Іерусаліма ў Полацк прыслалі кроплю крыві Хрыста і часціну Крыжа Гасподняя.

Полацкі крыж — наш вечны агульнанародны скарб. Ён сімвал «святасці і старажытнай дзяржаўнасці Беларусі».

Паводле запавету Крыж полацкай ігуменні ажыўляе душы народа, сцеражэ і абараняе краіну.

Перад апошняю вайною крыж Еўфрасінні Полацкай знаходзіўся ў краязнаўчым музеі ў Магілёве — яго якраз быццам бы і перавезлі туды, далей ад мяжы, каб уратаваць. Але ён бясследна знік. Хоць надпіс — закляцце, зроблены на ім, і абяцаў кожнаму, хто яго скрадзе, страшэннае пакаранне.

Мы ж і сёння шукаем свой Крыж!

Крыж — увасабленне вышэйшых сакральных каштоўнасцей. Ён — наш старажытны знак, наш абярэг і ў той жа час наша наканаванасць лёсу.

Гэта сімвал Касмічнага Дрэва, уцелаўленне самога Дрэва Жыцця.

«Усе мы ходзім пад крыжам», — кажам мы. І ўдакладняем: «Кожны нясе свой крыж». І ўрэшце, калі кепска нам, прызнаёмся: «Згубілі мы свой крыж, згубілі Бога».

І да сёння мы настойліва і ўпарта шукаем свой Крыж.

Другая наша святыня — наша зямля. Не — гэта ўсё ж найпершая і найдаражэйшая святыня для ўсяго беларус-

кага народа! На яе можна прыйсці — як сябрам, так і ворагам. Можна палюбавацца ёю, ненаглядпаю. Можна захапіць яе, патаптацца па ёй.

Але ж яе, як той крыж, не ўкрадзеш, не засунеш у кішэнь ці ў якое сховішча, у які сейф. Зямля заўсёды наша і з ёю нас ніхто не разлучыць. Ніхто не зробіць нас з ёю асобнымі: яна сабе, і мы таксама — сабе.

Нават пасля смерці мы даверліва кладзёмся ў яе — мякенькую, родненькую...

Зямля — святая для нас. І мы, змушаныя пакідаць яе не па сваёй волі, бярэм з сабою жменьку роднай зямлі — так спакайней, надзейней нават на чужыне.

Зямля — наш абраз. І мы молімся на яе.

Зямля дае нам і хлеб, і сілу. Мы кланяемся ёй, а калі ідзем араць і сеяць, збіраемся на жніво, — апранаем самую чыстую, самую святочную вопратку.

Бо і зямля — наш бог...

Калі яна спіць — стараемся меней трывожыць яе. Калі квітнее — ад радасці гатовы ўсю яе пакласці сабе за пазуху.

Яна, наша зямля, малаплодная, глiністая, пясчаная, суглiністая, балоцістая — наша святыня. З садамі і без іх, з рэкамі-азёрамі і без рэк-азёраў — святыня. З буйным коласам на ніве і з пабітым градам калоссем — святыня.

Бо зямля — гэта яшчэ месца, дзе стаяць спрадвеку нашы хаты, моцна трымаючыся за глебу ці траву вуглами ды падмуркамі. Бо яна, зямелька наша, — гэта яшчэ наш край, наша краіна, наша Дзяржава.

І мова — таксама наша святыня. Бо яна ў душы і ў сэрцы. Адабраць часова яе можна, а ўкрасці, прысвоіць — нельга, немагчыма.

Мова — адзін з найважнейшых элементаў для стварэння любой дзяржавы. Як сказаў філосаф, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан: «Нацыя далучаецца да вечнасці праз сваю мову і культуру, сімвалічна выяўленую ў нацыянальнай мове».

Мову, як і ўсе святыні, нельга абражаць. Бо яна вечная і абавязкова ўспомніць некалі пра любога свайго крыўдзіцеля.

А нашы сімвалы? Гэта Сафійка, Сафійскі сабор у Полацку, гэта Навагрудак і наша слынная рака Нёман. Канечне, і Дняпро, і Дзвіна, і Прыпяць — таксама наш скарб. Але ж Дняпро пачынаецца ў Расіі і заканчваецца на Украіне, Дзвіна нараджаецца на Валдаі і цячэ ў Балтыку, Прыпяць пачынаецца на Украіне і заканчваецца на Украіне, хоць прыўзняўшыся на Беларусь амаль цалкам аддае сябе нам. А Нёман пачынаецца ў нас. З нашых чыстых крыніц, блакітных азёр, з нашых шапаткіх дажджоў, з нашай расы. Ён зноў жа — наш сімвал.

Сімвал — ды яшчэ які сімвал! — наша гістарычная рака Няміга. Яе няма, але яна ёсць! Мы, няўдзячныя, пазбавілі яе сонца, травы, ветру. Усяго таго, без чаго ракі не бывае. Мы загналі яе ў трубы. Яна — рака-вязень. Цяпер гэта маленькі ручаёк булькае недзе ў нас пад нагамі ў Мінску і выцякае ў Свіслач. Як нейкая каналізацыйная вада.

А яна ж, гэта рака, вядомая спакон веку. Яе помняць стагоддзі. Памятаеце: «На Нямізе снапы сцелюць галовамі». На ёй ваявалі, за яе паміралі нашы дзедзічы.

Думаецца, што ўрэшце і мы ўспомнім, што яна — наш сімвал, і пакажам Нямізе і яе рэчышча, і яе траву, і неба ды сонца над ёю.

Бо святыні таксама могуць не паважаць тых, хто з непавагаю адносіцца да іх.

Сярод жывёл сімвалам Беларусі, вядома ж, з'яўляецца магутны цар беларускіх лясоў, гаспадар Белавежскай пушчы яго вялікасць Зубр.

Гэты асілак пакідае тыя лясы, дзе яго перамагаюць ашуканствам — ён прызнае толькі сумленныя паядынкі: сіла і адвага ворага павінна быць намнога большая за ягоную.

Ён п'е толькі чыстую ваду.

Любы, нават самы моцны боль, зубры пераносяць без адзінага гуку — моўчкі.

Наш паэт Мікола Гусоўскі, расказваючы папу Льву X у Рыме пра паляванне на зубра, крыху і перабольшваў яго моц і сілу:

> Волатным целам сваім ен настолькі вялікі,
> Што, калі раняць смяротна і ранены ўкленчыць,
> Трох паляўнічых садзіцца ў яго між рагамі...

Дык каго ж яшчэ між жывёл, калі не гэтага равесніка маманта, выбіраць нам у свае сімвалы?!

Сярод птушак, вядома ж, сімвал Беларусі — наш бусел. «Зямля пад белымі крыламі» — гэта пад крыламі бусла. «Белы бусел ляціць над Палессем, над ціхім жнівом» — гэтая песня таксама пра нас і пра яго.

Буслы любяць нашы дрэвы і нашы хаты — і на тых, і на другіх бацяны ладзяць свае буслянкі. Як прыгожа выглядаюць іх буслянкі на нашых стрэхах! Мы верым: яны ратуюць нашы хаты ад маланак і перуноў.

У нашай краіне штогод выбіраецца самая нашая птушка птушкаю года. І не дзіва, што першаю такою птушкаю-сімвалам быў асвечаны белы бусел. Потым была пліска, альбо сітаўка. Тая, што нібыта спявае хвосцікам. Ці то дырыжыруе сама сабе: хвосцік уверх-уніз, уверх-уніз. Пасля амялушка. Птушкаю Беларусі 2003 года абраны верабейка, 2004 — ластаўка, 2005 — кнігаўка.

Верабей — крыху скандальны, крыху задзірысты, дужа гарэзлівы, вельмі шумлівы. Прыляцеў ён да нас аднекуль з Міжземнамор'я, ды так і застаўся з намі назаўсёды. Нават у вырай не ляціць — і зімуе каля нашых хат. Так спадабалася яму Беларусь. Скок-скок-скок... Пырх-пырх-пырх...

Гняздуецца ён толькі ля хат. Харчуецца насеннем раслін, палыну, трыпутніку. Любіць тыя расліны, якія не вытоптваюцца. І Беларусь, можа, любіць таму, што яна, знаходзячыся на ўсіх скрыжаваннях Еўропы, таксама не вытоптваецца...

Які ж ён наш, беларускі, гэты верабейка!

З раслін беларускім сімвалам стаў васілёк. Сінявокі, як і мы, беларусы. Сінявокі, як і нашы азёры. Памята-

еце: «І тчэ забыўшыся рука заміж персідскага узора цвяток радзімы васілька».

У жыце — гэта пустазелле. На лузе — гэта трава. А для нас — радасць.

Валошка... Старажытны сімвал Беларусі.

І яшчэ наша святыня — зерне. Звычайнае зернетка. Звычайны колас. Бо як сказаў Максім Танк: «Коласу — вырасціць жменю зярнят».

Да нашых святынь хочацца аднесці каня і карову. Бо гэта — наш скарб. А кожны скарб ужо сам па сабе і ёсць святыня.

А той старажытны чатырохметровы човен, які ляжыць у глыбіні, на дне ракі Шчара? Сімвал гэта ці не? Яму не менш як трыста гадоў. Ляжыць у іле і вадзе — і як новенькі. А падымі на сонца і паветра — увачавідкі спарахнее.

Не чапайце нашых сімвалаў! Каб не спарахнець!

«Пагоня» — старажытны наш сімвал, гістарычны знак з выявaю конніка з занесеным над галавою мячом.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Ягайла пра пагоню пісаў у сваім прывілеі:

«У тым выпадку, калі прыйдзецца праследаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых, якія б збягалі з нашай літоўскай зямлі, то дзеля гэтага роду праследавання, якое па-народнаму завецца пагоняй, абавязаны адпраўляцца не толькі рыцары, але і кожны мужчына, якога б ён не быў паходжання або стану, толькі б ён быў здольны насіць зброю».

Значыць, «Пагоня» — сімвал абароны Бацькаўшчыны. Яшчэ ў XIII стагоддзі «Пагоня» зрабілася сімвалам на беларускіх землях.

«Пагоня» была на 30 з 40 харугваў войска ВКЛ, якія ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве.

Статут ВКЛ 1566 года юрыдычна замацаваў выкарыстанне герба «Пагоня» за этнаграфічнымі беларускімі землямі.

З 19 верасня 1991 года па 7 чэрвеня 1995 года «Пагоня» была дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь.

Цяпер у нас новы герб. Ён амаль цалкам паўтарае герб БССР, якая ўваходзіла ў свой час у Савецкі Саюз. З некаторымі адрозненнямі: замест сярпа і молата ў промнях узыходзячага сонца з'явіліся абрысы нашай краіны, ды чырвоныя стужкі заменены на чырвона-зялёныя, і з іх зніклі словы: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!».

Такі наш дзяржаўны сімвал сёння.

Нашы галоўныя сімвалы: герб, сцяг, гімн.

Нашы святыні — храмы, мошчы святых, намоленыя абразы. Кожная ікона ў кожным храме — святыня. І дакрануцца да іх душою — ужо знайсці сваё апірышча ў жыцці.

А міфалагічным сімвалам Беларусі была, ёсць і застаецца назаўсёды папараць-кветка.

Пра яе наша энцыклапедыя піша:

«Папараць жаночая, качадыжнік жаночы, папараць сямейства многаножкавых. Расце ў сырых лясах па ўсёй Беларусі. Спораносіць у сярэдзіне лета... Карэнне кароткае...Чаранкі ліста лускаватыя... Пласцінкі тонкія...»

Такая, здавалася б, звычайная расліна. І гэта — наш сімвал? Сімвал, ды яшчэ які!

Ужо тысячагоддзі мы пераконваем сябе, што адзін раз на год, у ноч на Купалле, у самую поўнач гэтая не вельмі самавітая расліна зацвітае такою прыгожаю і агністаю кветкаю, якая асвятляе ўвесь лясны гушчар. Лічылася, што той, хто адшукае і сарве тую кветку — а гэта, вядома ж, павінен быць адважны і сумленны чалавек, — робіцца празарліўцам: ён пачынае разумець гаворку дрэў, травы, птушак, звяроў, а зямля яму тады адкрывае ўсе свае скарбы.

Мы кажам, што хтосьці бачыў яе, што камусьці яна ўпала ў лапаць, калі ён ноччу шукаў у лесе згубленага каня. Але ўсё гэта толькі наша насалодная мана.

Папараць не цвіце! Ніколі не цвіла, не цвіце і ніколі, хутчэй за ўсё, не зацвіце.

Мы ведаем пра гэта, злуемся на гэта, але самі ўсё роўна настойліва і ўпарта шукаем тую кветку.

Бо ў гэтым паверʼі — наша мара пра шчасце.

І шчасце кожнага з нас паасобку, і шчасце нашай краіны — Беларусі.

Бо нашых нацыянальных каштоўнасцей на Беларусі засталася толькі дзесятая частка. Усё астатняе знаходзіцца ў іншых гарадах і краінах — у Санкт-Пецярбургу, Маскве, Варшаве, Кракаве, Вільні, Кіеве, Львове. Наша зямля ўваходзіла ў склад іншых дзяржаўных утварэнняў і таму большасць нашых скарбаў і рэліквій забіралася ў сталіцы гэтых дзяржаў.

Няхай жа вечна нашай будзе кветка — папараць!

І зноў жа вернемся да крыжа Еўфрасінні Полацкай.

Мы шукаем яго. А пошукі згубленай святыні заўсёды яднаюць нацыю. Нават ствараюць яе.

Кажуць, што наш полацкі Крыж быццам бы знаходзіцца ў Маскве — у нейкіх запасніках нейкага музея. Ці то ў Піцеры, у Эрмітажы. Ці, можа, у сховішчах Уфы альбо Самары.

Кажуць, што калі яго прывезлі ў сталіцу, Лаўрэнцій Берыя, разумеючы, якую ён каштоўнасць бачыць, аж прыцмокваў языком.

Кажуць нават, што наш Крыж захоўваецца дзесьці ў ЗША ў сейфе Перапонта Моргана. Кажуць, калі прадстаўніку гэтай багатай сям'і перадавалі паперу з пытаннем пра Крыж, у таго затрэсліся рукі.

І ляжыць ён недзе ў схове, але той, хто ўкраў, не можа ім пахваліцца — быццам і не мае ён нашай каштоўнасці.

А мы — маем. У душах і сэрцах маем.

А цяпер — яшчэ і ў копіі: гэты шэдэўр Богшы, узноўлены мастаком з Бярэсця Міколам Кузьмічом, вернуты ў Полацк. З нагоды асвячэння Жыватворнага крыжа Еўфрасінні, ігуменні Полацкай, у гэтым старажытным горадзе прайшлі ўрачыстасці, адбылося пасяджэнне Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы. У Полацкім Богаяўленскім саборы мела месца ўрачыстая служба, а ў Крыжаўзвіжальным саборы Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра адбыліся літургія і пакланенне крыжу.

Другое нараджэнне крыжа Еўфрасінні Полацкай, здаецца, з'яднала ўсе пласты насельніцтва Беларусі, нашы рэлігійныя і свецкія ўлады. Мы нарэшце зразумелі: каб пабудаваць сваю дзяржаву, нам патрэбны свае святыні.

Таму мастак Мікола Кузьміч не пашкадаваў пяці гадоў цяжкай працы, каб узнавіць Жыватворны крыж святой Еўфрасінні.

Таму працу па стварэнні крыжа благаславіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, які потым зрабіў паломніцтва ў святыя мясціны, адкуль былі дастаўлены ў нашу краіну для копіі крыжа часцінкі Крыві Хрыстовай і мошчаў пакутнікаў, а таксама камень ад Труны Гасподняй і Маці Божай.

Але ж гэта — копія. Усяго толькі муляж нашай святыні.

А нам патрэбна сама святыня!

Хочацца выказаць тут, можа, крыху нечаканую думку: то ж добра, што ўкралі наш Жыватворны Крыж!

Згублены крыж — гэта наша надзея.

Знойдзены — гэта наша святыня.

Будзем жа шукаць, каб знайсці яе!

Бо наша краіна, наша Беларусь будзе жыць, пакуль ёй ёсць што шукаць і ёсць што знаходзіць!



## НАШЫ ВЯТРЫ, ДАЖДЖЫ, МАРАЗЫ

Пачнем з анекдота.

Вярнуўся афрыканец, які вучыўся ў Беларусі, дадому. У яго пытаюцца:

— Ну, як там мясцовыя зімы?

— Тыя, каторыя зялёныя, — адказвае ён, — гэта яшчэ нічога, можна цярпець, а каторыя белыя — уй-юй-юй!

Мы ж на сваё надвор'е асабліва не наракаем — яно ў нас памяркоўнае ці, як кажуць, умерана-кантынентальнае: ні ў свае зялёныя «зімы», ні ў белыя мы ніякіх «уй-юй-юй!» не заўважаем.

Праўда, часам і ў нас бываюць лютыя маразы і невыносныя спёкі. Гэта калі прарываецца ў наш край трапічнае паветра ці дыхне на Беларусь сваім халодным подыхам Арктыка. Тады наша лета можа прагрэцца да 38 градусаў цяпла, а зімою ахаладаць да 44 градусаў марозу. Як гэта было зафіксавана зімою 1940 года на станцыі Лужасна ў Віцебскай вобласці.

Самы цёплы наш месяц — ліпень, самы халодны — студзень. Аднак звычайна і яны памяркоўныя — сярэдняя тэмпература ліпеня да 18 градусаў цяпла, а студзеня — каля 9 холаду. Але ж здараюцца і ўзімку ліўні, а летам часам выпадае снег.

Які ж ён, клімат Беларусі?

Само слова «клімат» — грэчаскае. Яно перакладаецца літаральна як «нахіл» — нахіл зямной паверхні, на якой размясцілася наша краіна, да сонца, да сонечных прамянёў. Наш клімат робіць найперш сонца. А дакладней — сумарная колькасць сонечнай радыяцыі, якую атрымліваюць нашы палі, лугі, рэкі, азёры, лясы...

Кліматычныя ўмовы Беларусі залежаць ад нашага геаграфічнага становішча. Мы знаходзімся ва ўмераных шыротах. У нас адсутнічаюць высокія горы, мы далекавата знаходзімся ад Атлантычнага акіяна, які называюць кухняй надвор'я ў свеце.

Наш клімат фарміруецца сонцам, нашай зямлёй і агульным рухам атмасферы.

Нашы вятры, дажджы, маразы, спёкі, замаразкі, засухі, туманы, буры, ураганы, град, снягі, смерчы, паводкі, віхры, высокія і нізкія тэмпературы — усё гэта і ёсць наш клімат.

Вецер — гэта, як сцвярджаюць даведнікі, усяго толькі рух паветра над зямной паверхняй. Тая ж самая цыркуляцыя атмасферы.

Зімою найчасцей над Беларуссю дзьмуць паўднёва-заходнія і заходнія вятры, а ўлетку — паўночна-заходнія і тыя ж заходнія. Зімнія вятры слабейшыя, чым летнія.

А вясною па Беларусі гуляюць вятры ўсіх напрамкаў. Уся ружа вятроў!

Якраз заходнія вятры, якія больш за ўсё ходзяць па Беларусі на працягу года, прыносяць нам умеранае, цёплае атлантычнае паветра — там жа Гальфстрым! Марское паветра нясе воблакі, туманы, ападкі ў выглядзе дажджу і снегу, павышэнне тэмпературы нават зімою.

Арктычнае паветра даходзіць да нас з цыклонамі, якія рухаюцца на Усход і Паўднёвы Усход. Тады нават летам рэзка халадае, з'яўляюцца парывісты вецер, вялікая воблачнасць.

Трапічнае паветра, прынесенае на крылах вятроў, што дзьмуць таксама на Паўднёвы Усход, павышае тэмпературу, робіць сухім паветра летам і моцныя адлігі зімою.

Чамусьці над нашай зямлёю часцей за ўсё дужаюцца цыклоны і антыцыклоны, а мы тады да свайго незадавальнення маем няўстойлівае надвор'е.

А яшчэ ж вецер — гэта бура, віхор, шквал. Смерч — гэта калі хуткасць ветру дасягае 50 — 100 метраў у секунду. Але ж і штармавы вецер 20 метраў у секунду можа нарабіць бяды.

Самым бяскрыўдным здаецца нам віхор. Хоць ён і малодшы брат смерча. Хоць і ён, як разыдзецца, можа патаптаць наша жыта, а то і падняць з зямлі чалавека, нават у трактары, і ўпусціць потым з вышыні са сваіх абдымкаў.

Мы віхор недалюбліваем. Нават у сне яго не хочам бачыць. А калі ўбачылі — то нас быццам бы чакаюць клопаты, неспакой, сварка, бойка. А калі сняць віхор дзяўчаты — ім кажуць, што да іх прыйдуць у сваты чэрці.

Бура ў Мінску ў жніўні 2002 года вырвала з карэннем 123 дрэвы, якія, падаючы, раздушылі чортаў тузін легкавых аўтамашын. А ўжо ўраган 2005 года ў тым жа Мінску паваліў 1000 дрэў і паламаў яшчэ болей легкавікоў. А колькі нашых палеткаў паклаў, павытаптаў ён!

Шквалісты вецер, які гуляў па Беларусі годам раней пашкодзіў 191 вёску на Брэстчыне, адключыў ад электраэнергіі 267 вёсак на Міншчыне, нават сарваў 20 лістоў

ацынкаванай бляхі з царквы ў вёсцы Буйнавічы на Магілёўшчыне. Іншым разам ураган, які нядоўга сваволіў па Гродзенскай, Брэсцкай і Мінскай абласцях у 61 вёсцы садраў дахі з 70 хат і каля сотні сельгаспабудоў, фермаў..

Вельмі моцны ўраган, які ўварваўся ў самы вядомы ў Еўропе наш лес — у Белавежскую пушчу — нарабіў там столькі клопату, разбірацца з якім нам давялося цэлы год.

Ён валіў-ламаў, як саломіны, выварочваў з карэннем векавыя, стогадовыя, дзвесцегадовыя, трыстагодовыя дрэвы. Сосны, елкі, ясені, нават маладыя дубы. Неба адразу стала цёмнае — ад сарванай з дрэў і паднятай у паветра хвоі. Усё так грукатала і грымела, быццам зусім нізка пралятала цэлая эскадрылля самалётаў.

Ураган «працаваў» усяго толькі тры хвіліны. За гэты час ён праклаў па пушчы палосу шырынёю 300 — 400 метраў і даўжынёю ў чатыры з паловаю кіламетры.

Усяго за тры хвіліны ў Белавежскай пушчы загінула 180 гектараў рэліктавага еўрапейскага лесу.

Але цар-дуб, сямісотгадовы старажыл пушчы, не скарыўся стыхіі — з яго ўрагану ўдалося адламаць толькі дзве вялізныя галіны. Засталася жывою і беларуская царсасна.

Усяго тры хвіліны. І столькі бяды.

Вось такую сілу і такі голас часам маюць нашы ўраганы.

Калі з месцаў высокага ціску паветра перамяшчаецца туды, дзе больш нізкі ціск.

Але ж нашы вятры нярэдка, нават часцей за ўсё бываюць і ласкавымі-ласкавымі. Як кацяняткі. Тады мы іх ледзь улоўны павеў адчуваем тварам — вачыма, шчокамі, вуснамі. А калі вятры пяшчотныя — на іх нам ніяк не нацешыцца: яны і пагладзяць, і абдымуць, і прыгалубяць.

У нас шчаслівай лічылася тая сям'я, у якой ад гаспадыні, якая паліць у печы, пахне дымам, а ад гаспадара, які працуе ў полі, пахне ветрам.

Мы задобрывалі свае вятры, каб яны не ленаваліся круціць нашы ветракі, прыганялі на нашы палеткі статак дажджлівых воблакаў, а пры пажарах — сціхалі, сцішваліся.

Свае моцныя дажджы беларусы называюць ліўнямі ці залеваю, некаторыя з іх для нас каплюны ці церабуці, а цёплыя, імжыстыя, шапатлівыя — гэта нашы грыбасеі.

Так, дажджы — нашы сейбіты! Яны сеюць не толькі грыбы. Пра ціхі, спакойны дождж мы гаворым, што ён кладзе нам у грады золата. І правільна гаворым — пасля такіх дажджоў і ў градах, і на полі, і на лузе ўсё расце і бучнее!

Не дарма нашы продкі-язычнікі дождж лічылі нябесным малаком, якое поіць зямлю і ўсё, што на ёй расце. І яшчэ мы верылі, што дождж — гэта божая раса, якая змывае з чалавека ўсе грахі, хваробу і нават сум.

І ўвогуле, верылі мы, дождж — гэта наша багацце, наша шчасце.

Робім мы ў дождж вяселле — будзем шчаслівыя. З дажджом засяляемся ў новую хату — будзем багатыя. Выбіраемся ў дождж у далёкую дарогу — значыць, наперадзе нас чакае толькі ўдача.

Але ж ёсць у нас яшчэ і дождж з градам. Такі дождж — вораг нашага хлебасея. Бо можа за лічаныя хвіліны пабіць, знішчыць, вымалаціць усё, што мы так цярпліва і клапатліва вырошчвалі, пра што так рупіліся.

Дождж з маланкай, громам і перунамі — гэта ўжо навальніца. Маланка і гром палохалі нас, а перуны прыносілі адны засмучэнні: пярун падпальваў нашы хаты, нашы свіраны, нашы хлявы, забіваў вельмі дарагіх для нас кароў і коней, а то квапіўся і на нас саміх. Нягледзячы на тое, што мы крыху і ведалі ўжо, як ад яго ратавацца: у лесе — ніколі не садзіліся пад высокае дрэва, а на полі ўкленчвалі там, дзе стаялі, дзе заспела навальніца.

Самаю страшнаю для нас бывае вераб'іная, ці рабінавая, ноч, якая бушуе недзе ў сярэдзіне жніўня, калі ў ёй

збіраецца зара́з столькі перуноў, маланак і грому, якім аж цесна не толькі ў небе, але і на зямлі. У тую ноч мы завешваем усе вокны, каб хоць не бачыць гэтага жаху.

За лета ў нас бывае 25 — 30 дзён з навальніцамі.

Нашы дажджы — гэта нашы воблакі. Колькі яны падымуць вады ўвышыню, столькі потым і выллюць на нас.

Туманы — гэта таксама нашы воблакі. Тыя, што ў нас пад нагамі. На траве і на вадзе. На Беларусі за год здараецца да 100 дзён з туманамі.

Нашы воблакі зімою засцерагаюць зямлю ад выхалоджвання, а летам — змяншаюць награванне яе ад сонечных промняў.

У нас пераважае пахмурнае надвор'е — колькасць воблачных дзён на Беларусі вагаецца ад 135 на поўдні да 175 на поўначы.

Над нашай зямлёй часцей за ўсё бывае нізкая воблачнасць. Якраз тая, якая дае нам дажджы. Значыць, вільгаці нам хапае, і таму Беларусь адносіцца да краін дастатковага ўвільгатнення.

Аднак наша вада размяркоўваецца не заўсёды раўнамерна: у адным месцы нашы пасевы вымакаюць, а літаральна побач, кіламетраў за дваццаць, яны выгараюць ад засухі. Самым мокрым месцам на Беларусі сіноптыкі называюць Навагрудак.

Бывае здараюцца ў нас і паводкі. Не толькі вясновыя ці асеннія, але і летнія. Гэта тады, як ідзе шмат дажджоў. Калі за кароткі час выпадае месячная, а то і большая норма ападкаў. Калі ўзроўні вады ў рэках падымаюцца да двух метраў. Самы наш дажджлівы месяц — ліпень, калі дажджы здараюцца праз дзень.

Шчодрыя ападкі нараджаюць нашы паводкі. Летам ад вялікіх дажджоў, узімку — пры адлігах. Адзін-два разы за лета і восень. Яны здараюцца на Бугу, Бярэзіне, Сажы, а на Нёмане — па 5 — 6 разоў у год.

Аднак самымі мнагаводнымі ўсё ж бываюць нашы веснавыя паводкі. Гэта калі ў нашых паўночных рэках вада раптам падымаецца да 0,5 — 1,5 метра ў суткі.

Калі на Палессі прытокі Прыпяці — Піна, Ясельда, Стыр, Гарынь — зліваюцца ў адзінае суцэльнае мора. Калі па вуліцах Гомеля, прылеглых да Сожа, плаваюць на лодках. Калі перапаўняецца Бярэзіна ля Барысава, а Дзвіна затапляе Верхнядзвінскі ды Шаркаўшчынскі раёны. Калі экстрэмальная сітуацыя ўзнікае на Бугу і Нёмане.

Аднак часам палохаюць нас і засухі. У асобныя гады нашы палі па 20 — 30 сутак не бачаць ні кроплі дажджу. А ў Мінску ў жніўні-верасні 1951 года ападкаў не было аж 50 сутак...

Вось як пра нашу засуху 1897 года пісалі сведкі, назіранні якіх прыводзіць у дзевятым, беларускім, томе «Поўнага геаграфічнага апісання нашай айчыны» П. Сямёнаў:

«З красавіка месяца, пры тэмпературы, якая даходзіла да 40 градусаў спёкі, не было ні кроплі дажджу. Па дарогах на вяршок ляжаў вельмі тонкі пыл, які пры малейшым руху падымаўся ў выглядзе густых воблакаў, закрываючы сабою нават самыя блізкія прадметы. А пры моцным ветры гэты пыл засцілаў сабою агромністую паветраную прастору і здаваўся хмарамі і туманам. Беспярэпынныя, шматлікія пажары лесу і тарфянікаў напаўнялі паветра дымам і пахам гары і завяршалі малюнак такой доўгай і моцнай засухі».

Аднак, што вельмі цікава, засуха не паўплывала на нівы — сяляне сабралі той год надзіва добры ўраджай. Тады мы яшчэ не гуляліся з меліярацыяй і наш хлеб выратавалі блізкія да паверхні падземныя грунтовыя воды, якіх у той год было дастаткова. І яшчэ гэта адбылося таму, што вясною надзіва павольна на палях раставалі нашы снягі.

Наша зіма цягнецца ад 105 дзён на поўдні да 145 на поўначы. Устойлівае снежнае покрыва ствараецца ўжо ў канцы лістапада — у пачатку снежня і на поўначы трымаецца да 4 месяцаў.

І ўвогуле па кліматычных умовах наша поўнач вельмі адрозніваецца ад поўдня: павышэнне тэмпературы ідзе з

поўдня на поўнач, а ўсе сельскагаспадарчыя работы на Віцебшчыне пачынаюць рабіць на два тыдні пазней, чым на Брэстчыне.

Перад зімою ў нас бывае цёплая і прыгожыя пара — «бабіна лета», калі тэмпература паветра падымаецца да 28 градусаў, за якой тут жа наступае сырая і халодная позняя восень.

А колькі неспакою і клопатаў прыносяць нам вясеннія і асеннія замаразкі! У нас жа не бывае ніводнай вясны, каб не здарыліся замаразкі. І чым больш ранняя вясна, цёплая і бучная, тым больш шкоды нашым пасевам робяць вясновыя прымаразкі.

Мы баімся, шануемся вясновых, черомхавых халадоў, аднак яны з зайздросным пастаянствам прыходзяць да нас штогод.

Беларус за стагоддзі добра навучыўся арыентавацца ў шэрагу з'яў і падзей, якія змяняліся ў яго, як кажуць, на вачах, і па іх прадказваць надвор'е — у гэты ж дзень, праз тыдзень, праз паўгода, праз год. Ён уважліва назіраў за станам прыроды, думаў, разважаў, параўноўваў. Найперш, вядома ж, ён глядзеў на неба.

Чырвоны золак пры захадзе сонца — мы ведалі, што надвор'е пагаршаецца. Чырвоныя воблакі — будзе вецер.

А яшчэ ж неба — гэта вясёлка. Калі яна пасля дажджу знікае хутка — можна чакаць яснага надвор'я. Калі стаіць доўга — на непагадзь. Непагадзь таксама прадказвала і вясёлка, якая расквецілася з самай раніцы. А як пасля абеда — сушы сена. З'яўляюцца дзве ці тры яркія вясёлкі адразу — дождж будзе зацяжны. І зоркі — зноў жа неба. Калі яны зімою зыркія і яркія — чакай марозу, а як мігцяць — будзе непагадзь.

І па расе мы вызначалі надвор'е. Ведалі, калі ноччу выпала шмат расы — будзе яснае надвор'е. Калі ж на досвітку няма ні расы, ні туманаў — рыхтуйся да дрэннага надвор'я.

Можа, мы самі дайшлі да гэтага, а можа, нейкім чынам успомнілі тое, што ведалі прашчуры, аднак не сумняваліся, што калі летам шуміць лес — набліжаецца не-

пагадзь, яліна падымае галіны — перад дажджом, снег прыліпае да дрэў — будзе цеплыня.

Вераб'і хаваюцца ў хвост — перад завірухай, вароны кідаюцца то ўверх, то ўніз — уначы будзе мяцеліца, кошка мыецца, ліжа лапы — да цяпла, гарачыні.

Дым з коміна сцелецца без ветру — да снегу, а дровы ў печы ніяк не хочуць разгарацца — да адлігі.

На дождж — жабы моцна квакаюць, ластаўкі лятаюць нізка над зямлёю ці над вадою, пчолы з раніцы сядзяць у вуллі і незадаволена гудуць!

Зімовыя воблакі нізкія — да сцюжы, пушысты іней — да добрага надвор'я, дровы ў печы аж гудуць у коміне — да буры.

З-пад зямлі вылез крот — быць дажджу, прыляцелі птушкі, але не шчабечуць — яшчэ будзе холадна, з'явіліся на вадзе шырокія лісты белага гарлачыка — замаразкаў болей не будзе.

Вось такім пасля доўгіх назіранняў мы ўбачылі прылёт нашых птушак: жаўранак прылятае на праталіну, шпак — на прагаліну, журавель — з цяплом, а ластаўка — з лістом.

Ды тут жа расказана ўсё пра вясну!

Мы былі ўпэўнены: студзень мяце — ліпень залье, сена добра пахне — ноччу дождж ахне, глухі гром — да ціхага дажджу, воблакі ідуць супраць ветру — перад вялікім снегападам.

«Дождж, як госць, — казалі мы, — калі раніцай прыйшоў — доўга не затрымаецца, а калі з'явіцца папаўдні — начаваць застанецца».

Калі конь часта фыркае ўвесну — перад дажджом, а калі ўзімку — перад мяцеліцай.

Пчолы шчыльна ляток канапацяць воскам — зіма суровай і халоднай будзе.

Так мы, бачачы іх руплівую працу, робім для сябе высновы, што зіма будзе цяжкай. А вось адкуль ведаюць пра гэта яны?

Народная метэаралогія дапамагала нам жыць і працаваць. Дзякуючы ёй мы ведалі, калі сеяць і араць, калі

касіць і жаць, калі апранацца цяплей і лезці грэцца на печку.

З яе дапамогаю наш і так нармальны клімат рабіўся яшчэ больш памяркоўным для нас.

Дарэчы, а ці можна наш клімат узнавіць, намаляваць?

А ці ёсць у нашым жывапісе хоць якія-небудзь памкненні напісаць клімат Беларусі?

Ёсць! І не толькі памкненні, але і здзяйсненні.

Наш клімат пісалі ледзь не ўсе беларускія мастакі — у каго з іх няма цудоўных палотнаў, на якіх усе нашы часіны года: вясна, лета, восень, зіма!

Як любіць зіму і снег народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў! Яго зіма і яго снег — жывыя: яны адчувальныя нават на дотык вачэй.

Вітольд Каэтанавіч Бялыніцкі-Біруля здолеў напісаць на сваіх палотнах такі туман, таямніцу якога мастакі і мастацтвазнаўцы не могуць разгадаць і да гэтага часу.

А дажджы? Ці пісалі іх нашы мастакі? Пісалі і плённа. Іх вядома ж цяжка пісаць, але можна.

А вецер? Не, вецер, здаецца, намаляваць немагчыма, бо ён — не злоўлены яшчэ нікім. Зловіш, а гэта ўжо не вецер. Пазіраваць ветры не ўмеюць!

Можна намаляваць толькі тое, што засталося пасля яго, ветру. Што і зрабіў мастак Уладзімір Савіч. У яго ёсць цэлы цыкл, прысвечаны ветру. Карціны так і называюцца: «Вецер, які раззлаваў птушак», «Дай імя ветру», «Дзверы для ветру».

Але ж на палотнах не сам вецер. А тое, што ён пакінуў пасля сябе. Да прыкладу, раззлаваных птушак. Прыглядзешся, а гэта ўжо не птушкі, а жанчыны. І яны раззлаваныя таксама. Ад ветру застаўся толькі яго рух.

І беларускія пісьменнікі таксама ў вершах і прозе напісалі свой клімат: буры, навальніцы, дажджы, перуны, замаразкі, снягі, маразы, ліўні...

Напісалі і вецер. Як ён упіраецца, калі дзьме насустрач табе, і як падпіхвае ў спіну, калі ідзе за табою. І які ён пяшчотны бывае — таксама напісалі.

Пісьменнікі ўзнавілі вецер словам. І гэта ў іх атрымалася, хоць само слова, здараецца, такое ж няўлоўнае, як і вецер...



## НАША ФЛОРА

Сенполіі, аканіты, кампанулы, дахліі... Зразумела, наша флора — найперш яны, нашы краскі. Праўда, у нас гэтыя кветкі называюцца па-іншаму: фіялкі, боцікі, званочкі, вяргіні. Гладыёлусы для нас касачы, календула — наготкі, флёксы — панскі вечар. Ёсць у нас кветкі залатыя шары і бабіна лета.

Агаткі маюць аж некалькі сваіх, родных і цудоўных назваў: пух, кацалапкі, сухапут, аўдулькі, коткі... Некаторыя кветкі, якія па-рознаму і даўно трапілі ў нашы яшчэ старажытныя палісаднікі, ужо і самі не памятаюць адкуль іх прывезлі на Беларусь — з Мексікі ці з Маньчжурыі, з Еўропы ці з Паўночнай Амерыкі, з Афрыкі ці з Аўстраліі. Яны ў нашых палісадніках, пад нашымі вокнамі, увесь час перад нашымі вачамі — значыць, нашы.

А наша ружа? Так, так — наша ружа!

Яна ж — царыца кветак. Кветка ўсіх часоў і народаў. Свяшчэннаю ружа лічылася ў Персіі, Грэцыі, Рыме. Персію яшчэ называлі Гюлістанам — што ў перакладзе азначае: Ружавы Сад. Індыйская легенда расказвае, што Лакшмі, багіня кахання і ўрадлівасці, з'явілася з бутона ружы. Ружа — яе калыска, сімвал боскай таемнасці.

Гладыятараў-пераможцаў у Рыме віталі дажджом з руж, упрыгожвалі вянкамі з гэтых цудоўных кветак! Патрыцыі засыпалі сваіх каханых ружамі, а патрыцыянкі купаліся ў ружавай вадзе.

Ружа — кветка кахання. Каханне ж — сусветная радасць. І наша таксама. Таму ружа — вельмі шаноўная кветка і ў нас.

У невялікім нямецкім гарадку Гільдэсгейме жыве ружа — самая старажытная кветка ў Еўропе. Ёй ужо тысяча гадоў, а яна ўсё яшчэ цвіце.

У нашым Цэнтральным батанічным садзе растуць і квітнеюць 54 віды і 850 гатункаў руж. На нашых землях, накрытых Чарнобылем, ружы чамусьці ператвараюцца ў шыпшыну... Мусіць, без ласкі і ўвагі чалавека. А яны ж, ружы і чалавек, — як адно цэлае.

Памятаю, як я здзівіўся, узрадаваўся, калі на Каўказе сустрэў наш родны трыпутнік, які расце ў нас амаль на кожнай сцежцы: яго топчуць, а ён расце. І выкідае, уздымае высока над сабою, бессцяблова, па-свойму шыкоўную кветку. Я спрачаўся, даводзіў, што трыпутнік наш, а мне адказвалі: і наш таксама. Расліны — сусветныя вандроўнікі. І сусветныя жыхары таксама.

Да чаго ўжо здаецца нашым палын, ці не самая горкая расліна, у якой нашы продкі шукалі здароўя і якую заўсёды вешалі мы перад уваходам у хату, верачы, што яна ахоўвае і засцерагае нас ад злых духаў. А палын жа шанавалі яшчэ ў старажытным Рыме — сокам з палыну ўзнагароджвалі пераможцаў спаборніцтваў, ведаючы, што трава — лекавая, што яна вяртае атлетам страчаныя сілы. І старажытныя грэкі лічылі палын раслінай здароўя.

Наш часнок, які любілі і паважалі нашы дзяды і прадзеды, аказваецца, шанавалі фараоны — яны змушалі рабоў, якія будавалі піраміды, штодзённа есці яго, а рымскія легіянеры і воіны старажытнай Грэцыі былі ўпэўнены, што часнок зробіць іх магутнымі і харобрымі, а таму елі яго перад боем. Яшчэ ў Вавілоніі 4500 гадоў назад ведалі гэтую «нашу» траву, садзілі і вырошчвалі яе, лячыліся ёю. Елі падчас чумы і халеры.

І явар — такая ўжо беларуская расліна. А яна ж татарская. Яна — крыніца дзівосных усходніх водараў. Зацукраныя карані аеру — вядомая турэцкая слодыч.

Ды і пасадзілі нам гэтую траву нашчадкі Чынгісхана. Яны ведалі, што явар ачышчае ваду, бралі яго з сабою ў паходы. Там, дзе пілі самі, паілі сваіх коней, воіны спяр-

ша кідалі ў нашы рэкі і азёры аер з жывымі карэньчыкамі. Расліны прыжыліся і зрабіліся нашай травою: цяпер цяжка распазнаць у іх чужаніцаў.

А ў нас каля возера Свіцязь захаваліся рэліктавыя віды воднай расліннасці — лабелія Дортмана, прыбярэжнік аднаколерны, азёрны палушнік, якія сустракаюцца толькі на востраве Ява. Адкуль і як яны з'явіліся на Беларусі?!

Мы цяпер паступова прывучаем да нашых кліматычных умоў вінаград. Паўднёвая расліна, якая любіць сонца і цеплыню, пакутуе ад нашых замаразкаў, ды мала сонечных дзён, але ж паволі прыжываецца. Часцей за ўсё на нашым поўдні. Нярэдка як дэкаратыўная расліна. Але ж ёсць у нас і вінаграднікі, якія даюць нармальныя ягады.

Ды і ананасы растуць на нашай зямлі.

Гэтую трапічную расліну ў нас вырошчвалі раней у шмат якіх маёнтках — Дзярэчын, Кухцічы, Залессе. І ў Нясвіжы яна давала плады. А граф Эмерык Карлавіч Чапскі ў сваім маёнтку Прусінава на Міншчыне вырошчваў у цяпліцах ананасы на продаж. У чатырох ягоных цяпліцах штогод спела да 3 тысяч ананасаў. У 1887 годзе на сельскагаспадарчай выстаўцы ён нават атрымаў сярэбраны медаль — «за вялікую колькасць ананасаў».

А дзе, як вы думаеце, у Еўропе расце самая прыгожая архідэя? Трапічная кветка, якая ў нас называецца венерыным чаравічкам? Ды ў нас на Брэстчыне! У Маларыцкім раёне, непадалёк ад вёскі Хаціслаў. Там іх, архідэй, выяўлена каля 500 раслін. Яшчэ яны сустракаюцца ў Кобрынскім і Драгічынскім раёне. А ўсяго на Брэстчыне знойдзена каля 60 месцаў, дзе расце звыш 20 тысяч архідэй.

На той жа Брэстчыне здарылася дзіва: нечакана ў памяшканні брэсцкага спорткомплекса «Алімп» зацвіла таўсцянка — расліна, радзіма якой спякотныя тропікі Афрыкі. Гэтая кветка вельмі любіць волю і радзіму і нават у сваім краі не зацвітае ў няволі, у памяшканнях. А ў нас

зацвіла! Ды калі зацвіла?! Зімою, у самыя калядныя маразы!

А колькі заморскіх кветак зрабіліся ўжо нашымі. Яны ўпрыгожваюць падваконнікі вясковых хат і гарадскіх кватэр. У вазонах — жыхары амаль з усяго свету: з трапічных лясоў, з горных скал і пустынь, з прэрый і альпійскіх лугоў: алоэ, наш сталетнік, пеларгонія — з Афрыкі, фікус, лімоны, азаліі, камеліі — з Азіі, агавы, кактусы, традэсканцыі, магноліі — з Амерыкі, драцэна, дарнаптус — з Аўстраліі, плюшч, язмін пакаёвы, мірт, лаўр высакародны — з Міжземнамор'я.

Толькі найперш для нас — свае кветкі. З якімі мы нараджаемся і паміраем. З якімі сябруем і якімі любуемся. З якімі смуткуем і радуемся. Разам слухаем музыку — кветкі вельмі любяць музыку. Але толькі класічную! Ад джазавай, ад барабанных рытмаў, ад рок-музыкі яны рашуча адхіляюцца ў супрацьлеглы бок. Мы гаворым з імі, як з людзьмі. І яны нас слухаюць, бо ўсё разумеюць. Так і хочацца часам папрасіць: «Пагавары са мной, пралеска». Бо кветкі, расліны — нашы родзічы. Хоць бы сабе па вадзе — і мы, і яны на 80—90 працэнтаў складаемся з вады. Кветкі адорваюць чалавека дабрынёй. І той, хто разумее іх, не можа быць злым. Не разумею, як можна зазлавацца і накрычаць на кветку? Як можна яе аблаяць?

Тую ж ружу, напрыклад. Тыя ж браткі. Іх жа мы яшчэ завем ласкава: брат з сястрою, трайцвет, махвіцы, травіца — брат-сястрыца. Як яны нявінна глядзяць на кожнага, хто ля іх спыніўся!

А сінявокі васілёк? А ўвесь з белых крылляў рамонак? А ўвесь залаты спачатку, а потым пушысты, як клубочак, і лёгкі, з адных парашуцікаў, дзьмухавец.

Абдуванчык самы першы сустракае сонца. Здаецца, нават сонечныя промні раскрываюць яго, ласкава выбаўляючы ягоныя пялёсткі з кулачка. Дзьмухавец самы першы сярод раслін высейвае сваё насенне ў зямлю — крылатае, яно апладняе ўсе лугі і ўзмежкі. Здаецца, такімі залацістымі іх не робіць ніводная краска.

Таму дзіўна, што ў XXI стагоддзі супраць дзьмухаўца вядзецца жорсткая неаб'яўленая вайна — у гарадах ён псуе выгляд газонаў і лужкоў. Хоць адзін абдуванчык на газоне — гэта ўжо нонсенс, брак работы садоўніка.

А дзьмухавец жа яшчэ і барометр. Па ім мы пазнаем, ці будзе дождж, ці трэба, выходзячы з дома, браць парасон. Нават, калі ва ўсё неба раскашуецца сонца, няма ніводнага воблачка, сіноптыкі абяцаюць цудоўнае надвор'е, а дзьмухавец схаваў свае пялёсткі ў трубачку — толькі жоўтая дзюбачка тырчыць — бяры парасон, не сумнявайся: хутка будзе дождж.

І наадварот: неба спахмурнела, а дзьмухаўцы не закрыліся — дажджу не будзе.

Кветкаю-барометрам з'яўляецца і адоніс, які сваё імя атрымаў ад бога Сонца Адона. Таму яму, як кажуць, і сам бог дазволіў сачыць за сонцам, не разлучацца з ім, радавацца яму, сумаваць па ім у непагадзь.

Разам з дзьмухаўцом і адонісам першыя сонечныя промні ловяць кветкі цыкорыя і ружы, шыпшыны і казяльцу. Мак раскрываецца ў пяць гадзін раніцы, бульба — у 6, гарлачык белы — у 7. Наготкі закрываюцца ў чатыры гадзіны дня, смалёўка ў восем вечара, а падбел — у 6 пасля поўдня. Не трэба і гадзіннік!

Дарэчы, па падбелу яшчэ мы вызначаем, калі зацвіце якая расліна. Зацвіў падбел — значыць, арэшнік зацвіце праз 5 дзён, дзьмухавец — праз 21, свірэпка — праз 26, вішня — праз 29, рэдзька — праз 44, васілёк — праз 50, доннік — праз 63 дні. І мы, пчаляры і садаводы, улічваем гэта ў сваёй працы.

Наша флора — гэта перш за ўсё трава. А трава — гэта таксама кветкі. Трава цвіце — няма ніводнай травіны, якая б не цвіла. Таму мы свае кветкі часам называем краскамі.

Заліўныя, броды і поймавыя лугі не нахваляцца разнатраўем, з пахкімі, густымі травастоямі: канюшына, цімафееўка, лісахвост, гарошак мышыны, мята, нівянік, смолкі, светаянік, званкі, гарлачыкі, яснотка. Яснотка — гэта таксама наша кветка, хоць яна ўсяго толькі «белая глухая

крапіва». І крапіва таксама — флора. Нашы далёкія прашчуры рабілі з яе моцныя вяроўкі.

Вясною, калі раней асабліва не было чаго есці, нас ратавала крапіва. А на Купалле і на Духа мы вешалі і клалі крапіву ўсюды — і на вокны, і на дзверы, і на парогі. Каб абараніцца ад ведзьмакоў ды русалак. У дзень Марфы-малочніцы, каб не хварэць, трэба было пасцёбаць сябе крапівою.

Нашы лугі — гэта наша трава. Трава — ежа для свойскай жывёлы. Як яна перазімуе — залежыць перш за ўсё ад травы, ад таго, колькі накосім сена.

«У нас не дораць кветкі, іх — стагуюць» — так яшчэ ў XX стагоддзі напісаў наш мудры паэт Сымон Блатун.

І праўда, трава — гэта ўсяго толькі, калі паглядзець практычна, сена. Пракосы. Копы. Стагі.

А яшчэ ж наша флора — гэта ежа. Палі засеяныя жытам, пшаніцай, ячменем, грэчкай, гарохам, просам...

Свае палі мы заўсёды шанавалі. Прыраўнівалі да святых. Маліліся ім. Абагаўлялі. Бо збожжа — наш хлеб.

Кажуць, што жыта раней расло ў нас вельмі буйнае: на кожнай сцябліне — па сотні каласоў. Але ж аднойчы здарылася непапраўнае. Пякла баба аладкі, а дзіця малое не ў час у пасцельцы правінавацілася. Жанчына паленавалася шукаць якую анучку і падцёрла яму попку аладкаю. Як жа зазлаваў, як разгневаўся Бог! Як пачаў ён сашморгваць са сцяблін каласы! Маці Божая ўпрасіла яго пакінуць на націне хоць адзін колас на расплод. З таго часу, гаворыць паданне, з-за той цёткі-бязбожніцы жыта і расце толькі па адным коласе на сцябліне.

Жыта — самая галоўная расліна сярод збожжа. Да яго сяўбы мы заўсёды ставіліся з найвялікшаю павагаю. Ёсць жыта — значыць ёсць хлеб. Урадзіла жыта — чалавек жыве з хлебам цэлы год. У жыта ёсць свая святая — Хадоска-каласяніца. Яна лічыць, колькі засталося нам чакаць да новага хлеба, бо пасля яе жыта два тыдні зеляніцца, два тыдні каласіцца, два тыдні цвіце, два тыдні наліваецца, два тыдні спее. Словам, ад Хадоскі

новага хлеба нам даводзіцца чакаць восем тыдняў. Два месяцы — і хлеб!

Пшаніца ў нас расце крыху горш — мы ж не паўднёвая краіна. Таму мы і прывыклі больш да аржанога хлеба, а падчас сяўбы самі сябе папярэджваем: не сей пшаніцу да дубовага ліста — яна ж вельмі баіцца замаразкаў, а ў маі яшчэ два халады наперадзе.

Авёс мы сеем як можна раней. І супакойваем сябе: «Авёс сей у гразь — будзеш князь».

З ячменем таксама не цырымонімся: ён цярплівы, непераборлівы. Любіць нашы дзярнова-падзолістыя суглінкі. Ячмень — скараспелая і ўраджайная культура. 100 сутак вегетацыі — і мы ўжо ядзім ячны хлеб. А яшчэ ж ячмень — гэта крупы і піва.

Агарод, грады — зноў жа наша флора.

Памідоры, агуркі, буракі, гарбузы, капуста, кабачкі — і гэта флора, ды яшчэ якая. Слінкі цякуць і вочы разбягаюцца, калі заходзіш на сапраўдны, клапатліва ўроблены, агарод.

Боб сеялі як запяе удод. Яго запякалі ў вясельны каравай, і тая дзяўчына, якая знойдзе бабіну, магла чакаць вяселля.

Морква — ад усіх нягод. Менавіта яна дапамагае прыводзіць нам свой стан у норму. Маці, якая корміць сваім малаком дзіця, павінна піць маркоўны сок — і для здароўя дзіцяці, і для свайго таксама.

А наша мяліса абуджае і раскрывае самыя лепшыя якасці самых каштоўных чаёў — цэйлонскага, індыйскага, кітайскага: на чайную лыжку чаю — пяць частак мялісы.

Кроп, які сёння для нас усяго толькі прыправа, раней шанаваўся як кветка: букеты з кропу дзяўчаты дарылі сваім выбраннікам, прызнаючыся такім чынам у каханні.

Кмен, як кажуць, на ўсе рукі майстар. Ён паляпшае сон, супакойвае нервовую сістэму, залечвае раны, маладзіць твар чалавека.

Гарох выкарыстоўвалі, як абярэг: ім засцерагаліся ад сурокаў.

А якая ж флора — ягады: маліна, суніцы, дурніцы, касцяніцы, клубніцы-трускалкі!

Чарніцы, якія, як кажуць у народзе, спеюць пад камарыныя песні. Шмат у лесе камароў — шмат і чарніц. Адно дрэнна: увесь час даводзіцца адганяць іх, махаючы рукамі. Кажуць, што калісьці даўно-даўно, шукаючы багацце Лесавіка, людзі вытапталі ўсе лясы, але нічога не знайшлі. Застаўся толькі адзін кусцік чарнічніку — якраз у ім і схаваўся Лесавік. Таму ў нас яшчэ і сёння чарніцы завуць лесавіковымі ягадамі.

Нашы брусніцы — вечназялёная расліна: яна не скідае свайго зялёнага ўбрання і ўзімку. А жывуць бруснічнікі, між іншым, па 200 гадоў.

А чорна-чырвоныя ягады ажыны! Яны ж не толькі смачныя, дык яшчэ і карысныя. І практычныя — пасадзі іх і не трэба агарожа: калючкі ажынніку будуць сапраўдным частаколам. Ажына — родная сястра маліны. Так і жывуць яны як дзве сястры ў беларускіх лясах.

Сады — зноў жа наша флора. Садоўніцтва заўсёды было сялянска-інтэлігентнай прафесіяй. Беларус не толькі любіў і паважаў бярозку пад вакном і рабіну ля весніц, але вельмі шанаваў свой сад і рупіўся і яблыняй, і слівінай, і грушаю ў ім.

Яблыкі — на розны час года: летняя Папяроўка, асенні Штрыфель, зімовая Антонаўка, познія Беларускі Сінап ды Ранет Залаты.

Груша формаю сваёю нагадвае стан жанчыны. Таму, каб зацяжарыць, жанчыне раілі есці грушу, якая даўжэй за ўсё завіселася на галінцы.

Мы ўсе ведаем, што дзяцей прыносяць буслы, што іх знаходзяць у капусце. А на Палессі прыдумалі яшчэ адзін спосаб знаходзіць, набываць сабе немаўлят. Пра толькі што народжанае дзіця палешукі казалі: «упаў з грушы», ці «баба з грушы яго зняла».

Груша — сімвал вельмі моцных пачуццяў. Пад ёю ў сваім язычніцтве маліліся нашы прашчуры.

Лясы — таксама наша флора. Разам з грыбамі, якія, хоць і з'яўляюцца чымсьці сярэднім паміж раслінамі і

жывёламі, усё тая ж флора. Звыш тысячы назваў грыбоў расце ў лесе, сярод якіх — 200 ядомых. Пералічваць іх няма патрэбы: думаецца, кожны беларус ведае імёны гэтых грыбоў і ўмее з дзяцінства адрозніваць ядомыя ад неядомых.

Па Беларусі налічваецца каля дзвюх соцен відаў водных раслін — трыснёг, чарот, рагоз, плюшчай, сітняк, асака, гарлачык белы, гарлачык жоўты. Шмат імхоў і водарасцяў.

І самыя маленькія кветкавыя расліны — аднаклеткавыя бактэрыі, якіх каля 5 тысяч відаў. Вольфія, раска бескаранёвая. На сажалках і балотах расце малеча — раска малая. Яе памеры ўсяго 6 міліметраў. Маленькія круглыя лісточкі пакрываюць стаячую ваду. Уся гэтая расліна-пігмей складаецца з аднаго лісточка і адзінага апушчанага ў ваду карэньчыка. Цвіце рэдка і можна агледзець усю сажалку, а кветкі так і не знайсці. А размнажаецца вельмі хутка: ад лісточка аддзяляецца іншы лісточак і пускае свой карэнчык — вось табе і новая расліна!

Раска — рухомая істота: яна плавае па вадзе. Часам поўнасцю пакрывае сажалку ці возера. Таму яе і называюць у народзе жабінаю дзяружкаю.

Пустазелле — таксама флора. Яно вельмі жывучае. Нават маленькі корань асоту, які астаўся ў зямлі, неўзабаве дае новую моцную расліну. Макрыца ці зораўка, парваная і пасечаная на кавалкі, на мокрай глебе ўкараняецца і размнажаецца: адна расліна дае да 25 тысяч зернетак насення. Лебяда ўзыдзе на самай неўрадлівай зямлі — і неўзабаве ў рост чалавека. Дзіўна, як усё роўна яны ведаюць, што іх будуць палоць, выполваць.

Ёсць у нас і ядавітыя расліны. Арляк — папараць, да прыкладу. Калі няма чаго есці, яе ядуць часам коні. І атручваюцца. Яна небяспечная для жывёлы — як на корані, так і высушаная, у сене. Шкодная нават як падсцілка.

Казялец едкі, кураслеп. Залаціста-жоўтыя кветкі. Казялец пякучы, ці прышчанец. Казялец ядавіты. Усе яны

шкодныя. І імі атручваецца вясною на пашы жывёла, калі яшчэ цяжка адрозніць гэтую траву ад іншых раслін.

Нават змеі таксама баяцца некаторых раслін. Скажам, нашай папараці.

Ёсць драпежнікі-птушкі, драпежнікі-жывёлы. І ёсць драпежнікі-расліны, якія ловяць і ядуць насякомых.

Расянка круглалістая — маленечкая чырванаватая травінка. Яна палюе на камароў. Яе лісты з валасінкамі выдзяляюць клейкую бліскучую кропельку вадкасці. Камары прымаюць яе за расу, садзяцца, каб напіцца, і прыклейваюцца. Лісточак скручваецца і не раскручваецца, пакуль не высмакча ўсяго камара.

Ды што камара! Плывунец, драпежная расліна, якая жыве ў нашых завадзях без карэння, вольна гуляючы па вадаёмах, ловіць і спажывае нават рачных рачкоў, малькоў дробнай рыбы ды іншую, часам і буйнейшую жыўнасць. Палюе яна гэтак жа амаль, як і расянка, маючы лісткі-пасткі.

Але ж гэта выключэнне. Бо ўся наша флора — мірная.

Уся ж ці амаль уся флора — наша здароўе, нашы лекі, зялёная аптэка, самы шчыры і безадмоўны доктар.

Святаяннік здымае болі ў страўніку, рамонак лечыць запаленні і стому, хвошч, сардэчнік, сабачая крапіва, валяр'ян — супакойваюць нас, васілёк — пасабляе ныркам, наготкі — памагаюць печані, крапіва — нармалізуе стан крыві, глог — рэгулюе ціск, рабіна — паляпшае апетыт.

Прастудныя хваробы выганяем першацветам, залатуху ды фурункулы лечым ясноткай, лішаі — званочкамі, астму ды малакроўе — суніцамі, калінаю — ангіну, кісліцаю звычайнаю — атручэнні, валяр'ян — лекі ад бяссоння, а чорнаплодная рабіна выводзіць радыенукліды.

Ну а шыпшына — гэта ўвогуле скарбонка вітамінаў — у ёй ёсць і карацін, і глюкоза, і фруктоза, і пекцінавыя рэчывы, і эфірныя маслы.

І яшчэ адно, ці не самае асноўнае значэнне нашай флоры для нас: мы штодзень бачым яе, любуемся ёю, захапляемся, радуемся, што яна заўсёды з намі, вакол нас.

Наша флора такая багатая, што нават здаецца, быццам яна невычэрпная, нязводная.

Бачачы штодзень нашу непаўторную флору, жадаючы на кожны дзень і настрой, мы здаравеем самі. Здаравеем душой і целам.



## НАША ФАУНА

Наша фауна — найперш гэта нашы свойскія жывёлы: конь, карова, авечка, каза; куры, гусі, качкі; свінні, сабакі, кошкі.

Некалі, за смугою стагоддзяў, вольныя і незалежныя, яны, прыручаныя намі, зрабіліся такімі ўжо сваімі, такімі хатнімі, такімі роднымі.

Спачатку яны апантана супраціўляліся няволі, прымусу, а потым даверыліся нам, палюбілі нас, — гэтак жа як мы палюбілі іх. Хатнія жывёлы і птушкі сталі нашымі сябрамі, пестунамі, таварышамі, памочнікамі, яны цяпер ужо нібыта нашы сямейнікі — не пакарміўшы іх, мы ніколі не можам сесці за стол.

І толькі пчала так і засталася непрыручаная. Колькі ні спрабавалі мы яе прыручыць — не атрымалася. Пчала жыве побач з намі, памагае нам зберагчы сваё здароўе, але яна вольная і незалежная. Непрыручаная!

Хіба можна сабе ўявіць беларуса без каня? Што вы! Конь для гаспадара заўсёды быў і сябрам, і братам. Разам яны, як зросшыся, працавалі і ў лесе, і ў полі. Конь быў нашым багаццем.

Набываў чалавек каня — быў самы шчаслівы, страчваў яго — рабіўся самым няшчасным. Нездарма ў нашых вёсках найбольш ненавідзелі і люта білі менавіта канакрадаў.

Беларус не толькі працаваў поплеч са сваім канём, але і вёў з ім нетаропкія размовы, расказваў яму пра ўсё, раіўся з ім. І конь уважліва слухаў. І памагаў свайму

сябру — узнімаў сваім спакоем яму настрой, засцерагаў ад нячыстай сілы. Чалавек лячыўся яго спакоем.

Конь быў нашым абярэгам! Багі яму былі апекунамі. Як той жа Ярыла, якога мы сабе ўяўлялі толькі на белым кані.

Дарэчы, нашы беларускія загадкі пра каня і вершніка гавораць як пра адну істоту з двума галовамі — конскай і чалавечай.

Мы разумелі: «Без каня не родзіць зямля» і таму: «На каня не пугу трэба купляць, а авёс».

Сваю карову, спадкаемніцу еўрапейскага тура, мы прыручылі яшчэ за 4 тысячы гадоў да нашай эры. Усе ласкавыя словы, якія ведалі ва ўсіх стагоддзях нашы жанчыны, яны перагаварылі кароўкам. «Ідзі, мая кароўка, у зялёную дуброўку, каб пад сонейкам хадзіла, пад месячкам не блудзіла», — так выпраўлялі мы сваю малачаўніцу, сваю «матулю» ў поле. А сустракалі яе хлебам. На Уласаў дзень — ці Каровіна свята — пяклі жытнёвы хлеб ды аладкі для сваёй жывёлы, асвячалі гэтыя прысмакі і частавалі імі сваіх каровак. Ад каровы залежаў наш дабрабыт, а таму спрадвеку мы паважліва адносіліся да яе: «Селянін кароўкаю жыве», — светла радаваліся мы; «Карова на двары — ежа на стале», — тлумачылі сабе; «Кароўку біць — малака не піць», — вучылі сваіх дзяцей.

Дарэчы, наша кароўка заўсёды была нашай карміліцай і ўсе пакаленні беларускіх дзетак ва ўсе часы і стагоддзі выраслі менавіта на каровіным малацэ. Мы не ведалі, але разумелі, што сырадоі — наша здароўе, наш эліксір.

Якія ласкавыя, шчырыя былі нашыя замовы да іх, каровак!

«Рагуля-баравуля, так стаяла твая бабуля, так стаяла твая матуля і табе так стаяць наказвала».

Бачыце, і матулі, і бабулі нашых каровак так стаялі. І прабабулі, і прапрабабулі. Таму пры даенні мы нібыта маліліся:

«Матуля-рагуля, як ты стаіш, так і стой. З нагі на нагу не пераступай, хвастом не махай, галавой не круці, лёгка даіся і дадому заўсёды вярніся».

Ёсць у нас і абярэг для свойскай жывёлы:

«Вароты як адчыняюць, як тавар на пашу выганяюць, злому зверу рот замком замыкаюць, каб ён вушамі не цягнуў, і вачамі не глянуў, і рота не разяўляў, год да маёй худобы не прыступаў, дзень пад сонейкам, ноч пад месячкам, пад яснымі зорамі, пад Гасподнімі словамі. Амін».

Мы трохі злаваліся на свойскую авечку: воўк дражніцца з ёю — то пакажацца з-за куста, то схаваецца, — а яна, дурніца цікаўная, ідзе да яго, каб разабрацца, што ж там такое матляецца.

Мы вельмі любім сваіх курэй і лічым, што яны самыя прыгожыя, вытанчаныя, элегантныя, хоць часцей за ўсё не ведаем, што наша ручная курыца і напраўду самая блізкая сваячка найпрыгажэйшай птушцы свету — паўліну з яго вялізным шыкоўным хвастом, які, на наша здзіўленне, не замінае лятаць.

Наш певень, курыны гаспадар, заўсёды будзіў сваёй песняй сонца, праганяў цемру, клікаў світанак.

А наш гусак вытрымлівае 110 градусаў марозу. Палярны мядзведзь і то меней — усяго 90 градусаў.

А нашы кошкі! Якія ж яны пушыстыя, ласкавыя, добрыя, зграбныя гэтыя прадстаўніцы вельмі драпежнага роду звяроў, сярод якіх — рысь і нават тыгр, даўжыня цела якога дасягае трох метраў. Мы паважаем у кошак іх глыбокі ўнутраны спакой і дазваляем гэтым драпежнікам жыць побач з намі ў хаце. Шануем за грацыёзнасць: паглядзіце толькі як яны мыюцца!

Але нашым самым верным сябрам спрадвеку з'яўляецца сабака. Родны брат ваўка. Па легендах, ён нават большы нам сябра, чым жонка.

Кінолагі, праўда, не нашы, вывелі для забавы пароду сабак, якую назвалі «пецярбургскай архідэяй». Сабачка важыць усяго крыху больш як два кілаграмы. Мініяцюрны! Самі селекцыянеры лічаць яго «сабачкам для вашай кішэні».

Наколькі мы любім і цэнім сабаку, настолькі ненавідзім ваўка. А воўк люта ненавідзіць нашага сябра — сабаку. Здаецца, і нас таксама з-за яго.

Воўк — наш найпершы вораг. Бо ён адбірае ў нас прыручаную за стагоддзі свойскую жывёлу. Нападае на лугах, пашах, узлесках і нават выцягвае яе ўзімку з хлявоў.

У ваўка няма іншага ворага, акрамя чалавека. Самы галоўны яго вораг — паляўнічы. Мы абвясцілі драпежніка па-за законам, бо палюем з ім на адных і тых жа жывёл.

Воўк, як і чалавек, на нашай зямлі абарыген. Мы разам з ім абжывалі зямлю і палявалі адно на аднаго. Ваўчыныя косці знойдзены пры даследаванні старажытных стаянак на нашай зямлі. З тых прамінулых часоў воўк і з'яўляецца аб'ектам нашага палявання.

Воўк — драпежнік і ахвяра адначасова: сам ён, хітры, разумны і каварны, палюе бязлітасна, аднак і на яго палююць не менш жорстка: аблавы, воўчыя ямы, лоўчыя пасткі, забіваюць ваўкоў нават з верталётаў... За яго знішчэнне нам плоцяць грошы. Як ён, абараняючыся, накідваецца на верталёт і апантана кусае, спрабуе разарваць яго гумавыя колы!

У большасці краін Еўропы воўк быў знішчаны поўнасцю.

У Беларусі, нягледзячы на жорсткае паляванне, ён выжыў: у нашых лясах ваўчыцы прыносяць па 10 — 12 ваўчанят, а таму і цяпер сустракаюцца ваўчыныя зграі да 36 асобін.

На пачатку трэцяга тысячагоддзя ў нашых лясах жыло каля 2 тысяч ваўкоў.

Кажуць, што вяртаюцца ваўкі і ў Еўропу. Да прыкладу, у тую ж Францыю. З Італіі, якая захавала папуляцыю, бо Ромул і Рэм, якія па легендах заснавалі Рым, былі ўскормлены ваўчыцаю.

Палявалі мы і на мамантаў. Цяпер існуе такая думка, што не толькі абледзяненне, але і мы самі вінаваты ў іх зніканні — маўляў, мамантаў паелі нашы продкі. Там, дзе мы 20 тысяч гадоў таму палявалі, зямля нібыта забрукавана касцямі мамантаў.

Найбольш рэшткаў выкапнёвых жывёл захавалася на Смаргонскім могільніку мамантаў — унікальным для Бе-

ларусі месцазнаходжанні касцей, дзе знойдзены нават шматлікія астанкі мамантаў і некаторых дробных арганізмаў, што захаваліся ў лінзах бурштыну.

Побач з мамантам жыў тады на зямлі валасаты насарог, першабытныя бізон і тур, вялікарогі алень, выкапнёвы конь, паўночны алень, пячорныя мядзведзь і леў. Нашымі былі паўднёвыя суслікі ды пішчухі, паўночныя лемінгі ды пясцы, а таксама бабры, расамахі, лісы, хахулі, з якімі мы побач жывём і сёння.

Наш зубр — адтуль. З дагістарычнага мінулага. Ён прамы нашчадак бізона. Ледзь не загубілі мы і яго — на зуброў палявалі як на ваўкоў. Колькі зуброў пастраляў і колькі вялізных бочак зубровага мяса насаліў Ягайла, рыхтуючы да Грунвальдскай бітвы стотысячнае войска!

За два дні вясёлай забавы ў 1860 годзе цар Аляксандр II са сваёй світай забіў у Белавежскай пушчы трыццаць зуброў.

А кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст III у гонар свайго палявання нават загадаў узвесці абеліск у Белавежы, на якім высеклі пазалочанымі літарамі: «27 верасня 1752 года тут палявалі на зуброў Іх Вялікасці Аўгуст III і Курфюрст Саксонскі з Найсвятлейшай жонкаю Каралевай і іх Высокасцямі Прынцамі Ксаверыем і Карлам, прычым былі забітыя: 42 зубры, а іменна: 11 буйных, з якіх большы важыў 14 цэнтнераў і 50 фунтаў, 7 меншых, 18 маладых зуброў і шэсць цялят. Далей — 13 ласёў, а іменна: 6 быкоў, з якіх найбольшы важыў 9 цэнтнераў і 75 фунтаў, 5 кароў і 2 цяляці; апрача таго 2 казлы. Усяго 57 штук».

Апошняя зубрыца была знішчана ў лютым 1919 года. Нават для гісторыі захавалася імя забойцы — Варфаламей Шпаковіч, наш, тутэйшы Герастрат. Ніякіх прэтэнзій да зуброў у яго не было. Яму патрэбна было ўсяго толькі зубрынае мяса.

Мы аднавілі зуброў! Цяпер іх у нас каля 560. Яны жывуць не толькі ў вальерах, але і на волі. Нашы зубры плодзяцца цяпер і ў іншых краінах. Як сцвярджаюць заолагі, з Беларусі ў савецкі час было вывезена каля

130 зуброў, якіх рассялілі ў Расіі, Прыбалтыцы, а ўся ўкраінская папуляцыя зуброў мае выключна беларускія карані.

Сусветная папуляцыя зуброў ужо налічвае больш за 2 тысячы асобін.

У Расію мы вывезлі для рассялення 600 дзікоў, у падмаскоўныя лясы — 100 беларускіх аленяў. Каля тысячы адборных баброў з беларускіх рэк і азёр было вылаўлена і вывезена ва ўсе колішнія саюзныя рэспублікі Савецкага Саюза — для размнажэння. Бярэзінскія бабры прыжыліся ў Омскай, Томскай, Кіраўскай і іншых абласцях Расіі.

Але мы не толькі вывозілі сваіх жывёл, а і завозілі да сябе чужых. І часам былі засмучаны і занепакоены іх агрэсіўнасцю.

Амерыканская норка, завезеная на Беларусь, нанесла непапраўны ўрон спрадвечным жыхарам нашых лясоў: амаль знішчыла абарыгенную асобіну — нашай норкі засталося толькі некалькі дзесяткаў у Віцебскай вобласці.

Янотападобны сабака нанёс вялікую шкоду нашай фауне — ён палюе не толькі на вадаплаўных птушак, але не супраць з'есці і аленяня ці казуляня.

Драпежны, агрэсіўны, паласаты амерыканскі рак, што невядома як трапіў у вадаёмы Гродзеншчыны і цяпер інтэнсіўна размнажаецца, знішчае нашага звыклага спрадвечнага рака.

Таму ў нас апошнім часам ні імпарт, ні экспарт жывёл не практыкуецца.

Лось — самая буйная пасля зубра жывёла на нашай зямлі. Важыць ён да паўтоны, а даўжыня дасягае трох метраў. Ён — вегетарыянец. Корміцца лось імхамі, лішайнікамі, грыбамі, у яго рацыён уваходзяць вярба, асіна, рабіна, сасна, чарніцы, брусніцы, верас, крапіва, асака, скрыпень. Цяпер у Беларусі, здаецца, няма раёнаў, дзе б не сустракаўся лось.

Буры мядзведзь — самы буйны на Беларусі драпежнік. І — таксама вегетарыянец. З наступленнем халадоў кла-

дзецца на зіму ў спячку. Назапашвае перад гэтым да 50 кілаграмаў тлушчу і тады спіць у бярлозе чатыры-пяць месяцаў. А каб нагуляць гэтыя 50 кілаграмаў тлушчу, мядзведзь павінен з'есці летам і ўвосень паўтоны арэхаў і жалудоў ці каля тоны ягад.

Мядзведзь — наша татэмная жывёліна. І яшчэ ён — наш даўнявечны артыст: у Смаргоні ў мядзведзяў нават была свая мядзведжая акадэмія, у якой іх вучылі танцаваць, а потым скамарохі паказвалі ўсяму свету іхнія танцы.

Мядзведзяў калісьці ў нашых лясах было шмат. Цяпер — усяго каля 110 асобін, палавіна з якіх знаходзіцца ў Бярэзінскім біясферным запаведніку.

Не хочацца верыць, што такая распаўсюджаная ў свеце калісьці жывёліна, у гонар якой названа нават сталіца Германіі (Берлін — «мядзведжае логава»), у Беларусі занесена ў Чырвоную кнігу. Але ж гэта так.

Меню нашага высакароднага аленя налічвае больш за 200 відаў травяністых раслін, хмызнякоў і маладых дрэўцаў. Такая буйная і моцная жывёліна зноў жа аддае перавагу расліннай ежы.

Вожык любіць суніцы, есць арэхі і жалуды. Але ж у яго асноўны корм — насякомыя: земляныя чэрві, смаўжы і зноў жа мышы. Вожык з'ядае іх за суткі столькі, колькі важыць сам.

Толькі ж усё, што ядуць і глытаюць жывёлы, — таксама нашы флора і фауна. Значыць, нярэдка наша фауна есць сама сябе. І нічога з гэтым не зробіш, бо ўсе мы пад Богам ходзім. І тыя, што поўзаюць, і тыя, што лятаюць, і тыя, што ходзяць па зямлі.

Сярод вос таксама ёсць паляўнічыя. Аса-пампіла выкормлівае сваіх лічынак павукамі. Павука яна не забівае, а трапнымі ўколамі джала паралізуе яго нервовыя цэнтры. Ён жывы, а рухацца не можа. Аса адкладае на яго яйка, і яе лічынкі харчуюцца жывою ежаю. А каб ежа не псавалася, лічынка аб'ядае павука таксама ўмела: спачатку другарадныя часткі цела, а потым — жыццёва важныя органы.

Бусел — ці не самая мірная наша птушка. Але калі бацяна нехта пакрыўдзіць, разбурыць, скажам, яго гняздо, ён можа і адпомсціць крыўдзіцелю: ці то прынясе галавешку і ўторкне пад страху, ці то гадзюку ў калодзеж укіне.

Спачатку, калі даведаешся, што зайчыха, толькі што нарадзіўшы ў сакавіку зайчанятак, адно паспеўшы накарміць іх, тут жа ўцякае, пакідаючы дзяцей на волю лёсу, злуешся на такую маці. А потым, разабраўшыся, што яна менавіта так ратуе зайчанят, даруеш ёй усё. Калі яна будзе з малымі — іх знойдзе любы драпежнік, а калі зайчаняты, якія пакуль не маюць ніякага паху, застаюцца адны, затаіўшыся між купін, каля іх, не заўважыўшы, прабяжыць нават ліcіца. А зайчыха знойдзе магчымасць і дні праз два прыбяжыць і пакорміць сваіх дзяцей — дзе-небудзь у нейтральным месцы.

Наша фауна — гэта яшчэ і змеі. Мы іх і баяліся, і ў той жа час ушаноўвалі.

«І сказаў Пан Бог змею: за тое, што ты зрабіў гэта, пракляты ты перад усёй жывёлай і перад усімі звярамі палявымі; ты будзеш хадзіць на чэраве тваім і будзеш есці прах ва ўсе дні жыцця твайго».

На жываце змеі ходзяць і сёння. Можа таму і баімся мы іх цяпер. А раней, падчас нашага язычніцтва, у нас існаваў культ змей. Мы атаясамлівалі змея з урадлівасцю зямлі і жаночай плоднасцю. Тады нашы продкі трымалі дома вужоў, кармілі іх і прасілі праз іх прыхільнасці багоў.

З ядавітых змей на Беларусі жыве толькі адна — гадзюка звычайная. Яе мы пазнаем па «пячатцы Каіна» — зігзагападобнай паласе на спіне. Да ядавітых змей часам памылкова адносяць і мядзянку — рэдкага ў нас паўзуна з сямейства вужовых, што жыве ў лясах ды хмызняках, — аднак стварэнне гэтае зусім бясшкоднае для чалавека. А што датычыцца верацяніцы, якую таксама лічаць за змяю, — дык гэта і ўвогуле ўсяго толькі бязногая яшчарка.

Наш цвыркун прыйшоў да нас з Кітая. Пехатою. Там ён быў адамашнены і яго трымалі ў хатах з-за музыч-

ных здольнасцей — кітайцам падабалася слухаць яго песню. Нас жа ягоная начная песня злуе — не дас спаць! Мы яго ганяем, але церпім — што за хата без цвыркуна!

Жаба на нашым падвор'і ці ля крыніцы — таксама добра: жабы ў экалагічна небяспечных месцах не жывуць, а таму ўбачыць яе на сваім агародзе вельмі прыемна.

А хіба можа быць наша жыццё без птушак?!

Шмат якія з іх зрабіліся ўжо такімі свойскімі для нас.

На бярозе перад сваёй шпакоўняю сядзіць вясною і свішча шпак. Здаецца, нібыта і не звяртае на нас увагі, а часам і перадражніць нас, і нават наша мацюканне падробіць у сваёй песні.

А то раптам з бярозы пачуецца крык пеўня, ці там мяўкне кошка, ці рыпнуць дзверы, ці заіржэ жарабя. Мы тады ўсміхаемся: калі, да прыкладу, кошка яшчэ можа сама ўзлезці на тую бярозу, то хто туды усцягнуў дзверы?!

І тады толькі ківаем перасмешніку пальцам.

А ён сядзіць сабе спакойна, абыякава і не звяртае на нас аніякай увагі...

Стракоча непадалёку сарока. Блізка не падлятае, але крадзе ў нас усё, што спадабаецца: і бліскучую брошку, і кавалачак мыла, і гадзіннік, і нават невялікае люстэрка.

У буслянках каля нашых хат клякочуць, ці як раней казалі, сукаюць цэўкі, буслы. На Палессі ў некаторых вёсках было да 150 буслiных гнёздаў! Амаль на кожнай хаце — гняздо.

А нашы верабейкі! Нездарма ж мы іх называем хатнімі: то нечакана, яшчэ малюсенькія, выляцяць з падстрэшша, то цэлым клубком раптам зваляцца перад табою з дрэва, то вясёлай чародкаю пырснуць з-пад самых ног.

Верабейка не лятае ў вырай. Ён заўсёды з намі — разам мы перажываем і маразы, і спёкі, і засухі, і ліўні, і навальніцы.

Ён заўсёды побач. Робім мы нешта на сваім панадворку, і ён, неўтаймоўны, каля нас круціцца — быццам памагае нам.

Ёсць у нас яшчэ і вадзяны верабей — аляпка. Гэтыя птушкі ныраюць, плаваюць і нават бегаюць пад вадою, памагаючы там сабе крыламі.

Заўсёды навідавоку і ластаўкі. Яны вельмі любяць ляпіць свае гнёзды на нашых хатах. На адной з хат у пасёлку Паўднёвы каля Гародні пасялілася аж 77 ластаўчыных сем'яў. На другой хаце, якая знаходзіцца ў вёсцы Доўжарыцы, што ў Бярэзінскім запаведніку, эколагі налічылі 36 гнёздаў. А на розных іншых памяшканнях ластавак селіцца яшчэ болей: на жывёлагадоўчай ферме ў вёсцы Агароднікі пад Гародняй ластаўкі пабудавалі сабе аж 124 гнязды, на помпавай станцыі Днепра-Бугскага канала — 117 гнёздаў, на будынку Кобрынскай ткацкай фабрыкі — 109 гнёздаў.

Усе птушкі любяць цішыню. І не любяць, калі людзі побач з іхнімі гнёздамі крычаць і сварацца між сабою. Там, дзе грыміць шаша ці грукоча чыгунка, не жадаюць сяліцца ні сінічкі, ні блакітніцы, ні вераб'і.

З якой радасцю і замілаваннем сустракаем мы вясною сваіх птушак, якія вяртаюцца з выраю, і з якім сумам праводзім іх увосень у далёкія краіны!

Колькі ж турбот у іх, нашых крылатых сяброў: не спазніцца прыляцець, вярнуцца дадому, збудаваць гняздо, адкласці яйкі, выседзіць з іх птушанят, накарміць іх, выгадаваць і выправіць у вырай. І ўвесь час спяшацца, ляцець: то туды, у вырай, то адтуль — з выраю.

Нашы птушкі зімуюць найбольш у Еўропе: шпакі — у Германіі, Бельгіі, Галандыі, дразды — у Францыі, Італіі. А вось жураўлі, буслы, салаўі, канюкі, сітаўкі, івалгі, чаплі, кулікі ляцяць аж у Афрыку.

У Заходняй Еўропе зімуюць шматлікія нашы птушкі. Да прыкладу, нашы качкі, чубаты нырок і нырок-сівак, падымаюцца на крыло пад Мінскам, у саўгасе «Волма», і ў поўным складзе ляцяць на аблюбаванае возера ў Швейцарыі, дзе яны штогод зімуюць.

Нашы птушкі ў асноўным ляцяць з хуткасцю 40 — 80 кіламетраў у гадзіну. Дробныя птушачкі робяць па 30 кіламетраў. Шпакі — 70, буслы — 74, а стрыжы намахваюць аж па 150 кіламетраў за гадзіну.

А да той жа Ганы, скажам, дзе зімуюць нашы ластаўкі, шэрыя чаплі ды кулікі, аж 5 тысяч кіламетраў. Уяўляеце, як натрудзяць крылы птушкі, пакуль даляцяць туды, — кажуць, што пад крыламі ў іх з'яўляюцца нават мазалі.

Усё там ёсць — і корм, і цеплыня. А яны зноў збіраюцца ў дарогу. І ляцяць на Радзіму! Зноў тысячы кіламетраў пад крыламі.

З Паўднёвай Афрыкі вяртаюцца буслы, з Заходняй — ластаўкі, з Інданезіі — рачныя крыжанкі, з Алжыра — дразды, з Бельгіі — шпакі.

Аднак не ўсе нашы птушкі далятаюць да дому. На іх вельмі шмат палююць — і падчас пералёту, і падчас гнездавання на новых месцах. Французы лічаць, што яны страляюць не сваіх, а чужых, пералётных птушак, а ў некаторых краінах, праз якія ляцяць дзесяткі мільярдаў крылатых мігрантаў, ловяць, сцвярджаюць арнітолагі, усіх іх без разбору, апраўдваючы свой разбой тым, што, калі яны знішчаць нейкі мільярд крылатых, асаблівага знаку ў птушыных выраях не будзе.

На нашых птушак, да прыкладу, на Рэйне ставяць загараджальныя сеткі, абараняючы такім чынам вінаграднікі: хмары шпакоў разграбляюць іх усяго за адзін дзень!

А вось у Афрыцы да беларускіх птушак абарыгены вельмі добра ставяцца, не чапаюць іх. Таму нашы кулікі ды ластаўкі, салаўі, сітаўкі ды івалгі не баяцца чарнаскурых афрыканцаў. Як не баяцца жырафаў, сланоў ды бегемотаў — сядзяць на спінах гэтых гігантаў і разам з мясцовымі птушкамі нешта знаходзяць, нешта дзяўбуць.

Нас, беласкурых, яны баяцца, але ж усё роўна вяртаюцца. Бо мы, якія б не былі, — іх радзіма.

Першымі на Беларусь прылятаюць сініцы — іхнія шлюбныя спевы радуюць нас яшчэ ў лютым. Затым вяртаюцца шпакі, кнігаўкі, жаўрукі, берасцянкі.

«Жавароначкі, прыляціце», — просім мы птушак узімку.

На Аўдоццю мы штогод выходзілі сустракаць ластавак. Усё, аказваецца, у жыцці птушак і ў нас саміх проста — кінь першай ластаўцы жменьку зямлі, скажы: «На табе, ластаўка, на гняздо», і цябе чакае дабрабыт.

Грак з'явіўся — зіму раздзяўбаў.

Зязюля прылятае, калі з'яўляецца лістота.

Але ж ёсць птушкі, якія спяшаюцца да нас тады, калі яна ападае.

Для шмат якіх птушак, што жывуць у тундры, лесатундры і тайзе, Беларусь, не зважаючы на нашы не такія ўжо і лагодныя зімы, з'яўляецца сапраўдным курортам. Зімаваць да нас прылятаюць крыжадзюбы, амялушкі, чачоткі, пуначкі.

Пуначак, гэтых маленькіх птушачак, якіх у нас ласкава называюць сняжуркамі, я сустракаў за Палярным кругам, на Дзіксане ўлетку — сядзіць такая малеча і задумліва спявае сваё «ціві-ціві-ціві», мусіць, ужо збіраючыся да нас у дарогу, думаючы, як будзе збіваць насенне з раслін, што тырчаць з сумётаў, а потым дзяўбаць яго, шукаючы ў снезе. Гняздуюцца ж пуначкі толькі ў тундры.

Шчуркі, далёкія родзічы крыжадзюбаў, прылятаюць да нас з паўночнай тайгі — яны, па сцверджанні арнітолагаў, амаль не баяцца нас, бо на радзіме вельмі рэдка бачаць чалавека.

Са скандынаўскай тундры з'яўляюцца зімнякі. Ад палярных маразоў уцякаюць у Беларусь белая паўночная сава, сокалы-белазорцы, сокалы-падарожнікі.

Абжываецца ў нас стэпавы арол — яго беларускія арнітолагі выявілі ў Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведніку.

50 працэнтаў сусветнай папуляцыі вяртлявай чараціянкі жыве ў нас, на Беларусі, у заказніках «Званец» і «Спораўскі» на Брэстчыне. Вялікай удачаю ўбачыць яе лічыц-

ца ў Польшчы, Чэхіі, на Украіне, у Германіі. Апрача Еўропы, гэта балотная птушачка нідзе больш не жыве.

50 працэнтаў сусветнай папуляцыі — гэта і многа, і мала: то ж усяго толькі некалькі сотняў параў.

Таму вяртлявая чарацянка, гэтая рэдкая птушка, якая знікае, занесена ў нас у Чырвоную кнігу. У гэтай жа кнізе запісаны арлан-белахвост, лебедзь-шыпун, шэры журавель, скапа і іншыя птушкі.

Чалавек ва ўсе часы і ва ўсе народы ваяваў з прыродаю.

Да прыкладу, каб толькі пазбавіць індзейцаў ежы, каланісты знішчалі, забівалі бізонаў, выразаючы ў іх адно языкі.

Спецыялісты падлічылі, што за апошнія 2 тысячы гадоў па віне чалавека знікла 106 відаў буйных млекакормячых і 139 відаў птушак. А толькі за адно XIX стагоддзе — 70 відаў, да таго ж на мяжы вымірання знаходзіцца яшчэ каля 600 відаў. Некаторыя вучоныя нават лічаць, што на планеце штодзень знікае адзін від фауны, а раз у тыдзень — флоры.

У Беларусі пад аховаю дзяржавы знаходзяцца шматлікія жывёлы, рыбы, птушкі, якім пагражае знікненне: зубр, хахуля, лясны кот, чырвонаваллёвая казарка, вечарніца, чорны бусел, змеяед, сокал-каршачок, скапа, балтыйскі асяцёр. Забараняецца паляваць на мядзведзя, барсука, лебедзяў, белую чаплю, курапатку, соў, дзятлаў і іншых нашых жывёл і птушак.

У першае выданне Чырвонай кнігі (1981 год) было ўключана 80 відаў жывёл і 85 відаў раслін. Другое выданне (1993 год) дапоўнілі 107 відаў жывёл, 109 відаў раслін, 17 відаў грыбоў і 17 — лішайнікаў. А ў апошняе дададзена 27 відаў насякомых, 4 віды сысуноў, 16 відаў птушак, па адным відзе п'явак, ракаў, павукоў, земнаводных.

Але некаторых асобін мы ўжо нават выключаем са сваёй Чырвонай кнігі. Як, скажам, лебедзя-шыпуна. Колькасць гэтай птушкі павялічылася ў некалькі дзесяткаў разоў, і цяпер у нас няма ніводнага вадаёма, дзе б ён

адсутнічаў. Да таго ж, спецыялісты сведчаць, што самцы лебедзяў-шыпуноў вельмі агрэсіўныя і за 200 метраў ад свайго гнязда знішчаюць гнёзды не менш рэдкіх птушак.

З усіх 300 відаў птушак, якія сустракаюцца ў нас, 208 гняздуюцца на Беларусі, 10 — толькі зімуюць, 36 — пралётныя, 32 залятаюць да нас выпадкова.

Толькі ў адной Гомельскай вобласці на пачатку трэцяга тысячагоддзя налічвалася 2870 ласёў, 7870 дзікоў, 14 883 касулі і 67 рысяў.

Наша фауна — гэта і жоўтагаловы каралёк, птушачка, якая важыць усяго 5 — 7 грамаў.

Гэта і зубр, які важыць тону і з'яўляецца самай буйной жывёлай у Еўропе.

Гэта і наш вугор, які за 7 тысяч кіламетраў плыве ў Саргасава мора на нераст, а потым тыя ж тысячы кіламетраў робіць вяртаючыся на радзіму.

Гэта і наша слонка, сваяк кулікоў, кругавы агляд вачэй якой — усе 380 градусаў.

Гэта і конь Рулет са Мсціслаўшчыны, які скрануў з месца груз вагаю ў 26 тон.

Гэта і сокал-сапсан, які можа ляцець з хуткасцю 350 кіламетраў у гадзіну.

Гэта і наша беларуская чарапаха, якая трапляецца ў басейне Прыпяці — у Морачы, Лані, Арэсе, Бобрыку, Случы.

А Мінскі заапарк, у якім каля 130 відаў звяроў, хіба гэта не наша фауна? Апрача добра знаёмых нам жывёл, наведвальнікі звярынца могуць пабачыць і экзатычных жыхароў: вярблюдаў, малпаў, гімалайскіх мядзведзяў, сенегальскіх галага, страусаў. За апошнімі і ехаць далёка не спатрэбіцца — за сорак кіламетраў ад Мінска наш фермер трымае страусіную ферму.

Наша фауна — гэта пчала і авадзень, карасік і матылёк, божая кароўка і жаба, слімак і яшчарка, камар, шэршань і яблыневая пладажэрка. І зямляны чарвяк.

Попаўзні і пішчухі, якія знішчаюць да 70 працэнтаў вусеняў яблыневай пладажэркі — таксама наша фауна.

Гарыхвостка, выкормліваючы птушанят, падлятае да гнязда па 230 разоў за дзень, сініца — па 370 разоў. І заўсёды ў дзюбах іхніх наша фауна.

Мала нам нашых птушак узімку, мы іх на ліштвах акон, на нашых ручніках і андараках выразаем і вышываем, на паштовых марках малюем, каб вачам было прыемна заўсёды іх бачыць. Мала нашым продкам было жывых коней, і яны стваралі яшчэ іхнія выявы — на гарадзішчах мілаградскай культуры ў Паўднёвай Беларусі археолагі выкапалі 100 гліняных фігурак старадаўніх коней.

Птушак мы часцей за ўсе надзяляем сваімі чалавечымі ўласцівасцямі, атоесамліваем са сваімі добрымі якасцямі і заганамі: салавей для нас — гэта каханне, бусел — сямейнае шчасце, арол — харобрасць, жаўранак — адданасць радзіме, ластаўка — воля, лебедзь — пяшчота, журавель — вернасць, ястраб — агрэсіўнасць, варона — неразумнасць, сарока — балбатлівасць.

Птушкі, як і людзі, гавораць — не толькі спяваючы, але і з дапамогаю хваста. Знойдзе, да прыкладу, самец гарыхвосткі ўтульнае дупло, сядзе каля яго і яркі хвост распусціць: маўляў, жыць ёсць дзе, жонка трэба.

Янот-паласкун кожны раз перад ядою, як і чалавек, старанна мые лапы.

Першы помнік зубру ў 1860 годзе паставіў у Белавежскай пушчы расійскі імператар Аляксандр II. У гонар удалага палявання на нашых асілкаў.

Сто гадоў таму назад у Валожыне помнік каню ўстанавіў у сваім парку граф Юзаф Тышкевіч.

А ў трэцім тысячагоддзі ў Мінску, на Камароўцы, на плошчы перад рынкам таксама з'явіўся конь. Бронзавы. Пад сядлом, са страмёнамі. А на загрыўку ў яго, перад сядлом, маленькая птушачка. Таксама бронзавая. Каб дзецям, якія вельмі ж любяць садзіцца на каня, было за што трымацца...

А колькі птушак перад самім крытым рынкам! Вунь як яны паабселі бронзавую гандлярку: дзве ў яе на плячы, адна на палец села, а чацвёртая ўжо спыр-

хнула на мяшок з семкамі — вось-вось возьмецца іх дзяўбаць...

У Бабруйску ўжо ў наш час помнікам увекавечылі бабра.

А ў Баранавічах міні-помнічкам ушанавалі нашага дамашняга верабейку. І напісалі на помнічку пяшчотныя, мудрыя словы:

«Да вас я назаўсёды прыляцеў. Не вырай вабіць, а радзіма».



## НАШЫ СВЯТЫ

Калі мы яшчэ называліся язычнікамі, у нас было шмат багоў і яшчэ болей свят. Не, вядома ж, мы не аддаваліся толькі бяздумным гульням і забавам. Беларусы рупліва і настойліва працавалі на сваёй роднай зямлі, але ж і адпачыць, скласці падзяку ралլі, сонцу, зерню, ды і самім сабе, грэшным, таксама ўмелі.

Колькі сілы, павагі да зямлі, радасці і весялосці было ў нашых старажытна-буйных народных святах — Каляды, Масленіца, Купалле, Багач! Дарэчы, амаль ва ўсіх нашых святах, як нешта жывое, адушаўлёнае заўсёды прысутнічала зерне.

На Багача (восеньскае свята, якое яшчэ мела назвы Багатніка, Багатухі, Спажы багатай, Прачыстай, Зельнай і нібыта завяршала жніво, падводзіла вынікі ўсяму году, які для хлебаробаў ужо заканчваўся) мы абносілі ўсе двары і гумны кошыкам з жытам новага ўраджаю, у якое была ўваткнута свечка, спявалі дажынкавыя і восеньскія песні:

Бярозка з лістком, бярозка з лістком
Усю восень шумела:
— Мой ты, лісточак, мой ты зеляненькі,
Як жа мы расстанемся?
Ветры павеюць, цябе абвеюць,
А я тут застануся.

— Не бойся, бяроза, не бойся, белая,
Я цябе не пакіну.
Цяпер ападу — вясною прыду.
З табою шумець буду.

Кошык з зернем ад першага зажынкавага снапа пакідалі ў адной з хат — да налецця, да наступнага жніва, жадаючы такім чынам дому багацця і шчасця.

Некаторыя фальклярысты лічаць, што гэтае свята, якое дайшло нават да сённяшніх дзён, — адгалосак ушанавання Дажбога, апекуна нашага дастатку.

Каляды — язычніцкае свята ў гонар зімовага сонцавароту. Яно, па-сутнасці, адкрывае год. Вясёлае свята з песнямі, скокамі, варажбою, забавамі, гульнямі, калядаваннем. З гумарыстычнай гульнёю «Жаніцьба Цярэшкі».

На Каляды зноў жа абыходзяць хаты калядоўшчыкі. Але гэта ўжо своеасаблівы тэатр з пераапрананнем у «мядзведзя», «жураўля», «жорава». Калядоўшчыкі водзяць з сабою «казу», носяць шматпрамянёвую «зорку», якая круціцца на кійку, ад чаго намаляныя на ёй фігуркі, здаецца, пачынаюць бегаць.

Тыя, што калядуюць, спяваюць калядныя песні, у кожнай хаце хваляць гаспадароў.

Ну вядома ж, як тут не расшчадрыцца ад такіх слоў, не расчуліцца ад такой пахвалы! І гаспадар не скупіцца — усё, што ён дае калядоўшчыкам, механоша кладзе ў торбу. Весялосць працягваецца. Гэтая торба спатрэбіцца потым ім яшчэ ў «крывыя вечары», — аж да Запускаў яны будуць «Жаніць Цярэшку».

«Маці» і «бацька», абраныя са старэйшых, падбіраюць у пары хлопцаў і дзяўчат і потым «жэняць» іх: дзяўчаты ўцякаюць ад жаніхоў, а хлопцы іх даганяюць. Усе пары павінны пералавіцца. Мітусня, смех, жарты, песні. А як жа без смеху і жартаў у будучай сям'і! Хлопцы і дзяўчаты тут не саромеліся гаварыць тыя словы, якія хацелі, — гэта ж усяго гульня!

Жанілі Цярэшку ўсю ноч. І нярэдка здаралася, што гэтая гульня для многіх пар і напраўду заканчвалася вяселлем. Бо Цярэшка, якога жанілі, — наш старадаўні

язычніцкі Бог, што спрыяў і апекаваўся маладымі, іх лёсам.

Гэткім жа вясёлым, багатым на жарты і выдумкі святам была наша Масленіца. «Масленка, Масленка, каўзуха, а чаму ты, Масленка, не да Духа — адна нядзелька і тая кароценька», — спявалі мы.

Масленка — наша свята сустрэчы вясны. Мы спальвалі чучала зімы. Каталіся на санках, круціліся па ледзе на калоўротах. Адведвалі маладых, «разувалі» тых маладажонаў, якія ўзялі шлюб у гэтую зіму. У Чысты чацвер адзявалі на халасцякоў «калодкі» — вешалі стужкі з кветкамі, напамінаючы: час жаніцца. Некаторых пераканаых халасцякоў вазілі па вёсцы на баране, высмейваючы за тое, што яны не знайшлі пакуль сабе нявестаў.

Дарэчы, барана ў нашых шмат якіх народных святах адыгрывала вельмі важную ролю. Яна сімвалізуе пладавітасць, і з ёю мы на Купалле і Юр'е, на Пятроў дзень і на Русальным тыдні «абворвалі» свае вёскі — абходзілі іх з баронамі. Звозілі на баронах зіму і засцерагаліся імі ад русалак.

Вясна ўжо была блізка, і на Масленку мы пяклі круглыя бліны — яны нагадвалі нам пра цёплае вясновае сонца.

А ў апошні дзень масленічнага тыдня, які называўся Даравальным, усе ва ўсіх прасілі прабачэння і даравання: пасля вячэры гаспадар садзіўся ў кут і ўся сям'я кланялася перад ім да зямлі, прасіла даравання, а потым і сам бацька ва ўсіх прасіў прабачэння.

Самым вольным, нават самым разгульным нашым святам спрадвеку было Купалле. Гэтае сталае свята летняга сонцавароту — адно з самых найпрыгажэйшых свят. У тую ноч, калі яно святкавалася, усё здавалася нам незвычайным, непаўторным, фантастычным. Дзяўчаты збіралі купальскія зёлкі, якія, мы верылі, маюць магічную сілу, плялі вянкі, пускалі іх на ваду, хлопцы палілі вогнішчы, усе разам скакалі праз полымя, ачышчаючыся, набіраючыся сілы і здароўя. Раніцою сустракалі сонца, купаліся голымі ў ранішняй расе, ма-

ладзеючы і прыгажэючы ў ёй, у начных лясах шукалі папараць-кветку — імкнуліся гэта рабіць парамі, з каханымі, ці з тымі, пра каго мроілі, бо тое, што ў паўсядзённым жыцці лічылася грэхам, у купальскую ноч было абрадаваю насалодаю ў гонар багоў плоднасці і ўрадлівасці.

У гонар таго ж Ярылы — бога Сонца, кахання, урадлівасці зямлі, плоднасці жанчын, які ў белым убранні ездзіць па полі і «апладняе» нівы. Менавіта ж на Ярылле хлопцы «ўмыкалі», кралі сабе жонак, адбываліся язычніцкія шлюбы, высвятлялася, ці можа каханая нарадзіць дзіця.

На Ярылле, 4 чэрвеня, мы таксама маліліся дажджу. Увогуле язычнікі вельмі часта прасілі дажджу: 2 мая, у Дзень першых парасткаў, з 20 па 30 мая, на Купалле, 24 чэрвеня, 12 ліпеня, у дзень адбору ахвяр да свята Перуна, 20 ліпеня, у свята Перуна.

А ўжо 24 ліпеня, пачынаючы жніво, маліліся з іншай нагоды — прасілі ў неба, каб дажджы спыніліся. І потым мы на дажджы забываліся, яны нас ужо да налецця не цікавілі.

Гадавы цыкл нашых язычніцкіх святаў найперш дастасоўваўся да фазаў сонца і да нашых земляробчых клопатаў: зімовае сонцастаянне, калі адбываўся паварот сонца з зімы на лета; веснавое раўнадзенства, калі набліжаўся час сяўбы; летняе сонцастаянне, калі ўсё буяла і расло; і асенняе раўнадзенства, калі мы ўжо маглі пабачыць плён усёй нашай летняй рупнасці — ураджай.

Другою купкаю нашых святаў былі, як мы ўжо казалі, маленні аб дажджы. Трэцім цыклам былі святы ўраджаю — ад першых пладоў да яго збору.

І яшчэ мы мелі святыя дні шанавання продкаў: радаўніцу, сёмуху, дзяды.

У беларусаў вельмі абвостраная павага да памерлых родзічаў. Жывыя з вялікай пашанаю адносяцца да мёртвых, некалькі разоў на годзе памінаюць добрым словам нябожчыкаў. Кажуць: «Калі мы не ўспомнім сваіх прашчураў, то хто ж тады ўспомніць нас?»

Нашы Дзяды святкуюцца заўсёды ў суботу — у суботу перад Масленкай, у суботу перад Сёмухай, у суботу перад Пятром. Самыя галоўныя ў нас восеньскія Дзяды, ці як іх яшчэ называюць — Асяніны. Яны былі самыя багатыя: «На дзяды шмат яды» — на стол ставілася ад 7 да 19 розных страў з нашай традыцыйнай беларускай кухні: куцця, бліны, клёцкі, яечня, адваранае мяса, бульба з каўбасой. Мужчыны палілі ў лазні, жанчыны мылі ў хаце, мянялі чыстыя набожнікі на абразах, фіранкі на вокнах. Пасля лазні ўсе садзіліся за стол, запрашалі продкаў вячэраць.

Гэты наш абрад памінання-ўшанавання продкаў дакладна апісаў у сваёй паэме «Дзяды» Адам Міцкевіч. І увогуле, Дзяды, ці не самы беларускі ва ўсім свеце звычай яднання з прашчурамі, калі мёртвыя наведваюць родныя хаты, сваіх сваякоў і блізкіх, а жывыя рыхтуюцца як найлепш сустрэць іх.

Калі на восеньскія Дзяды мы запрашалі сваіх продкаў да сябе ў хаты, то на Радаўніцу, на веснавыя Дзяды, ішлі да іх на могілкі самі. Калі восенню мы дзякавалі прашчурам за добры ўраджай, то на Радаўніцу менавіта прасілі іх заступіцца за нашы нівы. Адзінае свята памінання продкаў, якое адбывалася не ў суботу, — Радаўніца была ў нас заўсёды ў першы аўторак пасля велікоднага тыдня. Да рытуальнай ежы дабаўляліся велікодныя фарбаваныя чырвоныя яйкі, яйкі-пісанкі.

Мы разумелі, што гэтыя памінальныя дні, больш чым продкам, патрэбны нам, жывым, таму настрой у нас часам вельмі мяняўся: на Радаўніцу да абеда пашуць, у абед плачуць, а па абедзе — скачуць.

Саракі, сталае свята ў народным календары, якое было заўсёды ў другі дзень веснавога раўнадзенства, у старажытнасці пачынала новы год: менавіта на яго, у гэты дзень нашы прашчуры сустракалі новы год. Лічылася, што на саракі прылятае сорак выраяў, сарока прыносіць на сваё гняздо сорак галінак.

Усе гуталіся на арэлях, дзяўчаты навязвалі курам прыгожыя стужкі, — каб падчапіць сабе прыгожых хлопцаў, — спявалі, гукаючы вясну, вяснянкі.

Увогуле вяснянкі ў нас гучалі вельмі доўга. Вясну мы пачыналі гукаць на Масленку, гукалі на Стрэчанне і Звеставанне і ўжо супакойваліся недзе толькі на Вербніцу — тады ўжо гукаць яе не трэба было, бо яна была ідавочнаю. Навошта ж прасіць прынесці «на земельку травіцу, на травіцу расіцу, на лясочак лісточак, на дзевачак вяночак», калі ўсё гэта ўжо ёсць?!

Юр'е, Ягор'е. Старадаўняе веснавое земляробчае свята беларусаў. Дзень першага выгану кароў на пашу. Хлебаробы абыходзілі свае зарунелыя нівы, прасілі Юрая, якога ўяўлялі моцным мужчынам, што быў гаспадаром руні, кветак, травы, расы, жывёлы, каб ён устаў рана, асядлаў каня, ды ехаў на палеткі выпускаць расу «на ўвесь свет, на кожны цвет», «на цёплае лета, на буйное жыта», каб зямлю адамкнуў, траву выпусціў, статак накарміў.

На Беларусі ёсць свята Пахаванне Стралы. Яно адзначаецца на шостым тыдні пасля Вялікадня. Стралу, самую першую веснавую маланку, вельмі грозную і непрадказальную сілу, якая забівае і спальвае, з пашанаю ў нас хаваюць на ўзмежку жытняга поля. Адна з дзяўчат выкопвае яму, кладзе туды ляльку, усе закопваюць і спяваюць рытуальныя песні: «Ты не ўбі, страла, добра молайца». А да гэтага сорак дзён яе ўлашчваюць карагодамі, тымі ж песнямі: «Як пушчу стралу дай па ўсём сялу».

Такога абрада — Пахаванне Маланкі — няма больш нідзе ў свеце. Задобрыванне маланкі — магічная вера, што яна будзе літасцівай да людзей і іх жывёлы ўсё лета.

Шчадрэц, наша старажытнае свята сустрэчы новага года, дарэчы, новы год мы сустракалі па сонечным календары — мае вельмі шмат разнастайных назваў: Шчодрык, Гагатуха, Шчодра, Васілле. Асаблівасцямі яго было тое, што абавязковаю ежаю на перадцнавагоднім стале былі бліны з верашчакаю і смажанаю каўбасою ды шкваркамі, а яшчэ тое, што мы любілі народны звычай шчадраваца — хадзіць па хатах з песнямі і жартамі. А нашы дзеткі з жытам у кішэнях прыходзілі да сваіх

родных бабуль і дзядуль, татулькаў ды матулькаў і імітавалі ў хатах засяванне поля.

Мы яшчэ жанілі Коміна. Было ў нас такое сталае восеньскае свята ўшанавання агню перад наступленнем доўгіх, цёмных і халодных вечароў. Гэтае свята мы яшчэ называлі Посветам, Лучнікам. Вадзілі вакол коміна карагоды, упрыгожвалі яго кветкамі ды стужкамі, спявалі песні:

Ой прышлі ночанькі даўгенькі,
Пасвяці нам, комінку бяленькі...

Святам Провадаў Русалкі звычайна заканчваліся нашы русаллі — Русальны тыдзень, які меў яшчэ назвы Гранога, Праваднога, Духавога. Мы лічылі, што русалкі выходзяць з рэкаў і азёраў на пачатку лета і ўвесь чэрвень жывуць на зямлі між людзей. Таму гэты месяц мы называлі русальным. Летам мы спраўлялі абрад праводзін русалак у жыта, адкуль ужо яны вярталіся дадому — у свае рэкі і вадаёмы. Само свята Праводзін Русалкі заканчвалася розыграмі, калі ўсім дазвалялася ўсё: падперці дзверы ў хату, залажыць комін зверху шклом, нават перанесці хляўчук у другое месца і там яго скласці.

Мы паважалі мядзведзя, недзе нават бачылі ў ім чалавека і таму ў нас было татэмнае свята пакланення яму — Камаедзіца. Мы ўшаноўвалі гэтым святам прачынанне мядзведзя ад зімовага сну і яго першы выхад з бярлогі. Паколькі мядзведзь — траваядны, вегетарыянец, мы варылі на гэта свята аўсяны кісель і гарохавыя камы, адкуль і свята пачало называцца Камаедзіцай.

Пасля абеда мы не працавалі -- расказвалі казкі, спявалі песні. Часам мядзведзь у іх раздвойваўся. Як у той песні, запісанай Рыгорам Шырмай. Маладзіца жне жыта, а з лесу да яе выходзіць мядзведзь. Кажа ёй: «Памагай Бог», пытае, чаго плача дзіця. Жанчына просіць палюляць малое. А ён адказвае:

Ой, рад бы я панасіці,
Ды баюся, каб не ўкусіці.

Ой, рад бы я побач сесці,
Ды баюся, каб не з'есці.
Ой, рад бы я пакалыхаці,
Ды баюся, каб не задраці.

У лютым мы святкавалі Ваўкалакі. Гэты прысвятак прыходзіўся якраз на час, калі, паводле старадаўняга павер'я, людзі маглі ператварацца ў ваўкоў, якія ў гэты час лютавалі ў нашых лясах і на нашых дарогах.

Асенні Юрай, мы ведалі, адмыкае раты ваўкам, і яны, збіўшыся ў зграі, пачынаюць гуляць свае «вяселлі».

Мікола веснавы — пастухоўскае свята ў нашым календары. Яно праходзіла пад гукі пастуховай берасцянкі — у хлявах акурвалі зёлкамі жывёлу, у хатах, у полі — частавалі пастухоў.

На Якава-дрывасека мы ладзілі авечае свята, на Саўку-пчальніка — восеньскае свята ў гонар «божай працаўніцы» — пчалы. Святы Савасцей быў для нас ахоўнікам пчол, і таму мы ў гэты дзень абпырсквалі святою вадою вуллі, рыхтавалі іх да зімы.

Ляльнік — ласкавае свята ў гонар Лялі, багіні вясны, дзявочага хараства і кахання.

Былі ў нас святы першага ліста, першай баразны, першага нажатага снапа. А якімі светлымі святамі былі нашы вяселлі і народзіны!

Аднак самым светлым, самым жаданым, самым радасным для нас святам заўсёды быў Вялікдзень.

Вялічка, старажытнае свята язычнікаў у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу вялікіх дзён для працы ў полі. Галоўнае наша свята. Ад яго залежала, калі мы будзем святкаваць іншыя свае перасоўныя святы — Масленку, Русалле, Вербніцу, Сёмуху, якія адлічваліся ад Вялікадня: тыдзень перад ім, восем тыдняў пасля яго. Гэта жыццесцвярджальнае свята. У велікодную раніцу сонца іграе, ці як яшчэ кажуць, — купаецца. У ноч перад Вялічкам мы не спалі — пяклі пірагі, размалёўвалі велікодныя яйкі-пісанкі. Раніцою клалі іх у кварты з вадою, якою ўмываліся, — каб быць гэткімі ж чырвоненькімі і здаровенькімі.

Свята вельмі чакалі дзеці: ім абавязкова да Вялікадня спраўлялі абновы, для іх было шмат велікодных гульняў.

Вялікдзень быў вельмі самабытным, адметным беларускім святам, а па велікоднаму валачобніцтву ўвогуле вызначалі межы рассялення беларусаў.

З Вялікаднем доўгі час змагалася хрысціянства, якое зрабілася нашай рэлігіяй. Хрысціянскія святары ніяк не маглі адвучыць беларусаў ад сваёй, як казалі яны, паганскай веры, водгукам якой доўгі час было свята Вялічка.

Тады прапаведнікі на язычаскае свята Вялікдзень, як кажуць, наклалі хрысціянскае — Уваскрашэнне Ісуса Хрыста, распятага на крыжы. Царква зрабіла гэтае свята вельмі маляўнічым, урачыстым, таксама радасным і захапляльным.

Усяночная. Апоўначы свяшчэннікі абвяшчаюць: «Хрыстос уваскрос!» І вялікі натоўп вернікаў выдыхае з сябе: «І сапраўды ўваскрос».

І мы ўяўляем, як раскочваюцца камяні ягонай магілы, як ажывае Хрыстос, і як ён узносіцца на неба.

Цяпер ужо ў нас жыла вера, што Ісус Хрыстос, уваскросшы, ходзіць па нашай зямлі ў вобразе жабрака і просіць міласціну. І мы, каб не памыліцца, давалі міласціну ўсім жабракам.

Не толькі на Вялічку, але і на іншыя свае старажытныя святы беларусы забываліся з цяжкасцю. Таму амаль усе нашы дванадзесятыя хрысціянскія святы прымеркаваны да святочных язычніцкіх дзён.

Нашы Каляды зрабіліся Раством Хрыстовым, Грамніцы — Стрэчаннем Гасподнім, Вербніца — днём Уваходу Госпада ў Іерусалім, Масленіца стала Улассем, свята першых парасткаў — днём Барыса і Глеба, Купалле царква спрабавала замяніць святам нараджэння Іаана Хрысціцеля, Багач — днём нараджэння Багародзіцы, Яблычны Спас — Праабражэннем Гасподнім, Свята Перуна — днём старазапаветнага прарока Іллі. А яшчэ мы сёння святкуем Дабравешчанне-Звеставанне, Хрышчэнне-Вадох-

рышча, Троіцу-Зелянец, Узвіжанне Крыжа Гасподняга, Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы.

Усё гэта нашы дванадзесятыя, гадавыя святы, і мы, праваслаўныя, адносімся да іх з найвялікшаю пашанаю.

Цяпер у нашых святах ужываюцца, дапамагаюць адна адной дзве культуры — хрысціянская і народная, язычніцкая.

Пакровы — старажытнае земляробчае свята беларусаў, да якога звычайна завяршаліся ўсе работы ў полі. Праваслаўная ж царква тлумачыла назву свята адназначна — гэта пакроў, пакрывала Багародзіцы, Божай Маці. Народ жа думаў пра свята крыху шырэй, па-свойму: «Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам, рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом». Як язычнікі мы пяклі пірог і прыкладалі яго да кожнай страхі ў гаспадарчых пабудовах — каб буры не разбурылі іх. А як хрысціяне ішлі ў гэты дзень у царкву, асвячалі хлеб і маліліся там пасхалухмяна за выратаванне ґорада Канстанцінопаля ад сарацынаў. Але ж мы памяталі: «На Пакроў зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю, і пасля гэтага дня да вясны ніхто не можа яе чапаць». Так мы і казалі: «На Пакровы да абеду восень, па абедзе — зіма».

Грамніцы, свята, якое мы яшчэ называем Стрэчаннем, — такое ўжо народнае, даўняе. Яно прысвечана Грамаўніку — язычніцкаму богу веснавых навальніц і дажджоў. А яшчэ на гэта свята, мы верылі, сустракаюцца зіма з летам. Таму Зіма і Лета — галоўныя персанажы ўсіх нашых грамнічных прадстаўленняў:

А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,
Зіма з летам стрэлася, стрэлася.

Але ўсё ж, не зважаючы на язычніцкую аснову свята, людзі ідуць у царкву — каб асвяціць, блаславіць грамнічныя свечкі. Над імі чыталіся малітвы, іх крапілі святою вадою, тройчы асянялі крыжам. Потым асвечаныя грамнічныя свечкі, як абярэг, запальвалі, калі перад сяўбой насыпалі ў мяшкі жыта, калі бабы-пупарэзніцы пры-

малі нованароджаных, запальвалі ў навальніцу і ў розныя сямейныя святы.

Прарок Ілля з цягам часу амаль зусім выцесніў нашага старадаўняга бога — Перуна. У Перуноў дзень цяпер мы гаворым: «Пятро і Павел час убавіў, а Ілля-прарок два ўвалок», «На Іллю на лапату наллю». Але ж, калі злуемся, успамінаем і Перуна: «А каб цябе Пярун узяў!», «А Пярун яго ведае».

Цяпер Ілля замест Перуна распараджаецца ў нас усімі дажджамі і навальніцамі.

На Сёмуху, якая яшчэ завецца ў нас Тройцай, Сямікам, Зелянцом, Маем, мы ўмайвалі свае хаты зялёнымі галінкамі, на падлогі слалі аер, а нашы дзяўчаты ішлі ў лясы і завівалі там бярозкі, загадваючы на свой лёс, на замужжа.

І ўсё ж Тройца адлічвалася ад Вялікадня — на пяцідзесяты дзень пасля яго. Свята яшчэ так і называлася — Пяцідзесятніца.

Спасаў у нас аж тры: першы — мядовы, другі — яблычны, трэці — хлебны.

На першага Спаса, казалі мы, «нават жабрак мядку паспрабуе». Мядовым яго называлі таму, што ў гэты дзень пчаляры даставалі з вулляў мёд. Першы Спас называўся Макавей — сталае свята маку і мёду. На яго асвячалі зёлкі.

Другі Спас — яблычны. З гэтага дня можна было есці яблыкі і ўсё, што расце ў садзе. Гэты Спас — галоўны сярод усіх трох. Менавіта на яго асвячалі садавіну ў царкве. І забаранялася працаваць. Спас — свята садавіны.

Трэці Спас — свята збожжа. Пра яго мы казалі, што ён жыта возіць і просіць Бога дапамагчы яго перанесці ў гумно. У гэты дзень мы асвячалі зерне, пакінутае на насенне...

На Спаса адляталі ў вырай буслы.

Спасаўка ўваходзіць у дванадзесятыя святы. Царква яго называе Праабражэннем Гасподнім.

На Вербніцу мы сцябалі родных і блізкіх асвечанай вярбою. Прыгаворвалі: «Не я б'ю, вярба б'е, за тыдзень Вялікдзень, будзь здаровы, не ўмірай, Вялікадня дача-

кай. Ужо недалечка чырвона яечка. Будзь здаровы, як вярба, будзь прыгожы, як вясна, будзь вясёлы, як лета, будзь багаты, як восень!»

На Звеставанне буслы вярталіся дадому: «Хоць загвздкай падаўлюся, а на Дабравешчанне вярнуся». Дзень, калі Маці Божая атрымала добрую вестку аб непарочным зачацці. А яшчэ глыбей у даўніну гэта быў дзень прыходу вясны.

Ад Першай да Другой Прачыстай завяршалі ўсялякія ўборачныя работы ў полі.

Узвіжанне — свята ў гонар Чэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга, на якім быў распяты Хрыстос і які ажывіў яго. Зямля замыкаецца на зіму, а ключык аддаецца птушцы, што ляціць за мора. З поля ўжо з'язджае апошні воз з ураджаем.

Свята Пятра і Паўла, якія ўваходзяць у лік 12 апосталаў Ісуса Хрыста, мы святкавалі зноў жа ля ракі ці на беразе возера, але ўдзень. Ведаючы, што «святое Пятро ў жыце ядро», мы пачыналі ўжо зажынаць.

Нашы святы — гэта нашы абрады: калядаванне і масленка, шчадраванне і валачобніцтва, купалле і дзяды, радаўніца і сёмуха. Усе яны адтуль, з даўніны, з сівой мінуўшчыны.

Беларускія абрады спалучаюць у сабе побытава-гаспадарчыя, язычніцкія і хрысціянскія асаблівасці. Усім ім царква імкнулася надаць рэлігійны накірунак, аднак і праз іх часцей за ўсё праступалі нацыянальныя рысы народных танцаў, карагодаў, батлеек, вечарынак, ігрышчаў... Цяпер апрача Каляд і Вялікадня, Радаўніцы і Сёмухі, Купалля і Дзядоў, з якімі апантана змагаліся пры савецкай уладзе, мы адзначаем савецкія святы: Першамай, Дзень Перамогі, Дзень вызвалення.

Нашым новым святам, пра якое марылі продкі, з'яўляецца Дзень незалежнасці.

Адзначаюцца ў нас, праўда, не як двунадзесятыя, святы розных прафесіяў.

Першага верасня мы святкуем Дзень ведаў.

Для ўсіх нас самым ласкавым і пашаноўным святам з'яўляецца Дзень маці.

Ёсць у нас і, як кажуць, элітарныя, інтэлектуальныя святы: Дзень тэатра, Дзень музыкі, Свята песні, Дзень матчынай мовы, Дзень беларускага пісьменства — дарэчы, апошняе свята прайшло ўжо ў шмат якіх нашых гарадах: Полацку, Тураве, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Заслаўі, Міры, Камянцы.

А святы паэзіі, якія ладзіліся пры савецкім часе, збіралі шматлікіх прыхільнікаў красамоўства — у святах паэзіі, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння нашых славутых Янкі Купалы і Якуба Коласа прымалі ўдзел сотні тысяч іх захопленых чытачоў.

Беларусы-каталікі святкуюць свае, адметныя ад праваслаўных святы: Аб'яўленне Панскае — Тры каралі, Папелец, Пальмавая нядзеля, Дзень Святых Арханёлаў, Свята Маці Божай Будслаўскай, Дзень усіх Святых, Першая нядзеля Адвэнту, Свята Святой Сям'і.

У мусульман, якія жывуць на Беларусі, шануюцца Курбан-Байрам — свята ахвярапрынашэння, Меўлюд — дзень нараджэння прарока Мухамеда, Берат-ноч — ноч ачышчэння ад грахоў, пачатак Свяшчэннага месяца Рамазана, Кадыр-ноч, ноч у якую Усявышні праз архангела Джыбраіла пачаў пасылаць прароку Мухамеду Каран.

Яўрэйскі календар прапануе беларускім яўрэям свае іудзейскія святы: Пурым —свята ў гонар уратавання яўрэяў ад знішчэння ў часы панавання Персіі, Песах — свята зыходу з егіпецкага рабства, Рош-а-Шана — новы год, Ханука — свята Цуду пры асвячэнні Іерусалімскага храма, Шабат — асноўнае яўрэйскае свята.

А ва ўсіх нас вельмі шмат агульных радасных і светлых святаў — першага ліста, прылёту з выраю першай птушкі, першага променя, добрай раніцы, сонечнага дня, ласкавай ночы.

А колькі яшчэ нечаканых святаў ёсць у кожнага з нас, тых святаў, якія для іншых здаюцца звычайнымі, будзённымі, нічым непрыкметнымі днямі.



# НАШЫ ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ

Горад — найперш, гэта ўсяго толькі абгароджанае паселішча. Горадня, Гародня, Горадзен. Дарэчы якраз гэтак называлася ў старажытнасці наша Гродна на Нёмане — Гародня. Замкавая гара, на якой месцілася славянскае паселішча X — XI стагоддзяў, была абкружана ровам з вадою, умацавана драўляным вастраколлем, якое потым было заменена зрубнымі гароднямі.

Гародня, калі ўлічыць, што першыя гарады на Беларусі ўзніклі толькі ў IX стагоддзі, — вельмі старажытны горад. У Іпацьеўскім, Лаўрэнцьеўскім і Радзівілаўскім летапісах ён успамінаецца пад 1127 годам. У ім захавалася аж пяць цэркваў XII стагоддзя.

Аднак самым старажытным на нашай зямлі горадам з'яўляецца Полацк. Ён — бацька гарадоў беларускіх. У «Аповесці мінулых гадоў» горад на Дзвіне пры ўпадзенні ў яе ракі Палаты ўпамінаецца пад 862 годам. А скандынаўскія сагі гавораць пра тагачасны Полацк як пра адзін з найстаражытнейшых гарадоў усходніх славян. Знаходзячыся на бойкіх, ажыўленых водных шляхах, горад ужо тады вёў шырокі гандаль з Візантыяй, з арабскім халіфатам, са Скандынавіяй, з вострававам Готланд.

Ужо толькі адно ўпамінанне імён такіх слаўных палачан — Усяслава Чарадзея, святой Еўфрасінні, Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага — гаворыць пра веліч Полацка і Полацкага княства, якія аб'ядналі вакол сябе крывіцкія землі ў першую беларускую дзяржаву. Скарына ў сваіх творах родны Полацк згадваў аж 50 разоў.

Полацкія дружыны нават хадзілі ў ваенныя паходы на Царгорад, і ён, Канстанцінопаль, плаціў палачанам даніну.

Рагвалод — першы летапісны, гістарычна вядомы полацкі князь, пра якога згадваюць пісьмовыя крыніцы. Летапісы расказваюць што ён «засеяў» Полацк людзьмі, якія ўмелі варыць жалеза, абцёсваць камяні, каваць мячы,

кляпаць ралы, косы, сярпы, ляпіць гаршкі, ладзіць збрую, шыць вопратку, робіць стругі і ладдзі, масціць дарогі і вуліцы. З яго імем звязана самая, бадай, вядомая і шчымлівая падзея ў нашай гісторыі, якую людзі назвалі крывавым вяселлем.

У Рагвалода была прыгожая і разумная дачка Рагнеда. Да яе сваталіся браты Святаслававічы — Яраполк, які сядзеў на стале ў Кіеве, і Уладзімір Краснае Сонейка, які княжыў у Ноўгародзе.

Вось як расказвае пра сватаўство Уладзіміра «Аповесць мінулых гадоў»:

«І паслаў (Уладзімір) да Рагвалода сказаць: «Хачу дачку тваю ўзяць за жонку». Той жа спытаўся ў дачкі сваёй: «Ці хочаш за Уладзіміра?» Яна ж адказала: «Не хачу разуць сына рабыні, але Яраполка хачу...» І прыйшлі отракі Уладзіміра і расказалі яму пра адмову Рагнеды — дачкі полацкага князя Рагвалода. Уладзімір жа сабраў шмат воінаў — варагаў, славен, чудзі і крывічоў — і пайшоў на Рагвалода. А ў гэты час збіраліся ўжо весці Рагнеду за Яраполка. І напаў Уладзімір на Полацк і забіў Рагвалода і двух яго сыноў, а дачку яго ўзяў у жонкі».

І пасяліў Рагнеду на Лыбедзі, у Кіеўскай зямлі, і нарадзіла яна Уладзіміру чатырох сыноў — Ізяслава, Мсціслава, Яраслава і Усевалада, а таксама двух дачок.

Аднак Рагнеда думала пра сваю зямлю і хацела адпомсціць за бацьку і братоў. Аднойчы ўночы яна ўзяла ў рукі меч, але Уладзімір прачнуўся. Ад смерці самую Рагнеду ўратаваў сын Ізяслаў, якому на той час было сем гадоў.

Уладзімір Краснае Сонейка саслаў Рагнеду з Ізяславам у Ізяслаў — у мясціны дзікія і далёкія ад дарог, у горад, які заклаў там для сына і былой жонкі.

Ізяслаў — сённяшняе Заслаўе. Пабудаваны ў X стагоддзі, ён таксама — разам з Туравам і Віцебскам — адносіцца да нашых самых старажытных гарадоў.

Сын Рагнеды Ізяслаў Уладзіміравіч быў полацкім князем з 988 года. З 1003 года полацкі пасад заняў Брачыс-

лаў Ізяслававіч. Ён быў апошнім прадстаўніком полацкай княжацкай дынастыі Рагвалодавічаў, на яго ўскладалі вялікія надзеі палачане. І ён апраўдаў іхнія спадзяванні: пры Брачыславе, нягледзячы на тое, што ў Кіеве яшчэ княжыў забойца Рагвалода — Уладзімір Краснае Сонейка, была адноўлена незалежнасць Полацкага княства ад Кіева і адбылося ўмацаванне старажытнабеларускай дзяржаўнасці. А пасля таго, як у 1021 годзе Брачыслаў прыступам узяў Ноўгарад, гэтая перамога паставіла Полацк упоравень з Кіевам.

Кіеў прызнаў незалежнасць Полацка, болей з палачанамі, з рагвалодавічамі не ваяваў. Рагвалодавічы валадарылі ў Полацкай зямлі цэлае стагоддзе. Усяслаў Чарадзей, сын князя Брачыслава, вылучаўся мудрым розумам, «людзям суд судзіў», князям гарады парадкаваў, і пры ім Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці. Пры ім у Полацку на крутым беразе Дзвіны быў пабудаваны трэці пасля Кіева і Ноўгарада велічны Сафійскі сабор.

Усяслаў Чарадзей вельмі любіў свой горад і сваю зямлю, таму нават калі кіеўляне вызвалілі яго з поруба і вечам абралі сваім князем, ён пакінуў кіеўскі пасад і вярнуўся ў Полацк.

Рагвалодавічы вярнулі сабе Віцебск і Усвяты, якія лічыліся ключамі ад гандлёвага шляху з вараг у грэкі. Перадаў іх Брачыславу Яраслаў Мудры.

Паводле «Віцебскага летапісу», складзенага жыхаром Віцебска Сцяпанам Аверкам у XVIII стагоддзі, Віцебск заснавала ў сярэдзіне X стагоддзя вялікая кіеўская княгіня Вольга, жонка князя Ігара: вяртаючыся з паходу на яцвягаў ды драўлян, яна «пераправілася цераз раку Дзвіну, заначавала з войскам і, аблюбаваўшы гару, заклала драўляны замак, назвала ад ракі Віцьбы — Віцебскам, пабудавала ў верхнім замку мураваную царкву святога Міхаіла, а ў ніжнім — Звеставання». Пражыла княгіня ў Віцебску два гады, а затым вярнулася ў Кіеў. А ездзіла яна да драўлян з помстаю. Яе муж, кіеўскі князь Ігар, сын Рурыка, калі з невялікаю дружынаю прыехаў у зям-

лю драўлян, каб сабраць дадатковую даніну, тыя абышліся з ім вельмі жорстка: прывязалі за ногі да двух сагнутых бярозак і адпусцілі дрэвы... Помста Вольгі была не менш жорсткай: усе драўлянскія гарады былі папалены, мясцовая знаць пасечана.

Віцебчане потым разам з палачанамі і наўгародцамі всрагодна ўдзельнічалі і ў Неўскай бітве 1240 года і ў Лёдавым пабоішчы 1242 года. Сын Аляксандра Неўскага і дачкі вялікага князя Брачыслава гадаваўся ў Віцебску і пасля славутага пабоішча князь наведаў яго. Віцебск на чале з Альгердам дапамагаў Пскову змагацца з крыжакамі. У 1370-я гады Віцебскам валодаў Ягайла.

Хто толькі не захопліваў Віцебск! Адзін мяцежны вялікі князь ВКЛ Свідрыгайла аж тройчы займаў Віцебск — у 1393, 1396 і 1435 гадах. Тады якраз адбывалася міжусобная барацьба паміж сынамі і родзічамі Альгерда за валоданне гэтым важным горадам на гандлёвых шляхах, і таму Віцебск зрабіўся цэнтрам іхняй барацьбы. Яго двойчы штурмаваў Вітаўт, бралі приступам Скіргайла і смаленскі князь Юрый Святаслававіч, асаджаў вялікі князь ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч.

У XVI стагоддзі Віцебск апынуўся ў паласе частых ваенных паходаў расійскіх ваяводаў на Беларусь. Пасля аднаго з такіх нападаў 1563 года ў Віцебску пачаўся мор, які зусім абязлюдзіў горад. Шасцітысячнае войска Шарамецева спаліла амаль увесь Віцебск у 1568 годзе. У час Паўночнай вайны па загадзе Пятра І карны атрад калмыкаў спаліў замкі, горад, ратушу, крамы, усе пасады, 12 цэркваў, 4 касцёлы.

У Віцебску ў 1623 годзе адбылося паўстанне супраць полацкага уніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча, які быў жорстка забіты, а яго цела бунтаўшчыкі кінулі ў Дзвіну.

Віцебск — родны горад мастака Марка Шагала. Ён вельмі любіў горад, шмат маляваў яго: «Над Віцебскам», «Віцебск, сіні дом», «Закаханыя над Віцебскам», «Стары Віцебск», «Голая над Віцебскам»...

Усюды ён трызніў Віцебскам. Нават жывучы ў Парыжы, Шагал сумаваў па віцебскіх вуліцах.

Кажуць, што сцены аднаго з пакояў свайго шыкоўнага беласнежнага парыжскага дома мастак размаляваў вуліцамі Віцебска — з дашчанымі тратуарамі, скасабочаным штыкетнікам, звычайнымі хатамі і дамамі за імі. І прыходзіў сюды як не штовечар, і гуляў па гэтых намаляваных віцебскіх вуліцах — у цудоўным Парыжы яму неставала якраз роднага Віцебска.

Падчас Другой сусветнай вайны, 15 лютага 1944 года Шагал, выгнаны фашыстамі з Парыжа, піша з Нью-Йорка шчымлівае пасланне Віцебску:

«Даўно ўжо, любы мой горад, цябе я не бачыў, не чуў, не мовіў з табою, з народам тваім, даўно не ўпіраўся ў твае агарожы.

Як падарожнік самотны, я толькі нёс праз гады ўсё твой вобраз на палотнах маіх, і гэтак гаварыў з табою, і, як у люстэрку, бачыў цябе.

Мой дарагі, ты не спытаўся з болем: чаму, любячы цябе, пайшоў ад цябе на ўсе гады даўгія?»

І тут жа быццам ускрыквае:

«Ты адзін у мяне на свеце!»

А Юдалю Пэну, мастаку, таксама віцебчаніну, Шагал адрасуе вельмі цёплыя словы:

«Пэн — мой першы настаўнік. Ён увесь час жыве ў Віцебску. Віцебск жыве — і Пэн жыве заўсёды ў ім. Калі я каму зайздрошчу, калі сумую аб чым, дык гэта ад таго, што Пэн жыве заўсёды ў Віцебску, а я — заўсёды, заўсёды ў Парыжы».

Цяпер у Віцебскім краязнаўчым музеі захоўваецца 155 жывапісных работ Пэна. І ёсць музей Шагала.

Трэцім нашым горадам, які ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах X стагоддзя, з'яўляецца Тураў. Тураў — адзіны горад на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, які пад гэты час згадваецца ў летапісах. «Аповесць мінулых гадоў» сцвярджае, што Тур трымаў уладу ў Тураве, што ад яго і тураўляне пачалі гэтак звацца. Хоць некаторыя дослед-

чыкі і лічаць, што князь Тур — міфалагічная, напаўлегендарная асоба.

Тураў упамінаецца пад 980 год. Яшчэ раней, у V стагоддзі, пра гэтыя мясціны пісаў Герадот, які адважыўся на падарожжа ў варагі, аднак да тураўскай зямлі не дабраўся — перашкодзілі векавечныя, непраходныя пушчы і Прыпяцкая нізіна, якую падарожнік назваў морам.

Тураўляне займаліся земляробствам, рыбнай лоўляй, паляваннем, бортніцтвам. У канцы X стагоддзя яны стварылі сваё вялікае і магутнае княства. Першы гістарычна вядомы тураўскі князь — Святаполк, сын Уладзіміра Святаслававіча. У XI стагоддзі княства адасобілася ад Кіеўскага, у якім яно мела вялікі ўплыў: тураўскія князі нават пераходзілі на Кіеўскі вялікакняжацкі прастол — Святаполк Уладзіміравіч, Ізяслаў Яраслававіч, Святаполк Ізяслававіч, Вячаслаў Уладзіміравіч.

Тураўская зямля доўгі час змагалася за сваю незалежнасць ад Кіеўскага княства, якое імкнулася ўплываць на суседзяў. Пра гэта сведчыць і легенда, якая расказвае, што падчас хрышчэння Тураўшчыны, па рэках Дняпро і Прыпяць з Кіева ў Тураў прыплылі — супраць цячэння! — цяжкія каменныя крыжы. Іх вылавілі ў Тураве, а таксама ў вёсках Верасніца, Перароў, Хлупін, Старажоўцы і інш. Крыжы з’яўляюцца сімвалам веры і лічацца святымі.

Усяго крыжоў было дзесяць. Два з тых, што ў свой час прыплылі, паводле падання, з Кіева, знаходзяцца ў Тураве — на Барысаглебскіх могілках і ў царкве Усіх Святых. Той, што на Барысаглебскіх могілках, кажуць, нават расце па некалькі міліметраў у год. Як сцвярджае легенда, калі знойдуцца ўсе крыжы, адбудзецца вялікі цуд: з балота падымецца старая царква, якая правалілася з-за таго, што калісьці татары ўехалі ў яе на конях, і Беларусь зноў расквітнее і зробіцца шчаслівая.

Потым Тураў, палены і разбураны, заняпаў, зрабіўся вёскаю. Зноў горадам ён стаў толькі ў 2004 годзе — перад святам беларускай пісьменнасці, якое той год адбывалася ў ім.

Адзінаццатае стагоддзе ўжо ведала нашы гарады Бярэсце, Браслаў, Друцк, Мінск, Копысь, Лагойск, Лукомль, Орша, Пінск. Дванаццатае стагоддзе запомніла Барысаў, Брагін, Гомель, Гродна, Клецк, Крычаў, Мазыр, Магілёў, Мсціслаў, Наваградак, Прапойск, Рагачоў, Слуцк, Чачэрск. А Ваўкавыск, Давыд-Гарадок, Здзітаў, Кобрын, Камянец, Капыль, Кобрын, Слонім, Рэчыца, Турыйск з'явіліся ў трынаццатым стагоддзі.

Звычайна ў гістарычнай літаратуры годам нараджэння горада лічыцца год першага ўпамінання яго ў летапісных крыніцах. Але такое вызначэнне не дакладнае: вядома ж, шмат якія гарады былі пабудаваны намнога раней, чым пра іх успомнілі летапісы.

Аднак ёсць гарады, заснаванне якіх падаецца дакладна. Як, напрыклад, Барысаў:

«У 1102 годзе Барыс Усяслававіч Полацкі хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, паставіў град Барысаў у сваё імя і людзей пасяліў».

Усяго старажытнаславянскія летапісы і крыніцы дакладна называюць на тэрыторыі сучаснай Беларусі 35 гарадоў, якія сёння вывучаны і даследаваны.

А пра некаторыя гарады, што згадваюць летапісы, і цяпер, апрача ўпамінання, нічога невядома. Галацічаск, Гарадзец, Нескалач, Стрэжаў, Астрэя... Дзе яны знаходзіліся, куды зніклі? А дзе ён, Райгарад Трайдзеня, які Гаспадар ВКЛ Трайдзень, што далучыў да беларускай дзяржавы Яцвягію і амаль усё сваё княжанне правёў у войнах, збудаваў на рацэ Бобр? Што за горад Шарашова, дзе ён падзеўся? А проста стаў пасёлкам у Пружанскім раёне. А ён жа ўпамінаецца пад 1380 годам. І меў ён тады тры тысячы насельніцтва. Столькі ж, колькі і Бярэсце. Гарадскія правы яму дала яшчэ каралева Бона. А дзе яны, гарады Небль, Сцепань, Дубровіца, добра вядомыя не толькі ў Тураўскім княстве ў XII — XIII стагоддзях? Некаторыя змізарнелі і таксама ператварыліся ў звычайныя вёскі.

Збляны — цяпер вёска ў Лідскім раёне. А ў XV стагоддзі — гэта двор вялікіх князёў ВКЛ Казіміра і Аляксандра.

Ракаў Эліза Ажэшка называла калісці Паўночнымі Афінамі. Цяпер гэта ўсяго толькі вёска на рацэ Іслач.

Здзітава — вёска ў Бярозаўскім раёне, ля возера Спораўскага. А пра Здзітаў-Гарадок успамінаецца пад 1252 год. Ён ляжаў на вялікім шляху з Валыні ў Вільню.

Абольцы. Звычайная вёска ў Талачынскім раёне. 150 двароў. Цэнтр сельсавета. Жыве звычайным жыццём і ў XXI стагоддзі.

А яна ж успамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў» пад XIV стагоддзем. Кароль Польшчы Ягайла падараваў Абольцы сваёй жонцы Ядвізе ў вена — як выкуп за нібыта выкраданне яе ж, нявесты... Пры ўзвядзенні ў 1430 годзе Свідрыгайлы на трон ВКЛ Абольцы ўспамінаюцца як горад. Потым вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт I Стары падараваў яго сваёй жонцы Боне. Супраць Кірдзея, яе намесніка, абольцкія сяляне паднялі паўстанне і адстаялі свае правы.

Крэва — вёска на Смаргоншчыне. А гэта ж калісьці сталіца Нальшчан, пра што згадвае адна з нямецкіх хронік. Галоўны горад Крэўскага княства. Каля 1338 года вялікі князь ВКЛ Гедзімін аддаў яго сваму сыну Альгерду, а той — таксама сваму сыну Ягайлу.

Аднак ці не самаю важнаю падзеяй XIV стагоддзя, што адбылася ў Крэве, была Крэўская унія 1385 года, заключаная ў Крэўскім замку. У выніку гэтай уніі адбыўся ў Любліне з'езд польскай шляхты, на якім Ягайла аднагалосна быў абраны каралём Польшчы.

А маёнтак Востраў што каля горада Ліды? Хто цяпер, апрача гісторыкаў асабліва згадвае яго? А ў ім жа адбывалася не менш значнае прадаўжэнне Крэўскай уніі.

Тут у 1392 годзе заключана Востраўскае пагадненне паміж польскім каралём і вялікім князем ВКЛ Ягайлам і князем гарадзенскім і трокскім Вітаўтам аб перадачы ўлады ў ВКЛ Вітаўту. У Востраў прыехалі Ягайла з Ядвігаю, Вітаўт з князямі пануючай у княстве дынастыі, беларускія і літоўскія феадалы. Да гэтага стрыечныя браты між сабою варагавалі і ваявалі — Вітаўт нават з дапамогаю Тэўтонскага ордэна атрымаў шэраг перамог

над войскам Ягайлы. У Востраве Вітаўт быў прызнаны старэйшым сярод родных і стрыечных братоў Ягайлы і пажыццёвым намеснікам караля і ўладара Вялікага княства Літоўскага.

А пасля паражэння ў бітве на Ворскле, дзе Вітаўт хацеў памагчы зноў заняць ханскі трон у Залатой Ардзе прагнанаму адтуль хану Тахтамышу, вялікі князь Літоўскі аднавіў ранейшыя стасункі з Польшчаю, якія былі зацверджаны юрыдычна і далі магчымасць дзвюм магутнейшым на той час у Еўропе дзяржавам перамагчы крыжакоў у Грунвальдскай бітве.

Дарэчы, Тахтамыш, які пасля паражэння Мамая ў Кулікоўскай бітве стаў ханам Залатой Арды і нават захопліваў у 1382 годзе Маскву, пасля паражэння ад Цімура ўцёк у ВКЛ і жыў у Лідзе. Яго з дружынаю пасялілі ў асабняку, які ўсе называлі Тахтамышавым дваром, а самога Тахтамыша многія татарскія феадалы прызнавалі ханам у выгнанні.

Куцейна — раней прыгарад Оршы, а цяпер — у самім горадзе, у забудаваным Задняпроўі. Сёння ад былой веліччы Куцейна засталася толькі Святадухаўская царква. А ў XVII стагоддзі ў манастыры быў сапраўдны цэнтр кнігадрукавання і ўвогуле культурнага ды рэлігійнага жыцця. Мітрапаліт Пётр Магіла і кнігавыдавец Спірыдон Собаль, Афанасій Філіповіч і Георгій Каніскі... Яны ведалі абіцель, і яна ведала іх. Святы Афанасій Філіповіч жыў у Куцейне і напісаў тут свой «Дыярыуш», а Георгія Каніскага падчас, калі «праваслаўе было гнана каталіцкім фанатызмам», Куцейна ўратавала ад смерці. Вось як пра гэта пісаў рускі паэт А. С. Пушкін:

«У 1759 годзе Георгій, не зважаючы на небяспеку, якая пагражала яму, паехаў аглядаць сваю бядотную епархію. Аўлачынскі (дамініканец) і місіянеры ўзбунтавалі ў Оршы шляхту і жаўнераў. Яны разагналі народ, які выйшаў з харугвамі насустрач свайму архіпастыру, спынілі званоў перазвон і з лямантам уварваліся ў царкву, дзе Георгій свяшчэннадзейнічаў. Правялебны ледзь паспеў ўратавацца ад іх шабляў у сценах Куцеінскага

манастыра, адкуль яго таемна вывезлі на калёсах, прыкрыўшы гноем».

А самыя значныя падзеі Куцеінскай лаўры адносяцца да XV стагоддзя. Тут перапісваліся і перапляталіся кнігі, працавалі таленавітыя мастакі, рэзчыкі па дрэве, чаканшчыкі, гравёры. Куцеінскія манахі, аршанскія ды копыскія майстры пабудавалі «восьмы цуд свету» — царскі палац у Каломенскім.

Друя на Друйцы — памежны горад між трох магутных дзяржаў — ВКЛ, Лівоніі і Масковіі.

Друцк. Адзін з самых вядомых сярэднявечных гарадоў Полацкай зямлі. Толькі Іпацьеўскі летапіс успамінае яго дзесяць разоў! Ён узнік на высокім беразе ракі Друць на волаку дзвінскага шляху «з вараг у грэкі». Пра яго згадвае ў сваім «Павучанні» Уладзімір Манамах. Тут створана вядомае ў славянскім свеце рукапіснае «Друцкае евангелле» XIV стагоддзя, напісанае на пергаменце. Друцкі замак браў у аблогу Вітаўт, на яго нападаў крымскі хан Махмет Гірэй, да яго сцен прыходзілі дружыны кіеўскіх князёў Уладзіміра Манамаха і Ігара Святаслававіча, яго рабавалі і разбуралі маскоўскія ваяводы. Друцк быў уцягнуты ў вайну смаленскіх князёў з чарнігаўскімі.

Асабліва прываблівалі ўсіх непрыяцеляў друцкія палі — вольныя мясціны вакол горада і замка па абодва берагі Друці, у раёне старажытнага волака, курганных могільнікаў і селішчаў X стагоддзя. Бязлесыя друцкія палі ляжалі ў вельмі зручным месцы, на скрыжаванні гандлёвых і ваенных шляхоў на Поўнач і Поўдзень, на Усход і Захад: на Полацк і Ноўгарад, на Смаленск і Маскву, на Магілёў і Кіеў, на Вільню і Варшаву. Таму на Друцкіх палях збіраліся перад паходамі і войскі ВКЛ, і войскі Маскоўскай дзяржавы, каб ісці ўглыбіню Беларусі — тут іх лягчэй было і канцэнтраваць, і парадчыць.

Перад Аршанскай бітвай 1514 года на Друцкіх палях рускія палкі сканцэнтравалі да васьмідзесяці тысяч воінаў, а ў час Лівонскай вайны тут сцягваліся да 130 ты-

сяч воінаў пад кіраўніцтвам ваяводаў Сярэбранага і Шуйскага.

Такое нязручнае і небяспечнае месцазнаходжанне Друцка зрабіла сваю справу: Друцк, разбураны і вытаптаны, заняпаў. Нямецкі дыпламат і падарожнік Герберштэйн, які быў тут у 1517 і 1525 гадах, убачыў толькі край «найвялікшых пустынь», а еўрапейскі дыпламат Корб пісаў пра Друцк канца XV стагоддзя:

«Кажуць, што ў мінулым стагоддзі гэты горад меў 7 міль у акружнасці і славіўся 2000 знакамітымі храмамі, але ў час жорсткай вайны... зведаў такое спусташэнне, што да яго можна аднесці словы пра тое, аб чым плача паэт над развалінамі Троі: дзе стаяў Пергам — там цяпер калоссе»...

Звычайная вёсачка Друцк на Талачыншчыне сціпла прытулілася да магутных валоў замчышча калісьці магутнага горада, якія нібыта стагоддзі навісаюць над ёю. Аднак гэтай вёсачцы няма чаго прыбядняцца: яна ж, спадкаеміца старажытнага Друцка, на 70 гадоў старэйшая за Мінск, а Масква маладзейшая за яе на ўсе 150 гадоў...

Свой Нясвіж мы часам з гонарам называем Парыжам у мініяцюры. І сапраўды ён, увесь горад, з'яўляецца непаўторным архітэктурна-гістарычным помнікам. Якія цудоўныя архітэктурныя ансамблі ў ім! Кожны помнік тут сам па сабе унікальны. Як, да прыкладу, касцёл Святой Эўфеміі, пабудаваны славутым архітэктарам Янам Марыя Бернардоні. У ім захавалася першая ва Усходняй Еўропе купальная іезуіцкая базіліка. Радзівілы былі вельмі багатыя і амбіцыйныя, і таму Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка дазволіў сабе пабудаваць храм падобны на той, які быў толькі ў самім Рыме — такія ж храмы ў Кракаве ды Вільні з'явіліся пазней.

Але Нясвіж — гэта перш за ўсё замак, узведзены на месцы драўлянага замка ўсё тым жа італьянцам Бернардоні. А ў замку — шыкоўныя залы. Аж тры партрэтныя залы змяшчалі 300 партрэтаў Радзівілаў і іншых дзяржаўных дзеячаў ВКЛ. Багатая бібліятэка кніг — за анты-

расійскія выступленні аднаго з Радзівілаў — Пане Каханку — з замка было вывезена ў Пецярбург у 1772 годзе звыш 10 тысяч тамоў кніг.

Аддаў Нясвіж Радзівілам імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Карл V — у 1547 годзе М. Радзівіл Чорны атрымаў тытул «князь на Альцы і Нясвіжы».

Мір і Нясвіж — нібыта браты. Як толькі Мірскае графства ў 1569 годзе было далучана да Нясвіжскага княства, стала вотчынай Радзівілаў, новыя гаспадары адразу ж стварылі каля сцен Міра палацавы комплекс. Рабіў гэта зноў жа Бернардоні — тады ў італьянцаў быў вопыт як замкі ператвараць у палацы.

Мірскі замак будаваўся не толькі з абарончымі мэтамі, але і для таго, каб паказаць багацце і веліч яго ўладальнікаў. Мір быў атулены з усіх бакоў векавечнымі пушчамі — Налібоцкая, Свержаньская — і асаблівых нападаў не зведаў. Таму пры будаўніцтве замка найперш, як пісаў паэт Уладзіслаў Сыракомля, зважалася на яго «артыстычную пыхлівасць».

Пра тое ж — прыгажосць і непаўторнасць — мусіць, думалі і магутныя Сапегі, уладальнікі Ружан, закладваючы палацавы комплекс. Нездарма нашчадкі з удзячнасцю назвалі іхні палац Ружанскім Версалем: бібліятэка на 20 тысяч тамоў, нумізматычная калекцыя, старажытныя гравюры, каля тысячы твораў мастацтва ў залях. Парк, сады, аранжарэя. Аркады, парадная лесвіца, тэатр, манеж. І сам палацавы комплекс меў незвычайную форму: з вышыні птушынага палёту ён выглядаў вялікаю каменнаю ружаю.

Цяпер — разбураны і разрабаваны. Скарбы Ружанскага палаца сёння знаходзяцца ў музеях Расіі і Польшчы. А яшчэ ж у 1637 годзе Ружаны атрымалі магдэбургскае права і герб — святы Казімір у вянку з руж.

Магдэбургскае права — права на самакіраванне. Першаю гэтае права ў 1387 годзе атрымала Вільня. Затым граматы на самакіраванне займелі Бярэсце, Гародня, Слуцк, Полацк, Мінск і іншыя гарады. У некаторых гарадах, якія не мелі самакіравання, беларускія магна-

ты ўводзілі свае прывілеі: Капыль, Быхаў, Давыд-Гарадок і інш.

У гарадах у XII — XIII стагоддзях актыўна развіваліся рамёствы — у гароднях і па-за імі сяліліся кавалі, ювеліры, шаўцы, краўцы, касцярэзы, ганчары, бандары. Ды і самі гарады былі вядомыя нейкай асноўнай галіной сваёй дзейнасці: у Слуцку развівалася гарбарная вытворчасць, у Віцебску — будаўнічая, у Мінску і Полацку — збройная, Магілёў быў вядомы сваёй якаснай апрацоўкаю футра, а Свержань, Дзераўное, Бешанковічы, Ула, цяперашнія вёскі ды пасёлкі, славіліся суднабудаваннем. Як цэнтры гандлю здаўна былі вядомы Полацк, Гародня, Віцебск, Бабруйск, Нясвіж, Любча...

Гомель — старажытны горад радзімічаў і патомнае ўладанне Вольгавічаў: князёў Алега і Ігара, герояў «Слова аб палку Ігаравым».

Гародня — горад Трайдзеня, Вітаўта, Давыда Гарадзенскага. Любімы горад вялікага князя ВКЛ і караля Польшчы Стафана Баторыя. У ім адбываліся штогадовыя сеймы. Дарэчы, у Гародні ў 1793 годзе адбыўся апошні сейм Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў Другі падзел Польшчы.

Дуброўна — памежны горад паміж Масковіяй і ВКЛ. Нават калі падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай расійскае войска Куракіна аблажыла Дуброўна, цар Аляксей Міхайлавіч, злуючыся, што горад і замак не здаецца, усё ж забараніў браць яго «зажогам» — ён павінен быў абараняць, засланяць сабою блізкі Смаленск. І ўсё ж тады Дуброўну спалілі датла: па загаду ўсё таго ж цара горад спаліў Чаркаскі.

Барань, што каля Оршы, спачатку належала гетману Астрожскаму, а калі перайшла ва ўласнасць Радзівілаў, у 1597 годзе князь Мікалай Радзівіл заснаваў тут кульню — майстэрню па вытворчасці ядраў і куль. Кульнікі здабывалі руду, выраблялі драўляны вугаль, варылі жалеза, адлівалі ядры-кулі і забяспечвалі імі Копыскі і Біржайскі (цяпер у Літве) замкі. Штогод Біржайскаму

замку Бараньская кульня выраблялa 195 вялікіх ядраў і 325 меншых, а Копыскаму — 390 малых ядраў і 780 куль для гакаўніц.

А вось што мелася ў Ляхавіцкім замку, які стаяў на рацэ Ведзьма і лічыўся самым моцным сваёй фартыфікацыяй ва ўсёй Рэчы Паспалітай: на замкавых валах стаяла 31 гармата — дарэчы, большасць з іх былі адліты на людвісарнях Хадкевіча і Сапегі. «У арсенале былі дзве невялікія шмыгаўніцы, 51 гакаўніца, мушкеты звычайныя і цяжкія мушкеты-«кабылы», стрэльбы-«янычаркі», больш за тры тысячы ядраў рознага калібру, мушкетныя кулі, шрот, даспехі-«зброі» на 141 чалавека, 551 шлем-шышак.

Таму ўсю зіму 1595 — 1596 гадоў і штурмавалі замак беспаспяхова казацкія загоны Севярына Налівайкі.

Магутныя на той час гарады. І нейкія Кушлікі — сяло, якое знаходзіцца за дзесяць вёрст ад Дзісны. А каля яго ж адбылася падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай вялікая бітва 1661 года. Тут рускія пацярпелі паражэнне, страцілі 130 сваіх сцягоў. Пад Кушлікамі загінула чатыры тысячы рускіх воінаў. Каб парадавацца перамозе, у Кушлікі прыязджаў сам кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір з 5 харугвамі конніцы.

Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай пачаўся заняпад гарадоў Беларусі: з 357 нашых гарадоў і мястэчак засталося жывымі толькі 228...

Аднак нашы гарады не толькі знікалі, але і нараджаліся. Пры Савецкай уладзе з'явіліся гарады Салігорск, Наваполацк, Светлагорск, Новалукомль, Белаазёрск і іншыя. Цяпер яны — самыя маладыя ў нас: каму па 40, а каму ўжо нават і за 50 гадоў! Праўда Светлагорск узнік на месцы старажытнай вёскі Шацілкавічы, вядомай з XIV стагоддзя, Новалукомль — на месцы горада Лукомля, а Наваполацк — як далёкі-далёкі нашчадак самога Полацка.

Некаторыя нашы гарады ўзніклі ў XIX стагоддзі падчас правядзення чыгункі на беларускіх землях — як чыгуначныя станцыі: Баранавічы, Жабінка, Жыткавічы.

Іншыя ж мянялі свае імёны: старажытныя Давячо-равічы сталі Драгічынам, Здзяцел — Дзятлавым, Прапойск — Слаўгарадам, Ігумен — Чэрвенем. А горад на рацэ Няцечы меў аж некалькі імён: Крутагор'е, Койданава, Дзяржынск. І ўсе яны звязаны з гістарычнымі падзеямі і асобамі. Іванава было і Порхавым, і Янавым.

Гарадскі пасёлак Краснасельскі на рацэ Рось, што ў Ваўкавыскім раёне, нарадзілі крэмнездабыўчыя шахты, дзе першабытныя людзі неаліту і бронзавага веку здабывалі крэмень для прылад працы. Дарэчы, тут жа знойдзены зуб маманта — 17 сантыметраў у даўжыню, 15 у вышыню і амаль 8 — па акружнасці.

У Жыровічах у 1470 годзе з'явіўся Жыровіцкі абраз Маці Боскай.

Лагойск вырас між прыгожых, маляўнічых пагоркаў.

Талачын збудавалі талакою.

Навагрудак, здаецца, быў з намі заўсёды. Ён чамусьці ўяўляецца нам нават старэйшым за свае гістарычны гады. Бышцам яму ўжо больш за тысячу гадоў.

Можа, таму, што менавіта ў ім у 1253 годзе адбылася каранацыя вялікага князя Міндоўга каралеўскаю каронаю. «З блаславення Папы Інакенція, праз Генрыка, біскупа хэлмскага, у Прусах кардынала». Князь зрабіўся каралём, а княства — Вялікім каралеўствам.

А двума гадамі раней Міндоўг тут жа, у Навагрудку, разам з жонкаю і двума сынамі хрысціўся па рымскаму звычаю, прыняўшы каталіцкую веру ад прасвітара Лівонскага ордэна. Аднак пасля перамогі над крыжакамі каля возера Дурбэ Міндоўг адмовіўся ад каталіцтва і зноў вярнуўся ў язычніцтва.

Значыць, ужо ў XIII стагоддзі Навагрудак быў нашаю сталіцаю. Першаю сталіцаю Вялікага княства Літоўскага, якое жыло і будавалася на нашых беларускіх землях.

Другою сталіцаю ВКЛ стала Вільня. Наш старажытны горад. Горад, што ў нашых душах і сэрцах. Вільня — сталіца культуры Беларусі. Тут таксама зараджалася наша дзяржаўнасць, у Вільні мы пачалі разумець нашу

беларускасць. Таму Вільня для нас з'яўляецца сталіцай нашай культуры, духу, волі.

А нашай сапраўднай, палітычнай сталіцай з'яўляецца Мінск. Ён быў сталіцаю і ў БССР, калі мы ўваходзілі ў Савецкі Саюз, застаўся ёю і ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь. Пра Мінск напісана столькі, што, мусіць, няварта ўжо шмат пра яго згадваць — наўрад ці знойдзецца ў краіне хоць адзін чалавек, які б нічога не ведаў пра наш горад-герой.

Дарэчы, перад апошняй вайною сталіцаю Беларусі мог стаць Магілёў, калісьці другі, пасля Вільні, горад у ВКЛ. У Магілёў ужо збіраліся пераводзіць дзяржаўныя ўстановы, там нават пабудавалі Дом Саветаў, які быў амаль копіяй Дома Урада ў Мінску — каб крыху аддаліць сталіцу ад граніцы з Польшчай, якая тады праходзіла непадалёк ад Мінска.

Ён жа, Магілёў, амаль тры гады быў сталіцаю Расійскай імперыі. Падчас Першай сусветнай вайны ў Магілёве знаходзілася Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага войскамі Расіі — з 1915 года тут жыў апошні расійскі імператар Мікалай II, які прыняў на сябе вярхоўнае галоўнакамандаванне. Тут жа, у Магілёве, ён і адрокся ад прастолу.

Сталіцаю Беларусі быў і Смаленск. Усяго адзін дзень. 31 снежня 1918 года, калі Паўночна-Заходняя канферэнцыя РКП (б), якая праходзіла ў Смаленску, абвясціла аб стварэнні БССР. У новую краіну ўвайшлі Мінскі, Смаленскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Гарадзенскі і Баранавіцкі раёны, а цэнтрам дзяржавы зрабіўся Смаленск.

Шмат якія нашы паселішчы былі сталіцамі — магутных княстваў, ваяводстваў, губерняў, абласцей, звычайных раёнаў, удзельных княстваў. У сярэднявеччы, у XV стагоддзі своеасаблівай сталіцаю былі і мае Зубрэвічы. Сталіцаю ўдзельнага княства, бо ў маёнтку Зубрэвічы жыў князь з роду Друцкіх — Мітка Сякіра, які ўсюды падпісваўся так: «Князь Дзмітрый Зубрэвіцкі».



# НАША НЕБА, НАШ КОСМАС

Хочацца ўявіць таго вельмі далёкага-далёкага першабытнага чалавека, прабеларуса, так бы мовіць, які недзе між двума апошнімі зледзяненнямі ляжыць ці стаіць на зямлі, якая потым стане нашай, назавецца Беларуссю.

Ён углядаецца ў цёмнае начное неба, якое навісае над ім, нібыта навальваецца на яго, набівае вочы змрокам і ўсім сваім цяжарам прыціскае чалавека да зямлі — аказваецца, цемра мае вагу!

Ён хоча ўбачыць глыбіню, дно цемры — і не можа. Ён хоча зразумець, што гэта за дзірачкі свецяцца ў небе, якіх пры дзённым святле не відаць, але і гэта ў яго не атрымліваецца.

Над ім і вакол яго — нешта незразумелае і, здаецца, нават варожае.

Што гэта? Чаму гэта? Навошта гэта?

Ён яшчэ не ведае, што такое ноч і дзень, але бачыць як светлата мяняецца моракам, як сонца кудысьці знікае, а потым зноў з'яўляецца — толькі ўжо з другога боку.

Ён яшчэ не ведае таксама, што такое час, але інстынктыўна, толькі ў сабе самім, адчувае, як нябачна падаюць і падаюць у цішыню, нібыта нейкія кроплі, хвіліны.

Усё гэта ў яго яшчэ наперадзе — зразумець неба: і начное, і дзённае... Але ж ён напружваецца ўвесь і цікаўна ўзіраецца ў цемрадзь і зараз.

Вочы яго прызвычайваюцца, і ён ужо можа ахапіць зрокам усё неабдымнае, здавалася б, неба. Дык колькі ж іх, гэтых дзірачак! І яны, як жывыя, гэтак жа па-свойску, але загадкава, падміргваюць яму — нібыта бачаць яго на зямлі, — што продку робіцца не так страшна.

Прашчур з цікаўнасцю вывучае неба і зоркі на ім.

Вунь мігцяць поплеч дзве вельмі яркія кропкі — ды так блізка, што здаецца: яны вось-вось зліюцца ў адну. Адна чамусьці блішчыць болей, другая меней.

Як жа доўга яму, чалавеку, давядзецца ісці па жыцці, каб нарэшце зразумець, што тыя зоркі, якія ён бачыць побач, на справе знаходзяцца вельмі далёка адна ад ад-

ной — і па даўжыні, і па глыбіні. Мы вымяраем касмічныя адлегласці даўжынёю між Зямлёю і Сонцам. Дык вось тая зорка, якая слабей блішчыць, знаходзіцца ад свае суседкі на тысячу астранамічных адзінак — глыбей у сусвет. Астранамічная адзінка — адлегласць ад Зямлі да Сонца. Яна складае каля 150 мільёнаў кіламетраў.

Прабеларус бачыў шмат зорак, пераводзіў свой позірк з адной на другую. Яму здавалася, што гэтых «дзірак» на небе безліч. Ён не ведаў, што даступная зроку ўсяго толькі невялічкая частка знічак — простым вокам можна ўбачыць не больш 2,5 тысячы зорак шостай зорнай велічыні. А з дапамогаю тэлескопа — мільёны, а то і мільярды.

Тэлескопа ў нашага продка не было. Як не было і ніякіх іншых, нават самых старажытных астранамічных прыладаў: адліковага круга і візірных прыстасаванняў: гномана, армілярнай сферы, квадранта, акстанта, астралябіі.

Вядома, ён не ведаў, што часам бачыць святло, жывое мігценне даўно выгарэлай, патухлай зоркі, якая знаходзілася на тым месцы за мільёны светавых год і што святло яе дайшло да нас толькі цяпер, калі яна памерла. Ды каб хто і падказаў яму пра гэта тады, ён бы не паверыў: як гэта — яна свеціць, і яе няма!

Чалавек не бачыць звычайным вокам нават шмат якіх спадарожнікаў планет сонечнай сістэмы.

Мы не бачым квазараў, — самых далёкіх ад нас свяцілаў, хоць яны выпраменьваюць такую колькасць энергіі, што яна ў сотні разоў перавышае выпраменьванні святла звышгіганцкімі галактыкамі.

Той продак, што глядзеў, думаецца, вельмі настойліва і часта ў неба, вядома ж, не ведаў, што ён бачыць космас, які ўключае ў сябе Сонечную сістэму, зоркі, міжзорнае асяроддзе, галактыкі і міжгалактычныя далячыні. Не ведаў, што Сонечная сістэма ляціць па Млечным шляху — нашай роднай галактыцы — да сузор'я Геркулеса. Чалавек нават не здагадваўся, што ў Млечным шляху

мігціць 100 мільярдаў зорак, а такіх галактык у свеце налічваецца аж 100 мільёнаў.

Але ж ён звычайным вокам бачыў самі галактыкі, бачыў магутныя сузор'і, скопішчы зорак, ніякавеў, калі назіраў, як па небе імкліва праносіўся адзінокі метэарыт ці нават метэарытны дождж. Прабеларус, як і мы, яго цяперашнія нашчадкі, нават і не думаў, што ён — сапраўдны касманаўт, які ў такім утульным касмічным караблі, як Зямля, з выключнай сістэмай жыцця і рэгенерацыі, ужо столькі часу блукае па нязведаных дарогах космасу. Адкуль ён ляціць, куды імчыцца і дзе апынецца праз нейкія мільёны гадоў?

Чалавек бачыў сваю галактыку — Млечны шлях — як кажуць, з сярэдзіны, і не разумеў гэтага. Светлая паласа няправільнай формы здавалася яму нейкім туманам. Безліч зорак у скопішчы зусім не адрознівала, не раз'ядноўвала простае вока, і таму першапродак, канешне, не шукаў галактычнага ядра і не задумваўся ці далёка мы знаходзімся ад сузор'я Валасы Веранікі, дзе павінен быць паўночны полюс у нашай галактыкі.

Бачыў прабеларус нейкія дзіўныя светлыя завіхрэнні на начным небе. Асабліва летам ці зімою. Ці ўвосень. Так бывае на зямлі, калі вецер нечакана закружыць у спіраль апалае лісце, якое трапілася яму пад крыло. Але ж спіраль на небе здаецца чамусьці нерухомай, як прымёрзла ўсё роўна там да чаго. Хто яе спыніў, закручаную?!

І праўда, цяжка разабрацца ў гэтым, калі не ведаеш, што тая спіраль — усяго толькі гіганцкая спіральная туманнасць у сузор'і Андрамеды. Адна з самых бліжэйшых да нашай Галактыкі скопішчаў зорак, якое добра відаць простым вокам. Ад нас да яе 1,5 мільёна светлавых гадоў.

А самыя блізкія да нас галактыкі — Магеланавы воблакі. Да іх усяго толькі каля 150 светлавых гадоў. Таму гэтыя галактыкі — і Малое Магеланава воблака, і Вялікае Магеланава воблака — і тады, у міжледнікоўі, і сёння бачны на нашым небе як самыя яркія ў паўднёвым

паўшар'і касмыкаватыя плямы — зорныя сістэмы. Сірыус — самая яркая на начным небе зорка.

Вандроўнік — так перакладаецца з грэчаскай мовы слова «планета». Мы не ведалі гэтага. Як нічога не ведалі нават пра планеты сваёй Сонечнай сістэмы. Пра тое, што Меркурый — самы блізкі да Сонца вандроўнік, што Венера — самая гарачая — да 500 градусаў па Цэльсію — планета, што на Плутоне маразы ў 240 градусаў, а Юпітэр — такі вялікі, што ў ім бы змясціліся ўсе астатнія восем планет Сонечнай сістэмы.

Ніхто тады не ведаў такіх паняццяў, як сонечная радыяцыя, нябесная механіка, сонечны вецер, зорны дождж, сусветны закон прыцяжэння — усё гэта паняцці нашага часу.

Астраномія — гэта законы зорак. Будова і развіццё нябесных целаў. Нейкае невытлумачальнае адзінства разнастайнасцяў: руху, памераў, напрамкаў, масы, выпраменьванняў. Дарэчы, слова «космас» з грэчаскай мовы так і перакладаецца: парадак, лад.

Мы не ўяўлялі, што Сонца — зорка. Такая ж, як і мільёны іншых. Хоць бачылі, што яно круглае і яркае.

Тым больш не маглі так падумаць пра нашу зямлю. Мы ж стаялі на ёй і перакананыя былі, што яна плоская. Яшчэ зусім нядаўна па касмічным часе — недзе ў XV стагоддзі мы спрачаліся, рызыкуючы жыццём, што і вакол чаго круціцца: Сонца вакол Зямлі, ці Зямля вакол Сонца.

Каперніка, польскага астранома, стваральніка геліяцэнтрычнай сістэмы, на Беларусі ведалі з XVI стагоддзя. Яго погляды падтрымлівалі шмат якія разумныя на Беларусі вучоныя. Найперш — Анёл Доўгірд. Філосаф, логік і псіхолаг з Мсціслаўшчыны. Ён лічыў, што сусвет падпарадкоўваецца натуральным законам. Ён, як і ўсе прадметы і іх уласцівасці, існуе незалежна ад нашай свядомасці.

Але гэта ўжо будзе потым. А пакуль што чалавек глядзіць у неба, у космас, на свае вочы бачыць вялізарны парадак і здзіўляецца: усё рухаецца, усё перамяшча-

ецца, мяняецца месцамі, аднак ніпто нічаму не замінае, ніпто ні за што не зачэпіцца.

Чалавек пачынае прыглядацца да неба, пільней вывучаць яго. Робіць высновы.

Поўня — гэта месяц, павернуты да нас асветленым бокам. Мы заўважаем, што ў гэты час ён найболей уплывае на нас сваёй энергіяй: больш моцна крываточаць раны, абрэзаныя ў поўню дрэвы гінуць, а сабраныя зёлкі, наадварот, маюць моцную, амаль магічную сілу.

Уплывае поўня і на жывёл, і на раслін. Жывёлы робяцца больш агрэсіўныя, а расліны патрабуюць больш вільгаці і ўгнаенняў.

У поўню добра высяваць рознае зяленіва. Перад поўняю лепш за ўсё саджаць дрэвы, перасаджваць хатнія кветкі, збіраць збожжавыя, а пасля яе, паміж поўняй і маладзіком, на сходах варта сеяць рэпу, моркву, буракі, радыску, бульбу — усё, што будзе расці ў зямлі.

Шчаслівa ў поўню і жаніцца — сям'я народзіцца моцнаю, навек поўнаю.

Каб атрымаць добры ўраджай, беларус глядзеў і глядзіць не толькі ў зямлю, але ж і на неба.

Бо, да прыкладу, калі пасадзіць капусту ў маладзік, яна не засохне, у дзень праходжання месяцам сузор'я Шаляў — вырастуць вялікія і цяжкія качаны. Ды і шаткаваць капусту лепей за ўсё тады, калі на небе маладзік, — яна атрымліваецца смачная, хрумсткая.

Ноч зімою на Васілле зорная — мы ведаем: лета будзе ягаднае. А ўлетку шмат зорак на начным небе — дзень будзе гарачы. Калі на Яўлампія рогі месяца глядзяць на поўдзень, будзе мяккая зіма, на поўнач — суровая.

А гэтае сузор'е ў навуковай практыцы называецца Плеяды. Само яно знаходзіцца ў сузор'і Цяльца. Сем неяркіх зорачак. Здавалася б, не дужа шмат. Але ж менавіта яно вельмі папулярны аб'ект для назірання амаль ва ўсіх народных астраноміях свету. Мусіць, таму, што якраз у гэтым месцы неба тысячы гадоў таму назад знаходзілася найважнейшая кропка ўсіх календароў. Кроп-

ка веснавога раўнадзенства. Мы, беларусы, здаўна звязвалі з ёю пачатак вясны і нават каляндарнага года.

Плеяды мелі ў нас шмат імёнаў: Стажары, Вісажары, Уласажэльцы, Вуцінае Гняздо, Сем Братоў, Сем Мальцаў. У іх — нашае своеасаблівае старажытнае разуменне космасу. І яшчэ адну назву далі мы гэтаму сузор'ю — Сіта, Сітца. Бо ўбачылі, што яно — нібыта дзіравае. Сем дзірачак блішчаць на цёмным начным небе. Яно — як рэшата. Праз дзірачкі ідзе да нас святло, — думалі мы. Праз іх сеецца дождж, — верылі нашы продкі. Трэба небу выліцца — яно выліваецца дажджом праз Сітца.

Сувязь надвор'я з Вуціным Гняздом нашы продкі ведалі добра: «Сем Братоў варожаць, колькі тыдняў пагоды будзе».

І яшчэ мы ведаем, ужо цяпер, што непагадзь нам часцей за ўсё прыносіць наш любімы Млечны шлях, наша Галактыка. Зямля мае магчымасць як прымаць энергію з космасу, так і выкідаць лішнюю назад у космас.

Вучоныя сёння сцвярджаюць, што Зямля, якая да гэтага ляцела па больш-менш спакойных раёнах Галактыкі, цяпер разам з Сонечнай сістэмаю ўвайшла ў шчыльны энергетычны струмень. Уран гэта адчуў, Юпітэр са сваім спадарожнікам Іо адчуў — прастора між імі запаўняецца плазмаю, што можа нарадзіць новае сонца. Пачынае адчуваць неспакой і Зямля... Ды і само Сонца — таксама.

А ўвогуле мы, беларусы, вогнепаклоннікі. Заўсёды, як Богу, мы маліліся Сонцу: Сонейка, узыйдзі, Сонейка, пасвяці, Сонейка, памажы...

У нас спрадвеку існаваў культ Сонца. У нас спрадвеку былі Дажбог і Сварог — багі Сонца і Неба.

Сварог злучыў неба з зямлёю, а яго сын Дажбог сваім сонцам апладніў зямлю — ён даў ёй цяпло, святло, зялёніва. Ярыла — ужо Бог Зямлі. Ён прыгожы хлопец у белым адзенні, на прадвесні ездзіў на белым кані па палетках і адмыкаў зямлю ад зімовага сну.

А ўсе яны трое — Сварог, Дажбог і Ярыла — наш космас.

Ці, да прыкладу, наша разуменне яго.

Мы верылі, што сонца цэлы дзень назірае за людзьмі, а ўвечары ўсё, што ўбачыла, расказвае Богу.

Мы адкрылі для сябе варажнечу Сонца і змей. І прычыну гэтага знайшлі: змяя хацела праглынуць Сонца! Маглі б выбраць што-небудзь іншае — цемру, цмока, ноч, але мы чамусьці выбралі змяю. І таму, па-нашаму, змяя рэдка выпаўзае на сонца.

Мы робім сонцы на варотах, аканіцах, падзорах. Вышываем яго. Малюем усюды — балазе, сонца вельмі лёгка маляваць: абводзім круг і абтыкаем яго вакол палачкамі-промнямі.

І той святы круг, які знаходзіцца за галавою кожнага нашага святога, — таксама наша Сонца. Бо кожны німб — гэта ж выява Сонца.

З космасу мы бяром самыя ласкавыя словы для сваіх каханых і дзяцей: а маё ты Сонейка, а мой ты Месячык, а мой ты Маладзічок. Бо сонца — гэта крыніца энергіі, святла і цяпла, а месяц — наша начное сонца.

Яшчэ першабытныя людзі па зорках, сонцу і месяцу навучыліся вызначаць час і арыентавацца ў прасторы. Бо і час — гэта таксама чыста касмічнае паняцце: яго ж ніхто ніколі не бачыў, і ніхто не можа ўявіць, што гэта такое. Потым ужо прыглядзеліся да кветак і жывёл, пачалі прыслухоўвацца: прачнуўся, заспяваў салавей — другая гадзіна ночы. Зляцеў шпак з гнязда — чатыры гадзіны раніцы.

Каля возера Янава ў даўнявеччы мы пабудавалі язычніцкую астранамічную «абсерваторыю». Пабудавалі з валуноў. І там шанавалі бога Купалу і вызначалі дакладны дзень летняга сонцастаяння.

Пасля мы прыдумалі гадзіннікі. Але хоць мы, носячы на руцэ, адчуваем іх саміх, аднак часу ўсё роўна як не адчувалі, так і не адчуваем. Бо час — такая ж няўлоўная і невытлумачаная рэч, як і сам космас. Ён не мае ні даўжыні, ні шырыні, ні аб'ёму. І той жа час ён усё гэта мае: і даўжыню, і шырыню, і аб'ём.

Народ — самы першы наш астраном. Вось як беларусы расказалі ў сваіх паданнях пра стварэнне свету:

«Неба зроблена так, што яно мае сем сталак, ці пёнтраў. Мы бачым толькі першае неба. А Бог жыве аж на сёмым. З чаго зроблена неба, ніхто не ведае».

Своеасаблівую задачу мы паставілі Сонцу: ага, менавіта задачу, і ў гэтым наша беларускае разуменне справядлівасці космасу.

«Як Бог стварыў свет, то вялеў Сонейку свяціць на добрых і на ліхіх. Сонейка не хацела свяціць на ліхіх і пачало жаліцца Богу, што яму цяжка заўжды свяціць. Тады Бог пакараў Сонейка і вялеў яму свяціць толькі ўдзень, а ўночы, як гуляюць ліхія, не свяціць, а адпачываць».

Аказваецца, і балота — наш космас. Хоць яго і зрабіў чорт. Нячысцік паглядзеў, што Бог сее зямлю, схапіў трохі зямлі ды і схаваў яе ў рот.

«Азірнуўся Бог ды й пытае, што ён есць. Чорт, каб адперціся, хутчэй праглынуў тую зямлю. Толькі ён тое зрабіў, як у ём пачала расці зямля. Бачыць чорт, што зямля распёрла яго, от ён давай рыгаць. От дзе толькі чорт рыгнуў, там і зрабілася балота, да такая нетра, што там і да тых часоў толькі й жывуць чэрці».

Першым жа славутым не толькі ў нашай зямлі вучоным-астраномам быў Марцін Пачобут-Адляніцкі, які нарадзіўся ў 1728 годзе ў вёсцы Саламянка непадалёку ад Гародні. Беларускі астраном, матэматык і асветнік быў членам Каралеўскай Акадэміі навук у Лондане, членам-карэспандэнтам Французскай каралеўскай акадэміі, правадзейным членам Таварыства сяброў навук у Варшаве.

Ён арганізаваў у Вільні і амаль да самай смерці быў кіраўніком астранамічнай абсерваторыі — адной з найстарэйшых абсерваторый у Еўропе. Пачобут-Адляніцкі амаль 40 год вёў назіранні за зоркамі і планетамі, за астэроідамі і каметамі. Цікавыя яго назіранні за Меркурыем, за тымі з'явамі, якія адбываюцца на Сонцы і Месяцы.

Вучоны заснаваў у Вільні Астранамічную школу, у якую ўваходзілі вядомыя на той час астраномы Ю. Міш-

кевіч, Я. Снядэцкі, П. Славінскі, М. Глушкевіч, М. Гусеў, П. Смыслоў і інш. Светапогляд шмат каго з іх быў заснаваны на творах Каперніка, Галілея, Н'ютана, Дэкарта і іншых мысліцеляў.

Галоўнаю думкаю членаў астранамічнай школы была наступная: бязмежныя светы існуюць і рухаюцца ў прасторы і часе паводле адпаведных законаў. Яны нібыта пераконвалі не толькі сябе, але і нас, нашчадкаў: пазнанне свету магчымае і неабмежаванае, яно пашыраецца з новымі адкрыццямі.

Для гэтых адкрыццяў і прыходзіў Марцін Пачобут-Адляніцкі ў сваю абсерваторыю нават у старым узросце — і ў 80 гадоў ён назіраў там за небам.

Гэта яму, вядомаму небазнаўцу, прысвяціў шчырыя радкі Адам Міцкевіч у сваёй паэме «Пан Тадэвуш» — у раздзеле пра астраномію і Віленскую абсерваторыю, якая на той час мела сусветную вядомасць.

Ёсць яшчэ адна вельмі цікавая і арыгінальная асоба, якая нібыта збоку стаіць у беларускім небазнаўстве.

Язэп Драздовіч. Сын збяднелага шляхціца-арандатара з засценка Пунькі, што на Дзісеншчыне, якога яго сябра мастак Пётра Сергіевіч зваў беларускім Леанарда да Вінчы. Мастак, скульптар, этнограф, археолаг, разьбяр, фальклярыст, фантаст.

А яшчэ ён удумлівы, дасведчаны астраном. Бацька яго, Нарцыз, любіў разважаць аб планетах. Маці, Юзэфа, казала сыну: «Вучыся і пазнай нябесныя бегі».

Ён выдаў першую на беларускай мове навукова-дакументальную кнігу па астраноміі «Нябесныя бегі». Затым напісаў «Тэорыю паходжання планет сонечнай сістэмы» і «Тэорыю рухаў у касмалагічным значэнні».

У сваіх жывапісных і графічных работах Драздовіч распрацаваў тры касмічныя тэмы: «Жыццё на Месяцы», «Жыццё на Марсе» і «Жыццё на Сатурне». У яго было сваё, па-зямному рэалістычнае, бачанне касмічнага жыцця. І сёння вялікае здзіўленне выклікаюць яго карціны «Панарама горада Трывеж на Месяцы», «Сустрэча вясны на планеце Сатурн», «Штучнае мора Марса». Аказ-

ваецца, ён ужо даўно пабываў там і даследаваў (альбом «Касмавізіі») і гаць, і штучнае мора на Марсе, і абязводнены цырк на Месяцы, і «гняздо» — месяцовы горад непадалёку ад цырка Каперніка, і Веранду ратунку каля цырка Платона. І там жа, як кажуць, аблазіў гару Сігнал і крынічны кратэр з каскадамі і хвоїнікавымі пальмамі. Дзіва дзіўнае, як ён гэта ўсё бачыў — ад яго праніклівага вока не схавалася ніякая дробязь, што для нас, для тых, хто не быў разам з ім, мае велізарнае значэнне. Пра гэта сведчаць і яго найцікавейшыя запісы астралагічных падарожжаў, якія захаваліся толькі ў рукапісах («У мурах Трывежа», «Краіна Аўрыя», «Жыццё на Месяцы»).

Ён быў упэўнены ў існаванні разумнага жыцця ў космасе! Пра гэта, пра гармонію планет сведчаць і яго запісы ў нататніку, які называецца так нечакана і так мэтанакіравана: «Дзе мы і хто мы. Бяседа аб утварэнні свету. Небазнаўства».

«Усё тое, — піша Празарлівец, — што мне давялося бачыць на Месяцы праз любоў і веру ў звышнатуральнае, па-за часам і прасторай, — не ёсць ані з мінуўшчыны, ані з будучыні, а настаяшчае, сучаснае, як яно ёсць цяпер. І калі б знайшлася магчымасць для нашых земляў зрабіць сапраўднае падарожжа на Месяц, знайшлі б там шмат чаго, што я бачыў, і такім, як я бачыў».

Ён кажа:

«Я веру, што тэхніка зямлян па заваяванні прастору не закончыцца на тым, што мы ўжо маем, а пойдуць далей аж да міжпланетных падарожжаў». Гэта Язэп Драздовіч запісвае ў лістападзе 1934 года. І ў тым жа годзе ён расказвае пра свае касмічныя палёты: «Тускласветная папяляная ноч. Лячу, аглядаю з вышыні птушынага палёту».

І ў гэта верыш! Як і ў той аўтапартрэт, напісаны на фоне космасу: моцная, але ласкавая рука трымае на далоні родную зямлю, леваруч ад яго — Юпітэр з кольцамі, а вакол галавы — светлыя зоркі. І барада — як завіхраная галактыка...

Язэп Драздовіч — наш першы беларускі касманаўт. Не, ён усё ж касманаўт, але не першы.

А першым нашым касманаўтам стаў Пятро Клімук.

І розніца між імі адно тая, што першы глядзеў у неба з зямлі, а другі наадварот — з неба на зямлю. Драздовіч думкаю апантана і настойліва сягаў у неба, а Клімук ужо адтуль сумаваў па зямлі.

«Думаецца, — напісаў ён у сваёй кнізе «Зоры — побач», — няма на свеце чалавека, які б не любіў летніх раніц і салаўіных росных вечароў, які б не захапляўся задуменнасцю ціхіх, ахінутых вербамі рачулак і смалістым звонам меднаствольнага бору».

Адчуваючы, што гэты матыў мае вельмі зямное замілаванне, касманаўт спахопліваецца і сам тлумачыць яго з'яўленне:

«А ў маім уяўленні ён больш касмічны, чым зямны. Таму што святая любоў да роднай зямлі — я кажу «святая», бо, урэшце, маецца на ўвазе незабыўнае аблічча Айчыны, Радзімы — невымерна вырастае там, у космасе».

І дадае:

«Хоць, здавалася б, што агульнага паміж Зямлёй і космасам? Адна — калыска жыцця і само жыццё, другі — чорная, бязмежная, мёртвая прастора. Што нам, людзям, трэба ў ёй, навошта мы імкнёмся туды, што шукаем?»

Ці не таму, калі хто-небудзь называў касманаўта сынам Галактыкі, дзіцем Сусвету, ён сціпла адказваў: «Не, я і дзіця, і сын Зямлі».

Калі першабытнаму чалавеку, які назіраў за небам, нават у галаву не магло прыйсці, што зямля была гэткаю ж зоркаю, як і іншыя, якіх ён бачыць у небе, што ён знаходзіцца на падобнай патухлай зорцы, якая ляціць невядома адкуль і невядома куды, то Пятро Клімук ужо ўвачавідкі бачыў гэтую вялікую блакітна-зялёную зорку з усіх бакоў, лятаў вакол яе і ляцеў разам з ёю ў непазнаныя глыбіні космасу. Дарэчы, як і ўсе мы, зямляне.

Шаснаццаць разоў за дзень там узыходзіць і заходзіць Сонца. Незвычайныя хуткасці, невядомыя вышыні — калі

адразу бачыш паўсвета. Бывае, на велаэргометры за некалькі хвілін праедзеш ад Паўднёвай Амерыкі да Уладзівастока. Толькі зверху. Толькі ў караблі. Хацеў убачыць, знайсці на зямлі сваю невялічкую хатку ў вёсцы Камароўка каля Брэста, аднак, як ні ўзіраўся зверху, не пазнаў яе.

Гэтак жа як і маці, якая ўглядалася ў зорнае неба, так і не зразумела, мусіць, у якой са святлівых зорак ляціць яе сын, хоць па тэлебачанні ўжо бачыла сынава жыллё: «А нічога сабе хатка, нават воканкі ёсць, хоць і кругленькія і маленькія».

Пятро Клімук на сабе зведаў шмат якія неспазнаныя адчуванні космасу.

Надзіва незразумелую сілу і лёгкасць бязважкасці, калі вучышся не хадзіць, а лятаць, калі звычайныя на зямлі рэчы — памыцца, прысесці, штосьці ўзяць у рукі — ператвараюцца ў праблемы: не прывязаўшыся — не ляжаш, не замацаваўшы — нічога не пакладзеш, бо ўсе рэчы ў караблі, калі не прывязаныя, лятаюць гэтак жа, як і людзі.

Вялікую адказнасць за стыкоўку двух касмічных караблёў, якую Клімук, камандзір карабля, праводзіў і ўручную, і без сувязі з Зямлёй, і ў начны час — калі хто назіраў за стыкоўкаю з зямлі, той мог убачыць, як дзве святлівыя зорачкі на небе нейкі час збліжаліся, каб потым зліцца ў адну.

Касманаўт зразумеў халодную і абыякавую да ўсяго глыбіню космасу, калі чалавеку хочацца, засумаваўшы па зямлі, як птушцы, каб гэта было толькі магчыма, кінуцца ўніз...

Але касманаўт на небе не адзін. У яго ёсць і ахоўца, і найпершы памочнік — начынены тэхнікай касмічны карабель, які важыць аж 25 тон... І тысячы прybораў. Для таго, каб зрабіць адзін патрэбны табе кадр, трэба, бывае, пакарыстацца дваццаццю пяццю прыборамі.

На «Салюце», з якім Пятро Клімук і Віталь Севасцьянаў састыкавалі свой «Саюз», яны праляталі 63 сутак.

Назіралі Зямлю, Месяц, Венеру. «Тое, што фотакамера «схопіць» з космасу за 3 — 5 мінут, — расказваў потым Клімук, — па аб'ёме інфармацыі прыраўноўваецца амаль да двух гадоў аэрафотаздымачных работ з самалёта».

Дзівіліся касмічным колерам. Дарэчы, на старонках бартавога журнала Клімук, расказваючы пра іх, нарэдка піша: «попельныя» — нібы паўтараючы Язэпа Драздовіча. Памятаеце, у мастака: «Тускла-светлая, папяляная ноч». Адкуль Драздовіч ведаў, што зверху той, хто ляціць, бачыць менавіта попельныя колеры?!

Вывучалі Сонца. Яго цяпло, без якога не можа абысціся ўсё жывое, і магутныя патокі ультрафіялетавай радыяцыі, якая, наадварот, варожая ўсяму жывому. Даследавалі магутныя выбухі на Сонцы, ад якіх яно скаланаецца амаль пастаянна. З космасу відаць, што Сонца не такое ўжо і лагоднае — яно бунтоўнае і наравістае.

Доўга «лавілі» яны зорку Рыгель. А калі гэта ўдалося, уздыхнулі:

— А ўсё-такі мы загналі яе проста ў «пашчу» прыбора!

Рыгель — зорка, якую астраномы называюць «блакітным гігантам». Яе дыяметр роўны дыяметру арбіты Зямлі, што наша планета робіць за год. Тэмпература зоркі 70 тысяч градусаў, у той час як тэмпература паверхні Сонца — толькі 6 тысяч. Рыгель свеціцца ў 10 тысяч разоў ярчэй, чым Сонца, аднак ім, Клімуку і Севасцьянаву, калі яны загналі ў «пашчу» прыбора і зафіксавалі магутную ўспышку, моцнае рэнтгенаўскае выпраменьванне на Рыгелі, удалося за дзесяць секунд злавіць усяго толькі 20 фатонаў.

Касманаўты ў той свой палёт запісалі на плёнку рэнтгенаўскія выпраменьванні дзесяці зорных крыніц у сузор'ях Дзевы, Скарпіёна і інш.

Крыніца выпраменьвання ў сузор'і Шчыт непадалёку ад ядра Галактыкі ўспыхнула якраз за два месяцы да іхняга палёту. Вядома, яны з вялікай цікавасцю назіралі за гэтаю крыніцаю зоркаўтварэння, святло ад якой прыйшло на Зямлю толькі праз 32 тысячы светлавых гадоў.

Другі аб'ект у сузор'і Лебядзь вядомы як «чорная дзірка», якая нічога з сябе не выпускае. Вучоныя толькі мяркуюць, што яна проста высмоктвае планеты, якія знаходзяцца паблізу. Назіранні Клімука і Севасцьянава пацвердзілі, што выпраменьванне такіх зорак-загадак хоць і інтэнсіўнае, аднак беспарадкавае і непастаяннае.

Зямля вельмі чакала неацэнных даследаванняў касманаўтаў — яны прывезлі дадому тое, што нельга ўбачыць і зразумець з нашых палёў, лугоў і дарог.

Свой унёсак у даследаванне космасу зрабіў наш Уладзімір Кавалёнак, а таксама жанчыны — касманаўты Валянціна Церашкова і Святлана Савіцкая, лёс якіх зноў жа звязаны з Беларуссю.

І ўсё ж Клімук, лётчык-касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант авіяцыі, акадэмік Касмічнай Акадэміі Навук, начальнік Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў імя Гагарына, абжыўшы космас, вярнуўшыся на зямлю, піша:

«Яшчэ ў маленстве, калі ўпершыню скіроўваеш свой погляд у неба, табой апаноўвае дзівоснае пачуццё. Незразумелае і трывожлівае. Што гэта? Хто паўтыкаў так высока ў цёмны блакіт начнога неба залатыя вугольчыкі? Пасля, з гадамі, калі спазнаеш, што кожны з гэтых зіхатлівых вугольчыкаў — Сонца, бярэ ўтрапенне — ад прадчування бясконцасці сусвету. І думка твая нясмела сягае туды і гэтак жа нясмела імкнецца ўявіць, што, магчыма, вакол аднаго з гэтых Сонцаў круціцца дакладна такая ж планета, як Зямля, і што на ёй, той другой Зямлі, могуць быць людзі».

І гэта піша чалавек, якога завуць Сынам Галактыкі. Камандзір касмічнага карабля, які тройчы пабываў у космасе.

Што, значыць, Космаса мы ніколі не зразумеем? Як і не зразумеем таксама, куды ляціць Зямля, круцячыся вакол Сонца, куды плыве ўся Сонечная сістэма, упісаная ў Млечны шлях — нашу галактыку, куды кіруе Галактыка, што ўзаемадзейнічае з іншымі галактыкамі, ско-

пішчамі зорак, блакітнымі гігантамі, чорнымі дзіркамі, сонцамі, квазарамі і пульсарамі?

Газеты свету паведамілі, што 27 снежня 2004 года ў сузор'і Стральца, за 30 светлавых год ад нашай планеты, адбыўся небывалы выбух нейтроннай зоркі. У прастору было выкінута столькі энергіі, колькі Сонца выпрацоўвае за 250 тысяч гадоў. Калі б Зямля знаходзілася да выбуху крыху бліжэй, то на ёй бы зусім нічога не засталося — нават травіны.

Згадваюцца па-чалавечы шчымлівыя словы нашага класіка, яшчэ адной неабыякавай да космасу Асобы, незабыўнага Максіма Багдановіча:

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»



## НАШ КАЛЯНДАР

Як прыгожа мы называем усе свае дванаццаць месяцаў!

Студзень, люты, сакавік, красавік, май-травень, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад, снежань.

І як хораша яны адпавядаюць сваім назвам!

У студзені, вядома ж, сцюдзёна. Усюды снег, мяцеліцы. І маразы — самая ж зіма ўсё-ткі! І як ні апранай-

ся — усё роўна холадна. А ў лютым маразы яшчэ больш люцеюць. І гэта зразумела: люты — апошні месяц зімы, а яна маразамі імкнецца зачапіцца за зямлю.

Але ж сакавік, першы месяц вясны, хочаш ці не хочаш, але прыходзіць, і абуджаны веснавы сок ужо вярэдзіць, хвалюе ўсе карані дрэў і раслін, якія ва ўтульнай зямлі цярпліва чакалі вясны. І карані пачынаюць ужо думаць пра вяршыні — настойліва памп уюць наверх, да кожнай пупышкі, жыццедайны сок.

А колькі нечаканых і ласкава-захопленых назваў напрыдумлялі сакавіку нашы прашчуры: ён і зімабор, ён і светазар, ён і кропельнік, веснавей, пазімнік, сонцалюб, сонцабой...

Красавік — сярэдзіна вясны. Ён — увесь з процілегласцяў, кантрастаў. Месяц снегагону, вадалею, сокаруху. Час яшчэ ледзяшоў і ўжо першых нашых красак: упартага прабіснегу, ціхай сон-травы, вірлавокіх пралесак. І пушыстых, як кацяняткі, вярбовых коцікаў... Усё красуе, усё жыве! Красавік!

Калі ў сакавіку наша вясна была яшчэ нясмелая, то ў красавіку яна ўжо ідзе на ўсю нагу: ёю пахне і вецер, і кветка падбелу і нават песня жаўранка...

Май — умайвае нашу зямлю. Май — гэта месяц травы. Нездарма ж яшчэ ў старажытнасці мы звалі яго траўнем!

І яшчэ гэта — месяц зеляніны, месяц апранання: кожнае дрэва, кожны кусточак ён апранае ў зялёныя ўборы. Да таго ж гэта месяц колераў — у ім вельмі хораша суседнічаюць і добра адпавядаюць адно аднаму ўсе колеры вясёлкі.

І месяц хрушчоў. І месяц дажджоў. Мы, земляробы, нават просім: «Нам два дожджыкі ў маю...»

Чэрвень — самы светлы, самы спякотны, самы звонкі ад салаўінага пошчаку месяц. І чырвоны, бо чэрвень — ад пладоў і ягад, якія пачынаюць спець.

У чэрвені ўсё пасеянае і непасеянае пачынае імкліва расці і набірацца сіл. Цвітуць шмат якія расліны: каліна, язмін, шыпшына, ядловец, белая акацыя, маліна, зацвітаюць чарніцы, брусніцы, буякі, журавіны, а на лу-

гах — канюшына, ятрышнік, незабудкі, кмен, дзьмухавец... Лугі — суцэльныя дываны з кветак: адначасова цвітуць амаль усе лугавыя краскі. Каласуе і зацвітае жыта, потым — пшаніца, а пасля, ужо ў канцы месяца і яравыя.

Наступны наш месяц старажытныя рымляне называлі юлем — у гонар імператара Юлія Цэзара, які рэфармаваў каляндар. Дарэчы, гэтак яго і цяпер называюць нашы суседзі — рускія.

Мы ж свой сёмы месяц завём ліпенем. Бо ў ім якраз цвіце на Беларусі ліпа. Яе цвіценне ў нас рухомае — і квет, і пах ідзе па нашай зямлі з поўдня на поўнач з хуткасцю каля 50 кіламетраў у суткі.

І яшчэ свой ліпень мы называем макушкаю лета. Бо пры ім пачынаюць ужо ўкарочвацца дні і робяцца даўжэйшымі ночы, а ў зялёных кронах з'яўляюцца першыя жоўтыя лісточкі.

Ліпень — вельмі спякотны месяц, і ў ім сама болей навальніц: рэдкі ліпеньскі дождж абыходзіцца без навальніцы.

Калі красавік — гэта ўсмешка вясны, наша надзея, то жнівень — гэта ўжо пацалунак восені і спраўджванне тых, веснавых, надзей. У жніўні мы заўсёды жнём.

Сеялі мы ў красавіку, садзілі ў маі і чакалі жніўня. Жнівень наш Бог. Мы цярпліва чакаем яго, бо ведаем: адно зерне — стане жменяй зярнят!

Паветра духмянае, але яно ўжо насычана пахам сухіх траў — блізка восень.

На таках — груды залацістага збожжа, на лугах — стагі сена, у садах — голле яблынь звісае ад пладоў аж да зямлі...

Такі ён, наш жнівень.

А верасень — гэта ўжо восень. Прыйшоў верасень — утаймаваў прыроду. Кветак ужо амаль няма. Толькі настойліва цвіце верас, па імю якога мы і назвалі дзевяты свой месяц.

23 верасня Сонца праходзіць праз кропку асенняга раўнадзенства — значыць, даўжыня дня і ночы, як і вясною,

ужо аднолькавая. Толькі птушкі цяпер не прылятаюць да нас, а адлятаюць. У вырай.

У цёмныя хмары збіраюцца берасцянкі. Невялікімі чародкамі ляцяць на поўдзень мухалоўкі ды сітаўкі. Касяком пралятаюць гусі, касым шнуром — лебедзі. Па адным адлятаюць зязюлі, ястрабы, лелякі.

А пад нагамі — першае апалае лісце: жоўтае, бурае, чырвонае, карычневае, аранжавае...

Але ж сапраўдны лістапад пачынаецца менавіта ў лістападзе.

Перад гэтым яшчэ ў нас ёсць кастрычнік — месяц, які атрымаў назву ад кастрыцы, што застаецца ад лёну, які мы якраз у гэты час даводзім да ладу — тром, трэплем. Кастрычнік — апошні месяц вегетацыі раслін. Месяц, калі імжыць нудны дождж, калі здараюцца замаразкі, а то і выпадае снег.

Рыхтуюцца да зімы лясныя звяры. Запасаюцца харчам птушкі. У рэках і азёрах у глыбокія месцы збіраецца рыба: акуні, плоткі, карпы, карасі, яршы.

А ўжо ў лістападзе вецер і дождж абтрасаюць, распранаюць усе нашы дрэвы — на іх, зусім голых, нават рэдкаму цяпер промню ўжо няма за што зачапіцца.

Дождж змагаецца са снегам, цяпло — з холадам. Світае позна, цямнее рана. Як мы кажам: «У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаюцца».

Усё. Цыкл, хоць наперадзе яшчэ застаўся адзін месяц года, ужо закончаны. Лісце — пад нагамі. Карэнне глыбока ўтачылася пад зямлю, паснула.

Цяпер толькі застаецца чакаць снегу. І ён неўзабаве, як абрусам, накрывае ўсю зямлю.

Зіма... Снежань — першы месяц зімы. У гэты месяц звычайна выпадае снег.

Снежань зноў апранае дрэвы. Але не ў зялёнае, а ў белае адзенне. І намятае да ног іх, да каранёў гурбы снегу. Навейвае сумёты па самыя стрэхі. І мы радуемся: «У снежні мароз і снег вышэй хаты — год будзе багаты».

Дні ўвачавідкі карацеюць і неўзабаве надыходзіць 21 снежня — дзень зімовага сонцастаяння, калі ноч робіцца самаю доўгаю, а дзень — самы кароткі.

А вось ізноў студзень.

Зямля, укрытая снегам, адпачывае. Тры зімовыя месяцы наш земляробчы каляндар не дазваляе яе трывожыць, нават чапаць — гэта вялікі грэх.

Адпачывае зямля — адпачывае чалавек, які любіць яе.

Назірае за тым, што адбываецца вакол яго. Думае, успамінае, параўноўвае.

Студзень — самы халодны месяц года. Гэта ў ім трашчаць маразы. Але беларус рады маразам і не хоча, каб яны слаблі. Бо памятае продкаў: «Барані нас бог ад цёплага студзеня», — казалі яны. Ды і сам ён ведае: «Калі ў студні дажджы — дабра не жджы».

Звычайна мы свой год дзялілі на дзве часткі і будучае лета прадказвалі па зіме: студзень халодны — ліпень сухі і гарачы, калі ў студзені частыя снегапады і мяцеліцы — у ліпені частыя дажджы.

Назіралі: іней на стагах у дзень Рыгора-летаўказальніка — да мокрага лета, зімою шмат інею — летам многа расы, на Вадохрышча зорак не відаць — грыбоў не будзе, а калі на Амелляна-перазімніка вецер дзьме з поўдня — лета будзе з навальніцамі.

Дзень Пятра-паўкорма дзяліў нарыхтаваныя ўлетку кармы напалам: зважай, калі даеш сена жывёле, каб яго хапіла да новай травы.

На Юр'е зімовае ў нас падстрыгалі грывы і хвасты коням, аднімалі ад кабыл жарабят.

Юр'е, як і Мікола, святкуецца ў нас двойчы — увесну і ўзімку. Беларусы заўважылі, што колькі снегу бывае на Юр'е зімовае, столькі травы — на Юр'е веснавое.

А ўвогуле на абодва святы мы паблажліва злуемся: «Два Юр'і і абодва дурні: адзін халодны, другі — галодны».

На Панассе казалі: «Хавай нос у апанасаўскі мароз».

А ў лютым у нас ужо заканчваецца час спакою ў дрэў і кустоў. Пачынаецца ажыўленне сярод вераб'ёў.

Пачынаецца гон у лісіц, ваўкоў, зайцоў: вясельныя абрады лісіц, бойкі ваўкоў, вавёрчыны гульні, шлюбныя дзівацтвы зайцоў — яны бегаюць па паляне, палохаюць адно аднаго, страшаць. У лютым ваўкі разбіваюцца на пары.

А ў крыжадзюба, дайце веры, ужо вывеліся дзеткі — такі мароз, а яны голенькія ляжаць у гняздзечку. Гэта адзіная ў нашых лясах птушка, якая выводзіць птушанят зімою. Ёй трэба спяшацца, бо вясной яна паляціць ужо дадому — на сваю поўнач.

У канцы лютага адлятаюць дадому, на поўнач, нашы зімовыя госці, жыхары іншых лясоў: амялушкі, чачоткі, шчуры, снегіры, канюкі... Адлятаюць, каб у кастрычніку зноў вярнуцца да нас.

Пачынаюць спяваць нашы птушкі — сінічкі, попаўзні, аўсянкі: цінь-цінь-цінь...

Мы заўсёды памяталі, што ў канцы сакавіка на Аляксея — зіма пацее, а на Рыгора — снег ідзе ў мора.

І ўжо 7 красавіка, на Дабравесце, мы сустракалі вясну: «На Дабравесце араты на ніву ідзець, і каня вядзець, і саху нясець, заворваець».

Вясна! Час святла. Час вясенняга раўнадзенства, калі дзень становіцца роўны ночы.

У зайцоў нараджаюцца зайчаняткі-сакавічкі, у вавёрак — вавярчаняты. Ужо спяваюць жаваранкі, прылятаюць гракі, потым буслы. Прачынаюцца ад зімовай спячкі і выходзяць з бярлогаў мядзведзі.

У красавіку надвор'е мяняецца па сем разоў на дні.

Красавік — месяц вады. Дзе ў красавіку рака — там у ліпені лужа. Красавік з вадою, а май з травою. А яшчэ мы разумелі, што красавіцкі дождж воз золата каштуе.

Красавік — месяц птушак. Усе яны, павяртаўшыся з далёкіх вандровак, ладзяць гнёзды, выводзяць птушанят, кормяць іх. Птушкі радасна спяваюць — а як жа не радавацца: яны ж вярнуліся на радзіму!

А мы ўсю вясну працуем не разгінаючыся. Бо ведаем: вясенні дзень год корміць. Бо разумеем: цяпер зямлі не аддасі, зімою — не з'ясі.

Вясна — час араць і сеяць. Палявыя работы мы пачыналі з прылётам ластавак. Прыкладзем абедзьве далоні да зямлі і калі адчуем: зямля цёплая — можна сеяць. Перад сяўбою мы мыліся нават у лазні, а першы дзень сяўбы быў для нас святам.

Салавей спявае, калі ўжо можа напіцца з бярозавага ліста. Зязюля кукуе пакуль не папярхнецца коласам.

А на Акуліну-грачышніцу скаціна гізуе ад укусаў камароў, аваднёў, мух, сляпнёў, мошак. Гэты дзень так у нас і называецца: «Акуліна — задзяры хвост».

Але гэта ўжо 26 чэрвеня. Лета.

Цвітуць як не ўсе расліны: каліна, шапшына, ядловец, белая акацыя, маліна, зацвітаюць чарніцы, брусніцы, буякі, журавіны, а на лугах — канюшына, ятрышнік, незабудкі, чына лугавая, кмен, чорнагалоўнік.

А ў ліпені паспяваюць суніцы, парэчкі, чарніцы, маліна, касцяніцы.

У ліпені можна назіраць «зімовую мяцеліцу» — гэта ляцяць аўсянікі, маленькія насякомыя з доўгімі ніткамі ў канцы цельца, якія жывуць усяго некалькі гадзін і паміраюць у лёце.

З мурашнікаў выпаўзаюць сотні крылатых мурашыных самцоў і самак. Яны роем узлятаюць, кудысьці ляцяць, недзе садзяцца. Маладыя самкі адгрызаюць ужо непатрэбныя ім крылы, адкладаюць у зямлю яйкі, пачынаючы новы мурашнік.

Не паспелі за працаю азірнуцца, як ужо і Купалле прыйшло. «Святы Іван колас наліваець, пчолы садзіць, коску правіць — лугі прастаць, у скірды скідаць», — кажам мы.

Сенакос.

А ў жніўні ўжо збор ураджаю. І сяўба — на парашуціках разлятаецца ў розныя бакі і рассейваецца выспелае насенне.

І яшчэ — навальніцы. Рабінавая ноч. Вераб'іная ноч. Выходзяць усе злыя сілы прыроды. Гром, маланкі, праліўны дождж, бура, перуны... Чалавек, забіты ці пакалечаны перуном, лічыўся ў нас чараўніком.

Першы Спас — Макавей: «Макавей, Макавей, качаночкі завей». Пчаляры адкрываюць вуллі і бяруць першы мёд. А на Другі Спас частуюць суседзяў мёдам. Са Спаса можна есці яблыкі, усё, што расце ў садзе і агародзе.

Восень — цяжкая пара працы.

Мы вельмі пільнаваліся сваіх святаў і рупіліся, што калі рабіць. Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей. І яшчэ ведалі, што святы Баўтрамей буслоў па дзяцей высылае, якія вяртаюцца праз дзевяць месяцаў.

У дзень Архістрацігa Міхаіла, у дзень цудаў жыта не сеюць. Бо калі нехта не ведае гэтага і пасее — здзейсніцца цуд: будзе цудоўны ўраджай. А вось калі хто ведае і сее — здарыцца цуд наадварот: усё жыта загіне!

На Тадору, 24 верасня, лета заканчваецца: «Гусі ляцяць — зімачку на хвасце цягнуць». У дзень Лукі журавы выносяць ад нас цяплыню. А да Малой Прачыстай, якая звалася ў нас яшчэ Багачом, бо на гэты дзень ужо можна было бачыць, што падарыла селяніну ніва, усе стамляліся: «Да Багача баба рабача, па Багачы — хоць за плот валачы».

Але ж гэта няпраўда — пачыналіся самыя сваты, самыя вяселлі і ў дзяўчат дзе толькі і бралася новая сіла!

Прыходзіла Змітраўка: «Святы Змітры — людзі хітры, чаны параць, піва вараць, сыноў жэняць, дачок замуж аддаюць».

Заканчваўся выпас жывёлы: «Да Змітра пасуць, а пасля Змітра — пільнуюць».

На Марціна ў бярлогу кладзецца спаць мядзведзь і пачынае смактаць лапу. На Стрэчанне ён пераварочваецца на другі бок. А з бярлогі выйдзе толькі на Дабравесце.

У дзень святога Міхала мы казалі: «Прыйшоў Міхал — усё з поля паспіхваў». І ўсміхаліся: «Міхайла — усім святкам запіхайла. Пасля Міхайла няма святкаў — да Раства».

А Мікола зімовы пачынаў зіму: «Да Міколы няма зімы ніколі». На Міколу летняга сапраўднае лета, на Міколу зімняга — сапраўдная зіма. Таму мы раілі сабе: «Беражы сена ад Міколы да Міколы».

Варвара, Саўка, Мікола. Усе гэтыя святы ходзяць разам, як за рукі пабраўшыся, у сярэдзіне снежня: «Варвара мосціць, Саўка цвікі вострыць, а Мікола прыбівае». Так мы расказвалі пра нарастанне маразоў.

На Ганнін дзень мы спахопліваліся: «На Ганкі сядайце ў санкі».

Прыходзіла зіма. Пачынаўся новы год.

Наш новы год не заўсёды пачынаўся з 1 студзеня.

Мы доўгі час уваходзілі ў Расійскую імперыю, якая з прыняццем хрысціянства прыняла і грэчаскі каляндар, што пачынаў новы год з 1 сакавіка. Потым маскоўскі сабор 1492 года пастанавіў пачаткам года лічыць 1 верасня. І ўжо толькі Пётр I увёў юліянскі каляндар, які новы год пачаў святкаваць з 1 студзеня.

У Кіеўскай Русі мы карысталіся святцамі, дзе, кіруючыся вялікім індыктыёнам, складзеным на 7000 гадоў, духоўныя асобы вызначалі нашы святы і найперш Вялікдзень. А ў «Ізборніку Святаслава» ўжо ўпершыню падавалася, што і ў якое свята можна рабіць.

І ўвогуле ўсё сучаснае летазлічэнне пачалося са старажытнарымскага календара, які Юлій Цэзар увёў у 46 годзе да нашай эры. Тры гады запар у гэтым календары было па 365 дзён, а чацвёрты быў высакосны, і ён меў 366 дзён.

Але ж сярэдняя працягласць года ў юліянскім календары на 11 хвілін 14 секунд большая за трапічны, таму за кожныя 128 гадоў набягалі цэлыя суткі лішнія.

Да 1582 года ўжо набегла аж 10 лішніх сутак, і тады Папа Рымскі Грыгорый III увёў новы каляндар, які назвалі па яго імю — грыгарыянскім і з якога проста выкінулі 10 сутак. Цяпер мы ўжо выкідаем 13 сутак і ведаем, што гэтае становішча захаваецца і ў XXI стагоддзі.

У Вялікім княстве Літоўскім, як і ва ўсіх краінах каталіцкага веравызнання, пераход з юліянскага на грыгарыянскае летазлічэнне быў ажыццёўлены ў 1583 годзе, што нават, як сведчаць хронікі, выклікала хваляванні тых, хто не прымаў новага календара.

Наш каляндар, як і ва ўсім свеце, складаецца з 12 месяцаў, у кожным з якіх ад 28 да 31 дня.

Беларускі каляндар — гэта нярэдка і гаспадарчы месяцаслоў, які дапамагае арыентавацца ў часінах года — вясна, лета, восень, зіма, — каб ведаць, калі лепей сеяць ці жаць, касіць ці малаціць снапы. Назіранні за кругазваротам у прыродзе і нашай земляробчай працай склаліся ў нас як найлепей у добрую сістэму.

Вытокі беларускага друкаванага календара ў «Пасхаліі» — заключнай частцы «Малой падарожнай кніжыцы» Францішка Скарыны, якая выйшла ў Вільні ў 1522 годзе. Гэта першы ва ўсходніх славян царкоўна-астралагічны каляндар, які разлічаны на 1523—43 гады і ў якім пададзена і грыгарыянскае, і юліянскае летазлічэнне. У сваім календары Скарына нашы месяцы называе па-свойму, але ў ім ёсць і назвы, якія мы захавалі і да сёння: верасень, листопад, люты, квецень, чирвець, липень.

Першы рускі друкаваны чысленік «Святцы, або Каляндар», якім карысталіся і мы, выдаў наш зямляк Ілля Капіевіч у Амстэрдаме ў 1702 годзе.

У Любчанскай друкарні ў 1650-я гады некалькі разоў выходзіў «Каляндар штогодніх свят і рухаў нябесных цел» С. Фурмана.

У 1713 годзе Супрасльская друкарня выдала «Каляндар польскі і рускі», дзе змяшчаліся звесткі і розныя гістарычныя матэрыялы, табліцы Вялікадня і спіс кірмашоў, якія адбываліся ў Польшчы і ВКЛ, матэрыялы пра беларускія гарады Бярэсце, Наваградак, Полацк, Тураў, пра крыж Еўфрасінні Полацкай.

У Вільні ў 1759 годзе выйшаў «Палітычны каляндар з апісаннем вераў, што ёсць у Еўропе».

Шмат розных календароў выдавалася ў розны час на нашай зямлі. Сярод іх: «Каляндар віленскі» са спісам улад і картай ВКЛ, «Каляндар полацкі», «Новы эканамічны каляндар для гаспадароў у Кароне і Вялікім княстве Літоўскім», «Каляндар беларускі», «Гаспадарчы месяцаслоў», «Каляндар шаноўных дам», «Францысканскі каляндар», «Каляндар Паўночна-Заходняга краю» з шырокімі звесткамі пра Беларусь, «Беларускі сялянскі ка-

ляндар» на 1937—1939 гады, які задумваўся як сялянская энцыклапедыя.

З 1990 года штогод выдаецца адрыўны насценны каляндар «Родны край», у якім заўсёды змяшчаецца шмат звестак пра нашу гісторыю і культуру, пра нашы гаспадарчыя справы і пра ўсе нашы цудоўныя часіны года — зіму, вясну, лета, восень.



## НАШЫ ВОЙНЫ

Войны рэдка калі абміналі Беларусь.

А якія ж яны — нашы? І якія — не нашы?

Айчынная вайна 1812 года — наша ці не наша? Гэта ж руска-французская вайна, абарончая вайна ад французскай агрэсіі для рускіх і проста руская кампанія для французаў.

Але яна вельмі ж нашая вайна. І найперш таму, што адбывалася ў асноўным на нашай тэрыторыі.

У купальскую ноч, калі ў нас на берагах рэк і азёр яшчэ гарэлі купальскія вогнішчы, галоўныя сілы Вялікай арміі Напалеона Банапарта без адзінага выстрала пераправіліся цераз нашу раку Нёман: яна на той час была памежнаю між Расійскай імперыяй і Варшаўскім герцагствам, поўнасцю залежным ад Францыі.

Першым праз Нёман пераправіўся і пад бел-чырвона-белымі сцягамі ўвайшоў у Вільню, колішнюю сталіцу княства, беларускі кавалерыйскі полк князя Дамініка Радзівіла.

Напалеон сцвярджаў, што ён ідзе на Беларусь, каб адрадзіць на яе землях калісьці магутную беларускую дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае.

Але ж першы загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ў Літве і Беларусі, дадзены ў Вільні 1 ліпеня 1812 года, насцярожыў, змусіў шмат каго задумацца, засумнявацца. У ім было запісана:

«Начальнік Галоўнага штаба вялікай арміі (маёр-генерал) назначыць старшага афіцэра ці начальніка асобнай часці — француза ці паляка, які належыць да арміі, — камендантам усяго дэпартамента: яму будуць падпарадкаваны народная гвардыя, жандармерыя, мясцовыя войскі». А яшчэ ў загадзе было запісана, што «абмундзіраванне жандармерыі будзе польскае».

І тады беларусы зразумелі, што Напалеон хоча ўсяго толькі памяняць ім цара — быў рускі, а прыйдзе польскі!

У выніку наша шляхта, нашы арыстакраты падзяліліся на дзве часткі: Пацы, Сапегі і Радзівілы арыентаваліся на Напалеона і Варшаўскае герцагства, а Агінскія, Чартарыйскія, Любецкія ды іншыя былі за аднаўленне нашай дзяржаўнасці ў саюзе з Расіяй.

Вялікая, шасцісоттысячная армія Напалеона, у якую ўваходзілі не толькі французы, а і італьянцы, іспанцы, аўстрыякі, палякі, двойчы — туды і назад — пракацілася па Беларусі. І такую з'ездзь трэба было карміць. Гэты непамерны цяжар зваліўся на плечы беларускага селяніна.

Калі яшчэ Напалеон ішоў на Маскву, толькі, да прыкладу, адна Барысаўская падпрэфектура для войскаў, што рухаліся праз павет, даставіла аграмадную рэквізіцыю: 200 000 рацыёнаў хлеба для генерала Грушы, неабходны правіянт і фураж для пяцідзесяцітысячнай арміі Даву, для кавалерыйскага атрада ў 7 тысяч чалавек, для артылерыйскага парку ў 3 тысячы коней, да таго ж тысяча штодзённых рацыёнаў для гарнізона горада Барысава.

Апрача таго, для арміі віцэ-караля Італіі Яўгена Багарнэ, пасынка Напалеона, было сабрана 1875 пудоў мукі, 625 пудоў хлеба, а таксама значная колькасць валоў, сена, аўса, гарэлкі, пшанічнай мукі, птушкі, масла, сыроў, яек, круп, сала і шмат іншай ежы для салдат і коней.

А ў сувязі з набліжэннем французскай арміі, якая ўжо адступала і збіралася пераправіцца цераз Бярэзіну, было загадана нарыхтаваць у Барысаве на працягу месяца харчоў для 25-тысячнай арміі. Праз дзень было загадана пастаўкі падвоіць — у сувязі з тым, што тых,

хто адступае, будзе намнога болей. А 31 кастрычніка было загадана выдаць у рэзервавы магазін Барысава 770 бочак пшаніцы, 6950 бочак жыта, 12 222 бочкі аўса, 11 463 пуды сена, столькі ж саломы, 1272 валы, 13 125 пудоў мукі, 3125 пудоў сушанай агародніны, 9375 пудоў солі, 4000 гарнцаў гарэлкі, 6250 пудоў мяса, каб забяспечыць для салдат штодзённы рацыён, які тады складаўся з 1/2 фунта мяса, 1/8 фунта круп, 1/20 фунта солі і 1/2 кватэркі гарэлкі.

І гэта там, на тых нашых дарогах, па якіх улетку прайшлі французы, спяшаючыся на Маскву, і павыграбалі ўжо з беларускіх засекаў усё, што ў нас было нават прыхавана.

А колькі нашых вёсак папалена і разрабавана!

Паводле ведамасці смаленскага губернскага пракурора каля амаль усіх вёсак Копыскага павета Магілёўскай губерніі — 280 паселішчаў! — стаяць паметкі: «спалена», «непрыяцелем разбурана», «разрабавана», «зусім знішчана», «спустошана».

У нашай зямлі назаўсёды знайшлі супакаенне шмат французаў. У Оршы, вяртаючыся з Масквы, Напалеон не пазнаў сваёй арміі — у Даву засталося толькі 4 тысячы салдат з 70 тысяч, у Багарнэ — 1800 з 42 тысяч, сам ён увайшоў у Оршу ўсяго з 6 тысячамі з былых 35 тысяч гвардзейцаў... Давялося карпусы зводзіць у батальёны. З усёй кавалерыі Мюрата ледзь сабралі толькі адзін атрад для аховы імператара. У вайсковых падраздзяленнях афіцэры займалі месцы радавых, палкоўнікі — унтэрафіцэраў, генералы — камандзіраў узводаў...

Пераправа праз нашу Бярэзіну амаль зусім пакінула Напалеона без арміі — на той бок ракі імператар перабіраўся толькі з невялікім атрадам аховы.

Кажуць, што відавочцы, убачыўшы нашы палі, лугі, лясы, дарогі, усланыя замёрзлымі і забітымі французамі, у жаху ўскліквалі: «Божа, дык гэта ж сусветная трупярня!»

Беларусаў у гэтай вайне загінула каля мільёна — чвэрць тагачаснага насельніцтва краіны. У горадзе Ліда,

да прыкладу, пасля знаходжання ў ім французаў, засталося ўсяго 770 чалавек.

У напалеонаўскай арміі служыла тады 25 тысяч беларусаў. Яны таксама змушаны былі адступаць за мяжу, такім чынам яшчэ больш змяншаючы насельніцтва роднага краю.

А Паўночная вайна 1700 — 1721 гадоў? Вайна, якую рускі цар Пётр I вёў са Швецыяй, дамагаючыся панавання на Балтыйскім моры? Хіба ж яна не наша?

З чаго яна для нас пачыналася? З таго ж, што амаль і заўсёды!

Сябра і паплечнік цара Аляксандр Меншыкаў, заняўшы Магілёў, запатрабаваў ад магілёўцаў карміць і паіць яго войска — штодзень яны павінны былі дастаўляць яму «некалькі бочак віна, мёду і піва, жывога вала, некалькі дзесяткаў бараноў, некалькі вазоў жывой і марожанай рыбы, цэлыя чароды гусей і курэй, сто булак і дзвесце калачоў, кадушкі масла і скрыні аліваў, а таксама цукар, разынкі, міндаль, мускатавыя арэхі ды іншыя прысмакі».

Калі чытаеш пра гэтую вайну ў гістарычнай літаратуры, складваецца ўражанне, што яна ў асноўным праходзіла на беларускіх землях.

Восенню 1704 года на Беларусь увайшлі рускія войскі і пачалі канцэнтравацца каля Полацка — да лета 1705 года іх колькасць ужо дасягнула 60 тысяч чалавек.

У верасні 1705 года галоўныя сілы рускіх (35 тысяч чалавек) занялі Гародню.

У студзені 1706 года Карл XII пераправіўся цераз Нёман і блакіраваў гарнізон у Гародні — конніца Меншыкава паспела адысці да Мінска.

У лютым — маі 1706 года шведы спалілі Карэлічы, Мір, разрабавалі Наваградак, Слонім, Клецк, Слуцк, Пінск, Кобрын, пасля аблог занялі Ляхавічы і Нясвіж. Каля Гародні беларускія сяляне зрабілі замах на Карла XII.

Каля Клецка шведскія войскі разграмілі 5-тысячны рускі атрад Няплюева.

Рускімі войскамі на беларускіх землях кіраваў сам Пётр I. У 1706 годзе ён быў у Оршы, а ў 1708 годзе — у

Копысі і займаўся надбудовай умацаванняў і ўстаноўкай гармат.

Каля вёскі Лясной на Магілёўшчыне ў самай вялікай бітве паміж рускімі і шведамі Пётр I атрымаў важную перамогу.

У пачатку 1708 года Карл XII заняў Гародню і рушыў на Ліду і Смаргонь.

Галоўныя сілы рускіх, якія налічвалі 57 тысяч чалавек, пад камандаваннем Шарамецева адышлі да Чашнікаў і Бешанковіч.

Каля мястэчка Галоўчын на Магілёўшчыне руская армія пацярпела паражэнне і адышла за Дняпро.

А ў бітвах каля вёсак Добрае і Раеўка на Мсціслаўшчыне авангард Карла XII панёс значныя страты.

І ўсё ж гэтыя бітвы і перамогі адбываліся не ў нейкіх бязлюдных мясцінах, а ў нашых беларускіх, людна заселеных вёсках, мястэчках і гарадах. А гэта ж — зразумелыя страты.

Вынікі вайны для Беларусі былі трагічныя. Насельніцтва скарацілася з 2,2 мільёна чалавек да 1,5 мільёна чалавек, загінуў кожны трэці жыхар. Асабліва пацярпелі Мсціслаўскае, Віцебскае і Полацкае ваяводствы.

Гэткую плату заплацілі мы, беларусы, за тое акно, якое прасек Пётр I у Еўропу.

А Грунвальдская бітва, якую мы завём Дубровенскай? Чыя яна?

Амаль тры стагоддзі сутыкаліся мы як не штогод у жорсткіх бітвах з крыжакамі. Спачатку думалі, што ім патрэбны нашы душы для Бога, а потым зразумелі, што ордэну трэба толькі наша зямля!

Палачане змагаліся з імі і на Няве ў 1240 годзе, і на Чудскім возеры ў 1242 годзе. Ды і ўсе князі Вялікага княства Літоўскага — ад Міндоўга да Вітаўта змушаны былі ваяваць з імі. Былі ў нас слаўныя пермогі, былі і свае паражэнні.

Але ж тэўтоны ўсё роўна абкладалі і забіралі нашы замкі, рэзалі нашых людзей, а мы часам не маглі іх абараніць.

Толькі ў час княжання Альгерда мечаносцы, можа, сотню разоў нападалі на Беларусь.

Нават падчас хрышчэння, каранавання і вяселля караля Польшчы Ягайлы вялікі магістр Ордэна крыжаносцаў Конрад Цольнер, пагарджаючы запрашэннем, на гэтую падзею не паехаў у Кракаў, а ведаючы, што ўсе князі, браты караля, баяры і рыцары будуць там, на урачыстасцях, збірае прускае і лівонскае войска і разам з братам Ягайлы Андрэем захоплівае полацкія землі.

І кароль Польшчы Ягайла, і яго стрыечны брат — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт — зразумелі, што крыжакоў, якія падумваюць ужо пра стварэнне Вялікай Тэўтоніі, наспеў час утаймоўваць.

І вось галоўная бітва ў Вялікай вайне паміж аб'яднанымі арміямі Польскага каралеўства і ВКЛ з аднаго боку і прафесійным войскам наймагутнейшай у тагачаснай Еўропе дзяржавы — Тэўтонскага ордэна — адбылася 15 ліпеня 1410 года.

Бітва закончылася поўным разгромам крыжакоў. Загінула ўсё кіраўніцтва ордэна — вялікі магістр, вялікі комтур, вялікі маршал, шатны, скарбнік, усе камтуры, большасць войтаў і фогтаў.

Вялікае княства Літоўскае на гэту бітву выставіла 40 харугваў. Амаль усе яны былі беларускія: полацкая, віцебская, мсціслаўская, аршанская, магілёўская, слуцкая, пінская, лідская, наваградская, ваўкавыская, гарадзенская, дарагічынская, берасцейская і іншыя. Беларусы пераважалі ў віленскай, трокскай, медніцкай, смаленскай харугвах.

У гэтай бітве загінула каля 20 тысяч craвояў з беларускіх харугваў, з беларускага войска.

А бітва на Нямізе ў 1067 годзе? Хто ж гэта там і з кім ваяваў? Памятаеце, як «Слова пра паход Ігараў» гаварыць пра гэта:

«На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела».

«Веюць душу ад цела»... Вось гэта пабоішча! А хто ж гэта малаціў тыя галовы і веяў душы ад цела? Ды трое

сыноў Яраслава Мудрага — князі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад біліся на Нямізе з воямі Усяслава Чарадзея, валадара Полацкай дзяржавы. Яны перамаглі Усяслава, увайшлі ў Мінск, мужчын пасеклі, жанчын і дзяцей у палон забралі, а горад спалілі.

Праўда, і Усяслаў перад гэтым насвавоііў у Наўгародскай зямлі — захапіў Ноўгарад, учыніў там разарэнне, зняў з Наўгародскай Сафіі званы і прывёз іх у Полацк.

Цэлы тыдзень зімою ў снезе, на марозе стаялі адно супраць аднаго войскі праціўнікаў на Нямізе. І толькі калі Усяслаў падняў руку з мячом, пачалася бітва.

А ўлетку таго ж года тыя ж войскі стаялі ўжо каля Оршы наабапал Дняпра. І там перамог кіеўскі князь Ізяслаў. Ён паклікаў Усяслава нібыта для перамоў, і той, нічога не падазраючы, прыплыў без зброі разам з сынамі Барысам і Глебам... Даследчыкі пра тую падзею расказваюць так:

«Знатных палоннікаў завезлі ў Кіеў, закавалі ў цяжкія кайданы і кінулі ў зямляную турму. Гэта была халодная і сырая яма, накрытая зверху трыма радамі бярвёнаў, з маленькім вакенцам, праз якое ледзьве тачылася паветра. У вакенца вязням прасоўвалі кавалак хлеба і збанок з вадою. Усяслаў страшэнна пакутаваў ад знявагі і здзекаў. Ён баяўся, што сыны так і памруць, не ўбачыўшы болей сонца».

Але ўсе яны выжылі — іх вызвалілі кіяўляне, а Усяслава Чарадзея нават абвясцілі сваім кіеўскім князем.

А ў каго ж гэта driучане накідалі столькі камянёў з вежаў і сцен Друцкага замка, што яны выцеснілі ўсю ваду з абваднога канала — у рэчышчы ляжалі адны камяні? Ды ў яго, у Ігара Святаслававіча, героя «Слова пра паход Ігараў», якога потым паланілі татары. Ён паклікаў полаўцаў, аблажыў горад, хацеў узяць яго. Але дручане закідалі яго камянямі, залілі варам, а вароты адчынілі смаленскаму князю Давыду.

А з кім жа гэта ваяваў мяцежны князь Свідрыгайла, малодшы брат Ягайлы, вечны паўстанец? А з усімі адра-

зу — і з Вітаўтам, і з Ягайлам, і з Жыгімонтам. Як што — так і паднімае паўстанне, так і збірае войска. То з крыжакамі аб'яднаецца, то да вялікага маскоўскага князя Васіля I разам са сваімі князямі ды баярамі паедзе — той нават аддасць яму свае гарады: Уладзімір на Клязьме, Юр'еў-Польскі, Волак Ламскі, Ржэў ды яшчэ ў прыдачу палову Каломенскага княства.

А то памірыцца з Вітаўтам і ўжо, як маеш, разам з ім удзельнічае ў 1399 годзе ў бітве на рацэ Ворскле.

Дарэчы, а гэтая бітва наша ці не наша?

То ж Вітаўт паабяцаў хану Тахтамышу дапамагчы захапіць ханскі трон у Залатой Ардзе, за што Тахтамыш павінен быў выдаць яму ярлык на Вялікае Маскоўскае княства. Гэту бітву, якая адбылася ў межах Залатой Арды, выйграў хан Цімур-Кутлук: войска Вітаўта было акружана і разбіта, тысячы воінаў загінулі ці трапілі ў палон. Сярод іх — забітыя 16 беларускіх князёў, а таксама на Ворскле пагінула шмат беларусаў, бо ў 20 тысячах чалавек, што складалі харугвы Вітаўта, былі ў асноўным воі з беларускіх зямель. А разам з Вітаўтам вярнулася дадому толькі жменька іх.

А вось бітва каля Сініх Водаў — наша бітва. Гэтая бітва — слаўная старонка нашай гісторыі.

У 1362 годзе, задоўга да Кулікоўскай бітвы, войскі Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам князя Альгерда разбілі аб'яднанае войска трох татарскіх ханаў — Кутлубуга, Качубея і Дзімітра. Тры татарскія арды — Крымская, Перакопская і Ямбалукская — прыйшлі да ракі Сінія Воды, якая — прыток Буга, каб перамагчы нашых дзедзічаў. І не перамаглі — ім давялося ратавацца ўцёкамі.

Смелы быў у баі сам князь Альгерд. Асабліва вызначыліся ратнікі з Наваградка, якіх узначальвалі Карыятавічы.

Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што Беларусь ніколі не падпарадкоўвалася Залатой Ардзе і не плаціла ёй даніны. А Крутагорская, ці, як яшчэ яе называюць, Кайданаўская бітва, пра якую згадваюць нашы крыні-

цы — «Хроніка Быхаўца», «Хроніка Польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» — і ў якой быццам бы татары былі разбітыя, іх хан Кайдан загінуў і пахаваны там, а татары, якія прыйшлі з ім, пасяліліся між тутэйшымі, — усяго толькі міф.

Але ж яшчэ і ў 1506 годзе, як зноў жа сведчаць летапісы, крымскі хан Махмет Гірэй напаў на землі Цэнтральнай Беларусі і пусціў загоны да Вільні, Віцебска, Полацка, Друцка і «в Друцку многа зла сотворил».

Першаю вялікаю перамогаю над крымскімі татарамі быў поўны разгром наезнікаў 5 жніўня 1506 года пад Клецкам, каля ракі Лань. 6 тысяч вершнікаў князя Міхайла Глінскага перамаглі тады ўдвая большую татарскую арду. Як сведчыць летапісец, князь Міхайла Глінскі гнаўся за ворагамі «усім сваім войскам. А як прыбеглі татары да Цэпры, тады мала не ўсе ў рацэ патанулі. Гэтулькі шмат было там іх ды коней іхных, што можна было па мёртвых целах рэчку перайсці».

Харугвы Глінскага бралі палонных і каля Слуцка, і каля Петрыкава, і нават на Украіне. Тады ж было вызвалена каля 40 тысяч беларусаў, якіх татары гналі ў няволю.

Махмета Гірэя захапіў у палон беларускі ваявода, князь Канстанцін Астрожскі. Як сцвярджаюць гісторыкі, ён перамагаў ворагаў у 63 бітвах.

У 1508 годзе гетман Астрожскі разбіў крымчакоў каля Слуцка, у 1512 годзе 5-тысячнае коннае войска, якім ён кіраваў, атрымала бліскучую перамогу над 25-тысячнай ардою пад Вішняўцом на Гарыні, біў татар пад Пінскам і ля ракі Альшаніца на Украіне.

Асаблівую славу Астрожскаму прынесла перамога на рацэ Крапіўна пад Оршаю.

Маскоўскі князь Васіль III пачаў вайну супраць Вялікага княства Літоўскага. Авалодаў Смаленскам, захапіў Крычаў, Мсціслаў, Дуброўну. Рашыў даць рашучы бой праціўніку пад Оршаю. У яго было 80 тысяч коннікаў, у Астрожскага — усяго толькі 30 тысяч конных і пешых ваяроў, таму ў сваёй перамозе ён не сумняваўся. Аднак

перамог Астрожскі. І бітва пад Оршаю засталася ў гісторыі як адна з буйнейшых у Еўропе таго стагоддзя!

Таксама вельмі ж ужо наша і тая полацкая вайна, якую маскоўскі цар Іван Грозны, якога ў Беларусі за жорсткасць празвалі Жахлівым, нават царом-сабакам, распачаў у 1563 годзе.

Ён пад Полацк прывёў 200 тысяч коннікаў і 60 тысяч воінаў з 200 гарматамі. Шкадаваў коней, таму гарматы цягнулі людзі — часам па тысячы чалавек на адну гармату.

50 тысяч палонных, звязаных вяроўкамі, зімою пагналі ў Маскву. Іван Жахлівы спаліў Полацк і так вынішчыў людзей, што ўсе ваколіцы абязлюдзелі — пасля яго вайны на аднаўленне горада давялося звозіць сялян аж за 200 вёрст.

А змаганне Рэчы Паспалітай з Масквою ў XVII стагоддзі?

У 1654 годзе маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч паслаў на знясіленую казацкімі наездамі Беларусь 100-тысячнае войска пад камандаваннем Шарамецева.

Сем гадоў доўжылася гэта вайна. Былі разбураны і разрабаваны палацы, храмы, манастыры, вывезены друкарні, бібліятэкі. Болей як 300 тысяч беларусаў было забрана ў палон і вывезена ў расійскія гарады і вёскі, а потым частка гэтых палонных прададзена ў рабства.

Тады ж войска князя Трубяцкога спаліла горад Мсціслаў, фактычна выразала, пасекла ўсіх яго жыхароў. Гэтая крывавая падзея ўвайшла ў гісторыю як трубяцкая разня. Мужных мсціслаўцаў, якія засталіся, пераможцы доўгі час здзекліва называлі «недасекамі».

Тая вайна Масковіі з Рэччу Паспалітай была для нас вельмі крываваю — нашы землі страцілі ў ёй аж дзве трэці свайго насельніцтва.

Падчас Першай сусветнай вайны фронт стабілізаваўся па лініі Дзвінск-Паставы-Баранавічы-Мінск і палова тэрыторыі Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. У беларускіх губернях у дзеючую армію была мабілізавана палова мужчын.

Наша і савецка-польская вайна 1920 года, у выніку якой Беларусь страціла свае заходнія землі — 113 тысяч квадратных кіламетраў з насельніцтвам 4,6 мільёна чалавек.

А якая ж яна наша, Вялікая Айчынная вайна 1941 — 1945 гадоў! Колькі гора і страт прынесла яна нам!

У гэтай вайне Беларусь страціла больш як палавіну свайго нацыянальнага багацця. Зруйнавана і спалена 209 гарадоў, 9200 вёсак, разбурана 100 465 прадпрыемстваў, больш за 6 тысяч кіламетраў чыгункі, 219 бібліятэк, 5425 музеяў, амаль усе электрастанцыі.

Разам з людзьмі немцы спалілі за сувязь з партызанамі 185 вёсак. Пасля вайны яны так і не аднавіліся — не было каму рубіць на тых месцах хаты, бо нават дзеці, немаўляты пагарэлі ў тых вёсках разам з бацькамі. А зямля з усіх пагарэлых вёсак сімвалічна пахавана ў вялікім могільніку на Лагойшчыне — на месцы вёскі Хатынь, у якой згарэла 26 двароў, 149 чалавек, з якіх 75 чалавек — дзеткі. Самаму маленькаму было сем тыдняў.

І ў гэтай вайне мы, як заўсёды, ваявалі шчыра.

У беларускіх лясах дзейнічалі 1255 партызанскіх атрадаў, 199 брыгад, 40 партызанскіх злучэнняў.

Нямецка-фашысцкія захопнікі, ваюючы з партызанамі, правялі 116 найбольш буйных карных аперацый супраць іх і супраць цывільнага насельніцтва, якое памагала ім.

Як толькі карнікі не дасціпнічалі, даючы назвы гэтым сваім аперацыям: «Прыпяцкія балоты», «Хрушч», «Балотная ліхаманка», «Клетка малпы», «Зімовы лес», «Свята ўраджаю», «Паляванне на зайцоў», «Чароўная флейта», «Русалка», «Шаравая маланка», «Муха», «Прагулка на сёмуху» і інш. Супраць партызан было задзейнічана 9 нямецкіх дывізій. Знятых з фронта.

Аднак партызан на Беларусі яны так і не знішчылі.

Больш як 260 канцэнтрацыйных лагераў стварылі немцы ў Беларусі. У іх знішчаны сотні тысяч беларусаў: у Мінску — каля 80 тысяч, каля Полацка — 150 тысяч, у Віцебску — больш як 90 тысяч, у Гомелі — 100 тысяч, у Пінску — каля 60 тысяч...

У Трасцянецкім лагеры смерці, што быў створаны непадалёк ад Мінска, фашысты знішчылі 206,5 тысячы чалавек. Па колькасці спаленых ахвяр ён стаіць на чацвёртым месцы ў свеце пасля Асвенцыма, Майданека і Трэблінкі. У ім у крэмацыйную печ людзей кідалі жывымі, а іх попелам фашысты ўгнойвалі палі сваёй падсобнай гаспадаркі.

Трасцянец — найвялікшы міжнародны могільнік на беларускай зямлі. Урочышча Трасцянец на ўскраіне Мінска мяркуецца зрабіць мемарыяльным комплексам.

Увесь комплекс зойме 135 гектараў зямлі. На спецыяльнае плато мяркуецца пакласці 80 камянёў, якія будуць абмывацца чыстаю светлаю вадою.

Вучоныя падлічылі: войны і ваенныя канфлікты, што праходзілі на тэрыторыі Беларусі, склалі 250 гадоў, а ўсяго войнаў на беларускай зямлі было 80. Пра іх і будуць напамінаць 80 камянёў у светлай, як надзея, вадзе.

А ў апошняй вайне, якая доўжылася для нас 1113 дзён і начэй, загінула 2,5 мільёна беларусаў. Кожнага чацвёртага чалавека, а па іншых падліках — кожнага трэцяга, страціла наша зямля.

Падлічана, што каб кожнага беларуса, які загінуў у ёй, ушанаваць хвілінай маўчання, нам спатрэбілася б маўчаць аж 38 гадоў...

А колькі ж стагоддзяў павінна была б маўчаць Беларусь, каб ушанаваць хвілінаю маўчання ўсіх сваіх дарагіх дзяцей, што загінулі ва ўсіх яе і не яе войнах!



## НАШЫ СВЯТЫЯ

Яна вярнулася дадому, у родны Полацк, толькі праз 743 гады.

Вярнулася святою. Апякункаю Беларусі і яе нябеснай заступніцаю.

Сапраўдным святам для вернікаў і няверуючых было яе трыумфальнае вяртанне на Беларусь у 1910 годзе.

Для гэтай урачыстай падзеі цар Мікалай II прыслаў тры самыя лепшыя на той час дзяржаўныя параходы — для саміх святых мошчаў і для асоб, якія іх суправаджалі.

Флатылія з мошчамі святой Еўфрасінні Полацкай прайшла па Дняпры ад Кіева-Пячорскай лаўры да Оршы 695 вёрстаў, і яе ўсюды сустракалі сціжмы вернікаў. Асабліва маляўніча гэта выглядала ўначы: на берагах, ля самай вады гарэлі яркія вогнішчы, параходы мільгацелі сотнямі запаленых свечках, а на флагманскім карабліззяў крыж.

У гарадах Любечы, Рэчыцы, Рагачове, Быхаве, Магілёве і Оршы флатылія спынялася, і на прыстанях адбываліся ўрачыстыя набажэнствы. Яны збіралі велізарную колькасць вернікаў — багамольцаў і паломнікаў з усяго Падняпроўя.

З Оршы да роднага Полацка мошчы святой везлі сухазем'ем.

Пад перазвон усіх гарадскіх званоў іх змясцілі ў змураваным некалі на яе ж заказ Спаса-Праабражэнскім храме — у кіпарысавай ра́цы, абкладзенай пазалочанымі барэльефамі і эмалевымі выявамі крыжоў. Ра́ка была зроблена ў візантыйскім стылі на добрахвотныя ахвяраванні вернікаў.

Прадслава, полацкая князёўна, унучка Усяслава Чарадзея — па бацьку, і Уладзіміра Манамаха — па маці, адмовілася ад звычайнага на той час княжацкага шлюбу і патаемна пайшла ў манастыр. Цётка, удава князя Рамана Усяслававіча, якая была ў манастыры ігуменняй, прасіла яе:

— Дзіця маё! Як я магу ўчыніць такое? Твой бацька даведаецца і свой гнеў абрыне на маю галаву. Ды і маладая ты яшчэ векам, — Прадславе тады было 12 гадоў, — каб несці цяжар манаскага жыцця. І як здолееш ты пакінуць княжанне і славу гэтага свету?

Бацька, князь Святаслаў, які нейкі час жыў у Візантыі, а пахрысціўшыся, стаў Георгіем, даведаўшыся пра гэта, у роспачы рваў на сабе валасы. Галасіла па дачцы

і маці. Бацька пайшоў у манастыр і, замілавана цалуючы дачку, казаў ёй:

— Гора мне, дзіця маё! Што ж учыніла ты мне, прынёсшы душы маёй смутак! Што ж раней не сказала ты мне намеру свайго? Дзіця маё салодкае, жаль агортвае сэрца маё!

Але Прадслава была непахісная: дзяўчына рэдкан цвыгажосці прыняла пострыг — стала манашкаю Еўфрасінняй і пасялілася жыць у манастыры.

Больш таго, услед за ёю пострыг прыняла родная сястра Градзіслава, якая стала Еўдакіяй, і стрыечная Звеніслава, якую ў манастыры пачалі зваць Еўпраксіяй. Таксама пастрыгліся і яе пляменніцы — Кірыція і Вольга зрабіліся Яўфіміяй і Агафіяй.

Еўфрасіння заснавала ў Полацку два манастыры — жаночы і мужчынскі, — якія сталі асяродкам асветы ў Полацкім княстве, — у іх працавалі школы, дзе выкладаліся чытанне, пісьмо, нотная грамата, грэчаская мова і вучыліся дзеці розных саслоўяў. У манастырах былі бібліятэкі, скрыпторыі, іканапісныя і ювелірныя майстэрні.

Еўфрасіння складала малітвы, запісвала пропаведзі, перапісвала кнігі.

Жыла ў келлі Сафійскага сабора — для яе асабіста да Сафійкі прыбудавалі «галубец каменны». Насіла вярыгі. Пабудавала на свае сродкі дзве царквы.

Свята-Праабражэнскі храм, створаны на яе замову дойлідам Іаанам, выключны помнік архітэктуры сярэдневечча. Цэрквы XII стагоддзя ўвогуле рэдкасць у Еўропе, а такога шэдэўра, які захаваўся амаль цалкам, у свеце болей няма.

Плён працы Еўфрасінні высока падымаў аўтарытэт Полацкага княства ў вачах Візантыі і іншых тагачасных краін.

У немаладым веку яна вырашыла зрабіць далёкае паломніцтва ў Святую зямлю. У Іерусалім яны з сястрою Еўпраксіяй і братам Давыдам увайшлі праз Хрыстову браму, праз якую ў Вербную нядзелю праходзіў калісьці

і сам Хрыстос. Сваякоў з радасцю сустрэў візантыйскі імператар Мануіл Камнін, іхні дзядзька, родны брат маці паломнікаў. Дарэчы, ён жа, візантыйскі імператар, раней адгукнуўся на просьбу пляменніцы і прыслаў у яе Спаскую царкву адзін з трох абразоў Божай Маці, напісаных евангелістам Лукой — гэтая ікона з Эфеса сёння захоўваецца ў Рускім музеі Санкт-Пецярбурга. І яшчэ адзін сваяк Еўфрасінні валадарыў тады ў Іерусаліме — кароль Альмарых І.

Там, у Святой зямлі, паломніца нечакана адчула недамаганне.

Яна хацела памерці ў святым Іерусаліме і прасіла аб гэтым Бога. Усявышні пачуў яе просьбу, і «божым наканаваннем яна занядужала і пачала хварэць».

Сваёй хваробе Еўфрасіння радавалася — гэта ж шчасце памерці ў святым Іерусаліме! «Слава Табе, Уладару, што схацеў, тое мне і ўчыніў, рабе Сваёй!» — малілася яна.

І прасіла:

«Вось жа яшчэ прашу ў Цябе, Міласцівы, і на гэтым скончу прашэнні свае: прымі дух мой ад мяне ў святым горадзе Іерусаліме, перасялі мяне ў Нябесны свой Іерусалім, супакой мяне на ўлонні патрыярха Аўраама з усімі, хто Табе дагадзіў».

Прахварэўшы 24 дні, Еўфрасіння памёрла 24 мая 1167 года. Пахавалі яе непадалёку ад Іерусаліма — у Феадосіевым манастыры.

Калі магаметане прыступам бралі Іерусалім, ра́ку з мошчамі Еўфрасінні дазволілі завезці ў Полацк, аднак з-за варажнечы паміж кіеўскім і полацкім князямі яна трапіла ў Кіеў і аказалася ў падземных пячорах Кіева-Пячорскага манастыра...

У 1998 годзе па дазволу Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта ў Спаса-Еўфрасіньеўскім храме полацкага манастыра адбылося пераапрананне святых мошчаў Еўфрасінні Полацкай у новае адзенне. Не зважаючы на тое, што святыя мошчы праляжалі больш як 800 гадоў, усе мяккія тканкі засталіся нятленныя — яны вы-

датна захаваліся, маюць і сёння аб'ём, таўшчыню, а ў некаторых месцах і эластычнасць.

Пакуль свяшчэннікі Вячаслаў і Антоній абнаўлялі абшыўку труны-ракі, а манашкі чысцілі яе ўсярэдзіне, у паветры, як сведчаць яны, праносіліся хвалі прыемнага водару, які рухаўся ад святых мошчаў да прадметаў, да якіх яны дакраналіся, — быццам сама святая невідома і бесцялесна хадзіла па храме.

Да Сабора Беларускіх Святых Еўфрасіння Полацкая прылічана ў 1984 годзе. Кананізавана ж наша асветніца, ігумення манастыра святога Спаса ў Полацку, была праваслаўнай царквою яшчэ ў 1547 годзе. Дзень ушанавання яе памяці 5 чэрвеня.

Яна — першая жанчына, што стала святой на ўсіх усходнеславянскіх землях.

А свяціцель Міна, епіскап Полацкі, — увогуле першы святы на беларускіх землях. Ён узначальвае Сабор Беларускіх Святых, у які ўваходзяць 15 асоб.

Нашы святыя — рэальныя гістарычныя асобы, якія за сваю адданасць рэлігіі, як сведчаць паданні, былі надзелены здольнасцю рабіць цуды! І рабілі іх.

Барацьба хрысціянства з язычніцтвам, змаганне каталіцызму з праваслаўем увогуле спараджалі шмат пакутнікаў і нараджалі ўсё новых і новых святых.

Свяціцель Міна, які жыў у пачатку XII стагоддзя, ушаноўваецца праваслаўнай царквою як адзін з першых архіпастыраў, што спрыяў распаўсюджванню хрысціянства на беларускіх землях.

Дзяцінства святога і пачатак яго духоўнага падзвіжніцтва прайшло ў Полацку. Імкненне да вялікай веры і шчырае веданне Святога Пісання прывялі добразычлівага юнака ў Кіева-Пячорскую лаўру, якая славілася ва ўсім свеце набожнасцю сваіх манахаў. Там ён прыняў пострыг і там у 1105 годзе быў пасвечаны ў сан епіскапа Полацкага. Епіскап Міна будаваў на Полаччыне цэрквы і манастыры, выхоўваў палачан у годнасці, дабрачыннасці і прыстойнасці.

Дарэчы, у час яго епіскапства прыняла пострыг і Еўфрасіння Полацкая.

Манах Марцін Тураўскі — таксама адзін з першых беларускіх святых. Жыў у XII стагоддзі, працаваў кухарам у епіскапаў Сімяона, Ігнація, Іякіма і Георгія. Ён бачыў святое жыццё гэтых духоўных пастыраў беларускай зямлі, чуў іх малітвы пра ўратаванне беларускага народа і сам рабіўся ўсё больш праведным і пакорлівым.

Калі ж не змог працаваць у архірэйскім доме, праведнік прыняў манаства, стаў пустэльнікам. Жыў адзін у пустыні і маліўся Богу.

Калі святы старац захварэў, да яго ў келлю быццам бы прыйшлі двое юнакоў. Яны падалі манаху, які пакутаваў ад болю і смагі, карэц вады, благаславілі яго і адразу ж невідома зніклі. Толькі пасля манах зразумеў, што хлопцы былі падобныя на святых — нібыта жывыя сышлі з абразоў.

Гэтыя святыя — браты Барыс і Глеб. Княжычы, якіх зусім маладымі забіў старэйшы іх брат — акаянны Святаполк, народжаны ад двух бацькоў і адной маці, расстрыжанай манахіні: Барыса, які дзеля любві да Хрыста не захацеў супраціўляцца старэйшаму брату, усяго паўтыкалі мячамі і коп'ямі, а Глеба пазбавіў жыцця свой жа кухар — узяў нож і схапіўшы невінаватага, бязгрэшнага хлапчука, зарэзаў яго, як ягнятка.

Так пасля смерці бацькі Святаполку хацелася застацца на княжацкім стале аднаму.

Пакутнікі дапамагалі пакутніку. Марцін Тураўскі пасля іх наведвання вылечыўся ад хваробы і потым яшчэ год сам лячыў людзей.

Расціслаў Мсціслававіч, князь смаленскі, вялікі князь кіеўскі, заснавальнік дынастыі смаленскіх князёў, таксама прылічаны да ўгоднікаў божых і ўваходзіць у Сабор Беларускіх Святых.

Пры ім была створана Смаленская епархія, якой князь падараваў вялікія ўладанні. Паводле Княжацкіх царкоўных грамат, ён вызначыў Смаленскай епіскапскай ка-

федры дзесятую долю княжацкай даніны, а таксама запісаў памеры пагароддзя — даніны з горадоў, і пачэсця — платы епіскапу за служэнне ў цэрквах.

Князь быў міралюбны, імкнуўся ўсе спрэчкі вырашаць мірным шляхам, будаваў храмы, дапамагаў царкве, за што яго і празвалі Набожным.

Пры князю Расціславе Смаленская зямля забудоўвалася гарадамі, упрыгожвалася храмамі і манастырамі. Ён перабудаваў вялікі Успенскі сабор, закладзены яго дзедам Уладзімірам Манамахам, узвёў Смаленскі крэмль і Спаскі сабор Смядынськага манастыра.

Любілі яго і ў Кіеве, дзе князь Расціслаў у 1159 годзе заняў Кіеўскі прастол. Адразу ж загадаў раздаць бедным усю вялікакняжацкую казну, а сабе пакінуў толькі адзін крыж.

Ён назаўсёды застаўся для вернікаў увасабленнем сумленнасці, справядлівасці і праведнасці.

Пра свяціцеля Дыянісія, епіскапа Полацкага, захавалася вельмі мала звестак.

Ведаем мы толькі, што ён блаславіў паломніцтва Еўфрасінні Полацкай на Святую зямлю. Хутчэй за ўсё ягонымі клопатамі адбылося царкоўнае праслаўленне нашай асветніцы. Пры ім было напісана «Жыццё блажэннай Еўфрасінні», складзена служба святой і створана малітва ў яе гонар. Свяціцель Дыянісій быў ініцыятарам яе кананізацыі.

Кірыла Тураўскі — царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў — атрымаў выдатную на той час адукацыю. Пасля трохгадовага паслушніцтва ў манастыры прыняў манаскі пострыг. Кірыла — хутчэй за ўсё яго манаскае імя, а сапраўднае — невядома.

Іераманах Кірыла ў 1144 годзе становіцца настаяцелем Нікольскага манастыра. А праз чатыры гады — ён ужо пустэльнік, зачыняецца ў «стаўпе». Яшчэ праз адзінаццаць год тураўскае веча і князь Юрый Святаполчыч абіраюць яго епіскапам.

Кірыла Тураўскі — прапаведнік, майстар царкоўнага красамоўства. Тураўскі іерарх у 1169 годзе з яркаю абві-

наваўчаў прамоваю выступіў на Кіеўскім саборы супраць растоўскага епіскапа-срэтыка Фёдара.

Свяцідель пісаў малітвы, павучанні, пропаведзі, прытчы, каноны. Захавалася каля 70 яго твораў, сярод якіх 8 слоў-пропаведзяў — «Слова на Вербніцу», «Слова на Вялікдзень», «Слова на Ушэсце»; некалькі аповесцяў-прытчаў — «Аповесць пра беларызца і манаства», «Прытча пра душу і цела»; каноны Малітоўны, Пакаяльны, Спавядальны, на ўспенне княгіні Вольгі. На жаль, страчаны ў стагоддзях яго эўфалагічны цыкл «Малітвы замілавання».

Малітвы-споведзі і словы Кірылы Тураўскага — яркія, паэтычныя, урачыстыя, поўныя замілавання да жыцця, прыроды, прыгажосці. Яны блізкія да вершаў у прозе. Сучаснікі высока цанілі яго споведзі і называлі нашага свяціцеля «Златоустом, паче всех воссиявшим нам на Руси».

Вось як ён маліўся Богу і Прыродзе:

«Сёння вясна красуецца, ажыўляючы зімовую прыроду. Буйныя ветры, ціха павяваючы, песцяць і гадуюць плады. І зямля, жывячы насенне, родзіць зялёную траву...»

Пра нашага свяціцеля Сімяона, епіскапа Полацкага, які таксама далучаны да Сабора Беларускіх Святых, расказвае Ніканаўскі летапіс.

Полацкі князь Канстанцін захацеў прылюдна пажурыць свайго ціўна — суддзю, якога сам жа і назначыў, — за тое, што няправедна судзіць. Таму князь паклікаў на пір свяціцеля Сімяона, духоўнага айца, і спытаўся ў яго:

— Дзе будуць ціўны на тым свеце?

Свяцідель адказаў:

— Ціўн будзе там, дзе і князь.

Канстанціну гэта не спадабалася. Ён абурыўся:

— Дык ціўн жа чыніць несправядлівы суд, бярэ хабар, прадае людзей, мучыць усіх, ліхадзейнічае. А пры чым тут я?

Уладыка спакойна растлумачыў князю:

— Калі князь добры і богабаязны, людзей мілуе, любіць праўду і калі ён паставіць ціўна — чалавека

добрага і богабаязнага, разумнага і праўдалюбнага, то князь будзе ў раю і цівун яго будзе з ім. Калі ж князь не ведае страху Божага, не шкадуе хрысціян, не думае пра сірот і ўдоў і калі ён паставіць начальніка злога, які не ведае закона Божага, чыніць несправядлівы суд, клапоцячыся толькі пра тое, як князю дабро здабываць, а людзей не шкадуе, такі князь усё роўна як на людзей напускае вар'ята, даўшы яму меч, бо аддае ўладу чалавеку злому, і тым самым губіць людзей; такі князь будзе ў пекле, і цівун яго з ім.

Пасля гэтай размовы з князем епіскапу Сімяону, не зважаючы на яго высокае становішча ў княстве, давялося пакінуць Полацкую зямлю. Ён едзе ў Цвер, якая тады належала да Полацкай епархіі, становіцца там першым епіскапам, дзе і памірае ў 1289 годзе, так і не закончыўшы ўзвядзенне каменнай царквы ў імя Выратавальніка.

Той жа Ніканаўскі летапіс піша, што святцель Сімяон быў «вельмі разумны і моцны ў кнігах Боскага Пісання, вучоны, дабрачынны, спагадлівы да жабракоў, сірот і ўдоў, заступнік пакрыўджаных, абаронца гвалтуемых».

Другою жанчынаю, кананізаванай царквою, стала праведная дзева Юліянія, князёўна Гальшанская.

Яна — дачка праваслаўнага магната Гальшанскага, у якога расло сем дачок.

Юліянія была самая набожная. Яна памерла вельмі рана — усяго ў чатырнаццаць гадоў. Князёўна была пахавана ў Кіева-Пячорскай лаўры. З цягам часу на яе магілу забыліся. Але калі ў пачатку XVII стагоддзя там праводзіліся земляныя работы, нечакана людзі знайшлі жалезную труну з сярэбранай дошчачкаю, на якой было напісана: «Тут спачывае прах Юліяны Гальшанскай, якая памерла ў 1506 годзе, чатырнаццаці гадоў ад роду».

Адкрылі труну — і не паверылі сваім вачам: дзяўчынка ляжала ў ёй як жывая! Жывым на ёй было ўсё — і плаццейка, шытае залатою ніткаю, у валасах ззяла дыядэма, не пацьмянелі пярсцёнкі і бранзалеты.

Труну з князёўнай паставілі ў царкве. І тады паломнікі заўважылі, што святое цела робіць цуд — яно не толькі ачышчае душу, але і лечыць немачы.

Тады Юліянію кананізавалі. Яе цела і цяпер знаходзіцца ў Кіева-Пячорскай Лаўры. А крыха яе святых мошчаў вярнулася з лаўры ў машчаніцах вернікаў дадому — у родныя Гальшаны.

І яшчэ адна жанчына прылучана да Сабора Беларускіх Святых.

Праведная Сафія — апошняя са славутага роду Алелькавічаў, з нашчадкаў Альгерда. Яна нарадзілася ў 1585 годзе ў сям'і князя Юрыя Юр'евіча і Барбары Кішка. Рана асірацела. Той жа год памерла маці, а праз год — бацька. Калі памерлі і дзядзькі, усё Слуцкае княства адышло да яе.

Выйшла замуж за Януша Радзівіла. Януш спавядаў пратэстанцкае веравызнанне — кальвінізм. Верная праваслаўю, яна дамаглася, каб вянчанне адбылося па праваслаўнаму абраду і каб іх дзеці таксама абавязкова былі праваслаўныя.

Яна пражыла кароткае жыццё, але за свае 26 год, адведзеных ёй Богам, — святая Сафія памёрла пры першых родах, нарадзіўшы мёртвае дзіця, — паспела зрабіцца вядомай асветніцай і заступніцай праваслаўя на Случчыне.

І пасля заключэння царкоўнай уніі з Рымам у 1596 годзе Слуцк, які ўжо належаў ёй, застаўся адзіным горадам у тагачасным Паўночна-Заходнім краі, які захаваў чысціню праваслаўя. Праведная княгіня-братчыца, каб абараніць праваслаўе, стварыла Слуцкае Прабражэнскае брацтва, а польскі кароль нават выдаў Слуцку грамату аб забароне прысільваць праваслаўных да уніі.

Цяпер яе мошчы зберагаюцца ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Кажуць, што святая памагае хворым жанчынам і дзецям, лечыць душэўныя і цялесныя немачы, а хросны ход з яе мошчамі нават спыняе халеру.

Афанасія Філіповіча наша беларуская царква ведае і шануе як Афанасія Брэсцкага.

Царкоўны дзеяч і пісьменнік А. Філіповіч працаваў пры двары князя Льва Сапегі, быў настаўнікам Яна Лубы, самазванца, якога ўрад Рэчы Паспалітай выдаваў за цэсарэвіча Дзмітрыя і рыхтаваў на расійскі трон.

У 1627 годзе пастрыгся ў манахі, жыў пад Оршаю ў Куцеінскім манастыры. За выступленні супраць Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года і рэзкія прамовы супраць караля на дзяржаўных сеймах 1641 і 1643 гадоў сасланы ў Кіеў. Калі ён расказаў расійскаму паслу аб сапраўдных намерах Лубы і калі Ілжэдзмітрыя затрымалі ў Маскве, польскія ўлады тут жа арыштавалі Філіповіча — як заложніка, як дзяржаўнага злачынцу. У варшаўскай турме манах напісаў свае вядомыя творы «Навіны», «Падмурак непарадку касцёла рымскага», «Рыхтаванне на суд», «Парада набожная» і інш.

Зняволенне сваё Філіповіч разумеў як помсту за абарону праваслаўных у Рэчы Паспалітай. Выпусцілі з турмы яго толькі ў 1647 годзе. А ў 1648 ён загінуў — за дапамогу казакам Б. Хмяльніцкага каля вёскі Гершановічы пад Бярэсцем яго расстралялі фанатычныя салдаты ваяводы Масальскага.

На другі год пасля смерці Філіповіч быў кананізаваны царквою — як святы пакутнік Афанасій, ігумен брэсцкі.

Святы Елісей Лаўрышаўскі, сын вялікага князя ВКЛ Траняты, які меў высокую пасаду пры двары князя Міндоўга, праславіўся тым, што пайшоў у пустэльню і заснаваў каля Навагрудка Лаўрышаўскую лаўру.

Святога Георгія Каніскага, архіепіскапа Магілёўскага, А. С. Пушкін называў «вялікім архіепіскапам Беларускім, адным з самых векапомных мужоў мінулага стагоддзя». На яго жыццё тройчы рабіліся замахі — у 1759, 1760, 1768 гадах. Пасля апошняга з'ехаў у Расію, у Смаленск, дзе заставаўся Магілёўскім епіскапам у выгнанні. Абараняў праваслаўе.

Мучанік дзіцятка Гаўрыіл Беластоцкі, які нарадзіўся ў сялянскай сям'і, любіў малітву і адзіноту, жыў у вёсцы Зняркі непадалёк ад Беластоку. Шасцігадовае дзіця было выкрадзена, таемна вывезена ў Беласток і там закатавана.

Некаторыя нашы святыя, без якіх немагчыма ўявіць гісторыю беларускай царквы, па розных прычынах не ўвайшлі ў Сабор Беларускіх Святых.

Да прыкладу, тры віленскія пакутнікі — Антоній, Іаан і Яўстафій, якія ў язычніцтве мелі іншыя імёны — Круглец, Няжыла і Кумец. Іх у 1347 годзе пакаралі пакутніцкай смерцю за тое, што перайшлі з язычніцтва ў хрысціянства, адмовіліся ў пост есці мяса, галіць бараду. Яны патаемна былі ахрышчаны святаром Нестарам. Віленскія пакутнікі пасля зняволення і катаванняў былі прынародна павешаны. Мошчы іх мелі цудадзейную сілу.

Сярод беларускіх католікаў найбольш шануецца святы Андрэй Баболя — езуіцкі манах, ксёндз, місіянер. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай Баболя схоплены і закатаваны атрадам казакаў палкоўніка А. Здановіча.

Цела Баболі амаль праз пяцьдзесят гадоў пасля смерці знойдзена нятленным.

У 1853 годзе папа Пій IX абвясціў Андрэя Баболю Багаслаўным, а з 1938 года паводле дэкрэта Пія XI каталіцкі касцёл вызнае яго за святога.

Нашы уніяты найперш моляцца на полацкага архіепіскапа, святога Іасафата Кунцэвіча. Ён быў апантаным прыхільнікам Брэсцкай уніі і настойліва распаўсюджваў яе, што не падабалася праваслаўным вернікам. У пачатку XVII стагоддзя праваслаўная царква была забаронена, таму Кунцэвіч закрываў праваслаўныя храмы, выганяў з іх святароў і прызначаў на іх месца уніяцкіх.

Падчас Віцебскага паўстання ў 1623 годзе некалькі тысяч праваслаўных уварваліся ў двор архіепіскапа, падпалілі дом Кунцэвіча, жорстка замучылі яго, а цела кінулі ў Дзвіну.

Каралеўскія камісары потым абвясцілі ўсіх віцебскіх гараджан вінаватымі, Папа Рымскі Урбан VIII прылічыў Іасафата Кунцэвіча да блажэнных пакутнікаў каталіцкай царквы, а папа Пій IX амаль праз два з паловаю стагоддзі абвясціў яго святым.

А ў сваіх малітвах да святой Еўфрасінні Полацкай мы ўрачыста прамаўляем:

— О святая і слаўная апякунка і асветніца Беларускага народу. Маці нашая, Еўфрасіння! Глянь ласкавым вокам сваім на братоў і сёстраў Тваіх, што з любоўю і надзеяй вочы душаў сваіх да Цябе падымаюць... Прымі, заступніца нашая, гэтую малітву братоў і сёстраў Тваіх, як нашую невымоўную падзяку, любоў і хвалу Табе — надзея, слава і пацеха нашая! Усе мы з радасцю аддаем сябе пад святую апеку Тваю. Маліся і далей за шматпакутны народ наш перад пасадам Усявышняга, каб мы сталіся верным і набожным выбраным народам Ягоным!



## НАШЫ МЕЖЫ І НАШЫ ДЗЯРЖАВЫ

Якія яны былі, нашы межы, так бы мовіць, у міжледніковы перыяд? Аніякія — першалюдзі, нашы продкі, ішлі ўслед за пашырэннем арэалу жывёл, птушак, рыбы, травы. Дзе ёсць яны — там і мяжа іхняга палявання, іхняй ежы і аселасці.

Амаль нічога мы не ведаем пра свае межы да новай эры. Дзіўна, ужо тысячу гадоў шумяць, жывуць паўнакроўным жыццём Старажытны Рым і Старажытная Грэцыя, узводзяць храмы, акропалі, тэатры, ствараюць алфавітнае пісьмо, услаўляюць мазаікаю баі гладыятараў, лепяць Дыскабола і Ніку Самафракійскую, змагаюцца за Карфаген, вядуць Пунічныя войны, а на нашай зямлі — ціша, маўчанне, спакой. Дзе мы былі тады, што рабілі, чым займаліся?

На вялікі жаль, нашы прашчуры чамусьці не пакінулі нам ні пісьмовых, ні матэрыяльных сведчанняў пра той час.

Праўда, ад іх жыцця сёе-тое ўсё ж засталося і дайшло да нас. Асталося на першабытных стаянках, якіх на Беларусі адкрыта і даследавана вельмі шмат: Бердыж, Юравічы, Белая Сарока, Пятроўцы, Журавель, Добры Бор, Камень, Раманавічы і іншыя.

На былых паселішчах знойдзены косці мамантаў, з якіх будавалася жытло, крамянёвыя наканечнікі коп'яў, нажы з крамянёвых адшчэпаў, сякеры, скрабкі, агнішчы і нават апрацаваныя біўні мамантаў, што дае хоць і невялікае, але ўсё ж нейкае ўяўленне пра жыццё тых, хто даўней насяляў нашы прасторы.

Пазней, ужо з пісьмовых крыніц, мы даведваемся, што палачане разам з дружынаю князя Алега ў 907 годзе хадзілі на Царгорад — Канстанцінопаль, пасля перамогі над якім грэкі пачалі плаціць палачанам даніну. І крывічы з войскам князя Ігара дапялі да Візантыі. Як палачане ваявалі з наўгародцамі, чым закончыўся іх новы паход на Ноўгарад у 1021 годзе, расказваюць нам летапісы.

Палачане, палачанамі, палачан. Вельмі ж часта згадваюць палачан летапісы. І гэта ніякае не дзіва.

Полацкая зямля — наша першая беларуская дзяржава.

Полацкае княства — адно з самых старэйшых дзяржаўных утварэнняў усходніх славян. Гэта дзяржава крывічоў на крывіцкіх землях. Яна мела ўсе адзнакі дзяржаўнасці: сваю тэрыторыю, сваё войска, свае грошы.

Не змог перамагчы палачан у IX стагоддзі наўгародскі князь Рурык, які 12 гадоў хадзіў ваяваць полацкіх князёў Рослава і Усяміра.

Не ўдалося падпарадкаваць Палату і князю Алегу, які «быў не клікнуты вечам».

Княства, створанае ў басейнах рэк Дзвіны, Бярэзіны і Нёмана, старажытныя летапісцы называлі яшчэ Полацкаю зямлёю.

На Полацкай зямлі ў 980 годзе сядзеў князь Рагвалод. Гэты княжацкі род годна прадстаўлялі Рагнеда Рагвалодаўна, Ізяслаў Уладзіміравіч, Брачыслаў Ізяслававіч.

Апошні, дарэчы, пасля пахода на Ноўгарад далучыў да княства Віцебск і Усвяты. А пры яго сыне, Усяславе Брачыслававічу, Полацкае княства дасягнула найвышэйшай магутнасці і росквіту, пачало нават супернічаць з Кіевам. Усяслаў напаў на Пскоў, спаліў Ноўгарад. За гэта кіеўскія князі Яраславічы, перамогшы ў бітве на Нямізе, разбурылі Мінск.

Пасля смерці Усяслава Чарадзея Полацкая зямля распалася на ўдзельныя княствы — Ізяслаўскае, Віцебскае, Лагожскае, Друцкае, Мінскае.

Аднак і пасля гэтага адносіны Полацка і Кіева былі складаныя. Вялікі кіеўскі князь у 1129 годзе захапіў у палон полацкіх князёў з сем'ямі і саслаў іх у Візантыю. Толькі праз дзесяць гадоў вярнуліся яны дадому і зноў занялі свае пасады.

Вялікую ўладу ў Полацкім княстве меў народны сход — веча. Веча збіралася для абмеркавання самых важных дзяржаўных спраў. Яно абвяшчала вайну, клікала на прастол князёў, а калі трэба было — выганяла іх з горада.

Веча запрасіла на княжанне ўнука Усяслава Чарадзея і прагнала князя Рагвалода Барысавіча, паставіла на стол мінскага князя Расціслава Глебавіча, а затым выгнала і яго, вярнуўшы зноў Рагвалода Барысавіча. Полацкая зямля нават пасля ўваходжання ў Вялікае княства Літоўскае захавала сваё веча, якое тады ўжо называлася полацкім правам, і ўсе спрэчныя справы вырашала на сходах палачан.

І ў Рызе, і на Готскім беразе, і ў паўднёвых землях добра ведалі старажытныя гарады Полацкага княства: Мінск, Віцебск, Усвяты, Друцк, Лагожаск, Лукомль, Ізяслаў, Барысаў, а таксама залежныя ад Полацка гарады-крэпасці Герцыке і Кукейнос, збудаваныя палачанамі ў нізоўях Дзвіны.

Другім нашым дзяржаўным утварэннем, якое ўзнікла на беларускіх землях, было Вялікае княства Літоўскае.

Вялікае княства Літоўскае — пад такім імем была вядома свету Беларусь у XIV — XVIII стагоддзях, а некаторыя даследчыкі называюць яго яшчэ літоўскаю дзяржа-

ваю на беларускіх землях. Знакаміты ж гісторык Мікола Ермаловіч нават сваю кнігу пра ВКЛ назваў упэўнена «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае».

Ля вытокаў гэтай дзяржавы стаяў Міндоўг — заснавальнік і першы вялікі князь ВКЛ.

Княства мела за межы вялікія тэрыторыі і ўсе яны былі трывожныя. З поўначы і захаду яму ўвесь час пагражалі Лівонскі і Тэўтонскі ордэны, з усходу — залежнае ад Арды Вялікае княства Уладзімірскае, з поўдня, праз Дзікае поле, — і сама Арда, улус Джучы. Да таго ж былі неабыякавыя да гэтых земляў Каралеўства Польскае і Галіцка-Валынская Русь. Усе яны — а да іх далучыліся яшчэ яцвягі і жамойты — складалі вельмі сур'ёзную кааліцыю супраць княства.

І тады Міндоўг адважваецца на рашучы крок: ён згаджаецца пахрысціцца ў каталіцкую веру і з рук біскупаў прымае карону.

Каранацыя адбылася ў ліпені 1253 года ў Навагрудку. Яна была вельмі ўрачыстаю — шмат святароў, вялікая грамада по́чату. На алтары — сама карона, скіпетр і імператарскі глобус, які тады яшчэ называлі проста «яблыкам». Там жа стаяла і шкляніца з ялеем. Для самага ўрачыстага моманту — каралеўскага намашчэння.

Каранацыю па даручэнні Папы Рымскага Інакенція здзейсніў біскуп кульмскі Гайдэнрых. Каранатар — сама ўрачыстасць, у белым адзенні і мітры — гаварыў да Міндоўга:

«Калі сёння, найлепшы княжа, з рук нашых біскупаў, якія ў гэтай справе — хоць і не годныя — Хрыста Збаўцу заступаюць, святое намашчэнне і сімвалы каралеўства прыняць маеш, выпадае, каб найперш пра цяжар, на які ты прызначаны, нагадалі. Бярэш сёння каралеўскую пасаду і клопаты кіравання людзьмі, табе даручанымі, на сябе прымаеш. Цудоўны сапраўды лёс для смяротнага, але поўны прыгод, цяжкасцей і клопату. І таму, што кожная ўлада ад Бога, промыслам чыім каралі пануюць і праўнікі справядлівасць мераюць, ты таксама за чараду, табе давераную, самому Богу справаздачу дасі. Перш

захоўвай набожнасць. Пана Бога ўсёй душою і сэрцам шануй. Хрысціянскую рэлігію і веру каталіцкую аж да апошніх дзён захоўвай і, як можаш, барані яе ад усіх непрыяцеляў. Прэлатаў і ўвогуле ўсё святарства шануй. Незалежнасць касцёла не тапчы. Справядлівасць, без якой ніводнае грамадства доўга існаваць не будзе, усім непарушна адмервай, добрых узнагароджваючы, вінаватых належна караючы. Удоў, сірот, убогіх і слабых абарані ад усялякага прыгнёту. Для ўсіх, хто да цябе набліжаецца, паводле тваёй каралеўскай годнасці будзь даступным, літасцівым, ветлівым. І так сябе паводзіць мусіш, каб бачылі, што не дзеля свайго, а дзеля дабра табе даручанага люду пануеш і за добрыя чыны плату не на зямлі, а на небе чакаеш. І хай яе дасць табе той, хто жыве і пануе — Бог на вякі вякоў».

Як усё роўна папскі намеснік, так гаворачы, садзячы Міндоўга на каралеўскі трон, нешта прадчуваў. І праўда, праз нейкі час, усяго праз восем гадоў, Міндоўг разарве дамову з Лівонскім ордэнам і адмовіцца ад каталіцтва.

І сам неўзабаве загіне — адзінага караля ВКЛ, былога сына святога Рымскага касцёла заб'юць падчас змовы Траняты, Даўмонта і Таўцвіла — жамойцкага, нальшчанскага і полацкага князёў.

Але ж моцная дзяржава, створаная ім, ужо жыла.

«І каранацыя Міндоўга, і стварэнне дыяцэзіі для дзяржавы з падпарадкаваннем рымскай курыі ўмацавалі становішча Беларуска-Літоўскай дзяржавы, — піша доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч. — Яны з'явіліся актамі дзяржаўнага значэння, прызнанымі апостальскай сталіцай і еўрапейскімі краінамі. Нават далейшыя палітычныя падзеі не змянілі стасункаў гэтых краін з новай дзяржавай. Яна была прызнана ў Еўропе, і хоць пераемнікі ўлады не насілі каралеўскага тытулу, аднак у гісторыі гэты дзяржаўны акт застаўся як сцвярджэнне існавання самастойнай беларускай дзяржавы».

Войшалк, сын Міндоўга, які стаў вялікім князем ВКЛ пасля забойства бацькі, а потым і Траняты, гэтак жа рупіўся пра пашырэнне межаў княства — ён заваяваў бал-

цка-літоўскія землі Нальшчаны і Дзяволтву і далучыў іх да сваёй дзяржавы.

Трайдзень ваяваў з Галіцка-Валынскім княствам, якое хацела замацавацца на Палессі і адабраць сабе Чорную Русь. Ён жа вярнуў ВКЛ пабудаваную палачанамі крэпасць Герцыке, якую захапіў Лівонскі ордэн.

Віцень далучыў да ВКЛ Полацкае княства, адбіў напад крыжакоў на крывіцкія землі ў 1314 годзе, калі падчас бітвы пад Наваградкам вельмі вызначылася войска Давыда Гарадзенскага.

Асабліва значнае пашырэнне ВКЛ адбылося пры Гедзіміне. Віцебская зямля, Берасцейская зямля, Турава-Пінская зямля і Мінскае княства ўвайшлі ў склад ВКЛ менавіта пры ім. Гедзімін перамагаў крыжакоў, меў вялікі ўплыў на Кіеў, Пскоў і Ноўгарад. Ён жа перанёс сталіцу з Наваградка ў Вільню.

Альгерд, Гедзімінаў сын, правіў Вялікім княствам больш за трыццаць гадоў. Скінуўшы з дапамогаю Кейстута з вялікакняжацкага трона свайго малодшага брата Яўнута, ён стаў яркаю асобаю ў нашай гісторыі. Пры ім межы ВКЛ пашырыліся за кошт далучаных да дзяржавы Беларускага падняпроўя, Бранскага княства, Кіеўскай зямлі, Мазырскай і Брагінскай валасцей, Чарнігава-Северскай, Падольскай і Валынскай земляў.

Альгерд падначаліў сабе Смаленскае княства, актыўна ваяваў за свае землі з крыжакамі.

У гады яго княжання ў Вялікае княства былі ўключаны ўсе беларускія землі, а тэрыторыя самой дзяржавы павялічылася ў два разы.

«Значную большасць насельніцтва княства, — сведчыць «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», — складалі этнічныя беларусы, беларуская культура і мова былі пануючымі ў краіне».

Адтуль, з Вялікага княства Літоўскага, нашы старажытныя адзінкі вымярэння даўжыні. Да прыкладу, гоні. Гэта адлегласць, якую конь з плугам ці з бараною прайшоў у адзін бок не паварочваючыся. Ці скошаная частка лугу за дзін дзень. Але і коні былі розныя, ды і касцы

не адной і той жа сілы, таму памер гоняў вагаўся ад 80 да 100 метраў.

Вярста ў сістэме мер ВКЛ раўнялася 1554,5 сённяшніх метраў. А дзесятая частка вярсты называлася дзесяцінаю. Яна мела 2400 квадратных сажняў. Сажань умяшчаў толькі тры локці. А локаць — гэта ўсяго толькі 64,96 см.

Аднак самымі славутымі ўладарамі Вялікага княства Літоўскага былі Ягайла і Вітаўт. Стрыйчакі, стрыечныя браты. Ягайла — сын Альгерда, Вітаўт — сын Кейстута. Яны былі ворагамі і сябрамі. Яны біліся і мірыліся. Па чарзе схілялі на свой бок крыжакоў, а то і ўцякалі да іх. Здаралася і такое: спачатку Ягайла займаў Вільню, а потым Вітаўт разам з крыжакамі захопліваў Коўна, Трокі і падпальваў усё тую ж Вільню.

Такія дзеянні гісторыкі звычайна называюць міжусобнаю барацьбою за ўладу.

Аднак, аб'яднаўшыся, яны рабілі неверагоднае — агульнымі сіламі і намаганнямі стрыйчакі перамагалі наймагутнейшую на той час дзяржаву Еўропы — Тэўтонскі ордэн, які пастаянна трывожыў межы як Вялікага княства Літоўскага, так і Польскага Каралеўства.

Шлях да Вялікай вайны і Вялікай перамогі пад Грунвальдам быў доўгі і не зусім просты. Дзеля гэтага Ягайлу давялося памірыцца з Вітаўтам, ажаніцца з каралевай Польшчы Ядвігай, прыняць хрысціянства па каталіцкаму абраду і стаць каралём Польшчы.

Карацей кажучы, спатрэбілася Крэўская унія 1385 года, пасля якой Ягайла займеў карону, і Востраўскае пагадненне 1392 года, паводле якога Вітаўт стаў вялікім князем ВКЛ аж на цэлыя сорак гадоў.

Іншымі зрабіліся нашы межы тады, як Вялікае княства Літоўскае пасля Люблінскай уніі 1569 года аб'ядналася з Каралеўствам Польскім. Хоць дзве краіны захавалі свае дзяржаўныя адміністрацыі, войскі, казну, права чаканкі манет, судовыя і мытныя сістэмы, дзяржаўныя мовы: у Польшчы — лацінка, у Княстве — беларуская мова, але ж і Карона, і Княства апынуліся ўжо ў адной

федэратыўнай дзяржаве, якая называлася Рэччу Паспалітай.

У канцы XVIII стагоддзя Рэч Паспалітая была падзелена паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Усе тры падзелы гэтай калісьці вельмі моцнай дзяржавы датычыліся і нас, беларусаў, і нашых земляў ды межаў.

Нашы межы — наш трагічны лёс. Лёс нашых земляў, якія, здаецца, заўсёды былі яблыкам разладу паміж нашымі ўсходнімі і заходнімі суседзямі.

Пасля першага падзелу 1772 года да Расіі адышлі нашы Себеж, Расоны, Дынабург, Пустошка, Асвея, Азярышча, Невель, Полацк, Віцебск, Орша, Шклоў, Мсціслаў, Быхаў, Гомель, іншыя беларускія гарады. Да Прусіі — Сувалкі, Аўгустоў, Беласток, Заблудава, Бельск, Дарагічын.

Межавалі мы і з Прусіяй, калі наша мяжа праходзіла па фарватары Нёмана, і з Францыяй да 1812 года, калі Польшча была Герцагствам Варшаўскім, поўнасцю залежным ад Францыі.

Пасля першага далучэння беларускіх тэрыторый да Расіі, на нашых землях былі створаны Полацкае і Магілёўскае намесніцтвы.

У Полацкае ўваходзілі Веліжскі, Віцебскі, Гарадоцкі, Дрысенскі, Дынабургскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі і Суражскі паветы.

Магілёўскае намесніцтва імператрыца Кацярына II наведала сама — захацела Кацярына Аляксееўна на свае вочы зірнуць на беларусаў, на землі, якія, як яна лічыла, нарэшце вернуты Расіі: «оторгнутое возвратих». Для гэтай падзеі быў спецыяльна пабудаваны кацярынінскі шлях, спрэс устаўлены каменнымі слупамі, а ў Шклове, куды яна прыехала да свайго былога фаварыта Сямёна Зорыча, яе сустрэлі ўвогуле трыумфальна. У гонар царыцы было выпушчана тысячы «шуціх», феерверкаў, у парку выставілі жывыя скульптуры, ролю якіх гралі акцёры і балерыны прыгоннага тэатра. Зорыч сустракаў імператрыцу ўлетку на санях, засыпаўшы дарогу соллю. А ў самі.. Шклове Кацярыну чакала шыкоўная спальня — копія той, якую ўсё яшчэ памятаў Зорыч па Пецярбургу.

Ну хіба пасля гэтага магла не спадабацца імператрыцы вернутая ў Расію Беларусь?!

Падчас другога падзелу Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў Гарадзенскі сейм у 1793 годзе, да Расіі былі далучаны Друя, Дрысвяты, Браслаў, Чашнікі, Заслаўе, Лагойск, Мінск, Барысаў, Пінск, Мазыр, Брагін іншыя гарады.

Гэтае далучэнне забяспечвала 64-тысячнае войска пад камандаваннем генерал-аншэфа Крачэтнікава, уведзенае імператрыцай на нашы землі з загадам «заняць як мага хутчэй і больш Княства Літоўскага». На новых землях былі створаны Мінская, Ізяслаўская і Браслаўская губерні, царскім намеснікам у якіх быў усё той жа генерал Крачэтнікаў, кавалер рускіх ордэнаў Андрэя Першазванага і Аляксандра Неўскага, польскіх Белага Арла і Святога Станіслава, вялікакняжацкага — Святой Ганны.

Пасля задушэння паўстання 1794 года Суворавым, захопу Варшавы і паланення Тадэвуша Касцюшкі адбыўся трэці і апошні падзел Польшчы. Да Расійскай імперыі ў 1795 годзе адышлі апошнія беларускія землі: Вільня, Трокі, Ашмяны, Валожын, Гародня, Ліда, Наваградак, Нясвіж, Ваўкавыск, Слонім, Бярэсце і інш.

Расія дыктавала ўмовы гэтага дагавору і нават мірыла Прусію і Аўстрыю, якія сварыліся за свае долі.

Уся Беларусь у Расійскай імперыі была зведзена ў пяць губерній: Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская і Мінская.

На далучаных да імперыі беларускіх землях пачала ўсталёўвацца на расійскі манер улада, якую ў асноўным аддавалі чыноўнікам з Расіі. Было скасавана магдэбургскае права, уведзена расійская падатковая сістэма, насаджана рэкруцкая павіннасць.

Яе імператарская вялікасць аддае загад аб ільготах рускім купцам, якія дастаўлялі соль у Віцебск, забараняе ў беларускіх губернях прадаваць сялян без зямлі, рупіцца пра захаванне беларускіх лясоў, якіх засталося мала, «жалует» маёнткі ў Беларусі рускім і польскім памешчыкам.

Да самай Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года нашай дзяржаваю была Расійская імперыя. З ёю Беларусь больш за сто гадоў разам жыла, працавала, змагалася. А то і ваявала, як падчас паўстання 1863 года, якім на нашай зямлі кіраваў Кастусь Каліноўскі.

Першая сусветная вайна, у якой дужаліся 33 дзяржавы свету і шмат якія залежныя ад іх дамініёны ды калоніі, праходзіла і на нашай тэрыторыі. І яна вытаптала нашу краіну, зноў жа — у каторы раз! — перакроіла нашы межы.

Руска-германскі фронт перарэзаў нашу краіну на дзве часткі. З аднаго боку фронту засталіся біткам набітыя расійскімі войскамі нашы гарады Дзвінск, Браслаў, Дрыса, Вілейка, Мір, Баранавічы, Лунінец, Мінск, Барысаў, з другога — захопленыя немцамі Свянцяны, Вільня, Смаргонь, Ашмяны, Ліда, Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім, Кобрын, Пінск. І з таго і з другога боку салдаты рабілі акопы, закопваліся ў нашу зямлю, абстрэльвалі адно аднаго з гармат, бамбілі з самалётаў, планавалі і здзяйснялі ваенныя аперацыі. Найбольш значнымі былі Нарачанская і Баранавіцкая аперацыі 1916 года.

«Хто пад Смаргоняю не ваяваў, той вайны не бачыў», — казалі ўдзельнікі баёў за Смаргонь, праз якую праходзіла тады лінія фронту. 810 дзён утрымлівалі дашчэнту разбураную і залітую атручальнымі газамі Смаргонь расійскія салдаты, сярод якіх былі сотні беларусаў, мабілізаваных у рускую армію.

Толькі ў Гродзенскай вобласці больш за 300 могілак — маўклівых сведак той вайны. На нямецкіх могілках у Бярозе пахавана 500 немцаў і 125 рускіх салдат. Поплеч. Смерць аб'яднала іх. Наша зямля прыняла ў сябе ахвяр аднолькава.

«Сябры і ворагі, смерцю аб'яднаныя». Так напісана на помніку часоў Першай сусветнай вайны, пастаўленым у вёсцы Невель Пінскага раёна.

На нашай зямлі здзейсніўся і вядомы Брэсцкі мір. Ён падзяліў Беларусь па лініі Дзвінск—Свянцяны—Ліда—Пружаны—Бярэсце. Немцы планавалі Гродзеншчыну і

Віленшчыну аддаць так званай «малой Літве», а астатнюю тэрыторыю Беларусі — Расіі. Расія ж увогуле ўсю Беларусь лічыла неад'емнай часткай сваёй дзяржавы. Мела прэтэнзіі да беларускіх земляў і Польшча, якая таксама лічыла нашу краіну сваёю. Зацікаўлена паглядалі ў наш бок і некаторыя іншыя нашы суседзі.

У гэтых умовах самі беларусы паспрабавалі навесці парадак у сябе дома. Пасля таго, як Брэсцкі мір быў сарваны і немцы пачалі наступленне па ўсім фронце, а бальшавікі ўцяклі з Мінска ў Смаленск, на другі ж дзень, 20 лютага 1918 года, Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда прыняў Першую Устаўную грамату да народаў Беларусі, у якой абвясціў сябе часовай уладай і стварыў Народны Сакратарыят, якому перадаў усе выканаўчыя паўнамоцтвы ў краіне. Сакратарыят узначаліў Язэп Варонка, а ў яго склад увайшлі Алесь Бурбіс, Іван Серада, Васіль Захарка, Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц, Тамаш Грыб, Палута Бадунова і інш.

Немцы, якія прыйшлі ў Мінск у канцы лютага, сарвалі бел-чырвона-белы сцяг з будынка Сакратарыяту БНР, адабралі касу, разагналі саміх сакратароў. Але не арыштавалі іх, і таму ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі працягваў працаваць і ва ўмовах нямецкай акупацыі.

Трэцяя Устаўная грамата была прынята Радай БНР на пленарным пасяджэнні, якое праходзіла ўсю ноч, толькі раніцою а восьмай гадзіне 25 сакавіка 1918 года.

Была створана і абвешчана незалежная і вольная дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка. І гэта ўжо было юрыдычным актам, які ўзнаўляў дзяржаўнасць беларускага народа і вызначаў межы: Магілёўшчына, Міншчына, Гродзеншчына, Віленшчына, Віцебшчына, а таксама часткі Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны ды іншых суседніх губерняў, заселеных беларусамі.

«Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, — пісалася ў тэстаменце, — скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край».

А перад гэтым «палымяны» бальшавік Заходняй вобласці В. Кнорын пісаў: «Мы считаем, что белорусы не считаются нацией и что этнографические особенности, которые их отдаляют от остальных русских, должны быть изжиты».

Цяпер жа, пасля стварэння БНР, так і пісаць і гаварыць было ўжо немагчыма.

Беларускую Народную Рэспубліку прызналі Украіна, Турцыя, Фінляндыя, Чэхаславакія, Аўстралія, Літва, Эстонія, Латвія, Польшча, Арменія, Грузія.

Немцы не прызналі нашу Рэспубліку, але не лічыцца з ёю не маглі. Гэтак жа, як і бальшавікі Расіі.

У самым канцы 1918 года на Паўночна-Заходняй канферэнцыі РКП/б/ у Смаленску было абвешчана аб утварэнні БССР. У склад новай дзяржавы ўвайшлі Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская губерні і зноў жа беларускія паветы Віленскай, Ковенскай і Смаленскай губерняў. Маніфест Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада, напісаны Зміцерам Жылуновічам (пісьменнікам Цішкам Гартным), абвясціў аб стварэнні рэспублікі 1 студзеня 1919 года.

Аднак неўзабаве тэрыторыі Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў адышлі да РСФСР, а пад моцным прымусам старшыні ВЦВК Якава Свярдлова ў Вільні было афармлена стварэнне Літ-Бела — Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, у якую ўвайшлі толькі нашы Мінская і Віленская губерні. Па сутнасці пасля гэтага БССР перастала існаваць.

Пачалася польска-савецкая вайна, якую Іосіф Сталін назваў трэцім паходам Антанты.

Мы ж яе лічым польска-беларускай вайною.

Польшча не прызнала стварэнне БССР і Літ-Бела. Добра падрыхтаваная і ўзброеная ЗША і Францыяй польская армія, якая мела ў сваіх шэрагах 738 тысяч чалавек, пачала наступленне на Беларусь і Украіну. Да мая 1919 года польскія войскі захапілі Брэст, Ваўкавыск, Слонім, Скідзель, Шчучын, Пінск, Баранавічы, а ў жніўні ўвайшлі ў Мінск.

Легіянеры «начальніка дзяржавы польскай» Юзафа Пілсудскага, як пісалі тагачасныя газеты, рабавалі ўсё — магазіны, дробныя крамы, прыватныя дамы. Іх з'яўленне на вуліцах Мінска суправаджалася страляніпаю, выбухамі, трэскам кулямётаў, дзікімі крыкамі. Легіянеры стралялі ў людзей проста так, дзеля забавы.

Дзяржаўнай мовай на захопленых тэрыторыях адразу ж стала польская, на ўсе кіраўнічыя пасады назначаліся толькі палякі.

Захопнікі нашай зямлі нават новую мянушку прыдумалі нам — «усходнія крэсы». На змену ранейшаму «северо-западнаму краю». Мянушку, па-сутнасці, зацвердзіў і Рыжскі дагавор 1921 года паміж Расіяй і Польшчай, на падпісанне якога Беларусь нават не запрасілі, а дэлегацыю, якая прыехала сама, не пусцілі на перамовы.

Паводле Рыжскага дагавора Беларусь была распалавінена на дзве амаль роўныя часткі: адна палавіна, якая потым стала Заходняю Беларуссю, тымі ж усходнімі крэсамі для палякаў, адышла да Польшчы, а другая засталася пад наглядам Расіі, якая перад гэтым далучыла да сябе Магілёўскую, Віцебскую і Гомельскую вобласці.

Ад узаемнай кампенсацыі ваенных разбурэнняў і Польшча, і Расія ветліва адмовіліся: каму выплочваць тыя страты, калі Беларусь, як краіна, была ўжо амаль ліквідавана?!

«Пасеклі наш край папалам», — у роспачы прамаўлялі беларускія паэты.

«Ведайце і памятайце, што раскрыжаваны вамі беларускі народ уваскрэсне, але толькі ганьба няпраўды і крыві ляжа на вас і сыноў вашых», — пагражалі палітыкі.

«Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, — разважаў тады наш незабыўны Янка Купала, — то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г. д. — усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават можна і дапамагаць, ці то фізічна, ці то маральна, і незалежнасць гэтых дзяржаў не выклікае ніякіх вялікіх спрэ-

чак. Так ці іначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне. А вось загаварыце аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць, слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую».

Абураўся Якуб Колас:

Нас падзялілі... Хто? — Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы!
К чорту граніцы!
Тут нашы гоні, бары!

А зялёны лісток, на які сваімі абрысамі падобна наша дзяржава, тым часам ужо быў гвалтоўна разадраны напалам.

І толькі 1939 год злучыў нанова тыя разлучаныя на цэлых 18 гадоў палавінкі. Праўда, і тут не абышлося без новых страт: 10 кастрычніка 1939 года Сталін перадаў Вільню з Віленскім краем Літве. У абмен на ваенныя базы на яе тэрыторыі. Вялікі абшар нашай зямлі з насельніцтвам 457 тысяч чалавек, сярод якога літоўцаў, жамойтаў было ўсяго толькі 2 працэнты.

Такім абламаным — злева, уверсе — наш зялёны лісток і ўвайшоў у полымя Вялікай Айчыннай вайны. Тое, абламанае да вайны, засталося ў Літве і пасля перамогі. Вось як пра гэта расказваў аднойчы на вечары беларускай паэзіі ў Вільні вядомы літоўскі пісьменнік Юстас Палецкіс, які як старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР быў у 1944 годзе на прыёме ў Сталіна:

«Ужо дагэтуль меркавалі пра лёс Вільні і баяліся, што яна нам не дастанецца. Бо ведалі, што Беларусь вельмі пацярпела ў вайне і там актыўна змагаліся з немцамі, тым часам як у нас усё было не так. Сядзім, маўчым да нейкага часу. Ён, Сталін, і кажа: «Ну што вы тут мяркуеце?» Мы муляемся, не адважваемся сказаць. А ён і гаворыць: «Я думаю, што мяжа павінна прайсці, ну... вось так», — і пазногцем правёў па карце. Тады мы, узрадава-

ныя, з палёгкай (Вільня з нашага боку!) падаліся да карты, падправілі што кольвечы. Так мы здабылі Вільню».

Які ж ён быў усемагутны, гэты звычайны пазногаць правадыра! Дарэчы, здаецца, гэта ён, пазногаць, зноў жа падараваў наш Дзвінск латышам, а Беласток, Гайнаўку, Бельск, Сувалкі — палякам.

Зялёным лістком мы доўгі час былі ў Савецкім Саюзе. Мелі свае, беларускія, межы, а таксама былі нам сваімі і вялікія, неабсяжныя межы СССР.

Залёным лістком мы мужна змагаліся з фашыстамі.

Зялёным лістком удзельнічалі ў стварэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

На сваім зялёным лістку мы руплівa робім магутныя МАЗы і БелАЗы «Беларусы», «Гарызонты», «Віцязі», «Атланты», беларускія аўтобусы, тралейбусы ды вылічальныя машыны.

Цяпер мы — вольная і незалежная дзяржава. Рэспубліка Беларусь. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, а 29 ліпеня 2000 года Усебеларускі з'езд за незалежнасць пацвердзіў гэта Актам незалежнасці.

І нашы сённяшнія межы толькі адны — межы зялёнага лістка, які даверліва, сціпла, але з годнасцю ляжыць пасярод Еўропы.

І хай жа нам і сёння, і заўсёды ў будучыні на гэтым лістку больш смяецца, чым плачацца, часцей радуецца, чым суміцца, заўсёды са смакам працуецца і таксама са смакам адпачываецца!



## НАША КУЛЬТУРА І ЛІТАРАТУРА

Культура — гэта тое, што застаецца пасля ўсяго. Яна — наша будучыня.

Што зберажэцца, захаваецца пасля таго, як мы ўсё паядзім, што насеялі і пажалі, паносім усё, што наткалі

і нашылі, перажывём усё, што нам наканавана лёсам і даравана Богам?

Тое, што здзейснілі наш розум і талент.

Культура — наша выхаванасць. Менавіта яна робіць чалавека чалавекам.

Без ежы чалавек не можа жыць увогуле, а без культуры ён дэградзіруе і таксама памірае. Духоўна — як асоба.

Нашы помнікі культуры — гэта своеасаблівае адлюстраванне гісторыі нашага народа. Бо слова «помнік» нарадзілася ад дзеяслова «помніць».

Да нашых помнікаў адносяцца хата, дзяжа, ручнік. Дарэчы, а ці ведаеце вы, што ручнік узнік раней за абразы? Ім накрывалі тую ж дзяжу з рошчынай, яго слалі пад ногі маладым, ён быў дзявочым пасагам, ім выціралі памыты твар, яго накідвалі на толькі што спечаны хлеб, ім прыбіралі абразы — пасля іх з'яўлення.

Ручнікі, адбеленыя, срабрыста-белыя, узорыстатканыя, вышываныя, карысталіся ў нас вялікаю пашанаю і по́чатам.

Помнікамі археалогіі з'яўляюцца стаянкі і паселішчы старажытнага чалавека, гарадзішчы, замчышчы і нават курганы. Ахвярнікі — наша спадчына, жальнікі, даўневечныя магілы — наша каштоўнасць... І ўсё, што мы знаходзім падчас археалагічных раскопак. Сяму-таму здаецца, што самымі каштоўнымі знаходкамі з'яўляюцца рэчы з золата ці з серабра. Але ж для археолагаў, ды і для ўсіх нас, даражэй за золата бываюць знойдзеныя падчас экспедыцый вырабы з крэменю, каменю, косці, дрэва ці гліны.

На стаянцы Асавец знойдзены касцяныя гарпуны, драўляная фігурка чалавека, касцяная фігурка лася і галава птушкі. У Бердыжы — пласцінка з біўня маманта, на якую нанесены геаметрычны арнамент. На гарадзішчы Калочын — гліняная праслііца, каменная зерняцёрка, каменныя асялкі, жалезныя сярпы. Гарадзішча Банцараўшчына падаравала нам наканечнікі коп'яў, пярсцёнкі, бранзалеты, лунніцу, лялячку, шкляную сінюю пацерку «у вочка» і аж дваццаць ляпных гаршкоў. Вязынка, га-

радзішча штрыхаванай керамічнай культуры, захавала для нас нажы, разцы, скоблі, скрабкі, сякеркі-адбойнікі, якія помняць цеплыню рук нашых прашчураў.

Усё гэта нашы каштоўнасці, наша вечная спадчына.

Калі б захаваўся той «стоўп», тая вежа, у якой зачыніўся калісьці святы Кірыла Тураўскі, каб аддацца роздуму і малітвам, каб пісаць свае неўміручыя казанні ды словы-пропаведзі, разумееце, наколькі б мы былі багацейшыя?!

У спадчыну ад продкаў нам засталіся каменныя бабы, Шклоўскі ідал, камяні-следавікі, камяні з надпісамі — Рагвалодаў камень, Барысавы камяні.

Старажытная саха і валакуша, млын і вяндлярні, ветракі і каналы, гуты і мануфактуры, плаціны і аптэкі, ганчарныя, гарбарныя, ткацкія майстэрні, забоі і штольні даўневечных шахтаў, у якіх прашчуры здабывалі крэмень, — вельмі дарагія для нас помнікі.

Дзве касцяныя флейты, у якіх па пяць адтулін, адносяцца да эпохі ранняга неаліту і маюць узрост каля 4 тысяч год да нашай эры. Яны знойдзены ў возеры Сенніца, што на мяжы Віцебскай і Пскоўскай абласцей і сталі нашым культурным багаццем. Гэткім жа як і жалейка з косткі птушкі з раскопак старадаўняга паселішча Асавец у Бешанковіцкім раёне, дзве танкасценныя касцяныя свістулькі з археалагічнага помніка Камень, што каля Пінска, ды дудка-свісцёлка даўжынёю 71 сантыметр, знойдзеная пры раскопках каля вёскі Гарані на Смаргоншчыне.

І гэта ўсё наша культура.

Горы — таксама наш скарб, нашы помнікі. Замкавая гара ў Гародні, якая ў даўніну была абнесена вастраколлем, — наша каштоўнасць. Як і іншыя горы, на якіх узніклі гарады, замкі, палацы.

На Замкавай гары ў Навагрудку ў 1924 годзе з'явілася яшчэ адна, рукатворная, гара. Тады на радзіму прыехаў амаль дзевяностагадовы старэйшы сын Адама Міцкевіча Уладзіслаў, і па яго прапанове было вырашана, паважаючы даўнюю славянскую традыцыю, насыпаць тут Курган Бессмяротнасці ў гонар славутага паэта. Зямлю на Замкавую прыносілі, прывозілі, прысылалі па пошце ў пасыл-

ках з блізкіх і далёкіх ваколіц. З гэтай зямлі і вырас семнаццаціметровы курган, які ўрачыста быў адкрыты ў 1931 годзе. Па сцяжынцы на самую вяршыню яго і цяпер падымаюцца прыхільнікі паэзіі славутага земляка.

Галоўны Курган Славы ў гонар трох франтоў, якія вызвалілі Беларусь у 1944 годзе, знаходзіцца на 21-м кіламетры шашы Мінск—Масква. Яго вышыня 35 метраў. Будаваўся ён амаль тры гады, і ў яго ўкладзена зямля з усёй Беларусі.

Наш культурны скарб вельмі шырокі. Гэта цэрквы, саборы, касцёлы, капліцы, манастыры, званіцы, вежы, дзядзінцы, дарогі, крапасныя збудаванні, загарадныя і гарадскія сядзібы.

Сафійскі сабор у Полацку і Каложская царква ў Гародні — гэта вяршыні нашага духу і ўмельства ў тыя далёкія стагоддзі.

Фрэскі Полацкай Спаса-Еўфрасінеўскай царквы. Яны ўпрыгожвалі сцены і слупы сабора. Рэстаўратары адкрылі толькі некалькі фрэсак: выявы невядомых святых з кнігамі ў руках, выява святога, што моліцца на фоне высокай вежы, выявы манашак і невядомай маладой святой.

Скарынавы кнігі. Слуцкія паясы. Рукапіснае Тураўскае евангелле. Гарадзенская, Мінская, Копыская кафля. Шкляніцы, бутлі, аптэчныя флаконы, бакалы, кілішкі, кубкі XIII — XIX стагоддзяў. Абразы: каменны абразок XII стагоддзя «Канстанцін і Алена» з Полацка, абраз «Маці Боская Замілаванне» XIV — XV стагоддзяў з Брэстчыны, абраз XVII стагоддзя «Мадонна з дзіцем» з Гродзеншчыны...

Якія ж мы, сябры, багатыя! І якія бедныя.

Вядома, шмат што з нашых скарбаў, з нашай спадчыны знаходзіцца ў нашых музеях, але ж колькі іх, нашых каштоўнасцей, знішчана, разрабавана, вывезена і зараз знаходзіцца ў розных музеях свету, ужо і не спадзеючыся на вяртанне дадому, на радзіму.

Тыя ж беларускія абразы зараз упрыгожваюць музеі Лондана, Варшавы, Калугі, Сыктыўкара, Санкт-Пецярбурга, Масквы.

Рукапіснае Аршанскае евангелле, выдатны беларускі помнік XII — XIII стагоддзяў, створаны, як мяркуюць вучоныя, на Полаччыне, захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Украіны.

Лічаныя экземпляры кніг, надрукаваных нашым асветнікам і першадрукаром Францішкам Скарынам, засталіся на радзіме.

Слуцкія паясы, якія як найлепей навучыліся ткаць беларускія майстры, утыкаючы ў іх мясцовыя краскі, — васількі, незабудкі ды іншыя кветкі нашай прыроды, і сёння ўхарошваюць шматлікія музеі свету, застаючыся зноў жа адзінкамі на бацькаўшчыне.

Амаль усе творы мастака Фердынанда Рушчыца, які нарадзіўся на Беларусі ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета, займаўся ў майстэрнях Шышкіна і Куінжы, жыў і працаваў на беларускай зямлі, таксама знаходзяцца не ў родным краі: «Зямля» — у Нацыянальным музеі Варшавы, «Выгнаннікі» — у Мастацкім музеі Літвы, астатнія ў музеях Кракава, Львова ды іншых. З усёй багатай жывапіснай спадчыны мастака ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі знаходзіцца адна яго работа — «Каля касцёла».

Блізкі сябра Рушчыца, вядомы фотамастак Ян Булгак калісьці ўспамінаў:

«З паўночнага боку сядзібы Фердынанд паказаў мне пагорак, які вырысоўваўся гарбатым сілуэтам... «Тут я маляваў «Зямлю», — задуменна сказаў ён, і светлы цень успаміну асвяціў яго твар. А я падумаў, што вось ён напісаў шэдэўр, які ўзрушвае людзей, але мала хто задумваецца, колькі трэба было пражыць з гэтымі палямі, колькі разоў прайсці праз іх веснавымі ранкамі і зімовымі замецямі, колькі аддаць працы і болю, каб так усё ажыццявіць на палатне».

На думку спецыялістаў, у Беларусі захоўваецца толькі дзесятая частка нашых нацыянальных каштоўнасцей.

У віленскім Беларускім гісторыка-этнаграфічным музеі, які месціўся ў Базыльянскіх мурах побач з вядомай беларускай гімназіяй, захоўвалася каля 75 тысяч экспа-

натаў, сабраных вядомым археолагам і этнографам Іванам Луцкевічам. Музей працаваў з 1921 года па 1945.

У гэтым унікальным музеі быў вельмі шырокі збор беларускіх старажытнасцяў. Сярод яго экспанатаў знаходзіліся пярсцёнкі з пячаткамі полацкіх князёў Усяслава і Барыса, пячатка Міндоўга, пячаткі смаленскіх князёў, іншыя матэрыялы, знойдзеныя падчас раскопак на Беларусі. Экспазіцыю музея ўпрыгожвалі панцыр воя, панцыр на каня, крыжацкі меч, кальчугі, узбраенне беларускіх сялян. Вялікая калекцыя кніг і старажытных грамат, старадрукі з усіх беларускіх друкарняў, разьба па дрэве, народныя музычныя інструменты, старадаўняе адзенне, слуцкія паясы, віленскі фаянс, урэцкае шкло, галаснікі Каложскай царквы, сцяг паўстанцаў Лідскага павета 1863 года, карціны Ф. Смуглевіча, Я. Рустама, Ю. Пешкі, А. Лосенкі, П. Сергіевіча, Я. Драздовіча — такія багацці меў у сваіх фондах і выстаўляў у экспазіцыю Віленскі музей імя Івана Луцкевіча.

Калі пасля вайны захавальніка беларускага музея Янку Шутовіча арыштавалі і асудзілі на 10 гадоў зняволення, музей ліквідавалі, а багацейшыя калекцыі падзялілі паміж іншымі музеямі, архівамі ды бібліятэкамі былога Савецкага Саюза.

А Беларусь і на гэты раз страціла свае неацэнныя скарбы.

Станькаўская калекцыя віцэ-губернатара Наўгародскай і Пецярбургскай губерняў, былога дырэктара Ляснога міністэрства графа Эмерыка Чапскага таксама ўражвала беларускімі зборамі.

Яго нумізматычную калекцыю, каталог якой складаў аж пяць тамоў, ведалі ў Еўропе. Сярод каштоўнасцей былі рэдкія гравюры беларускіх гарадоў, у тым ліку і творы, створаныя на пачатку XVII стагоддзя нясвіжскім гравёрам Тамашом Макоўскім, а ў бібліятэцы захоўвалася звыш 20 тысяч тамоў кніг.

Для сваіх скарбаў граф нават пабудаваў у маёнтку Станькава, што ля Койданава, спецыяльны дамок — скарбнічак, дзе захоўваліся калекцыі.

І гэты збор не стаўся нашым — мы не можам на яго нават прэтэндаваць. Бо сам гаспадар Эмерык Чапскі летам 1894 года паскладаў усё гэта багацце на дзесяткі карэт і разам з вялікім караванам накіраваўся да Вільні. Там скрыні перагрузілі ў шэсць вагонаў, якія і прывезлі наш скарб у Кракаў. Цяпер гэтыя каштоўнасці можна ўбачыць у музеях Польшчы, Масквы, Парыжа, Рыма.

А ці засталося што ад Станькаўскай калекцыі нам, беларусам? Нам застаўся цудоўны сядзібны парк ды скарбнічак — арыгінальны будынак колішняга музея.

А ў якім музеі можна сабраць выдатнейшыя шэдэўры, створаныя беларускімі майстрамі падчас і пасля руска-польскай вайны 1654—1667 гадоў у Маскве і ў іншых расійскіх гарадах?!

Разныя дзверы Сабора ў Іверскім манастыры, што на Валдаі, выштукаваныя аршанскімі майстрамі.

Саборны храм Васкрасенскага Нова-Іерусалімскага манастыра, выдатны помнік рускага царкоўнага дойлідства, цалкам быў аздоблены беларусамі — усе аддзелачныя работы ў ім выканалі нашы майстры-палоннікі.

У Збройнай, Залатой, Сярэбранай ды Майстроўскай палатах Маскоўскага Крамля працавала шмат беларусаў, якіх тады ў Маскве называлі іншаземцамі: віцебскія рэзчыкі, сталяры, токары Піліп Тарасаў, Самойла Багданаў, Даніла Какотка, Іван Дракулаў; збройнікі Максім Міхайлаў і Трафім Церлік з Копысі; цаніннікі-кафельнікі Ігнат Максімаў з Копысі, Ігнат Іваноў з Мсціслаўя, Восіп Іваноў са Шклова; бляхар Іван Ваўчок з Ашмян.

А Каломенскі палац — падмаскоўная рэзідэнцыя цара Аляксея Міхайлавіча, над аздабленнем якога беларускія майстры працавалі ўсю зіму 1667—1668 гадоў! Ім захапляліся ўсе: упрыгожаны багатай разьбою па дрэве звонку, ззяючая пазалотаю аб'ёмная ажурная разьба ўсярэдзіне, узорыстыя вокны, яркая шматколерная кафля і сапраўды ўражвалі кожнага.

Усё гэта само па сабе ўжо ёсць найкаштоўнейшыя скарбы. І стваралі іх беларусы — тагачасныя для Масквы палоннікі ды іншаземцы.

Тады ў Маскву з Беларусі звозілі ці гналі «палонам» найлепшых майстроў. Баяры спаборнічалі між сабою — у каго палоннікаў будзе больш. Толькі адзін баярын Марозаў прыгнаў «палонам» і рассяліў у сваіх падмаскоўных сёлах звыш тысячы беларусаў.

Цар нават пасылаў на Беларусь наказы, спецыяльных давераных асоб з даручэннем знайсці, падабраць і прывезці ў Маскву для працы на царскім двары выдатных майстроў залатых і сярэбраных спраў, «для пищальныя пакупки и для призыву резных дел мастеров».

Такія пасланнікі ездзілі ў Шклоў, Магілёў, Барысаў, Мінск. З Веткі былі прывезены ў Збройную палату чатыры рэзчыкі па капавым дрэве і кіпарысу. А ў Сярэбраной палаце ў 1662 годзе працавала больш як сорак майстроў з Віцебска, Полацка, Копысі, Халопеніч ды іншых гарадоў Беларусі.

Зробленае не знікае. Каштоўнасці, створаныя нашымі землякамі, беражліва захоўваюць найлепшыя музеі Расіі.

Нашы нацыянальныя скарбы зберагаюцца ў нашых музеях.

Што такое музей? Гэта найперш — храм муз. Так перакладаецца слова «музей». І пра гэта сведчаць нашы мастацкія, тэатральныя, літаратурныя, музычныя ды іншыя музеі. А яшчэ ж у нашай краіне ёсць этнаграфічныя, гістарычныя, прыродазнаўча-навуковыя, краязнаўчыя ды ваенна-гістарычныя музеі.

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У ім сабраны шматлікія экспанаты барацьбы беларускага народа супраць захопнікаў. Многія — унікальныя: лістоўкі, надрукаваныя на бяросце; кнігі, выдадзеныя ў партызанскіх друкарнях; гармата на колах ад сеялкі; «зенітка» на драўляным коле ад звычайных калёсаў.

Экспазіцыя Музея беларускага кнігадрукавання, які размясціўся ў былой брацкай школе ў Полацку, мае 14 залаў і ўсебакова адлюстроўвае гісторыю нашай кнігі.

Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту займае аж сто гектараў зямлі. Створаны ён у

1976 годзе каля Воўчкавіцкага возера на беразе ракі Пціч — за дванаццаць кіламетраў ад Мінска. У музеі шэсць сектараў, шэсць этнаграфічных раёнаў — Паазер'е, Падняпроўе, Усходняе і Заходняе Палессе, Панямонне, Цэнтральная Беларусь, — куды перанесены помнікі народнага драўлянага дойлідства з усёй Беларусі. У кожным сектары па пяць-шэсць сядзібаў, у якіх экспануюцца прадметы хатняга ўжытку, прылады працы, творы народнага мастацтва, характэрныя для кожнага рэгіёна.

Багатыя зборы жывапісу, па-мастацку аздобленай зброі, фарфору, манет, габеленаў мелі прыватныя мастацкія музеі і карцінныя галерэі ў замках і сядзібах беларускіх магнатаў: Сапегаў — у Дзярэчыне, Радзівілаў — у Нясвіжы, Тышкевічаў — у Гомелі, Зорыча — у Шклове, Янчыча — у Прапойску.

Шмат што з гэтых збораў захоўвалася ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР. Аднак падчас апошняй вайны ён разрабаваны, творы мастацтва вывезены з нашай краіны і пакуль што не знойдзены, не вернуты.

А ў музеі, які цяпер называецца Нацыянальным, ёсць вялікая калекцыя старажытнага беларускага мастацтва — абразы, драўляная скульптура, вырабы прыкладнога мастацтва, — а таксама творы І. Аляшкевіча, А. Гараўскага, С. Заранкі, І. Хруцкага, В. Волкава, М. Савіцкага, В. Грамыкі, А. Марыкса, Я. Зайцава, С. Селіханава, В. Цвіркі, Ул. Стальмашонка, М. Селяшчука, Ул. і М. Басалыгаў, В. Шаранговіча, А. Марачкіна, Я. Батальёнка, В. Альшэўскага, У. Тоўсціка. Асобныя музеі ці карцінныя галерэі створаны для твораў Вітольда Бялыніцкага-Бірулі ў Бялынічах, Паўла Масленнікава — у Магілёве, Марка Шагала — у Віцебску, Гаўрылы Вашчанкі — у Гомелі, Леаніда Шчамялёва — у Мінску, Іллі Рэпіна — у Здраўневе.

Тэатральных музеяў, здаецца, у нас няма, на жаль, а выдатныя тэатры ёсць. Багатыя сваім мінулым, цікавыя сваім сённяшнім жыццём.

Мы, беларусы, здаецца, і нарадзіліся з тэатрам у душы.

Праўда, тады між людзей не было яшчэ раздзялення на выканаўцаў і гледачоў. Кожны глядач мог стаць

удзельнікам спектакля, а кожны ўдзельнік — гледачом. Асабліва калі нехта, прыкладам, прыйдзе са сваім мядзведзем...

Купалле — таксама наш тэатр. Відовішчны, яркі, шматлюдны. З карагодамі, танцамі, песнямі. З варажбою, скаканнем праз агонь, з качаннем распранутымі па святаянскай расе. Усе ўдзельнікі, усе гледачы.

А нашы каляды! Якое дзейства!

А які тэатр наша вяселле! Якое стараннае размеркаванне роляў, які руплівы падбор акцёраў! А колькі добрых пажаданняў, колькі смеху і жартаў!

Першыя нашы акцёры — скамарохі. Яны ўмелі ўсё: спяваць, танцаваць, іграць на любых музычных інструментах. Скамарохі спалучалі ў сабе драматычнае, музычнае, вакальнае, танцавальнае мастацтва. Спачатку яны былі вольныя, вандроўныя, а потым магнаты, рупячыся пра тое, каб лепей весяліць сваіх гасцей, пачалі трымаць іх у палацах, а то і будаваць для вандроўнікаў свае тэатры.

У развіцці тэатральнага мастацтва на Беларусі вялікую ролю адыгралі школьныя тэатры ў калегіумах, духоўных семінарыях, брацкіх школах. У XVI — XVIII стагоддзях такія тэатры існавалі ў шмат якіх гарадах Беларусі — у Полацку, Пінску, Гародні, Віцебску, Навагрудку, Мінску, Нясвіжы, Бярэсці, Оршы, Слуцку, Магілёве, Слоніме, Бабруйску.

А наша батлейка — народны лялечны тэатр, у якім, здаралася, удзельнічала да сарака лялек, — не мае нічога падобнага ва ўсім славянскім свеце!

Асаблівае развіццё наша тэатральнае мастацтва атрымала ў XVIII стагоголдзі. У Альбе пад Нясвіжам 13 чэрвеня 1746 года была пастаўлена камедыя «Дасціпнае каханне» Францішкі Уршулі Радзівіл, жонкі князя Міхала Рыбанькі. Гэта падзея адбылася на дзесяць гадоў раней, чым з'явіўся першы спектакль у Яраслаўлі «бацькі рускага тэатра» Ф. Волкава. Уршуля Радзівіл напісала 16 сцэнічных твораў — трагедый, камедый, оперных лібрэта. Яе п'есы ставіў у Альбе і ў Нясвіжы створаны ёй жа

аматарскі калектыў, які пасля стаў прафесійным. Усе яе творы — ад п'ес, любоўных вершаў, загадак, твораў для дзяцей да вершаваных лістоў да мужа — і сёння ўяўляюць для нас вялікую цікавасць.

У нашай тэатральна-музычнай культуры застаўся вядомым прыгонны тэатр, тэатральныя трупы якога, што дзейнічалі ў замках і сядзібах феадалаў, складаліся ў асноўным з прыгонных сялян.

Найбольш вядомымі былі Ружанскі тэатр Сапегаў, Слонімскі тэатр Агінскага, Гарадзенскі тэатр Тызенгаўза, тэатры ў Слуцку, Магілёве, Чачэрску, ужо названы тэатр Радзівілаў у Нясвіжы.

Свіслач, гарадок на самым ускрайку Белавежскай пушчы, у XVIII стагоддзі быў слаўны сваім тэатрам, які пабудаваў тагачасны яго ўладальнік Вінцэнт Тышкевіч. Карнавалы, канцэрты, тэатральныя відовішчы наладжваліся і ў тэатры, і на вольным паветры. У іх удзельнічалі ўсе, каму пашчасціла на той час бываць у Свіслачы.

Своеасаблівай тэатральнай з'явай быў у пачатку XIX стагоддзя прыгонны цырк памешчыка Оштарпа ў Дукоры, у якім выступалі як замежныя, так і свае штукары і блазны, сярод якіх вылучаўся вядомы беларускі фокуснік Даўгяла.

Прыгонны тэатр Зорыча ў Шклове меў балетна-оперна-драматычныя трупы, вялікія аркестры і капелы, тэатральныя будынкі з добра абсталяванай сцэнай і наладжанай машынерыяй.

Пачатак нацыянальнага тэатра даследчыкі звязваюць з асобаю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. У 1852 годзе ён наладзіў у Мінску прэм'еру спектакля «Сялянка», пасля якой дзейнасць трупы была забаронена, аднак «Сялянку», нягледзячы на забарону, яшчэ некалькі гадоў паказвалі патаемна ў розных гарадах Беларусі.

А ў якое вялікае і шчырае свята вылілася пастаноўка неперасўзыдзенай купалаўскай «Паўлінкі», здзейсненай у Вільні ў 1913 годзе Беларускім музычна-драматычным гуртком — кветкі, падарункі, абдымкі, віншаванні, шчырыя словы.

Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага, якая была спробаю стварэння прафесійнага нацыянальнага тэатра, працавала ў 1910—1913 гадах і наведала шмат якія гарады і мястэчкі Беларусі, выступала ў Пецярбургу, Варшаве.

У 1920 годзе пачаў сваё жыццё вандроўны Беларускі тэатр Уладзіслава Галубка, які аб'ехаў амаль усю Беларусь і быў жаданы ў самых далёкіх вёсках. Сам Галубок адначасова з'яўляўся драматургам, рэжысёрам, акцёрам, мастаком-дэкаратарам, і яго яшчэ хапала на тое, каб выконваць абавязкі адміністратара.

Беларускі дзяржаўны тэатр, які сёння мы ведаем як Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, быў створаны ў 1920 годзе пад кіраўніцтвам Фларыяна Ждановіча, якога сучаснікі называлі беларускім Мальерам.

Затым Беларускі тэатр узначаліў Еўсцігней Міровіч, пры якім тэатр дасягнуў сапраўднага росквіту. У ім ставіліся спектаклі як па п'есах беларускіх аўтараў — Купалы, Чарота, Аляхновіча ды іншых, так і па творах замежных аўтараў. Спектакль «Мешчанін у дваранах» Мальера, да прыкладу, пратрымаўся на сцэне амаль дзесяць гадоў і быў паказаны 700 разоў. Купалаўская ж «Паўлінка» трымаецца ўжо звыш 90 гадоў.

Беларускі тэатр выхаваў вялікую плеяду славутых акцёраў-купалаўцаў.

Барыс Платонаў — майстра вельмі шырокага творчага дыяпазону. Яго ролі — гэта і псіхалагічна раскрыты складаны характар Федзі Пратасава з «Жывога трупа» Л. Талстога, і напышлівы, пуставаты пан Быкоўскі з «Паўлінкі» Я. Купалы, і дзяржаўны на той час, але і чалавечны вобраз Леніна з «Трэцяй патэтычнай» М. Пагодзіна. Аднак вяршыня яго трыумфу — стварэнне вобраза Эзопа ў «Лісе і вінаградзе» па Фігейрэду: гарбаты, несамавіты Эзоп у выкананні Платонава на вачах у гледачоў рабіўся велічным, мудрым і надзвычай прыгожым — мы, узрушаныя студэнты, тады па некалькі разоў хадзілі на платонаўскага раба.

Уладзімір Крыловіч умеў поўнасцю пераўвасабляцца ў вобраз і падпарадкоўваць волю і ўвагу гледачоў. Яго

раннія рамантычныя ролі Машэкі і Кастуся Каліноўскага былі такімі ж глыбокімі, як і пазнейшае пераўвасабленне ў вобразы іншых нацыянальных спектакляў: «Пінская шляхта», «Паўлінка», «Канец дружбы».

Уладзімір Дзядзюшка, для якога першым універсітэтам быў тэатр Галубка, не іграў на сцэне, а па-сапраўднаму жыў жыццём сваіх герояў, а таму нават невялікія ролі ў яго выкананні станавіліся цэнтральнымі.

Для Генадзя Аўсянікава Андрэй Макаёнак спецыяльна пісаў ролі ў новых п'есах, ды і іншыя драматургі нярэдка і сёння кажуць: «Гэтага героя можа сыграць толькі Аўсянікаў».

Колькі вобразаў каларытных беларускіх сялянак увасобіла ў сваіх ролях Галіна Макарава, зрабіла іх жывымі — жанчын з ласкавай душою, добраю ўсмешкаю, з непадробнаю сарамлівасцю. А якую Агату Пустарэвіч стварала яна ў «Паўлінцы»!

А колькі выдатных актрыс бліскуча пераўвасабляліся ў самую Паўлінку за доўгі час яе жыцця на роднай сцэне: пасля Паўліны Мядзёлкі хораша сябе адчувалі ў гэтай ролі Раіса Кашэльнікава, Лідзія Шынко, Бірута Дакальская, Наталля Гайда, Ала Доўгая, Зоя Белахвосцік! Актрысы старэлі, выходзілі з дзявочага ўзросту, а Паўлінка заўсёды заставалася на сцэне маладою і гарэзліваю. Неўміручаю!

С. Станюта, П. Кармунін, З. Браварская, Г. Глебаў, У. Уладамірскі, І. Ждановіч, З. Стома, М. Яроменка, В. Белахвосцік, В. Тарасаў, Л. Далідовіч, М. Захарэвіч, П. Дубашынскі, Г. Гарбук, В. Манаеў, Г. Кірычэнка — якое пашаноўнае суквецце адданых тэатру талентаў!

Другі Беларускі дзяржаўны тэатр, які адкрыўся ў Віцебску, сфармаваўся з выпускнікоў маскоўскай Беларускай студыі, сярод якіх былі акцёры, якія неўзабаве выраслі ў слынных майстроў сцэны: А.Ільінскі, П. Малчанаў, Ц. Сяргейчык, М. Бялінская, А. Радзялоўская, Я. Глебаўская, М. Зведачотаў, А. Трус, Ф. Шмакаў і іншыя.

Тэатр без музыкі не бывае. У Мінску на Музычным завулку створаны Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

У ім экспануюцца ўсе тры тыпы беларускай батлейкі: віцебская, дзе ад полымя свечкі, здаецца, пачынаюць рухацца лялькі; гарадзенская яселка ды магілёўская двухпавярховая батлейка.

Ёсць у экспазіцыі і самаграйныя музычныя інструменты: бразготка, званочак, трашчотка, кляшчотка, шаргуны, калотка. Дуда, скрыпка, гармонік ды бубен. Гліняная свістулька XVI стагоддзя, знойдзеная падчас раскопак на Нямізе; фрагменты касцяной жалейкі XII стагоддзя з Наваградка; адломак бронзавага звона XIII стагоддзя з Гародні. Як яны паважліва выглядаюць між іншымі экспанатамі, яднаюцца з імі. Да прыкладу, з ліраю, цымбаламі, жалейкаю, пастуховым рогам, зробленымі рукамі пазнейшых умельцаў.

Лютня, старадаўні музычны інструмент, у часы Вялікага княства Літоўскага панавала на нашых землях. Яна гучала ў палацах і замках, на канцэртах і інтымна, для некалькіх чалавек. Мела нізкі, насычаны тэмбр, а гучанне высокага рэгістру было зусім камерным. Адным не падабаўся «гугнявы» гук лютні, а іншым яна здавалася гармоніяй сусвету.

На Беларусі ў тыя часы было шмат лютністаў — нават сваіх анёлаў мы малявалі з лютнямі ў руках.

Музыка — гэта опера, балет, аперэта, тэатральная музыка, музыка кіно, сімфонія, сюіта, уверцюра, паэма, саната, раманс, песня, эпіталама.

Напачатку носьбітамі нашай беларускай прафесійнай му́зыкі былі музы́кі, цымбалісты, скрыпачы, гусляры, лірнікі, дудары, дудачнікі, бубністы.

А ў XVIII стагоддзі і наш Нясвіж лічыўся цэнтрам музычнага мастацтва ў Еўропе. З домам Радзівілаў тады была звязана ўся еўрапейская эліта. Славуты кампазітар Іозеф Гайдн пасылаў свае партытуры ў Нясвіж. Антоній Радзівіл, палітычны дзеяч і кампазітар, быў блізка знаёмы з Бетховенам, Мендэльсонам, якія прысвяцілі яму свае творы, а Фрэдэрык Шапен падоўгу жыў у ягоным палацы. Жонка аднаго з магнатаў Соф'я Радзівіл нават, не саўладаўшы са сваім каханнем, уцякла з чэшскім піяністам

Янам Дусікам, які таксама на той час жыў у Нясвіжы. Тут Мацей Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, напісаў першую беларускую аперэту «Агатка» і оперу «Войт Альбянскага паселішча», якія ў Нясвіжы і былі выкананы.

Дарэчы, менавіта ў Нясвіжы з'явіўся і першы беларускі більярд — яго ў 1584 годзе прывёз з Парыжа князь Мікалай Радзівіл Сіротка, які быў еўрапейцам у поўным сэнсе гэтага слова. Гуляць у гэтую гульню яго навучыў Карл IX, кароль Францыі, а ўжо ад Радзівіла налаўчыліся іншыя князі ды прыдворныя паненкі, якія парабіліся не горшымі за кавалераў більярдэсамі.

У XIX стагоддзі Станіслаў Манюшка стварыў на словы В. Дуніна-Марцінкевіча беларускаю оперу «Сялянка» — на беларускай мове, на беларускім фальклоры. Упершыню яе паставілі ў Мінску, а потым яна ставілася яшчэ ў Бабруйску, Слуцку, Нясвіжы, Глуску і ў іншых гарадах.

XX стагоддзе беларускага музычнага мастацтва нельга ўявіць без сімфоній Я. Цікоцкага, А. Багатырова, М. Аладава, Я. Глебава, без сімфанічных паэм У. Алоўнікава, без опер «Машэка», «Марынка» Р. Пукста, «Кастусь Каліноўскі» Дз. Лукаса, «Калючая ружа», «Калі ападае лісце» і «Зорка Венера» Ю. Семянякі, «Альпійская балада» Я. Глебава, «Сівая легенда» Дз. Смольскага, без сюіт на народныя тэмы А. Туранкова і М. Чуркіна, без песень І. Любана, Н. Сакалоўскага, І. Лучанка, Л. Захлеўнага, У. Будніка, Э. Зарыцкага і іншых.

Нашу культуру нельга ўявіць без Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Рыгора Шырмы, Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Генадзя Цітовіча, Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя Іосіфа Жыновіча, які называюць музычным сэрцам Беларусі і ў якім такія нашы нацыянальныя інструменты, як цымбалы, дудкі, ліры пастаўлены поплеч з тымі, што ўжо сотні гадоў служаць прафесійнаму музычнаму мастацтву. Ёсць у нас і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр, і Дзяржаўны ансамбль танца, і Дзяржаўны ансамбль эстраднай музыкі пад кіраўніцтвам М. Фінберга.

У Калінінградзе намаганнямі беларускага зямляцтва пастаўлены помнік Францыску Скарыну. І Наталля Кучко, беларуская зямлячка першадрукара, прыняўшы да сэрца гэту падзею, вышыла гладдзю ягоны партрэт. Вышыла шоўкам, а здаецца напісала маслам — такія тонкія і далікатныя яе работы. Вышытая ж ёю Прасвятая Багародзіца нават свеціцца ў цемры — такі эфект дало нязвычнае спалучэнне нітак.

І гэта таксама беларуская культура.

А нашы званы! Яны — зноў жа наша музыка.

Кажуць, што царкоўны звон лечыць душу. Вераць, што ён лечыць ад многіх хвароб і цела. Таму і становяцца пад званы людзі, і дакранаюцца да іх, яшчэ ў гудзе, далонямі і вуснамі.

Ёсць сведчанне, што дзесяць мінскіх цэркавак з невялікімі званарнямі ў цяжкі час паморку сваім жыватворным звонам выратавалі горад ад эпідэміі чумы.

Аказваецца, званы, калі звоняць, выпраменьваюць вялікую колькасць рэзананснай ультрагукавой радыяцыі, якая абясшкоджвае вірусы. Продкі не ведалі гэтага, аднак падчас эпідэмій званілі ў званы днямі і начамі.

Царкоўны звон — гэта малітва. Часцей за ўсё ён быў голасам Радзімы.

Аднак, здаралася, з яго здзекаваліся. Як з жывога чалавека — званы скідвалі са званіц, у іх вырывалі языкі, на вазах, запрэжаных asламі, іх, ганьбуючы, вазілі па вуліцах, ссылалі, а самых мяцежных нават прыгаворвалі да зняволення, садзілі ў турмы.

Званы у нас робяць на мінскім прадпрыемстве «Выдатнае ліццё». Пачынаюць заліваць — служыцца малебен. Званы гатовыя — іх, як дзяцей, хрысцяць, даюць ім імёны: Святочны, Цар-звон, Валадар. Перад тым, як павесіць, асвячаюць мірапамазаннем. І цяпер верачы, што метал, асвечаны дарам Божым, сваім звонам ачышчае паветра ад заразы, інфекцый, супакойвае буры.

Звонам лечаць зямлю, лечаць прыроду. Як радасна хваліць Бога з нябёсаў, хваліць Усявышняга ў ягоных вышынях! Якое шчасце чуць яго голас!

Спецыялістаў царкоўнага звону рыхтуе Мінская школа званароў пры храме «Усіх смуткуючых Радасць». У Віцебску, пры мясцовай праваслаўнай епархіі, таксама працуе школа званароў, дзе ўдасканальваецца майстэрства ігры на званах.

Хіба можна ўявіць сёння культурнае жыццё Беларусі без беларускага балета? Яго ведаюць і паважаюць ва ўсім свеце, а на радзіме называюць «эпохай Елізар'ева».

Валянцін Елізар'еў, мастацкі кіраўнік і дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі, паказваў свае спектаклі не толькі на роднай зямлі, але і ў Францыі, Італіі, Англіі, Іспаніі, Сірыі, Індыі, Кувейце, Польшчы, Балгарыі, Шры Ланцы, Швейцарыі, Тайландзе і шмат дзе яшчэ, а пастаўленыя ім на беларускай сцэне яркая, філасафічная, да гэтага часу, здаецца, не разгаданая «Кармэн-сюіта», эмацыянальнае «Стварэнне свету», якое некаторыя крытыкі назвалі падзеяй у культурным жыцці ўсёй Еўропы, страсная «Карміна Бурана», «Страсці (Рагнеда)», якая трымае гледача ў напружанні ад першай да апошняй сцэны, — усе яны ўжо даўно сталі нацыянальнай класікай.

Беларускае кіно пачалося з Юрыя Тарыча. Ён, кінарэжысёр, сцэнарыст, заснавальнік нашай кінематаграфіі, сцэнарый першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль» напісаў разам з Анатолем Вольным па аповесці Міхася Чарота «Грышка-свінапас».

Гукавае кіно пачынаў у Беларусі кінарэжысёр Уладзімір Корш-Саблін сваім фільмам «Першы ўзвод». Ён жа разам з А. Файнцымерам пасля вайны зняў фільм «Канстанцін Заслонаў».

У сямідзесятыя гады Віктар Тураў здымае псіхалагічныя фільмы «Праз могілкі» і «Я родам з дзяцінства». Ён жа стварае выдатныя кінафільмы па раманах Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы».

XXI стагоддзе беларускае кіно ўпэўнена пачынае з гістарычнага фільма «Анастасія Слуцкая» рэжысёра Юрыя Ялхова з актрысаю Купалаўскага тэатра Святланай Зелянкоўскай у галоўнай ролі.

Свае творчыя радасці і ўзлёты мелі рэжысёры М. Пташук, Л. Голуб, Б. Сцяпанаў, В. Чацьверыкоў, І. Дабралюбаў, В. Нікіфараў, В. Рубінчык.

Найбольшым поспехам у гледачоў карысталіся экранізацыі значных твораў беларускай літаратуры — фільмы па раманах і аповесцях І. Мележа, І. Шамякіна, В. Адамчыка, І. Чыгрынава, І. Пташнікава.

І нарэшце, само слова. Прамоўленае, напісанае, найграанае, праспяванае, намаляванае, знятае ў кіно слова. Яно — галоўнае. Бо напачатку было слова. Бо без яго не можа абысціся ні кніга, ні песня, ні опера, ні кіно, ні нават карціна мастака — мастакі свае карціны амаль заўсёды называюць, падпісваюць.

Таму цяпер Беларусь мае 12 тысяч бібліятэк з агульным кніжным фондам у 250 мільёнаў экземпляраў.

Таму ў Мінску ў 2005 годзе пабудавана унікальнае, непаўторнае, самабытнае памяшканне Нацыянальнай бібліятэкі ў выглядзе гранёнага алмаза, дзе будзе сабраны найлепшы скарб любой краіны — кнігі.

Літаратура — царыца культуры.

Францыск Скарына заснаваў першую ва ўсёй Усходняй Еўропе друкарню.

Статуты Вялікага княства Літоўскага былі першымі ў Еўропе зводамі законаў.

Тры нашы волаты прыгожага пісьменства, пра якіх заўсёды памятае і якіх вельмі шануе наш народ: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Кожны беларус ведае, што «Паўлінка» — гэта Купала, «Новая зямля» — гэта Колас, адзіны прыжыццёвы зборнік паэзіі «Вянок» — гэта Багдановіч.

Францішак Багушэвіч з «Дудкай беларускай», «Смыкам беларускім» ды балючым крыкам: «Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі», — наш боль і наша сумленне.

Алесь Гарун, асуджаны царызмам на пажыццёвае пасяленне ў Сібіры, працуючы вадалівам на баржы, якая плавала па рэках Лена і Віцім, стварае сваю кнігу паэзіі «Матчын дар».

Васіль Быкаў з яго двума дзесяткамі псіхалагічных аповесцяў, якімі захапляліся і захапляюцца ў свеце, застанецца ў нашай культуры навечна, назаўсёды.

А яшчэ ж у нас ёсць Аркадзь Куляшоў з «Новай кнігай» і «Хамуціусам», Міхась Лынькоў з «Векапомнымі днямі» і «Міколкам-паравозам», Максім Танк з добрым тузінам інтэлігентных і па-сялянску мудрых кніг паэзіі, Янка Маўр з «Палескімі рабінзонамі» ды «Сынам вады», Іван Мележ з «Палескай хронікай», Пімен Панчанка з яго бунтоўнай і страснай лірыкай, з радкамі «і сотні салдат у каваных ботах прайшлі па яго спіне», Максім Гарэцкі з кнігамі «Дзве душы», «Віленскія камунары» ды «Браму сэрца свайго адчыняю», Кандрат Крапіва з п'есамі «Хто смяецца апошнім» і «Брама неўміручасці», Янка Брыль з апавяданнямі і лірычнымі мініяцюрамі, з раманам «Птушкі і гнёзды», Змітрок Бядуля з апавяданнямі «Пяць лыжак заціркі», «На каляды к сыну», «Малыя дрывасекі» ды аповесцю «Салавей», Уладзімір Караткевіч з раманам «Каласы пад сярпом тваім» і паэтычнымі кнігамі, Іван Шамякін з пенталогіяй «Трывожнае шчасце» ды шмат якімі раманамі, Іван Чыгрынаў з «Плачам перапёлкі», Барыс Сачанка з «Вялікім Лесам», Вячаслаў Адамчык з цэлым цыклам раманаў, Ларыса Геніюш з важкім томам вершаў «Белы сон» і «Споведдзю», Алесь Пісьмянкоў з кнігаю лірыкі «Я не памру, пакуль люблю».

Плённа працавалі на славу нашай бацькаўшчыны П. Броўка і Я. Скрыган, П. Трус і А. Пысін, П. Пястрак і А. Карпюк, А. Вялюгін і С. Дзяргай, С. Гаўрусёў і Е. Лось, Я. Янішчыц і М. Стральцоў.

Нашу родную літаратуру нельга ўявіць без І. Пташнікава, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, А. Лойкі, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка, А. Кудраўца, Р. Баравіковай, Г. Далідовіча, А. Разанава, М. Мятліцкага, Ул. Арлова, А. Федарэнкі, Л. Дранько-Майсюка і іншых майстроў з розных пакаленняў.

А які россып талентаў, якое багацце імёнаў і твораў у зусім маладой нашай літаратуры!

Свае літаратурна-мемарыяльныя музеі маюць класікі — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч.

Апрача гэтага Купалу прысвечаны запаведнікі «Вязынка» на Міншчыне і «Ляўкі» на Аршаншчыне — мясціны, дзе нарадзіўся паэт і дзе ён у свой час летаваў.

Працяг Коласаўскага музея ў Мінску — яго філіял на Стаўбцоўшчыне, у які ўваходзяць Мікалаеўшчына, Смольня, сядзібы Акінчыцы ды Альбуць, а таксама літаратурна-этнаграфічныя музеі ў Люсіне на Ганцаўшчыне і ў Пінкавічах на Піншчыне, дзе пісьменнік у маладыя гады настаўнічаў.

Працяг музея М. Багдановіча сягае у Расію, у Ніжні Ноўгарад, дзе працуе музей паэта і пастаўлены яму помнік.

Помнік Я. Купалу ёсць і ў Амерыцы — у Нью-Йорку, у Араў-Парку. У Мінску адчынены музей Петруся Броўкі, у Оршы — Уладзіміра Караткевіча, у Малой Багацькаўцы на Магілёўшчыне — Максіма Гарэцкага, у Жупранах Ашмянскага раёна — Францішка Багушэвіча, у Лапаціне на Піншчыне — Аляксандра Блока, у Дастоеве Іванаўскага раёна — Фёдара Дастаеўскага, у Наваградку — Адама Міцкевіча, у Гародні — Алаізы Ажэшка. Шмат літаратурных музеяў зноў жа прытулілі нашы вёскі і мястэчкі: музей Міхася Лынькова — у Крынках, Кузьмы Чорнага — у Цімкавічах, Івана Мележа — у Глінішчы, Цёткі — у Астрыно, Андрэя Макаёнка — у Журавічах.

Так было, ёсць і будзе. Народ павінен паважаць свой дух і сваю душу. Свае скарбы і свае каштоўнасці... Павінен любіць іх і ганарыцца імі. Бо толькі з імі, са сваёй культурай, ён і будзе цікавы ўсяму дасведчанаму свету.

Гэтую кнігу я знарок заканчваю эсэ пра беларускую культуру і літаратуру. А менавіта з іх, нашых культуры і літаратуры, можна пачынаць усе кнігі, у якіх мы хочам расказаць іншым краінам і народам, як мы жывём, чым займаемся і пра што марым на сваім зялёным лістку, які сціпла і годна, ласкава і з надзеяй прытуліўся да нашай роднай і любай планеты Зямля.

## ЗМЕСТ







*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЯНКА СІПАКОЎ**
**(Сіпакоў Іван Данілавіч)**

**Зялёны лісток на планеце Зямля**
**Эсэ**

*Адказны за выпуск І. В. Рэзько*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 27.07.06.
Фармат 84×108 1/32. Папера афсетная. Друк афсетны.
Умоў. друк. арк. 15,12. Тыраж 1000 экз. Заказ 2093.

ТАА «Харвест». ЛІ № 02330/0056935 ад 30.04.2004.
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Кульман, д. 1, корп. 3, эт. 4, к. 42.
e-mail рэдакцыі: harvest2004@mail.ru

Адкрытае акцыянернае таварыства
«Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Рэспубліка Беларусь, 220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.